

Курсант Мінскага артылерыйска-мінамётнага вучылішча, камсамолец Сямён Лазарэвіч на практычных занятках.

Фота А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

У НУМАРЫ:



**2 (60)**

Люты.

1958.

Год выдання VI.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР.
Мінск.

Мастацкі рэдактар В. Грамыка. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефон — 93-854.

Рукапісы не вяртаюцца.

АТ 04323. Здадзена ў набор 27.XII.57 г. Падпісана да друку 6.II.58 г. Заказ 886.

Фармат паперы 70×108/16. Друк. арк. 10. Вуч-выд. арк. 12. Тыраж 12.000 экз. Цана 4 руб.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

# СЛАВА ПРАЦЫ

Студзень 1958 года — знамянальны ў жыцці працаўнікоў сельскай гаспадаркі нашай рэспублікі. І не толькі для людзей, якія ствараюць сваімі рукамі багацце прадуктаў. Усе працоўныя Беларусі з вялікай радасцю і натхненнем сустрэлі Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб узнагароджанні перадавікоў, якія парадавалі Радзіму выдатнымі поспехамі ў развіцці ўсіх галін калгаснай вытворчасці. Гэта — перадавыя хлебаробы і жывёлаводы, спецыялісты сельскай гаспадаркі, партыйныя, савецкія і камсамольскія работнікі. Усяго ордэнамі і медалямі ўзнагароджана 4.970 чалавек. 32 лепшым з лепшых прысвоена высокае званне Героя Сацыялістычнай Працы.


М. В. Занеўская.

Сярод новага слаўнага атрада герояў, якія народжаны саракавым годам улады Саветаў, мы бачым гвардзейцаў калгаснага руху, спрактыкаваных і ўмелых важакоў мас. Ганаровы спіс герояў адкрывае праслаўлены сын беларускага народа Герой Савецкага Саюза Кірыла Пракопавіч Арлоўскі. З першых дзён вызвалення роднай зямлі ад фашысцкіх захопнікаў ён у роднай вёсцы Мышкавічы ўзначаліў калгас «Рассвет». З году ў год гаспадарка няспынна ішла ўгору. Сёння калгас «Рассвет» — сапраўдная школа перадавога вопыту, куды прыязджаюць павучыцца людзі з розных краін. І вось поплеч з зоркай Героя, якую атрымаў гэты чалавек на франтах вайны, заззяла другая залатая зорка — зорка героя барацьбы на мірным фронце. Званне Герояў Сацыялістычнай Працы з калгаса «Рассвет» атрымалі таксама даярка Фядора Кісялёва і свінарка Хрысціна Міхнёва. Шмат якія калгаснікі арцелі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі.

Высокае ганаровае званне Героя Сацыялістычнай Працы атрымалі і такія ветэраны калгаснага ладу, як старшыні калгасаў імя Гастэлы Мінскага раёна М. М. Валодзька, «Камінтэрн» Магілёўскага раёна — І. В. Сяргееў, імя Сталіна Кармянскага раёна—К. К. Нікіцін і мно-

У. А. Мікуліч


Я. П. Сідарчук.




В. П. Каротная.



А. Р. Сакун.

гія іншыя. У іх калгасах ужо значна перавышаны ўзровень, дасягнуты ў Амерыцы па вытворчасці мяса і малака на душу насельніцтва.

Баявы, крылаты лозунг: «Дагонім Злучаныя Штаты Амерыкі па вытворчасці прадуктаў жывёлагадоўлі на душу насельніцтва!» з'явіўся галоўнай задачай сённяшняга дня. Яе, гэтую задачу, паспяхова вырашаюць ужо не адзіночныя калгасы, а цэлыя раёны.

Вось некалькі год назад, адразу ж пасля вядомага верасnёўскага пленума ЦК КПСС, у Мінскі раён першым сакратаром райкома партыі прышоў працаваць Уладзімір Андрэевіч Мікуліч. Былы камсамольскі работнік, ён з уласцівымі яму энергіяй і задорам узяўся за справу. Сілы камуністаў і камсамольцаў былі накіраваны на ўмацаванне кадраў жывёлаводаў, на стварэнне трывалай кармавой базы. І вось вынікі: у 1957 годзе ў раёне атрымана па 226 цэнтнераў малака і па 41 цэнтнеру мяса на 100 гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў. Калгасы Мінскага раёна выйшлі на першае месца ў рэспубліцы.

У сягоннвшняй калгаснай рэчаіснасці ёсць адменная і характэрная рыса. Армія сельскіх працаўнікоў штогод папаўняецца людзьмі, якія атрымліваюць сярэднюю і сямігадовую адукацыю і застаюцца ў вёсцы. Гэта людзі дапытлівага розуму, сапраўдныя энтузіясты, яны праяўляюць сваю энергію, свой маладзёжны задор у працы.

Усяго некалькі год таму назад стала працаваць даяркай Марыя Занеўская з гродзенскага саўгаса «Свіслач». Зусім нядаўна навічкамі былі ільнаводкі Ева Карачан з калгаса «Новае жыццё» Карэліцкага раёна і Валя Каротная з талачынскага калгаса «18 партз'езд». Не так даўно сталі на самастойную жыццёвую дарогу і механізатар Мікалай Рудэнка з Тураўскай МТС, і звеннявая-буракавод Яўгенія Сідарчук з калгаса «Шлях да камунізма» Скідзельскага раёна. Сёння яны — Героі Сацыялістычнай Працы. За невялікае сваё жыццё, сваімі працавітымі рукамі яны паспелі зрабіць вельмі многа добрага на карысць Радзімы.

Маладыя перадавікі сельскай гаспадаркі Беларусі, ад усяго шчырага сэрца дзякуючы роднай Камуністычнай партыі і Савецкаму ўраду, абяцаюць:

— Узнагароду апраўдаем. Будзем працаваць яшчэ лепш!

Слава працы, вольнай і плённай, якая ўзнімае веліч і магутнасць нашай сацыялістычнай Айчыны.

Слава маладым героям працы!

М. В. Рудэнка.



# Насустрач 40-годдзю ВЛКСМ



Уладзімір Мартынавіч Азін — начдзіў 28-й стралковай дывізіі.

## Вось так нам жыць!..

«Як расказаць пра Азіна?.. Змагаецца і ніколі не адступае, плача ад злосці, як жанчына, калі з-за параненай рукі яму даводзіцца ляжаць у самы разгар наступлення. Хіба пра такога, як Азін, раскажаш? Азін — гэты герой-салдат — так ваяваў, такіх цудаў нарабіў, такіх выдатных салдат і камісараў сабе выхаваў, што і пасля яго смерці 28-я дывізія засталася азінскай», — так пісаў

### ЮНАЦТВА НАША КАМСАМОЛЬСКАЕ

*У кастрычніку 1958 года*
*спаўняецца 40 год Усесаюз*
*наму Ленінскаму Камуні*
*стычнаму Саюзу Моладзі*
*Сорак год! Узрост сталы*
*але камсамол, як само жыц*
*цё, не старэе. Гэта — вечн*
*юная, вечна маладая зме*
*на мужных, загартаваны*
*байцоў, на якую ўсюды*
*заўсёды спадзяецца Пар*
*тыя, ідучы наперад, д*
*светлай будучыні чалавецт*
*ва.*
*Камсамол — верны і на*
*дзейны памочнік Партыі.*
*За заслугі на полі бітва*
*і ў працы Ленінскі камсс*
*мол заслужыў прызнанн*
*Партыі і народа. На сцяг*
*ВЛКСМ — пяць ордэнаў.*
*Юнаку, які толькі ш*
*ўступіў у дружную камс*
*мольскую сям'ю і прыга*
*нуў да сэрца дарагую чы*
*воную кніжачку з сілуэто*
*Ільіча, ёсць з каго бра*
*прыклад, ёсць у каго вучы*
*ца. За плячамі ў камсам*
*ла — і суровая, загартав*
*ная ў бойках героіка грам*
*дзянскай вайны, і рамант*
*ка гарачых будняў перш*
*пяцігодак, і бясстрашн*
*мужнасць у грозныя га*
*Вялікай Айчыннай вайны*
*зноў тая ж юнацкая пра*
*да працоўнага подзвігу*
*цалінных прасторах у ця*
*рашнія дні...*
*Напярэдадні юбілею*
*чацца глыбей удумацца,*
*рагарнуць слаўныя старо*
*летапісу мінулых баявы*
*працоўных дзён камсамо*
*цаў...*
*Побач з матэрыяламі*
*сённяшняе камсамольс*
*жыццё, мы будзем дру*
*ваць заметкі з старых,*
*жоўклых ад часу кам*
*мольскіх газет і часопі*
*у якіх расказваецца*

у 1920 годзе ў армейскай газеце «Фронт» адзін з відавочцаў, які блізка быў знаёмы з начдзівам.

Цяжкая доля выпала на дзіцячыя і юнацкія гады Валодзі Азіна. Нарадзіўся ён у беднай сям'і на Полаччыне, у вёсцы Мар'янава. Бацька яго быў краўцом-вандроўнікам. У дзяцінстве хлапчуку крыху пашанцавала — ён вучыўся спачатку ў царкоўна-прыхадской школе, а потым у Полацкім гарадскім вучылішчы. Аднак далей вучыцца не ўдалося. І Валодзя едзе ў Рыгу. Тут ён працуе разносчыкам газет, швейцарам...

У Рызе хлопец прагна цягнецца да рэвалюцыйнага студэнцтва. Калі ж грымнулі залпы Кастрычніка, Уладзімір Азін, не задумваючыся, стаў на бок рэвалюцыі. Ён — чырвонагвардзеец.

Жалезны характар і талент Уладзіміра Азіна як воіна і камандзіра выявіўся ў жорсткіх баях грамадзянскай вайны.

1918 год. На маладую Савецкую рэспубліку ўзнялася контррэвалюцыя. На дапамогу ўнутраным ворагам прышлі інтэрвенты Антанты. Замежная буржуазія прагнула аднаго — задавіць першую ў свеце дзяржаву рабочых і сялян. Асабліва цяжкае становішча склалася на паўднёвым усходзе краіны. Па вуліцах Казані разгульвае мяцежны Чэхаславацкі корпус. Прыхвасні самадзяржаўя эсэры ўзнімаюць разню ў Іжэўску і Воткінску. Савецкі ўрад даручае вызваліць гэты важны стратэгічны раён Другой Арміі Усходняга фронта. У рады гэтай арміі ўліваецца рабочы батальён, які стварыў і ўзначаліў Уладзімір Азін. Ён ужо атрымаў баявое хрышчэнне — бліскуча праявіў сябе ў жорсткіх баях пад Арскам.

Вызваліўшы вёскі Кандзеры і Кашакова, батальён Азіна наблізіўся да Казані, дзе ўмацаваліся ўзброеныя да зубоў белагвардзейцы. У гэты час камандаванне, ацаніўшы смеласць і адвагу маладога камандзіра, даручае Азіну правую Арскую групу войск Другой арміі і дае заданне — вызваліць Казань.

Настойліва і ўдумліва рыхтуецца малады камандуючы да штурму Казані. Ён вывучае размяшчэнне сіл праціўніка, неаднаразова сам узначальвае разведку. Нарэшце, штурм Казані завершан паспяхова. Пры дапамозе маракоў Волжскай флатыліі белагвардзейцы выбіты са старажытнага горада. Рэўваенсавет рэспублікі высока адзначае храбрасць і бясстрашша войск правай Арскай групы.

Наперадзе — складаны баявы шлях. Па Удмурціі гойсаюць белагвардзейцы, людзі пакутуюць ад здзекаў царскіх галаварэзаў. І Уладзіміру Мартынавічу Азіну, які ўжо на чале зводнай дывізіі, даецца заданне вызваліць Іжэўск.

Узяцце Іжэўска — адна з самых бліскучых перамог азінскай «жалезнай дывізіі». З гэтага выпадку Ленін накіроўвае азінцам тэлеграму: «Віншую доблесныя чырвонаармейскія войскі з узяццем Іжэўска. Віншую з гадавінай рэвалюцыі. Няхай жыве сацыялістычная Чырвоная Армія!»

У гэты час за Уралам узняў галаву стаўленік Антанты Калчак. Яго войскі рынуліся да Волгі на злучэнне з Дзянікіным.

Па закліку партыі камуністы і камсамольцы, маладыя рабочыя ідуць на барацьбу са зграямі царскага генерала. Начдзіў Уладзімір Азін аддае загад свайму войску:

«Звезданосцы, баявыя арлы 28-й стралковай дывізіі! Хопіць адступаць! Ні кроку назад! Рэвалюцыя кліча вас ісці за рубяжы Урала!.. Там, наперадзе, дзе лютуе ўрад манархіста Калчака, чуецца стогн нашых братоў-беднякоў, якія чакаюць збавення ад тыраніі буржуазіі, цярпліва чакаюць нашага прыходу. Уперад, на Калчака, не марудзячы ні мінуты!..»

Азінцы зноў у нястрымным, агнявым наступе. Другі раз яны вызваляюць Саракул, Іжэўск, пераносяцца за Урал, штурмам бяруць Екацярынбург, цяперашні Свярдлоўск. Калчак разбіты, але барацьба працягваецца.

У адным з баёў белым казакам удаецца адрэзаць наступаючых чырвонаармейцаў. Сярод акружаных знаходзіўся і Азін. Гарачы, няроўны бой. Азінцы змагаюцца да апошняй кроплі крыві. Нечакана конь начдзіва пад кулямі становіцца на дыбкі, рвецца папруга, і Азін падае. Ён адстрэльваецца да апошняга патрона, але... трапляе ў рукі белых казакаў. Белагвардзейцы закатавалі Уладзіміра Азіна.

Уладзімір Мартынавіч Азін памёр ва ўзросце 25 год. Але жыццё чалавека вызначаецца не колькасцю пражытых гадоў, а тым, што ён зрабіў карыснага для людзей, для сваёй Айчыны.

*тое, чым жылі і як працавалі нашы равеснікі тых часоў — камсамольцы дваццатых-трыццатых гадоў.*

*У гэтым нумары — заметкі і допісы з часопіса «Маладняк» за 1924 год і газеты «Чырвоная змена» за 1927 год.*

## ПЕРШЫ СХОД

У 1918 годзе шмат маладых рабочых пакінулі свае майстэрні, праходзілі праз фронт — увaходзілі ў шэрагі Чырвонай гвардыі і наступалі на Мінск.

Трэцяга снежня немцы пачалі эвакуіравацца. Шмат буржуяў было, якія пачалі збіраць свае манаткі, хацелі нават забраць сваю маёмасць. Але моладзь не пушчае: тавары рэквізаваны — належаць дзяржаве і квіта!

10 снежня наш Мінск стаў чырвоным, бальшавіцкім.

13 снежня з'явіліся плакаты, пісаныя ад рукі, якія паведамлялі: «13 снежня ў памяшканні Дваранскага сабрання адбудзецца мітынг рабочай моладзі».

*Усіх маладых рабочых просяць з'явіцца.*

*Пасля сходу застаўшаяся невялікая група моладзі парашыла:*

*Павінен быць камсамол!*

15 снежня адбыўся новы сход. Прышло чалавек 50.

Пасля жывога, агністага даклада аб значэнні камсамола паставілі на галасаванне:

— Патрэбен камсамол, ці не?

Усе паднялі рукі — «за» — патрэбен камсамол! Толькі адна рука вучня казённай гімназіі была супраць, але ён тут жа і ўцёк.

## ТАК НАРАДЗІЎСЯ КАМСАМОЛ

У кастрычніку 1918 г. адбыўся 1-шы Усерасійскі з'езд камсамольскіх арганізацый РСФСР. Некаторыя арганізацыі цяперашняй Беларусі (той часткі, якая была не акупіравана) былі прадстаўлены на гэтым з'ездзе. На Першым усерасійскім з'ездзе прысутнічалі дэлегаты ад Заходняй вобласці, у якую тады ўваходзілі *Віцебская, Магілёўская, Смаленская* і *Мінская губерні.*

На гэтым з'ездзе дэлегаты ад заходняй вобласці на сваёй нарадзе вынеслі пастанову аб скліканні заходнеабласнога з'езда ў Смаленску. Гэта нарада даручыла Смаленскаму саюзу ўзяць на сябе пачын склікання абласной саюзнай канферэнцыі. Быў выдзелены часовы абласны камітэт, які назначыў з'езд заходняй камуны на 20 снежня 1918 г. Усяго на 1-м з'ездзе заходняй камуны прысутнічала 42 дэлегаты ад 24 саюзных арганізацый.

Віцебская губерня была *прадстаўлена* 10 *арганізацыямі, Смаленская—7-мю, Магілёўская—5-ю, Мінская—2-ма.* Гэты з'езд абраў абласны камітэт саюза, які праз месяц пасля вызвалення Беларусі ад нямецкай акупацыі пераехаў у Мінск, рэарганізаваўшыся ў цэнтральны камітэт камсамола Беларусі. У снежні 1918 г. пасля прыходу Чырвонай Арміі на Беларусь, у шэрагу гарадоў раней акупаванай Беларусі арганізуюцца камсамольскія арганізацыі.

У Мінску камсамол узнікае 15 снежня, у Бабруйску — 18 снежня, у Мазыры—23 снежня. У Віцебску *пасля 1-га Усерасійскага з'езда* РКСМ *камсамол* афармляецца 12 лістапада.

Так нарадзіўся Ленінскі камсамол Беларусі.

## З ВІЛЬНІ Ў МІНСК

*У час захопу Вільні палякамі* ўсе дакументы загінулі.

Сакратар ЦК пайшоў на баявую працу — прымаў удзел у бойках на вуліцах Вільні. Прышлося арганізацыйную працу пачынаць нанава.

Большасць сяброў ЦК раз'ехалася ў правінцыю і праводзіла працу на месцах.

ЦК мабілізаваў 20 працаўнікоў саюза на фронт. Разам з гэтым вёў падгатоўчую працу дзеля склікання Беларускага з'езда КСМ. З'езд быў назначаны на 10 мая.

Міжвольна ўспамінаюцца радкі з верша:

Вось так нам жыць. І несці сцяг чырвоны,
Спакой і смерць пракляўшы з бою ў бой,
Каб нашыя звычайныя імёны
Вяршынямі зіхцелі над зямлёй!

**Іван Калеснік.**

# Мужнае сэрца

Маленькі домік па вуліцы Леніна ў Полацку. Тут жыве і працуе наша сучасніца, камсамолка Зіна Тусналобава, якая ў цяжкі для Радзімы час зрабіла бяспрыкладны подзвіг.

На палях Айчыннай вайны медыцынская сястра камсамолка Зіна ратавала жыццё параненых воінаў. 128 чалавек вынесла яна з-пад агню на медыцынскія пункты. Да сто дваццаць дзевятага Зіна кінулася ў разгар атакі пад станцыяй Гаршэчнае на Куршчыне: яна бачыла, як ускінуў рукі і ўткнуўся тварам у снег афіцэр-гвардзеец. Зіна ўпала побач, нарыхтавалася рабіць перавязку, але камандзір быў ужо нежывы. Тады Зіна, як заўсёды ў такіх выпадках, хацела выняць з кішэні забітага дакументы, узяць яго зброю, каб вярнуць усё гэта ў часць. Але разрыўныя кулі перабілі ёй у гэты момант абедзве нагі. Зіна страціла прытомнасць.

І толькі потым ужо даведалася яна, што нашы часці вымушаны былі адступіць з-пад Гаршэчнага. Сцякаючы крывёю, нерухома праляжала яна на снезе амаль двое сутак. Успомніла, што толькі на адно імгненне за гэты час апрытомнела ад страшэннага ўдару па галаве: гэта варожы патруль, дабіваючы нашых параненых, ударыў прыкладам, на ўсякі выпадак, бо да жывых яна ўжо амаль не належала.

На беспрытомную абмарожаную Зіну выпадкова натрапілі нашы разведчыкі.

Зноў апрытомнела толькі ў шпіталі. Адмарожаны былі не толькі ногі, але і абедзве рукі. Восем пакутлівых, цяжкіх аперацый, і Зіна страціла абедзве нагі. На левай руцэ ў яе не стала кісці. Правая рука была ампутавана амаль па самае плячо. Але засталося мужнае, нястомнае сэрца, невычэрпная вера ў перамогу, у жыццё...

З палымяным заклікам звярнулася Зіна да воінаў, якія жорстка біліся з ворагам на яе роднай Полаччыне. Яе імя было напісана на башнях танкаў, на бартах самалётаў. Яно не сыходзіла са старонак франтавых газет. Людзі, ідучы на подзвіг, гаварылі: «За нашу Зіну!»

Так зноў стала Зіна ў шэрагі барацьбітоў, так да самай перамогі не выходзіла са строю.

У канцы мінулага года ўся краіна з радасцю даведалася, што ў дадатак да раней атрыманых баявых урадавых узнагарод палачанцы Зінаідзе Міхайлаўне Тусналобавай-Марчанка, нашай Зіне, як пяшчотна называюць яе, прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

І з гэтага дня ў доме 34 па вуліцы Леніна стала яшчэ мнагалюдней. Цяпер на ганачак дома ўзыходзяць і зусім незнаёмыя раней людзі, каб выказаць слаўнай патрыётцы сваё захапленне, сваю ўдзячнасць.

На парозе гасцей сустракае невысокая маладжавая жанчына — сама гаспадыня. Часам з воклічам: «Мама! Да нас прыйшлі!» выбягае белагаловы хлопчык. А ў вячэрні час насустрач госцю часта выходзіць мужчына з лёгкай сівізной на скронях і добрым, ветлівым тварам — сам гаспадар.

І таму, хто прыйшоў сюды першы раз,

У сям'і Зінаіды Міхайлаўны Тусналобавай-Марчанка.



У Мінску зноў пачалі выходзіць «Чырвоная моладзь» і выйшаў 2—3 нумар «Факела камунізма».

Польская армія заняла Беларусь, і з'езд, назначаны намі, не адбыўся.

У жніўні савецкі Мінск у руках белапалякаў.

ЦК эвакуіраваўся ў Смаленск. Шмат сяброў ЦК было кінута ў Чырвоную Армію.

Так на працягу 8 месяцаў Беларускі камсамол паспеў прайсці шлях Смаленск — Мінск — Вільня — Мінск—Смаленск.

На гэтым сходзе быў абран камітэт у складзе 10 чалавек. Тут жа выбралі і дэлегатаў на абласны з'езд.

На гэтым сходзе ў арганізацыю ўвайшло толькі некалькі інтэлігентаў.

Першыя крокі былі цяжкія. Камітэт збіраўся ў гасцініцы «Еўропа» пакой 56 і галоўнай справай было пабудаваць клуб. Клуб пабудавалі, праца пачала пашырацца і пайшла ўперад шпаркімі крокамі.

## ПЕРШЫ ЭТАП

Беларускі саюз нарадзіўся ў Смаленску ў 1918 годзе. Мінск у гэты час быў у кіпцюрах нямецкіх юнкераў. Заходняя камуна аб'яднала ў той час Смаленскую, Віцебскую і Магілёўскую губерні.

Рэвалюцыйны рух сярод моладзі ў некаторых месцах Заходняй камуны пачаўся ўвясну 1918 г., але на першы час арганізацыі займаліся культурна-асветнай працай.

У Смаленскім «Саюзе рабочай моладзі імя III-га Інтэрнацыянала» разам са старшынёй-камуністам Вараб'ёвым, працуюць меньшавікі і бундаўцы.

Толькі ўлетку з'яўляюцца дзве моцныя камуністычныя арганізацыі — у Невелі і ў Раславе.

У камітэце Смаленскай арганізацыі з'яўляецца патрэбнасць рэарганізацыі саюза. Рэарганізацыя адбылася.

У склад новага прэзідыума камітэта ўвайшлі камуністы Флакс, Прашчыцкі і Ахманаў.

## АБЛАСНЫ З'ЕЗД

Першы агульны сход Смаленскай арганізацыі адобрыў нашу пастанову.

Падрыхтоўчая праца да з'езда пачалася.

Першы абласны з'езд пачаўся 20 снежня 1918 года. Прысутнічала 42 дэлегаты ад арганізацый Віцебскай губерні, 1— ад Смаленскай, 2 — ад Мінскай, 5 — ад Магілёўскай.

З'езд парашыў, заслухаўшы т. Мяснікова аб становішчы рэспублікі, даць свае сілы Чырвонай Арміі. З'езд пазнаёміўся з працай усерасійскага з'езда і дзейнасцю ЦК РКСМ.

Асабліва шмат увагі было звернута эканамічна-прававай і культурна-асветніцкай працы. Было шмат унесена дабавак да пастановы ўсерасійскага з'езда і выклікана пытанне аб эканамічным становішчы сялянскай моладзі.

* * *

Пасля з'езда абраны абласны камітэт прыехаў у Мінск і аб'явіў сябе ЦК КСМ Беларусі.

Першым крокам актыўнай палітычнай працы ЦК было заклікаць усю рабоча-сялянскую моладзь прыняць актыўны ўдзел у выбары Саветаў пад сцягам камуністычнай партыі.

Тады ж была пастанова выдаць «Факел камунізма». Палітычныя падзеі высунулі перад намі задачу аб'яднання Літвы з Беларуссю. 9-га лютага на пленарным пасяджэнні ЦК КСМБ і прадстаўнікоў Літвы было аб'яўлена аб'яднанне. ЦК Літбел стаў з ЦК Беларусі і трох прадстаўнікоў Літвы. Хутка ЦКМол пераязджае ў Вільню і пачынае сваю працу.

* * *

Яшчэ да прыезду ў Вільню ЦК туды прыехаў сябар ЦК Зандлер і выпусціў першы нумар «Факела камунізма».

ЦК у Вільні прыняў актыўны ўдзел у працы абласнога з'езда партыі. На III з'езд РКП былі пасланы дэлегаты ад КСМ.

ЦК наладзіў сувязь між старымі і новымі арганізацыямі Рэспублікі.

# *З армейскага блакнота маладых паэтаў*



**Мікола СІСКЕВІЧ**

## ДОМА



Ад ранцаў і ад маршаў стому
'Шчэ адчуваю на спіне,
А сёння я ўжо з ранку дома,
Сустрэлі з радасцю мяне.

Адведаўшы найлепшай стравы,
Успомніўшы дзяцінства дні,
Пра будучыя мару справы
Сярод знаёмай цішыні.

Ды толькі штось засумавала
Душа паходная мая.
Напэўна нечага ёй мала.
Чаго ж, скажы? — пытаю я.

Ці мо' калючага паветра?
Ці мо' прывалаў і кастроў?
Ці мо' бяскрайніх кіламетраў?
Ці мо' нязведаных шляхоў?

Я зразумеў, нядаўні воін,
Што, пасля ўсіх салдацкіх спраў,
Той цішынёй занепакоен,
З якой калісьці сябраваў.



## СЯБРУ



Дай успомнім, лепшы дружа,
Як з табой паілі часта
Вечарамі коней дужых
У шырокіх хвалях Мястра.

Як выводзілі эскадры
Лодак з вадзянога шквала.
(Мне шкада, што тыя кадры
Толькі памяць захавала.)

Як са стрэльбай вандравалі,
Заблудзіўшыся у лесе;
Як на пару пакахалі
Чарнавокую Алесю;

Як юнацтва у шынелі
Нас з табою апранала,
Як у холад і ў мяцелі
Імі сэрцы сагравала...

І куды б мы ні хадзілі
Днём зімовым, ноччу весняй,
На дваіх заўжды дзялілі
І ваду, і хлеб, і песню!

**Пятрусь МАКАЛЬ**



## У МІРНЫМ СУСЕДСТВЕ

Усё афарбована ў колер зялёны:
І неба, і травы, і нашы пагоны,
І дым, і нават гармата сама.
Як быццам і фарбаў іншых няма!
Дрыжыць у суседніх бярозак веццэ:

Грукат, напэўна, палохае іх.
А я ў хвіліну гэту на свеце
Не ўяўляю гукаў другіх.
Спакой мы пакінулі нівам і хатам
І самі забылі пра ўласны спакой.
Здаецца, што я нарадзіўся салдатам,
І стаў адразу ў паходны строй.
А пройдуць гады, і здыму я пагоны,
І ўсё гэта сном прыгадаецца мне,
Калі ў навальніцу шыбу аконную
Летняй часінай гром страсяне.
...На палігоне пахне порахам,
А ў полі — водарам спелых зярнят.
Побач з ціхім жытнёвым шолахам —
У мірным суседстве гамонка гармат.



**Уладзімір ПАЎЛАЎ**

# ЦЯЛЬНЯШКА



Піша маці з роднага сяла,
Што цяльняшку, падарунак братаў,
Мною надзяваную па святах,
Хлапчуку-суседу аддала.

Хоць пра гэта болей ні радка,
Ды я знаю: пад напевы жыта
Кожная там думка хлапчука
Хваляй акіянскаю абмыта.

І што сніцца ў сне яму маяк,
І прастор, успенены наўкола.
Хай сабе пакуль ён не марак,
А спяшае раніцай у школу.

І сяброў сабраўшы ў цесны гурт,
Там, на першай, мне знаёмай парце,
Будучага плавання маршрут
Вызначае ў Арктыку па карце...

Мы былі яшчэ нядаўна самі
У марскіх цяльняшках хлапчукі

Тыя, што любуюцца палямі
У цалінным стэпе з-пад рукі;

Тыя, што выходзяць у «разведку»
Да глухой таежнае зямлі,
Што сціскаюць пальцамі гашэткі —
У блакітным небе патрулі.

Мы ў дзяцінстве жалю не прасілі,
Хоць стаялі слёзы на вачах.
Ды шкада, нас позна нарадзілі
І ўсяго цяльняшкі мы насілі,
Порахам прапахшыя ў баях.

Я сваю падзяку, — як умею, —
За навіну адашлю ў сяло.
Хлопчыку ж з цяльняшкі хай павее
Нашых сэрцаў мужнасць і цяпло.

# ПРАВОДЗІНЫ



Вось і скончыўся водпуск з сустрэчамі, з песнямі,
Мне — дакладна з'явіцца у свой гарнізон.
А пакуль тыя рукі, што некалі песцілі,
На плячы маім гладзяць блакітны пагон.

Галава ў маёй маці зусім пасівелая,
Бо не часта ў жыцці яна бачыла май.
Шэпчуць вусны няўпэўнена просьбу нясмелую:
«Калі зможаш, сынок, лепей ты не лятай»...

І служыў каб не горш за людзей і каб часта я
Аб сабе ўсё пісаў да апошніх навін.
А кастрычніцкі вецер над дрэвамі шастае
Пазрыванымі лісцямі з тонкіх галін.

Не ўстаяць ля двара рысакі беланогія,
Губы цуглямі сцерлі да самай крыві.
Блаславі ж ты мяне перад дальняй дарогаю,
Мацярынскай любоўю сваёй блаславі!



Сямён **БЛАТУН**

# ДЗОТ



Зямлю вакол крамсалі сотні мін,
А ён свінцом ссякаў усё жывое,
Ды раптам змоўк, прыціснуты грудзьмі,
Бы анямеў ад смеласці героя.

Цяпер тут ціха. З мурагом густым
Паўзуць рамонкі на пагорак нізкі,
Бярозкі юнай дробныя лісты
Шапочуць над маўклівым абеліскам.

І толькі з дзота сырасцю дыхне
Ад сцен цвілых і ўжо ад часу бурых,
Да болю мне напомніць аб вайне,
Нібы прывід, сляпая амбразура —

Здаецца, бачу, як курыць трава,
І дзот зноў сее смерць на полі бою...
Яго даўно б пара ўжо ўзарваць, —
Шкада трывожыць толькі сон героя.

* * *



Налёг на плечы дубу вецер,
Пакласці хоча дрэва ніц,
А ён адмахваецца веццем,
Лістамі меднымі звініць.



Непадуладны навальніцам,
Што многа раз над ім гулі,
Ён упадзе аднойчы ніцма,
За ўсё пакланіцца зямлі.



Аляксей **ПЫСІН**

# ГВАРДЗЕЙСКАЙ ДАРОГАЙ



Дарога згубілася ў топкім бяздонні,
Ў асеннім карыце гразі.
Гарматы загразлі,
І топяцца коні,
Хоць сам у хамут — і вязі.

Загад батальёнам: «Сюды на плячах
Прынесці з дзялянак дарогу!»
І неслі мы сосен ствалы
Па карчах,
Як зброю для перамогі.

Запахлі кілометры свежай смалой,
Брусьнічнікам, мохам і потам.
Па гулкай ляжнёўцы пакрочылі ў бой
Гвардзейскія дружныя роты.

Я з ротай гвардзейскай да сталасці йшоў,
Крутыя пазнаў далячыні.
Таму не шукаю спакойных шляхоў —
Масціць іх мяне навучылі.

# ДУБ



Здрыгануўся дуб стары ў даліне,
Дзе акопы зараслі травой;
Гэта незнарок ў асколак міны
Грукнуў дзяцел дзюбаю сваёй.



**Васіль БЫКАЎ**

# НА ВОЗЕРЫ

**Апавяданне**

Мал. Ф. Бараноўскага.

У Мішкі Бурбона вясёлы настрой.

Веласіпедам гонячы свой кароткі цень, ён зухавата збочыў з вуліцы і, разагнаўшы на двары курэй, спыніўся каля хаты. Затармазіў, саскочыў з сядзення і нядбайна штурхнуў машыну да ганку.

— Маці, пастаў на месца!— гукнуў ён у сенцы. — Я — на возера.

Важка паводзячы тугімі, рудымі ад загару плячыма, камлюкаваты і дужы, у аблезлай сіняй майцы, Мішка падаўся за ваколіцу. Па сцяжынцы ён пабрыў на хмызняковы пагорак. З паўдзённага ліпеньскага неба пякло сонца, звінелі жаўрукі над бульбянымі нівамі, нагрэтая зямля апякала босыя ногі. Ззаду па дарозе грукацела фурманка, нехта адтуль паклікаў Мішку. Хлопец, з выразам незалежнасці на твары, азірнуўся і спыніўся. Фурманка таксама спынілася — там сядзеў брыгадзір Сафрон.

— Міхась! — крычаў Сафрон. — Ці ты скасіў тое, што я табе казаў?

У светлых вачах хлопца, поўных упэўненасці і лянівае сілы, мільганула свавольная весялосць.

— І не думаў.

— Ну, ты не жартуй, а то я ўраз старшыні скажу. Што гэта за дурнота!— абураючыся, крычаў брыгадзір. — Кажы праўду: скасіў ці не?

— Не верыш — правер, — ухмыльнуўся Мішка.

Брыгадзір зноў пачаў лаяцца, і тады Мішка, відаць, задаволіўшыся ягонай злосцю, крыкнуў:

— Скасіў. І на поплаве і яшчэ між кустоў сотак з дваццаць.

— Глядзі, а то я пажартую! Я ведаю цябе, — ужо без злосці пагразіў Сафрон, і фурманка кранулася далей па ўсохлай дарозе.

З усмешкай аглядаючы наваколле, хлопец пайшоў да возера. З пагорка між хмызняку яно адкрылася шырокае, адвольнае, бліпічастае ад сонечнага ззяння. Возера спакойна ляжала між чарацяных берагоў, дыхала прахаладай і ў гэты спякотны час вабіла да сябе. Гаспадыні ў ім паласкалі бялізну, хлапчукі купаліся, лавілі рыбу, а дарослыя часамі прыходзілі сюды, каб пасядзець на прыволлі.



Мішка памалу дыбаў сцяжынкай цераз нешырокі лужок і цікаваў наўкол. Але на беразе нікога са шматлікіх хаўруснікаў нідзе не відно было. Напэўна яны бавіліся яшчэ на працы. Мішка не ведаў, куды падацца. Купацца ён не вельмі спяшаўся, а болей аднаму тут рабіць было нечага, хіба толькі пераплыць на той бок да леспрамгасаўскіх дзяўчат, што ў лесе збіралі жывіцу.

Раптам Мішка ўбачыў непадалёк шэрую касмылявую постаць дзядзькі Алёксы — старога з суседняй вёскі Зароўе. Гэты Алёкса некалі меў вялікую сям'ю, але жонка памерла даўно, тры сыны загінулі ў вайну, а малодшы, Восіп, скончыўшы доўгую навуку, жыў недзе ў горадзе. Алёкса ў калгасе вядомы быў сваёй ціхманасцю і непрыкметнасцю. Не адно пакаленне вясковых падшывальцаў вытварала над ім смешныя, часам і крыўдныя забавы. Але дзядзька не крыўдаваў, толькі зрэдку пагражаў свавольнікам, чаго тыя не дужа баяліся. Нядаўна яны пракалолі човен, і Алёкса, не ўмеючы плаваць, ледзь не ўтапіўся ў возеры. Пасля той чоўвен зусім недзе знік, і да рыбацкіх паслуг старога засталася на вадзе старэнькая нямаведама чыя дубіца.

— Здароў, стары,— грубавата павітаўся Мішка, падыходзячы да Алёксы. — Чаго сядзіш?

Алёкса выняў з бяззубага рота недакурак і слязлівымі вочкамі, схаванымі ў сівым касмыцці, зірнуў на хлопца.

— Ці ведаеш — хай на яго халера! — дубіцы няма. Трэ' паглядзець мярэжы, а дубіцу нехта ўкраў ці мо' ўтапіў дзе.

Хлопец пагардліва агледзеў сухенькую дзядзькаву постаць у залапленай гімнасцёрцы, зрэбных портках, завязаных на шчыкалатках, і ў яго гарэзных вачах з'явіўся заўзяты агеньчык.

— Хоч, знайду дубіцу. Толькі ўдвох сядзем у яе.

— Добра б знайсці. А то ўжо два дні мярэжы не краталы.

Стаўшы на калені, дзядзька ўзняўся, даверліва пазіраючы на хлопца, які, нешта ўдумаўшы, сачыў за ім. Учора дубіца на штосьці спатрэбілася Мішку, і ён сагнаў яе ў затоку ды схаваў у трысці.

Крывой узбярэжнай сцяжынкай, вытаптанай кароўімі капытамі, яны падаліся ў хмызнякі. Сцяжынка хутка схавалася ў алешніку. Абапал яе расла пякучая крапіва. Алёкса неўзабаве адстаў і паціху тупаў ззаду. Каб не страціць яго, Мішка ўсё аукаў: «Давай, давай!» Ён ухмыляўся ад зухаватай сваёй зацеі. «Выедзем на сярэдзіну і ўжо я пакупаю дзівака»...

Пазіраючы на бераг з цяністага алешніку, ён нарэшце знайшоў сваю схованку і, падкасаўшы штаны, палез у ваду. Водмелі тут бадай не было. Але вада ў возеры была цёплая, пахла аерным карэннем. Мішка падцягнуў да берага выдзяўбанае з елкі судна, узяў прыхаваны ля яго доўгі пруток і, гойдаючы ў зарасніку ціхую вадзяную паверхню, улез у дубіцу.

— Дзядзька, гэй!

— Бягу, бягу, — пачулася ў хмызняку, і неўзабаве з кустоў вылез Алёкса. Асцярожна мацаючы нагой дубіцу, стары папрасіўся:

— Ты ж паціху, каб... А то — хай на яе халера! — я палоханы ўжо.

Мішка ўсміхнуўся, стоячы на сваім канцы. Расхінаючы шархоткі чарот, дубіца вылезла з зарасніку.

— Вунь туды трымай, да сухой елкі, — паказаў Алёкса.

Ён сядзеў на носе і абедруч трымаўся за мокрыя счарнелыя берагі. Мішка спрытна перабіраў шастком. Пад дошкамі-крыллямі плёскалася

вада. Ззаду цягнуўся шырокі наморшчаны след. Тут было мелка, ля берага раслі гарлачыкі. Дубіца раскалыхала іх пляскатае слізкае лісце. Дно скрозь было багністае. З яго сям-там бісернымі ланцужкамі струменілі ўгору паветраныя пухіркі. Мішкаў пруток ледзь знаходзіў апору ў гэтай твані. Нарэшце бераг адплыў, і яны апынуліся на шырокай вадзяной прасторы. З лужка даносіліся галасы купальшчыкаў. Нехта ў тым канцы крычаў цераз возера:

— Во-о-лька-а-а! Пісьмо табе прышло-о-о!

— Ну, як Восіп? — запытаў Мішка ў Алёксы. — Што піша?

Гэта было знарок такое пытанне. Адна з Мішкавых знаёмых, Алена, насіла пошту, і таму ён ведаў, што гэты Восіп ужо гады з два як не прысылаў бацьку ніводнага пісьма. Праўда, Алёкса аб тым нікому не казаў, не скардзіўся, але ўсе ведалі, што сын цураецца старога бацькі.





— Ды так,— неахвотна адказаў Алёкса, гледзячы ў ваду. — Піша, нешта жыве.

— Хлусіце, дзядзька. Нічога ён не піша. Забыўся.

Стары нібы ўздрыгнуў, зірнуў на хлопца нейкім нядобрым спалоханым позіркам і зноў патупіў голаў.

— Чаму забыўся? — сказаў ён, відаць, уражаны гэтым словам. — Хіба можна на бацьку забывацца?

Перакідваючы шэст з рукі ў руку, Мішка заўважыў, што пад вачыма старога, у сівых яго касмылях быццам бліснула штосьці. Хлопцу на момант стала шкада гэтага чалавека, але такая слабасць душы была рэдкая ў яго характары, і Бурбон хутка пазбыўся яе. «Кульцу зараз!» — усміхаўся Мішка.

— Ён у мяне добры,— казаў тым часам стары. — Бывала, маленькі быў, такі белагаловенькі, усё есці насіў на ніву. Прыдзе, сядзіць на ўзмежку, ці ходзіць за канём і ўсё пытае: што гэта, што тое? А ўвечары я яго на плячах дамоў нясу, да сяла дайду, глядзь — а ён ужо спіць.

— Гэх ты! — іранічна чмыхнуў Мішка.

— Ён і цяпер добры... Надоечы, значыць, пасылку прыслаў: папяросак.

— Калі?

— Піша, частуйся, татка, табе гасцінец. Яшчэ піша, можа прыедзе на спаса ды дошчак дастане, хату падрамантаваць.

— Хм! — не ўтрымаўся Мішка і зірнуў на Алёксу. Тое, што казаў ён, была святая няпраўда, і хлопцу нават здалося: ці не п'яны, а мо' хворы стары? Аднак Алёкса спакойна сядзеў на шчарбатым носе дубіцы, задумліва пазіраў на той бераг возера, і на твары яго ляжала такая непадробная вера ў сказанае, што хлопец ажно здзівіўся. Ён прыкінуўся таксама і знарок запытаў у старога:

— Мо' ён і грошы прысылаў?

— Ага, і грошы прысылаў... Яно не так, каб... але ўсё падмога мне, бабылю. Ён добры, дарма што людзі кажуць...

— Выходзіць, выдумляюць?

— Ну, яно, канешне, людзям здаецца і тое, і гэта. Дарма толькі...

Мішка зноў хацеў сказаць, што стары хлусіць, але нешта ўтрымала яго ад гэтай грубаватасці — неяк вельмі ўжо непрыемна было разбураць шчырую няпраўду чалавека. А той, відаць упэўніўшыся ў даверлівасці хлопца, прадаўжаў сваё:

— Восіп у мяне добры, вучоны. Няма чаго бога гнявіць. Бацьку ён не забудзе.

«Вось дык справа, — думаў сабе Мішка. — Ледзь сам жыве, а не хоча ганьбіць тую свалату. Другі б на яго месцы ў суд падаў. Вось дык Алёкса!»

Хлопца здзівіла, што стары не паскардзіўся, не ўсчаў выкладаць крыўды, як гэта робяць у такіх выпадках слабыя людзі. Іх Мішка недалюбліваў і да іх ліку адносіў дагэтуль і Алёксу. Але цяпер выходзіла, што стары быў неяк па-свойму моцны, а гэта ўжо сапраўды падабалася Бурбону, які паважаў усё шырокае, размашыстае ў жыцці. У той жа час Мішка шчыра ненавідзеў Восіпа і, праўду кажучы, трохі не разумеў Алёксу, які, здавалася хлопцу, дарма заступаўся за сына. Нейкія ўжо дужа невыразныя былі іх адносіны, але затое было відавочна, што стары насіў у сабе немалое гора.

Яны падплылі да другога берага. Тут таксама было мелка і багніста. Зялёнай шырокай паласой цягнуўся аер і чарот. За імі на пагорку, раста-

пырыўшы кашлатае суччa, стаялі высачэзныя елкі. Іх верхавіны расплываліся ў вадзе, зыбіліся, пераліваліся бляскамі і ценямі.

Алёкса здалёк прыкмеціў над вадой мярэжы, і дубіца наблізілася да іх. Пакуль стары выцягваў мокрую, аблепленую тванню снасць і лавіў у гарлавіне слізкіх карасёў, Мішка шкадаваў, што замест Алёксы не сядзіць тут ягоны «добры» Восіп. Захоплены новымі думкамі, свавольнік ужо забыўся пра сваю дураслівую зацею, маўчаў.

— Хто ж мяне цяпер дагледзіць, калі не ён? Жывы былі б сярэднія і надзеі было б болей. А то на яго ўвесь спадзяванак. Ці ж ён не цяміць таго?

Другую мярэжу стары доўга не мог выцягнуць з вады. Яе засмактала ў багну. Мішка, устаўшы з кармы, грубавата адпіхнуў старога.

— Дайце я, дзядзька!

Ён спрытна ўправіўся, вытрас, кінуў у дубіцу трапяткую плотку і прабраўся на сваё месца на карме.

— Ну, дзякуй табе, хлопча, дапамог ты мне сёння, — казаў Алёкса. Пакрысе ён неяк аж прасвятлеў з твару. У ягоных слязлівых вачах, здаецца, свяцілася ўдзячнасць Мішку, што паверыў у тое, чаго хацеў чалавек.

— Ведаеце што?— нейкім асаблівым голасам раптам сказаў хлопец. — Гэта ж мы тады з Юзікам ваш човен прадзіравілі.

Алёкса коратка зірнуў на яго, але замест здзіўлення яго выцвілыя вочы бліснулі ўсмешкай.

— Я ж ведаю, браце, мне казалі. — Ён памаўчаў крыху і ўжо сур'ёзна дадаў: — Ну, ды гэта глупства: вядома, жэўжыкі.

Назад ехалі напрамік, праз усё возера да лужка, дзе разам з поўднем скончыўся людскі гоман. Пясчаны бераг быў пусты і ціхі. На сцяжынцы там, пад алешнікам, паказалася нейкая адзінокая постаць, і над возерам разнёсся знаёмы і зычны брыгадзіраў голас:

— Мі-і-ха-а-ась! На стагаванне пойдзеш? Двойні не забудзь!

Брыгадзір яшчэ гукаў, відаць чакаў заўсёдашніх Мішкавых адмовак, але хлопец пасур'ёзнеў. Упершыню, здаецца, за сваю гарэзную маладосць натрапіў Міхась на невясёлую загадку чалавечых адносін і маўчаў, не ведаючы, як вытлумачыць яе. А Алёкса курыў і прыязна пазіраў на памагатага, які ўсё хмурыў свае бровы і, прутком узнімаючы з дна пухіры, шпарка гнаў дубіцу.

На водмелі стары вылез, намачыўшы штаны, і, трымаючы ў прыполе небагаты азёрны набытак, з берага сказаў яшчэ хлопцу:

— Ну, дзякуй табе! Усе казалі, нягоднік ты... А я гляджу — нішто дзяцюк.

Мішка ніякавата паморшчыўся ад непрывычнай пахвалы.

— Дубіцу я на месца пастаўлю, — сказаў ён. — Трэба будзе, возьмеце.

Ён падхапіў пруток і, шырока расставіўшы ногі, упёрся ў бераг. Алёкса выціраў рукавом узмакрэлы лоб.

— Толькі ведаеце, дзядзька, — раптам сказаў Мішка. — Усё ж калі траплю ў горад, знайду вашага Восіпа і наб'ю яму морду. Нягоднік ён, вось хто! Кажуць на мяне, але вось ён такі.

Алёкса ўздрыгнуў. Ён ураз зразумеў і няўдачу сваёй хітрасці, і нечаканую Мішкаву спагаду — старэчыя вочы яго хуценька заміргалі. Трэба было ісці дамоў, але ён чамусьці стаяў на беразе і ўсё моўчкі глядзеў на спрытнага юнака.

А Мішка заклапочана зірнуў на паніжэлае сонца і, размахваючы даўжэзным прутком, пагнаў дубіцу ў трысніковую затоку.



**Артур ВОЛЬСКІ**

# МАЛАДОСЦЬ



Маладосць!
Дзе тваё нараджэнне? Калі
ты прышла ўпершыню на абшары зямлі?
Ані мне, анікому
гэты дзень не вядомы,
бо тады не было камсамольскіх райкомаў,
і загадчык аддзела уліку ў анкету
не паспеў запісаць дату слаўную гэту.
Але знаю: твая маладая рука
меч калісьці паклала ў далонь Спартака.
Але знаю: якія ні возьмеш гады,—
ты заўжды ў барацьбе, ты ў змаганні заўжды.
Ты настроіла струны на скрыпцы дэ-Ліля
ў ноч, калі «Марсельеза» расправіла крылле.
Маладосць!
Гэта ты пад прыцэлам варожым
несла разам з Гаўрошам
поўны кулямі кошык.
І калі сваю ношу хлопчык выпусціў з рук,
ты сваёю крывёю апырскала брук.
Барыкады Парыжа,
барыкады Парыжа!
Не, Гаўрош не загінуў,
ён выжыў,
ён выжыў!
Мне шкада, што Гюго
не заўважыў таго,
як пайшоў ён, спяваючы весела штосьці,
праз гады на спатканне з другой маладосцю.
Кажуць, бачылі хлопца у Пятым — на Прэсні,
і па-руску спяваў ён французскую песню.
Маладосць!
Гэта ты у ватоўцы рабочай
Зімні брала дажджлівай кастрычніцкай ноччу.
І «Аўрора», агнём скалануўшы планету,
аддавала салют маладосці сусвету.
Гэта ты ў бесказырцы з істужкаю доўгай

бранепоезд вадзіла у стэпе за Волгай.
І, як кажуць, у тыя грымотныя дні
пад канём ты была і была на кані.
Маладосць!
Колькі слаўных ты маеш імён.
Іх не злічыш — не тысячы іх, не мільён.
Кашавыя, Гастэлы, Шаршнёвы і Зоі...
Змагары маладыя, маладыя героі.
Ані часу, ні смерці
іх імёны не сцерці.
Мы ва ўласныя грудзі схавалі іх сэрцы.
Маладосць! Маладосць!
Камсамольскі узрост...
Шлях да новых вышыняў ляжыць не наўпрост.
Але знаю: ты з гэтага шляху не збочыш,
бо па ім ты за партыяй роднаю крочыш.
Як ішлі камсамольцы раней на вайну,
так ты сёння ідзеш узнімаць цаліну,
так ты сёння ідзеш
у скляпенні тайгі
і бярэш,
як рубеж,
бурных рэк берагі.
Маладосць!
Ты не госць
на савецкай зямлі.
Ад бацькоў,
ад братоў
мы цябе прынялі
і, як песню,
панеслі,
і, як сцяг, узнялі.
Калі-ж стане маё пакаленне сівым,
мы цябе маладым
ў рукі з рук аддадзім.

Можа, скажа хто-небудзь:
«— Дарма да світання
ты сядзеў,— тут ні слова няма пра каханне!
Ну, а як без кахання ў такія гады?
Ты-ж і сам яшчэ, можна сказаць, малады...»
Малады?
Малады!
Значыць, час у нас ёсць:
пра каханне мы скажам яшчэ, Маладосць!



# МАТЧЫНЫ РУКІ



Без работы ніколі яны не ляжалі,
калі жыта не жалі,
дык нітку сукалі, —
трэба ж лапіць штаны,
зацыроўваць панчохі,
бо футболам сыны
захапляліся трохі.

Калі хлеба па картках сям'і наставала,
рукі матчыны зналі,
што трэба рабіць, —
так умелі апошні кавалак
дзяліць,
каб усіх надзяліць,
а сябе — абдзяліць.

І раслі
мазалі,
як груды на зямлі.
На далонях сляды
пакідалі гады,
як плугі на раллі.

...Я нічога не маю супроць манікюру.
Можа —
гэта прыгожа,
як кажуць жанчыны.
І калі ад яго адвярнуўся пахмура
тут у іншым прычыны.

Мне сустрэлася дама
з такімі рукамі,
што дзіцяці ніколі, відаць, не насілі.
А пакласці ў падмурак адзін хаця камень
ім зусім не па сіле.
Нават хлеба, якога дасыта,
ім цяжка нарэзаць,
нібыта
ён зроблен з жалеза,
не з жыта.

Я пра гэта напомніў сягоння знарок
беларучкам,
што рукі мілуюць з дакукі...
Хай у нашых жанок,
хай у нашых дачок
будуць рукі такія,
як матчыны рукі!



Ігнат ДУБРОЎСКІ

Ігнат Дуброўскі (Ігнат Цімафеевіч Чарняўскі) нарадзіўся ў 1906 годзе ў в. Дуброве Смалявіцкага раёна Мінскай вобласці. Працаваў на камсамольскай рабоце, пазней вучыўся ў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. У 1937 годзе скончыў аспірантуру ў Маскве, абараніў дысертацыю на ступень кандыдата сельскагаспадарчых навук і працаваў у Акадэміі навук БССР.

У перыяд Вялікай Айчыннай вайны быў на фронце, удзельнічаў у баях. Цяпер працуе загадчыкам аддзела эканомікі Беларускага навукова-даследчага інстытута земляробства.

У 1952 годзе выйшла з друку аповесць «Зямля маладзее», у 1954 годзе — зборнік апавяданняў «Радня».

# КАМСАМОЛЬСКІ ПІСЬМЕННІК ШОЛАМ-АЛЕЙХЕМ

## Апавяданне

Мал. Л. Дубара.

Заўсёды я наведваўся ў калгас «Новая Аселіца» да свайго франтавога сябра Пятра Цімафеевіча Будзько. Прыязджаючы туды, я спрабаваў цікавіцца ўсім, даваць парады, іншы раз умешваўся ў крытыку па адрасу калгаснага кіраўніцтва, за што мяне знелюбіў новааселіцкі старшыня Кандрат Міхайлавіч Верабейнікаў. Тады я, не жадаючы, каб Верабейнікаў лічыў мяне падбухторшчыкам, стаў устрымлівацца ад лішняе паездкі ў госці ў «Новую Аселіцу».

І вось аднаго разу да мяне на кватэру зайшоў Пётр Цімафеевіч і пачаў папракаць, што я даўно не быў у яго, маўляў, зазнаўся, адказны работнік міністэрства, а ён усяго калгасны парторг і бухгалтар. Хоць я ніколькі не сумняваўся ў шчырасці дружбы Пятра, але тут мне не верылася, што дзеля дакору мяне ў зазнайстве ён гнаў машыну ў такую асеннюю бездараж за блізкі свет. Тады ён прызнаўся, што ў «Новай Аселіцы» збіраецца сход, на якім будуць абмяркоўваць важныя пытанні, і мая прысутнасць была-б вельмі дарэчы. Хоць мне і не надта выпадала, мусіў паехаць.

У калгас мы прыехалі на самую вячэру, і яшчэ сядзелі ў Пятра за сталом, калі ў хату ўвайшоў знаёмы мне сакратар камсамольскай арганізацыі калгаса Веніямін, сын калгаснага садавода Якуба Міхальчука. Хлопец сказаў нам, што ўсе ў зборы.

Мы адразу падняліся і пайшлі. Хата была поўна народу. Ну, і, як заўсёды, як на ўсіх калгасных сходах, накурана так, што ледзь можна разгледзець твары людзей. У святле лямпы за сталом сядзіць старшыня Верабейнікаў, побач з ім — члены праўлення, а перад самым сталом, на нечым вельмі нізкім прымасціўся барадой на край стала вартаўнік Тадэуш Макуцкі. Убачыўшы мяне, ён хітравата падміргнуў, ні то прывітаўшыся



са мной такім чынам, ні то даючы знаць, што тут мае адбыцца нешта важнае.

Сход спачатку ішоў спакойна. Верабейнікаў нахіляў сваю вялікую чысценькую лысіну, гаварыў аб дысцыпліне, нудна перабіраў прозвішчы тых, у каго мала працадзён, а ўсе цярпліва маўчалі.

— І так, з дысцыплінай пакончана,— нібы даканаўшы гэтую дысцыпліну, з палёгкай заявіў нарэшце Кандрат Міхайлавіч і ўзняў свой поўны чырвоны твар з шырокім носам і мясістымі губамі.— Якія будуць яшчэ пытанні?— І ён, абводзячы ўсіх позіркам, паволі павярнуў голую, як калена, галаву, ахопленую ўнізе палоскай на здзіў чорных валасоў. Усе маўчалі. Цішыню парушыў звонкі, трошкі дрыжачы голас Венькі.

— Дайце мне. Я ўсё-такі зноў наконт клуба.

— Які клуб? У парадку дня такога пытання няма. Гаварылі аб гэтым колькі разоў і годзе. Не па плану! І так, з клубам пакончана. Больш ніякіх заўваг?

Але Венька прабраўся, спатыкаючыся аб калені людзей, да стала і давай насядаць на Верабейнікава:

— Як гэта «пакончана»?— перадражніў ён Кандрата Міхайлавіча.— Плана няма? А мы і без плана.

— План, план! Мы самі — план!— загулі ў падтрымку маладыя галасы.

— Што нам трэба,— даводзіў Венька,— толькі коні, каб лесу натраляваць. Усё мы самі зробім, і насячэм, і напілуем, і сцены самі...

— Дазволь вам клуб, дык вы зусім ад работы адаб'ецеся, адно скокі будзеце спраўляць. І так...

— Ці быў ты сам маладым, Кандрат?— перабіў яго, узняўшыся, Тадэуш Макуцкі. — Няўжо ты ні адных ботаў у кадрылі не стаптаў? Няўжо тваё сэрца жарам не тлела па тваёй Мар'яне?

Санлівасць з людзей як ветрам сагнала. Абудзіўся гоман і смех, некаторыя паўставалі са сваіх месц, каб зірнуць на Тадэуша, нібы ніколі яго не бачылі. Маладыя пляскалі ў далоні і выкрыквалі: «Правільна, дзядзька Тадэуш!» Адзін толькі Верабейнікаў спакойна глядзеў на вартаўніка і аб нечым думаў. А Тадэуш, разышоўшыся, сыпаў і сыпаў:

— Сам я, прызнаюся, ніводных ботаў у маладосці не стаптаў, бо не меў тады, але лапцям дыхту даваў, ажно лыкі разляталіся,— і Тадэуш пад сталом прытопнуў абцасам бота так, што ўздрыгнула лямпа і заскакалі зайчыкі на лысіне Верабейнікава.

— Хіба ты не разумееш нашых маладых?! Завёў адно: «Не па пла-ану!» А ім, канешне, клуб да зарэзу патрэбен.

Услед за Тадэушам выступіў мой сябар Пятро Будзько. Ён даводзіў, што клуб калгасу патрэбен не толькі для моладзі, што сабрацца няма дзе, каб якія справы абмеркаваць.

— Нам без клуба сход нават нельга правесці. Колькі тут калгаснікаў сёння? Чацвёртая частка і то хата бітком набіта. Палітмасавую работу няма як разгарнуць.

Верабейнікаў глядзеў на Будзько тым-жа спакойным позіркам, як на Тадэуша. Калі Пятро сеў, Тадэуш штурхануў мяне ў бок локцем. (Была ў гэтага дзеда такая звычка: каб звярнуць на што-небудзь увагу, ён штурхане цябе локцем пад дыхавіцу і ўсміхнецца ў бараду.) Вось і цяпер, уцяў мяне локцем і падміргвае, маўляў: «Выступай, дапамажы». Падае знак і Пятро. Дзеля гэтага, відаць, і прывёз мяне сюды, прыходзіцца выступаць.

Прамова ў мяне выйшла нясмелая. Калі я скончыў, Верабейнікаў устаў і сказаў:

— Усё ясна. Клуб будаваць не будзем. Гэта толькі гаворыцца: сіламі, сіламі, а распачні, то ўсе грошы і ўбухаеш. Кароўнік будаваць трэба. А вам што?— звярнуўся ён да мяне.— Вы сядзіце ў міністэрстве, адарваліся ад жыцця, вам, канешне, клуб. Крычалі-б тут пра што другое, і вы-б крычалі пра тое-ж. Тут нам самім на месцы лепш відаць. І так, з клубам пакончана.

— Як пакончана?— усхапіўся Будзько.— Ты, Кандрат Міхайлавіч, галасуй.

— Галасуй? А хто-ж будзе галасаваць? Ты-ж сам казаў: менш чвэрці калгаснікаў на сходзе. І так...

Усе зашумелі, аб нечым крычаў Венька, Тадэуш паднёс да самага твару Верабейнікава сваю каструбаватую далоню і штось на ёй паказваў, а Верабейнікаў спакойна згортваў свае паперы і нікога не слухаў.

— Ён у нас такі,— расказваў мне Будзько па дарозе дахаты,— баіцца крытыкі, як чорт ладану. Збудуй клуб, пачнуць збірацца, думкамі абменьвацца, прыдзірацца да яго. Ён ведае: чым менш збіраюцца, тым спакайней. Усё робіць па паперках. Калі што не так,— «была паперка». Але мы справы з клубам не пакінем,— паабяцаў Будзько.

* * *

Пятро Будзько і Венька ўсё-такі дабіліся дазволу будаваць клуб сіламі камсамольцаў. Верабейнікаў нічога не мог зрабіць, яму толькі заставалася маўчаць ды касавурыцца на юнакоў і дзяўчат, гледзячы, як яны завіхаюцца. А завіхаліся яны горача. Як толькі пачалі камсамольцы валіць і траляваць лес, да іх далучылася ўся моладзь; патроху ўцягнуліся і старэйшыя. Асаблівую заўзятасць праявіў Тадэуш Макуцкі, былы цясляр. Гэта цяпер мала засталося дамоў, немцы папалілі ў вайну, а раней рэдкі дом не быў выслюдаваны яго рукамі. Тадэуш быў на будаўніцтве клуба як бы за прараба, галоўным дарадчыкам і настаўнікам. Вучыў хлопцаў, як трымаць сякеру, як рабіць узмах, абчэсваючы плашчакі, як валодаць прадоўжнай пілой на пілоўцы дошак. І клуб за лета вырас, як з зямлі.

Была нядзеля. Каля клуба сабралася ўся калгасная моладзь, калі я зноў наведаў Аселіцу.

— Вось, брат! — кіўнуўшы ў бок моладзі калматай сівой галавой, на якой ляжала маленькая скураная кепачка, сказаў Тадэуш.— І капейкі калгаснай не страцілі. Нават цвікі, завесы, замкі, шкло, чарапіцу — ну ўсё прыладдзе за набытыя грошы купілі. Падрадзіліся на шашу камені вазіць — і грошы. Во які яны ў нас народ дасціпны,— Тадэуш моцна штурхануў локцем у бок трошкі сумнага Верабейнікава. Той, праўда, і знаку не падаў. Ён быў сканфужаны ўсёй гісторыяй з клубам. Цяпер відавочна было яго безгрунтоўнае пярэчанне.

Агледзеўшы клуб знадворку, зайшлі ў сярэдзіну.

У памяшканні была прыемная прахалода, напоўненая смалістым водарам. Абапал доўгай залы, устаўленай лаўкамі і са сцэнай у канцы, былі чатыры пакойчыкі: більярдна-шахматны, музычны, грыміравальны і бібліятэка. У бібліятэцы яшчэ было пуста, нават паліцы для кніг не закончаны.





— Кніг няма, а без кніг — які гэта клуб,— заўважыў з сумам у голасе Венька.

— Кніг у нас няма,— падтрымаў Веньку Будзько.— Ці не падкінуў-бы ты з сваіх чаго-небудзь, пакуль мы разжывемся.

У Венькі да кніг была незвычайная цікавасць. Убачыўшы кнігу, ён не мог, каб не ўзяць яе ў рукі, не пагартаць, не пацікавіцца, аб чым яна расказвае. Чытаў ён многа і амаль усё прачытанае запамінаў. У гэтага жаўтачубага хлопца была яшчэ адна здольнасць — перайначваць апавяданні і аповесці на свой лад. Часта на брыгадным двары перад работай ён чытаў якое-небудзь апавяданне, па сюжэту блізкае да калгасных падзей, мяняючы імёны літаратурных герояў на імёны калгаснікаў. Мне давялося чуць, як ён чытаў аповесць Гогаля аб тым, як пасварыліся Іван Іванавіч з Іванам Нікіфаравічам, перайначыўшы імёны і скарыстаўшы для гэтага сварку паміж калгасным кавалём і гароднікам. Часцей за ўсё галоўным героем апавядання, асабліва калі ў яго было шмат цікавых прыгод, быў сам Венька. Прыгледзеўшыся да гэтай здольнасці хлопца, Пятро Будзько параіў скарыстаць яе для крытыкі недахопаў у рабоце калгаса.

У той-жа вечар я захапіў з сабою Веньку і выбраў яму каля сотні кніг са сваёй бібліятэкі. Я пастараўся даць пабольш сатырычнай і гумарыстычнай літаратуры, ведаючы яе большую даходлівасць да простых людзей. Сярод кніг былі творы Гогаля, Шчадрына, Марка Твэна, Джаром К. Джарома, Шолама Алейхема, Твардоўскага, Коласа, Крапівы.

Праз нейкі час я атрымаў поштаю ладную суму грошай ад Пятра Будзько і просьбу купіць радыёпрыёмнік, патэфон і на свой густ пласцінак да яго.

Прыехаўшы з гэтым грузам у Аселіцу, я адразу накіраваўся да клуба, але дзверы былі на замку. У канторы я таксама нікога не застаў, хата майго сябра таксама была замкнута. Час браўся пад паўдня. Стаяла цудоўная пагода, урачыста адыходзілі апошнія цёплыя дні восені, на дрэвах, плоце, сценах будынка, траве вісла срабрыстая павуціннне, нерухома стаялі з палысеўшымі вяршынямі жоўта-барвовыя ліпы, важка

ацяжарвалі вецці яркачырвоныя гронкі рабін, пахла прымерзлым бульбоўнікам. Я сеў на ганку клуба, каб прычакаць каго-небудзь.

Праз нейкі час падышоў Тадэуш.

— На бульбе ўсе,—паведаміў ён, садзячыся побач са мной.—Надвор'е, бач, як па заказу!

На твары старога, у яго рухах я заўважыў нейкую заліхвацкасць: пінжак расхрыстаны, з нагруднай кішэні тырчыць цыбук люлькі, кепачка трошкі набок, вочы прыжмураны і ў іх — хітравата-вострая ўсмешка.

Я, вядома, спытаў, як жывецца. Ён, марудзячы з адказам, дастаў люльку з кішэні і доўга прадзімаў цыбук. Я даў яму папяросу, ён узяў, не звяртаючы на яе ніякай увагі і, не падзякаваўшы, утаптаў яе ў люльку, а папяровы муштук адкінуў убок. Я паднёс яму другую папяросу, ён і з ёй зрабіў тое-ж самае. Люлька стала поўнай. Не кажучы ні слова, ён нахіліўся да мяне, каб прыкурыць. Калі я дастаў запалкі, стары адвёў маю руку з карабком у бок і пацягнуўся да агеньчыка папяросы.

— Мн... (пых, пых) як жывем, пытаеш? Жываты, мн... (пых, пых) баляць,— сказаў ён, пыхкаючы люлькай, і ўсміхнуўся.— Ты не думай, што мы (пых, пых) пааб'ядаліся. Не! Тут у нас завёўся свой камсамольскі пісьменнік, нейкі Шолам. Ох, брат, і дае дыхту!— Тадэуш штурхануў локцем, але я сядзеў далекавата і ён не дастаў.— Венька яго на свой лад як перакруціць, то ў самы раз у Верабейніка і ўцэліць, або яшчэ ў якога-небудзь гультая... І сёння мае быць вечар. Вунь зірні.

Ён падвёў мяне да дошкі аб'яў, на якую я раней не звярнуў увагі, і паказаў на афішу, напісаную вялікімі крывымі літарамі на кавалку шпалеры:

«Увага!
Сёння а дзявятай гадзіне ў клубе адбудзецца вечар.

I. Спявае калгасны хор.

II. Мастацкае слова.

III. Скокі ва ўсе бокі».

Унізе стаяла дата і подпіс: «Камітэт камсамола».



Прачытаўшы афішу, я зразумеў, які новы пісьменнік завёўся ў камсамольцаў.

Задоўга да пачатку вечара клуб быў паўнюткі народу. Апошнім прышоў Кандрат Міхайлавіч. У яго было сваё месца, як тут жартавалі, «урадавая ложа» — цяжкое самаробнае драўлянае крэсла, якое стаяла збоку каля самай сцэны. Верабейнікаў спакойна дабраўся да свайго крэсла, ні на каго не звяртаючы ўвагі, зняў кепку.



Расхінулася заслона, выбегла ўнучка Тадэуша. Яна прысела крышку, адцягнуўшы шырокую спадніцу ўбок, і аб'явіла вечар адкрытым.

Спевы Верабейнікаў слухаў уважліва. Падпёршы падбародак кулаком, ён не зводзіў вачэй з чысценька апранутых, прыхарошаных дзяўчатак. Рына кожны раз выходзіла на край сцэны, прысядала, аб'яўляючы наступную песню, і скоранька станавілася ў дзявочы строй. Хор спяваў без усякага кіраўніка, так, як прывыклі спяваць дзяўчаты ў летнія вечары пасля работы. Усё было і натуральна і ўрачыста, хвалявала і захапляла мяне. Дзяўчат гэтых Верабейнікаў добра ведаў кожную ў твар, шмат каго з іх не раз асыпаў лаянкай, а сёння глядзеў на іх, як на незнаёмых і нібы здзіўлены быў, што гэтыя простыя дзяўчаты могуць так прыгожа спяваць, змяняць свой настрой з вясёлага на сумны, з сумнага на смяшлівы.

Дзяўчаты праспявалі апошнюю песню і закрылі заслону. З'явілася Рына. Яна азірнулася наўкол і аб'явіла, што Венька прачытае апавяданне.

Выйшаў Венька. Па зале нібы ветрык прайшоўся, усе скалыхнуліся, усміхаючыся і перашэптваючыся. Стрымліваючы ўсмешку, Венька трасянуў жоўтым скручаным, як хмель, чубам і пачаў чытаць. З першых слоў я пазнаў апавяданне Шолама Алейхема «Каб я быў Ротшыльд». Цяпер я зразумеў, чаму Тадэуш назваў Шолама Алейхема камсамольскім пісьменнікам.

Узняўшы руку і звяртаючыся да прысутных, Венька гаварыў, нібы сумна шкадаваў:

— О, каб я быў старшынёю калгаса... Я нізашто не прадаваў бы двухтыднёвых парасят. Што гэта дае? Капейкі. Ведаеце, што б я для лепшай карысці зрабіў бы? Я пакінуў бы іх на адкорм, каб іх болей было! Каб я быў старшынёю калгаса, я не здаваў бы салодкага малака. Перш-на-перш купіў бы сепаратар, адганяў бы вяршкі, а адгон — парасятам. Мукі, — колькі ім трэба той мукі! — наскроб бы, каб забоўтаць адгон. Пасеяў бы бульбы-скарасpелкі, канюшыны, і парасяты раслі б, як на дрожджах. У нас толькі ў вясеннія апаросы бывае за трыста парасят. Ведаеце, чым гэта пахне, калі іх падгадаваць ды адкарміць? Мільёнчыкам, ды і не адным! О!— Венька падняў палец,— а за такія грошы...

Як мне здавалася, тут было не да смеху, але словы Венькі часта перарываліся кароткім, гучным смехам. Бачыў я, як чырванеў Верабейнікаў, штохвіліны выціраў пот і круціўся ў сваёй «урадавай ложы» так неспакойна, што яна трашчэла пад ім. Стрымліваючы ўсмешку, Пятро Будзько з задавальненнем пазіраў то на мяне, то на Веньку. Стары Тадэуш, пачуўшы пра «мільёнчык», аж падскочыў.

— Правільна!— крычалі ва ўсіх канцах залы.

Узняўся шум — адны смяяліся, другія абураліся. Веньку збілі спанталыку, ён разводзіў рукамі, паціскаў плячамі, паказваючы, што працягваць не можа.

Устаў Верабейнікаў. Усе адразу сціхлі, уставіўшыся на яго тоўстую фігуру цікаўнымі позіркамі ў чаканні нечага надзвычайнага.

— Я прапаную скончыць гэтае балаганства. Сам ведаю, што рабіць...— злосна прагаварыў ён.

— Чаму балаганства? — спытаў Пятро Верабейнікава. — Крытыка самая сапраўдная.

— Падрыў аўтарытэту!— ужо гнеўна крычаў Верабейнікаў.— Хто даў права?

Я не мог сабе ўявіць, каб гэты цюхцяяваты, вечна спакойны і абыякавы чалавек мог так хвалявацца. Заўсёды чырвоны твар яго з мясістым носам, бялеючы, змяніў свой колер на светларужовы і папрыгажэў, на шчоках з'явіліся белаватыя плямы, ажывіліся вочы, падпаленыя гневам.

Венька, пераканаўшыся, што прадаўжаць чытанне нельга, махнуў рукою, падміргнуў з усмешкай камусьці ў зале і пайшоў за сцэну. Сам сабой утварыўся перапынак. Верабейнікаў насунуў шапку і падаўся да выхаду. Патроху шум улёгся, і моладзь пайшла танцаваць.

Пазней мне расказваў Тадэуш, што Верабейнікаў паскардзіўся на камсамольцаў у райком партыі.

— Ведаеш, што сказаў яму сакратар? «Падбяры, кажа, чэрава сваё ды адбі лысым чалом сваім зямны паклон камсамольцам, што дапамагаюць табе». А той: «Дык няхай бы яны па-людску крытыкавалі». А ты ж сам ведаеш, — штурхнуўшы мяне ў бок локцем, сказаў Тадэуш, — колькі разоў мы пра ўсякія нелады гаварылі, языкі паадбівалі і хоць бы табе што. А тут як крануў гэты Шолам яго асобу з далікатнага боку, то закруціўся, як вуж на вогнішчы.

Пасля таго вечара, на якім давялося быць мне, камсамольцы правялі яшчэ некалькі вечароў. Чыталася тут перапрацаванае апавяданне Шолама Алейхема «Мафусаіл», аб дрэнным скарыстанні коней у калгасе, і другія творы. Выкрываліся ўсё новыя недахопы, уносіліся прапановы, а Верабейнікаву гэта не падабалася. На такія вечары ён больш не хадзіў. Не па душы яму была гэтая крытыка, ён адасобіўся, узлаваўся на ўсіх і на чарговых выбарах яго правалілі.

* * *

У гэтым годзе я быў на сельскагаспадарчай выстаўцы. Мне яшчэ раней давялося чуць, што Аселіца паказваецца там шырокім планам, і я зайшоў у павільён пацікавіцца знаёмым калгасам. Са стэнда на мяне пазіраў старшыня калгаса, мой сябар Пятро Будзько, шыракатвары, са шрамам на левым баку падбародка, які пасадзіў яму пад Чанстаховам варожы асколак. З аднаго боку яго быў партрэт Венькі, з другога — Тадэуша. У Венькі шавялюра была не жоўтая, як у сапраўднасці, а чорная, а ў вачах задума з хітрынкай, быццам, гледзячы на мяне, ён падбіраў апавяданне, у якім бы можна было працягнуць мяне за тое, што ўжо даўнавата не паказваўся ў Аселіцу. А Тадэуш глядзеў на мяне з усмешкай. На момант мне здалося, што ён зараз штурхне мяне «па-сяброўску» пад бок і скажа:

— Бач, і Аселіца наша пасля Верабейнікава ў людзі выйшла. Камсамольцы ўсё!





**Герой Савецкага Саюза Зінаіда Міхайлаўна Тусналобава-Марчанка.**

**Фота А. Дзітлава.**



**Нядаўна калектыў Мінскага інструментальнага завода імя Чкалава адзначыў 50-годдзе аднаго са сваіх старэйшых рабочых — Я. А. Жалезняка. Камсамолец дваццатых гадоў, ударнік першай пяцігодкі, Я. А. Жалязняк ужо 25 год з'яўляецца камуністам. Яго жыццё — прыклад для моладзі. Вось чаму маладая свідравальшчыца Марыя Радзевіч, як толькі яе прынялі ў камсамол, адразу падзялілася сваёй радасцю з Я. А. Жалезняком.**

**Фота А. Дзітлава.**

**Вадзім ЗЫБЛЕЎ**



Вадзім Зыблеў нарадзіўся ў 1926 годзе ў вёсцы Радзееў Уваравіцкага раёна Гомельскай вобласці. Ён прымаў удзел у Вялікай Айчыннай вайне, а пасля звальнення ў запас паступіў у Гомельскі сельскагаспадарчы тэхнікум, які скончыў у 1953 годзе.

Цяпер В. Зыблеў працуе аграномам у Калінкавіцкім раёне і завочна займаецца ў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Вершы яго друкаваліся ў «Маладосці», «Чырвонай змене» і «Гомельскай праўдзе».

*Ніжэй мы змяшчаем новыя творы маладога паэта.*

# ЭКЗОТЫКА



Можа там, між гор далёкай Турцыі,
Засень не бяроз, а алычы?
Можа там інакш цвітуць настурцыі
І не так турбуюць дзергачы?

Можа там паспелі зараз персікі
Ці зваліўся з воблакаў каўчэг?
Што шукаюць госці аж з-пад Мексікі?..
Чым іх вабіць ля мяжы начлег?

Што зрабіла іх там верхалазамі,
Можа той няшчасны апельсін?..
Жоўты д'ябал прэ нахабна ў Азію,
Каб іранскі выжлуктаць бензін.

Задушыць свабодны голас Сірыі
І да рук прыбраць арабскі свет
За жаданні простыя і шчырыя,
Што араб — таксама чалавек.

Не крыўдуй, турэцкая экзотыка,
І не кліч пад засень алычы —
На тваіх заморскіх на субтропіках
З Уол-Стрыта сноўдаюць сычы.

* * *



Сіні ранак. Неба сінь глыбокая.
*Сіні Сож. Над Сожам сіні дым.*
Побач поле, сіняе, шырокае,
Разлілося морам ільняным.

Між сабой яны цяпер спрачаюцца:
— Я сіней за ўсё, — гаворыць Сож,
Але скора пенай пакрываецца,
Свае хвалі коцячы уздоўж.

Пасмамі варушачы касматымі,
Сіні дым над рэчкаю плыве.
— Я сіней... — ды ўжо вятры чубатыя
Гэту сінь *разнеслі па траве.*

— Я сіней за ўсё,—сказала раніца.
А ў самое твар пачырванеў..
Неба, не паспеўшы затуманіцца,
Закрычала: — Я за ўсё сіней!

І адразу з *сіняга, высокага*
Стала хмурым, нізкім і цяжкім...
Толькі поле, сіняе, шырокае,
Засталося, як было, такім.

* * *



Серабрацца жнівеньскія росы.
Не. Не ў сілах, мабыць, мастакі
На сваіх палотнішчах так проста
Зіхаценне перадаць такім.

Раніцой — касцы не клеплюць косы,
На стагах, як флюгеры, буслы;
Так і просяць жнівеньскія росы,
*Каб да іх з табою мы зайшлі.*

Дык хадзем —
На жнівеньскія росы
Слаць, як промні сонечныя, лён,
Каб у дні вясельныя увосень
Абрусом на стол заслаўся ён.



# А ПА ЛЕСЕ ХОДЗЯЦЬ ГАЛАСЫ



Шчэ сяло не курыць камінамі,
А па лесе ходзяць галасы.
Асцярожна крочыш, каб нагамі
Не стаптаць — што скрылі верасы.

Я іду з надзеяй да грыбовішч
І гляджу кругом. Я тут не госць.
Я ўладар грыбных багатых сховішч
І бяру найлепшае, што ёсць.

Вось яны, смуглявыя, ўсё лета
Прасядзелі дзесьці у цішы,
Каб у кошык спрытная кабета
Не сарвала з іх капелюшы.

Асцярожна крочыш, каб нагамі
Не парушыць гэткае красы...
'Шчэ сяло не курыць камінамі,
А па лесе ходзяць галасы.

# УВЕЧАРЫ НА ПРАЛЕТАРСКАЙ



Я многа бачыў прыгожых вуліц,
Ды не адна з іх так не расчуліць
Маіх пачуццяў і летуценняў,
Не дасць для сэрца такіх імкненняў,

Не нагадае майго маленства
Сваёй красою без падабенства...
... Вясной каштаны і ясакары
Губляюць кветкі на тратуары.

Бушуе зелень, як навальніца,
А ў час вясенні і мне не спіцца.
Люблю падвечар паслухаць пошчак,
Які прыходзіць з Савецкай плошчы.

Паслухаць гукі з пляцовак танцаў,
Глядзець на зоры электрастанцыі,
Прайсці павольна па тратуары
І любавацца, як ходзяць пары...

Я знаю многа прыгожых вуліц,
Ды не адна з іх так не прытуліць
Пад засень парку, не стрэне краскамі,
Не прывітае, як Пралетарская.

І мо' за гэта з такою ласкай
Яе празвалі мы Пралетарскай.



Раман САБАЛЕНКА

# БУРШТЫНАВАЕ ВОЧКА

### Апавяданне

Мал. І. Рэя.

З вышыні пясчаных дзюн, зарослых вербалоззем, я глядзеў уніз. Перад вачыма распасціралася неаглядная далячынь мора. Яшчэ ўчора на яго бязмернай роўнядзі пеніліся, шалёна гонячыся адна за адной, штармавыя хвалі, а іх плёскат злучаўся ў адно, і не толькі над морам, а і над усім прыбярэжжам стаяў аднастайны шум, які песціў, закалыхваў чалавечы слых. Сёння мора як бы адумалася і супакоілася, быццам яму надакучыла шугаць, шумець, хвалявацца. На пясчаную водмель, утрамбаваную і як бы прычасаную хвалямі, высыпала многа людзей.З вышыні відаць, як яны чагосьці разбрыліся па ўсім беразе і каторыя з іх раз-по-разу нагінаюцца, як бы чаго шукаючы, быццам усе яны нешта пагубілі там і чакалі, спадзяваліся, што мора выкіне ім тое пагубленае.

Я добра бачу: акурат насупраць мяне павольна пятляе крокі высакаваты хлопец. Чупрына яго на лагодным ветры, цёплым і прасоленым морам, развяваецца, і ён раз-по-разу пяцярнёй, як граблямі, падграбае валасы на патыліцы і таксама, як і іншыя, часта-часта нагінаецца, чагосьці шукаючы на жвіры. Хлопец апрануты не па-пляжнаму: на ім надзеты фрэнч з грубаватага сукна і навеснымі кішэнямі і шырачэзныя штаны-галіфэ. Калі гэтыя штаны надзімае вецер, яны пузырацца, быццам ветразі. Насустрач яму, як бы цаляючы сустрэцца твар у твар, ідзе дзяўчына. Постаць яе шчыгульненькая, тоненькая. Завітыя канцы валасоў, сабраныя і ўпраўленыя ў чырвонае колца, маюць выгляд задранага хваста. Блакітная шарсцяная жакетка-разлятайка трапечацца крыссем на ветры, вузенькія штаны-дудачкі шчыльна аблягаюць ногі і выдаюць, што яны трошачкі крываватыя. Адчак жа ўся постаць зграбная, стройная, і калі дадаць, што загарэлы з блуклівай усмешкай у праніклівых вачах твар пасуе да ўсяго гэтага вонкавага аблічча, дык можна сказаць, што дзяўчына прыгожая.

Яны абое разам нагнуліся і, як мне здалося, ледзь не стукнуліся ілбамі. Потым хлопец нешта разглядаў на далоні левай рукі. То была бурштыніна, выкінутая шчодрым морам на жвірыстую водмель берага. І ўсе тыя людзі,

што часта нагіналіся, відаць, таксама шукалі кавалачкі burштыну, каб па-везці адсюль, з мора, дадому, як сувеніры. Дзяўчына сумелася, зірнула на хлопца здзіўленымі, пакрыўджанымі вачыма — і ледзь не кінулася адбіраць знаходку. А знаходка сапраўды была вартая таго, каб яе ада-браць: кругленькая, крышку прадаўгаватая, вельмі падобная на чалаве-чае вока, бурштыніна ляжала на хлопцавай далоні. Ён яе перакочваў і як бы дражніў дзяўчыну, бачачы, як зайздросна гараць яе вочы. Можа б ён і аддаў тую бурштыніну дзяўчыне, каб яна была хоць крыху стрыманая і гэтак абразліва, груба не выказала сваёй злосці:

— Нахабнік, хам,— ускрыкнула Света Разлятаева.

Так, гэта была яна, Святлана Разлятаева, дачка прафесара сельска-гаспадарчай акадэміі Рыгора Мінавіча Разлятаева. Ужо трэці месяц дзяў-чына таўчэцца тут на ўзбярэжжы мора і яшчэ нядаўна адбіла бацьку слёз-ную тэлеграму, каб той падаслаў грошай: маўляў, дачка застаецца яшчэ на адно скліканне. Каб Аркадзь Смаляк пэўне ведаў, што гэта дачка таго прафесара, якому ён не раз здаваў залікі і якому давядзецца яшчэ зда-ваць экзамен, то ён, можа б і знёс моўчкі абразу. Аднак ён гэтага не ве-даў і таму гэтак жа, як і Света, груба адказаў:

— Ад такое і чую,— і глыбей схаваў у кішэню знойдзеную бурштыніну, нават добра не разглядзеўшы, як яна пераліваецца на сонцы.

Грубасць дзяўчыны ўразіла хлопцава сэрца, і яно ўжо не мела ні спагады, ні, тым больш, замілаванасці. Адна толькі крыўда варушылася ў ім. Аркадзь сапраўды думаў, што ён гэтакі няўклюдны і толькі мазоліць вочы людзям тут, на ўзбярэжжы. А людзей было поўна. Выбліснула яшчэ гарачаватае жнівеньскае сонца, і кожны стараўся хутчэй падставіць пад яго промні спіну, грудзі, каб яшчэ хоць трошкі засмаліцца. Адзін мо' Ар-кадзь на гэта не вельмі квапіўся. З самай вясны ён працаваў у полі і калі б хацеў загарэць, дык засмаліўся б, як той гаршчок, што кожны дзень сма-ліцца перад сопухай печы. Наадварот, яму здавалася, што белае, трошач-кі ружаватае ад маладой крыві, як ад вясновага соку, цела куды прыга-жэйшае за тое засмаленае. Ён нават стараўся шчыльней зашпільваць сарочку, каб і грудзіна не засмалілася. Аднак як ён ні стараўся ўхавацца ад промняў сонца, твар і грудзіна былі карычневымі, аж да бляску.

Аркадзь раз-по-раз азіраўся на дзяўчыну. Ён не ведаў, хто яна такая. Крыўда і злосць, здавалася, распіралі сэрца. Яму карцела вярнуцца, да-гнаць яе і сказаць такое, што яе ўцяла б за жывое. Але другая, больш цвярозая думка сказала: ліха з ёй, хіба мала бывае, што табе наступяць на мазоль, а ты, сцяўшы зубы, сцерпіш боль. І добра, што сцерпіш.

Хіба тры гады таму назад не наступілі Аркадзю на мазоль? У шко-ле ён быў адным з лепшых вучняў. А паехаў паступаць у інстытут, дык пасля экзамена нехапіла аднаго бала, і ён вымушаны быў на сорам перад усімі — настаўнікамі, аднакласнікамі, аднавяскоўцамі — вярнуц-ца ў Замошша... Адна можа маці па-сапраўднаму зразумела яго, ска-заўшы:

— Закасвай рукавы, сынку, ды за работу бярыся. Я не маладая ўжо і не дам рады выстарчыць на тваю навуку.

Аркадзь і вырашыў тады закасаць рукавы: на другі дзень пасля прыезду з горада ён пайшоў у МТС прасіць якой работы. На першы час яго ўзялі за ўчотчыка. Але што гэта за работа! Хадзі па полі, як той бусел, глядзі, што другія зрабілі, а сам гультай-гультаём. Аркадзь прасіўся на трактар. Да самай глыбокай восені, пакуль аралі на зяб-ліва, малацілі, Аркадзь усё ж працаваў учотчыкам. Але на зіму, хоць і не трэба было прыходзіць у майстэрні, дзе рамантаваліся машыны,



ён прыходзіў дзень у дзень і рабіў там усё тое, што рабілі трактарысты. Інжынер МТС заўважыў хлопцаву кемлівасць; аднаго разу ён падышоў да Аркадзя і сказаў:

— Я, хлопча, бачу, што з цябе добры трактарыст будзе.

Вясною Аркадзя Смаляка пасадзілі на трактар «Беларусь». Трэба было збоку паглядзець на хлопца. Само сонца наўрад ці ўсміхалася так зычліва, як ён, трымаючы аберуч баранку руля. Праўда, руль той быў яшчэ не вельмі паслухмяны, але паступова ўсё прыходзіла да ладу.

Неяк пад восень, калі Аркадзь траіў папар у сваім калгасе, да яго на матацыкле пад'ехаў гэтакі ж малады, як і ён сам, хлопец.

— Супрацоўнік раённай газеты Захар Дрыль, — прадставіўся той.

— Вельмі прыемна, — адказаў Аркадзь, хоць і не ведаў, што ад яго трэба хлопцу.

— Я хацеў бы папрасіць цябе, — адразу перайшоў хлопец на «ты», — каб напісаў нам артыкул пра сваю работу і наогул пра сябе. Твой прыклад павінен стаць заклікам для ўсіх юнакоў, якія канчаюць сярэднюю школу, — па-газетнаму з запалам гаварыў Захар.

— А што я буду пісаць... Ведаеце, няма мне часу ды і няма пра што пісаць. З мяне яшчэ трактарыст зеленаваты.

— Ну, ну, не прыбядняйся, — нават пагразіўся пальцам Дрыль.

Пакрысе яны разгаварыліся, неяк адразу знайшоўшы тую мову, на якой гавораць сябры. Аказалася, што і Захар у леташнім годзе скон-чыў дзесяцігодку і цяпер, як ён кажа, збіраецца паступіць ва ўнівер-сітэт на аддзяленне журналістыкі.

— А чаму б табе, Аркадзь, не паспрабаваць шчасця на факультэце механізацыі сельгасакадэміі. Гэта ж, брат, нават эфектна будзе—трак-тарыст вучыцца завочна ў Акадэміі, — усё з той жа зухаватасцю раіў Захар.

— Не ведаю, баюся. Адзін раз на малацэ апёкся, дык цяпер і на халодную ваду студзіць будзеш.

— Дзівак, — ледзь не выгукнуў Дрыль, — а ты доўга не думай, зая-ву пішы. Такім жа, як мы з табой, павага і пашана. Па-за конкурсам такіх прымаюць. Гэта ж практыкі, а не жаўтаротыя дразды. Дык гэтак і ў газеце напішам, што ты маеш паступіць на факультэт механізацыі.

— Не трэба, — квола запратэставаў Аркадзь. — Калі яно яшчэ тое будзе, а хваліцца на ўвесь свет, дык людзі засмяюць.

— З-пад смеху якія яшчэ інжынеры бываюць, — адказаў жартам Захар. — Дамовіліся, ты пасылаеш заяву. Гэтак і напішам.

Аркадзю пасля таго, як ён зрэзаўся пры паступленні ў педагагіч-ны інстытут, нават боязна было і падумаць паступаць яшчэ куды-не-будзь. Аднак жа вучоба яму карцела, не выходзіла з галавы, і ён выра-шыў: а чаму б яшчэ раз не паспрабаваць. Як той казаў: уцёк не ўцёк, а пабегчы можна. І таму ён з рашучасцю сказаў:

— Добра, пішы.

Гэтак і стаў Аркадзь Смаляк студэнтам-завочнікам факультэта механізацыі сельскагаспадарчай акадэміі.

І сюды, у дом адпачынку на ўзбярэжжы мора, ён прыехаў не з голымі рукамі, не з пустой галавой. Куды б ён ні ішоў, ці дзе б ні ся-дзеў — у засені магутных старых сосен, ці на гарачым, як прысак, жвіры пляжа — у яго ў руках заўсёды была кніжка.

А як неспадзявана, нечакана трапіў Аркадзь на ўзбярэжжа! У раёне праводзіўся агляд мастацкай самадзейнасці. Ён і не думаў, што яго



песня ўсхвалюе, захопіць каго-небудзь. Гэтак проста выйшаў на сцэну і заспяваў, як увечары на вясковай вуліцы, «Толькі з табою». Гэтая песня яму самому вельмі падабалася. Нават за рулём трактара ён напаўголаса заўсёды напяваў яе. А потым неяк быў вечар моладзі ў МТС, і ён ужо са сцэны клуба праспяваў песню. А нядаўна нават у абласным тэатры Аркадзя выклікалі на «біс», і ён, як сапраўдны артыст, нізка кланяўся публіцы. За тое выступленне ён і прэмію атрымаў — пуцёўку ў дом адпачынку.

Аркадзь рады быў: такая ўдача! За гэты час ён паўторыць аграбіялогію і тады на зімовай сесіі не збаіцца нават такога суровага прафесара, як Разлятаеў. Даецца гэты стары ў знакі студэнтам! От сядзіць за сталом, здаецца, дрэмле, нічога не слухае таго, што студэнт адказвае на пытанні, якія яму выпалі ў білеце, з усім згаджаецца, як бы і сапраўды той адказвае, нібы рэпу грызе. А потым возьме заліковую кніжку і тоненькім, як дзіцячым, галаском скажа:

— Калі вы толькі па адной маёй кніжцы вучылі, дык вам і двойку паставіць шкада, бацюхна мой.

А кніжка Разлятаева была цікавая: пра жыццё раслін у ёй расказваецца так, што Аркадзь нават тут, на ўзбярэжжы, дзе людзям, здаецца, нічога ў галаву не лезе, апрача таго, каб лепш загарэць, не можа адарвацца ад яе. Ён вырашыў, як бы там ні было, а заваяваць прыхільнасць Разлятаева і раздзел за раздзелам штурмуе падручнік.

Аркадзь прымасціўся на лавачцы, якіх вунь колькі панастаўлялі тут, на беразе. Плешчацца, шуміць мора, белымі каснікамі набягаюць адна на адну хвалі, і салёны марскі вецер гэтак лагодна абвявае твар. Добра на душы. Адарваўшыся на момант ад кніжкі, ён думае, ці варта яму тут аказвацца. Справа ў тым, што пры ўваходзе ў сталовую вісіць аб'ява, якая запрашае адпачываючых паказаць свае здатнасці на вечары мастацкай самадзейнасці. Аркадзю не вельмі хацелася паказвацца тут са сваім голасам, але яму рупіла чым-небудзь заняць, уразіць тую задаваку, што тады сустрэла яго на беразе і гэтак зняважыла.

Святлана Разлятаева ў доме адпачынку ўжо стала як бы сваім чалавекам. Ды і не дзіва: яна ж другі раз тут. Ёй падабаліся мора, сонца, бесклапотнасць. Пасля таго як леташнюю восень паступала ў тэатральны інстытут і зрэзалася, упершыню дзяўчына адчула сябе бесклапотна. Дома бацька, праўда, надазаляўся. Ён не тое што папікаў яе хлебам, не, хлеба ён не шкадаваў для роднай дачкі. Ён скоса глядзеў на яе абыякавасць да жыцця, нібы яна ўвесь свой век збіралася пырхаць, як тая птушка-шчабятушка. Дык і птушка ж не бесклапотніца. І яна ж сваім галышам-птушанятам ловіць чарвячкоў ды мошак, пакуль не выгадуе. А то ж бацька патрабуе, каб Святлана паступала ў акадэмію ці ва ўніверсітэт, а яна ні блізка. У душы Рыгор Мінавіч нават рады быў, што Святлана зрэзалася пры паступленні ў тэатральны інстытут. Няхай не ўбівае сабе ў галаву чорт ведама чаго. Стары спадзяваўся, што дачка от, можа, адумаецца і возьмецца за розум. Час ішоў, але ніякі одум не находзіў на Святлану. Яшчэ з вясны яна папрасіла бацьку купіць ёй пуцёўку на ўзбярэжжа мора. Што ёй там карцела, ён не ведаў. Сам стары меўся пасля сканчэння навучальнага года паехаць на дачу ў вёску. Ён любіць ціхія закуткі вясковага жыцця. Там ён як бы ў сваёй стыхіі. Наглядае за жыццём раслін, умешваецца ў калгасныя справы. Сяляне яго любяць за гэта, завуць сваім прафесарам і кожнае лета ў канцы чэрвеня чакаюць яго прыезду. Яны звыклі бачыць у вёсцы і русявую, тонкую, як былінка, Святлану. І сёлета, калі прыехаў Рыгор Мінавіч, некаторыя нават пыталіся: а дзе ж дачка? Прафесар адказваў: яна, маўляў, чалавек самастойны ўжо, даволі ёй быць бацькавым хвастом. Няхай пабачыць свету, пакрасуецца.

А Святлана сапраўды старалася бачыць свет ва ўсёй яго разнастайнасці. Тонкая, зграбная постаць яе матляецца то тут, то там на прыморскім пляжы, то яна выкручваецца ўвечары на танцавальнай пляцоўцы. Света так была захоплена сабой, што мала каго заўважала. Адно от толькі той хлопец у недарэчным фрэнчы, што сустрэўся на пляжы, калі яна шукала бурштын, нечым кінуўся ў вочы. І хоць яна зняважыла тады яго, але ёй чамусьці карцела яшчэ раз сустрэць хлопца, лепш разглядзець, а можа нават і пагаварыць, папрасіць прабачэння. Твар яго Света не вельмі запомніла. Адно от толькі фрэнч кінуўся ў вочы сваёй недарэчнасцю. Можа яна пасля таго дзе і сустракала хлопца, але не пазнала.

А Святлана сапраўды сустракала Аркадзя Смаляка амаль кожны дзень у сталовай, на пляжы. Толькі ён цяпер хадзіў у лёгкім спартыўным адзенні і не быў падобны на таго вахлака, які тады ўразіў чулы да знешніх форм позірк дзяўчыны. Аркадзь не кідаўся ў вочы. Ён стараўся быць як цішэй. На пляжы прымошчваўся дзе-небудзь не на відавоку і заўсёды чытаў. Здавалася, ён хацеў праглынуць кніжку. Але от ён ніяк не мог адбіцца ад спакусы выступіць на вечары самадзейнасці. Вядома, ён не хацеў адно толькі паказаць сябе. Аркадзь любіў спяваць. Гэта была як бы яго стыхія, якая не давала чалавеку спакою. Дзе б ён ні ішоў, што б ён ні рабіў, песня сама спявалася. Яна як бы жыла ў яго нутры і заўсёды прасілася на прастор, але ён часам яе прыглушаў: не будзеш жа ўсюды спяваць без дай прычыны. Аркадзь адшукаў масавіка-культурніка і папрасіў, каб той запісаў яго выступаць на вечары.

І от надышло тое. Яшчэ задоўга да змяркання на летняй сцэне мітусіліся людзі. Аркадзь убачыў Святлану Разлятаеву. Яна была апранута, як анёлак, адно толькі нехапала крыльцаў. За кулісамі Святлана рыхтавалася да выступлення: выгінала гэтак цела, што здавалася яно без касцей, станавілася на пальчыкі, круцілася на пяце. Святлана павінна была паказаць танец з істужкамі. Аркадзю спадабаўся гэты та-

нец. Ён такога ніколі не бачыў. У іхняй школе, у МТС і на сцэне танцавалі звычайныя, простыя танцы. А гэта ж бач які: здаецца вось-вось яна пераломіцца або паляціць.

У часе выступлення Святланы Аркадзь стаяў за кулісамі і глядзеў на сцэну. Ён бачыў, як успыхвала ў Свеціных вачах пакручастым агеньчыкам чырвоная істужка, як дзяўчына то прыпадала на калена, то ўскідвала галаву, і здавалася, што вось-вось танцорка паляціць, як птушка. І ён зайздросціў дзяўчыне, яе ўмельству. Ненавідзеў сваю вясковую цельпухаватасць. Аркадзю хацелася ўцячы з-за куліс і схавацца дзенебудзь, не тое што выступаць. Нават голас свой яму здаўся нейкім скрыпучым, не раўнуючы як тое непадмазанае кола. Але ўцякаць ужо не было як. Затрашчалі і сціхлі воплескі. На сцэну выйшаў масавік-культурнік і абвясціў:

— А зараз выступіць трактарыст Замошскай МТС Аркадзь Смаляк. Ён праспявае нам раманс «Толькі з табою».

Аркадзь нават не памятае, як ён выбег на сцэну. Апамятаўся толькі тады, як апынуўся перад рампай. Адно яму замінала — рукі. Ён не ведаў, куды іх дзяваць. Паспрабаваў пазасоўваць у кішэні, але ў зале пачуўся смех, і ён спалохаўся, што гэтак нядобра. А рукі, як на тое ліха, нібы сталі даўжэйшымі, як звычайна. Але вось грудзі набралі паветра, і Аркадзь не заспяваў, а як бы выдыхнуў з сябе разам з паветрам і песню:

Толькі з табою мне хочацца быць.
Толькі з табою.
Разам і шчасце і гора дзяліць
Толькі з табою...

Як бы хто невідочны ўзмахнуў над залай рукой і загадаў усім сціхнуць. А песня ўжо лілася спакойна, упэўнена, рукі знайшлі сваё месца на грудзях. А песня, здавалася, як той жаваранак, узлятала высока-высока, пад самы блакіт неба, а потым адтуль стрымгалоў падала ўніз звінячым камячком, каб зачараваць усіх тых, хто тут сядзеў і слухаў яе. Людзі змоўклі, прыціхлі. Адно толькі здзіўленне адлюстроўвалася на іх абліччах.

Калі б Аркадзь азірнуўся ў часе спявання, ён убачыў бы Святланін твар, які, здавалася, выцягнуўся ад нямога здзіўлення. Яна стаяла за кулісамі, на тым самым месцы, дзе нядаўна стаяў Аркадзь, і, крышку расхінуўшы полкі сукна, так, што толькі відаць была яе кучаравая галоўка, слухала. Не, яна не так слухала, як усе людзі. Яна, здавалася, убірала ў сябе песню, а здзіўленыя вочы яе не проста глядзелі на спевака, а свідравалі яго навылет і нібы пыталі: адкуль ты такі ўзяўся, чаму мы цябе дагэтуль не бачылі?

Аркадзь праспяваў яшчэ некалькі песень, а Святлана не магла дачакацца, калі ён скончыць, калі ўлягуцца воплескі. Ёй хацелася, каб спявак хутчэй выйшаў за кулісы. Нарэшце, стомлены і як бы спалоханы поспехам, Аркадзь спыніўся за кулісамі перад самай Святланай. На момант успомнілася, як Святлана тады на беразе зняважліва абышлася з ім, і Аркадзь хацеў павярнуцца і пайсці з-за кулісы. Але Святлана забегла яму наперад:

— Пачакайце, пачакайце, куды вы? Вы гэтак хораша спявалі. Давайце пазнаёмімся. Святлана Разлятаева, — і яна працягнула Аркадзю маленькую руку, на якой аж гарэлі чырванню манікюру пазногці. Аркадзь баяўся дакрануцца да гэтай кволай ручкі. Яму здавалася, што калі ён сцісне яе сваёй мазольнай пяцярнёй, дык яна хрусне і зломіцца. Аднак, як бы нехаця, Аркадзь падаў сваю руку і сказаў:



— Аркадзь Смаляк, трактарыст Замошскай МТС, — знарок падкрэсліў апошнія словы, наглядаючы, якое ўражанне яны зробяць на Святлану. Хлопцу думалася, што Святлана адразу ж адцураецца яго рукі, бо як ні кажы: трактарыст — чалавек просты, рабочы, а яна ж, відаць, вунь якая інтэлігентная. Мабыць, няйначай якая міністрава дачка? Аднак Святлана сказала:

— Вельмі прыемна. Мой тата ўсё сваё жыццё мае справу з сельскай гаспадаркай.

— Як? — спытаў здзіўлены Аркадзь. — Ваш бацька калгаснік?

— Што вы? Мой бацька прафесар Разлятаеў.

Аркадзь на момант спалохаўся, нібы ён убачыў перад сабою самога прафесара і нібы яму вось-вось трэба сесці перад ім за стол здаваць экзамен.

— Дык гэта ваш бацька прафесар Разлятаеў? — не пераставаў здзіўляцца Аркадзь. — Я ж яго добра ведаю.

— Адкуль вы ведаеце?

— Летась здаваў яму залік па аграбіялогіі, а сёлета экзамен буду здаваць. Увесь час і тут не расстаюся з вашым бацькам, — Аркадзь паказаў Святлане падручнік «Аграбіялогія».

— От яшчэ, — фыркнула Святлана, — а я думала, вы раман які цікавы чытаеце? Аж вы гэтую суш.

— Чаму суш? — ледзь не ўзлаваўся Аркадзь. — Вы, мабыць, свайго бацькі не ведаеце. Гэта ж цікавей за які раман. Гэта само жыццё, а вы кажаце суш. Як вам не сорамна! — дакараў далей Аркадзь Святлану.

А Святлана і сапраўды не ведала, што і пра што пісаў у гэтай тоўстай кніжцы бацька. Яна бачыла, што ён кожны вечар у пэўны час садзіўся за стол, нешта пісаў, часам заседжваўся аж да світання. А што ён там пісаў, гэта яе мала цікавіла. Ёй здавалася, што бацька яе вельмі сухі, сумны чалавек, што ён не здольны напісаць ці зрабіць што-небудзь цікавае. А тут на табе—зусім чужы чалавек гэтак гаворыць пра яе бацьку. Можа і сапраўды ён што-небудзь цікавае зрабіў? Толькі наўрад ці гэта так. Ён ніколі не пагаварыў з ёй як мае быць, не пазабаўляўся. Яму заўсёды не было часу. Ён калі што і рабіў для яе, дык адны заўвагі: тое можна, а таго нельга. З усяго гэтага, як здавалася Святлане, немудронага комплексу ўчынкаў і паводзін і складаўся яе родны бацька. Нават улетку, калі яны выязджалі ў вёску, бацька неяк стараніўся маці і яе; больш за ўсё ён корпаўся на полі, у садзе. Святлане ніяк не верылася, што бацька яе мог напісаць цікавую рэч. Вельмі ж ён сам быў звычайным, нават нейкім будзённым чалавекам. Маці, хоць яна нічым і не выдатная жанчына, і то цікавейшая за бацьку. З ёй заўсёды можна было знайсці агульную тэму гаворкі, хоць бы пра ўборы. А стары, здаецца, свету белага не бачыць за раслінамі ды за кніжкамі. А што ў іх там цікавага? Гэтак думала Святлана. А тут на табе — нават на ўзбярэжжы, куды яна прыехала адпачыць ад усёй абыдзённай скрухі, ад бацькі, ад яго сядні, ад яго настаўленняў, знайшоўся чалавек, які захапляецца бацькам. Што ж ён за такі, гэты Аркадзь Смаляк?

Аркадзь у сваю чаргу думаў пра Святлану. Пры той першай сустрэчы, калі яны амаль разам нагнуліся, каб падняць бурштыніну, дзяўчына здалася нейкай нялюдскай. Ён колькі разоў меў магчымасць зачапіць, заняць яе чым-небудзь, але нехапала хлапечай адвагі. Да таго ж недзе ў глыбіні свядомасці, нібы іржавы цвік, засела тое зняважлівае слова «хам». Раней

яму карцела адно — выбраць зручны момант і ўкалоць чым-небудзь дзяўчыну так, каб аж балюча ёй стала. Цяпер якраз і мог выдацца такі момант. Але, дзіва дый годзе: хоць бы Аркадзь і хацеў сказаць на Святлану што-небудзь абразлівае, у яго не паварочваўся язык. Цяпер ён бачыў перад сабой не тую капрызна надзьмутую, як порхаўка, дзяўчыну. Поруч з ёй бачыўся яму Рыгор Мінавіч. Ён глядзеў на Святлану, а ўяўляў лысую галаву, пушыстыя сівыя валасы прафесара Разлятаева. І хоць Святлана ніколечкі не была падобна на бацьку, усёадно Аркадзю бачылася падабенства. Не было цяпер у Святлане і той зухаватай грубасці, якая кінулася тады ў вочы. Цяпер перад ім была крыху нават сарамлівая дзяўчына. Яна чырванела, бянтэжылася. У ёй было нешта па-дзіцячаму наіўнае і прывабнае.

Святлана не пазнала ў Аркадзю таго хлопца ў фрэнчы. А яму вельмі хацелася, каб яна пазнала. З-за куліс пасля канцэрта яны выйшлі разам. Святлана прапанавала пайсці на бераг мора і паглядзець прыбой. Аркадзь не пярэчыў. Ён ішоў поруч са Святланай, заварожаны таямнічым вячэрнім шолахам прыморскага бору, нічога не бачачы, апрача дзяўчыны. Яму хацелася заспяваць «Толькі з табою», але ён стрымліваў сябе. Хто яе ведае, што можа падумаць дзяўчына?!.

Амаль да паўночы прахадзілі яны па беразе. Мора было ненаглядна прывабнае. У марыве ночы яно зліваліся з небасхілам, і здавалася, што не было ні мора, ні неба, а перад вачыма ляжала люстраная далячынь, па якой можна было нават ісці, як па зямлі. Святлана ўпрасіла Аркадзя, каб ён праспяваў ёй сваю любімую песню. І ён заспяваў. Толькі не так, як на сцэне, а нейкім знарок прыцішаным, пранікнёным голасам, які, здаецца, даставаў у самае сэрца, кранаў самыя патаемныя струны душы, і яны звінелі ва ўнісон песні. Святлана не ведала, каму кампазітар і паэт, складаючы песню, прысвяцілі яе. Ёй думалася, што яны напісалі гэтую песню толькі для яе, каб яе спяваў тут на беразе мора гэты яшчэ мала знаёмы ёй, але ўжо нечым блізкі чалавек.

Ці то шапатлівыя ўсплёскі мора, ці тое, што Аркадзь скончыў спяваць, абудзілі Святлану ад думак. Яна зірнула на свой наручны гадзіннік і аж спалохалася.

— Нас не пусцяць у корпус. Першая гадзіна ночы ўжо.

Час! Як ён бяжыць незаўважна, калі ў дваіх адзін інтарэс, калі сэрцы хоць на каліва б'юцца суладна і молада.

— Што вы кажаце? — як бы апрытомнеў і Аркадзь. Ён яшчэ ні разу тут, у доме адпачынку, так позна не загульваўся. Суседзі па пакою нават пакеплівалі з яго, што ён, як стары дзед, лежнем ляжыць, тлушч нарошчвае. А што яны зараз скажуць?

— Хадземце дадому, — сказала Святлана, — а заўтра з самай раніцы па ўсім узбярэжжы пашпацыруем. Згода?

— Я згодны,— адказаў узрушана Аркадзь.

— Я вас чакаю пасля снядання на беразе, — развітваючыся, сказала Святлана, чамусьці даўжэй затрымаўшы Аркадзеву руку, нібы хочучы ўзяць з сабой цяпло яе поціску.

— Бывайце,— амаль крыкнуў наўздагон Аркадзь і яшчэ доўга глядзеў у той бок, куды пабегла дзяўчына.

Раніца выдалася не вельмі ласкавая. З мора спачатку наляцелі сухмаркі, а потым паступова спляліся ў адно і завалаклі свінцовымі хмарамі неба. Праўда, дажджу яшчэ не было. Аркадзь вырашыў усё ж такі пайсці на спатканне. Было халаднавата, і ён апрануў той самы фрэнч з навеснымі кішэнямі, надзеў галіфэ. Калі ён надзяваў фрэнч, дык намацаў у верхняй кішэньцы бурштынавае вочка, загорнутае ў паперку, яшчэ раз паглядзеў на яго і вырашыў аддаць там, на беразе, Святлане. Яна ж, відаць, узрадуецца гэтак, як тады зазлавала.



На ўзбярэжжы, як акінуць вокам, людзей не відаць было. Маячыла адзінокая постаць. Аркадзь здалёк пазнаў Святлану і хуценька пашыбаваў да яе. Дзяўчына сюд-туд шпацыравала і нават тады, калі Аркадзь падышоў зусім блізка, не звярнула на яго ўвагі. Аркадзю і ў галаву не прыйшло, што Святлана не пазнала яго. Бачачы абыякавасць дзяўчыны, Аркадзь хацеў павярнуць назад, але нешта як бы падказала яму, каб ішоў уперад. Толькі тады, як ён наблізіўся за некалькі крокаў, Святлана пазнала яго. Пазнала і не дала веры сваім вачам.

— Гэта вы? — у страшэнным здзіўленні спытала дзяўчына.

— Канешне я. Хіба вы не бачыце?

— Дык то вы тады былі, а я на вас гэтак сказала, — заірдзелася, як макаў цвет, Святлана.

— Мабыць, на мяне... Я вам дарую. Я нават прынёс вам тую бурштыніну, каб вы на мяне больш гэтак не злавалі.

Аркадзь дастаў з верхняй кішэні фрэнча загорнутую ў паперу, вельмі падобную на чалавечае вока бурштыніну і працягнуў яе Святлане.

— Вазьміце. Няхай яна вам будзе напамінаць аб сім-тым.

— Не хачу. Не трэба, каб яна мне нагадвала той момант, калі я памылілася ў чалавеку.

Аднак жа бурштыніну Святлана ўзяла і, размахнуўшыся на ўсю сілу рукой, шыбанула ў мора.

— Навошта вы? — сумеўся Аркадзь.

— Няхай, калі ў другі раз мора яе выкіне на жвір, яшчэ хто-небудзь знойдзе і ўзрадуецца. А маю радасць яна тады ашукала.

— Нічога, здараецца горш,— супакойваў Аркадзь Святлану,— я на вас ніколечкі не злую. Здараецца, што і ў родным бацьку памыляешся, — незнарок уедліва сказаў Аркадзь.

Святлана зноў пачырванела. Ёй, відаць, сорамна стала перад гэтым простым і шчырым хлопцам.

* * *

Аркадзь са Святланай развіталіся, як сябры. Святлана абнадзеіла хлопца, што зімой яны абавязкова сустрэнуцца ў сельскагаспадарчай акадэміі, што, магчыма, і яна, Святлана, будзе калаціцца перад прафесарам Разлятаевым, здаючы яму залік ці экзамен.

**Алесь АСТАПЕНКА**

# ГРАЮЦЬ СТРУНЫ



Захапляю моладзь я,
Балалаечнік,
Як бярэ ў палон дзяцей
Слынны баечнік.

Граюць струны не адну
Усім мелодыю,
Кожным сэрцам ў гэты міг
Я валодаю.

А такі нястомны люд, —
Не стамляецца,
Аж падлога да зямлі
Угінаецца.

То ўдалую польку дай,
То лявоніху,
То кадрыль, то ціхі вальс
Струны звоняць ім.

«Балалаечнік!» — завуць,
Цягнуць сілаю,
І я ў хоры пазнаю
Голас мілае.

Не падходзіць штосьці сум
Твару пекнаму.
Гарманіста замяніць,
Шкода, некаму.

Сумнавата мне, хоць шум
Тут з гамонкаю,
Хоць прыношу для другіх
Радасць звонкую.

Ты ж вачыма паглядай
Цёмнакарымі,
Як другія навакол
Кружаць парамі...

**Барыс САЧАНКА**



Барыс Сачанка нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Вялікі Бор Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці. У 1955 годзе закончыў Хойніцкую беларускую сярэднюю школу і тады ж паступіў на аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Зараз вучыцца на трэцім курсе.

«Маўчун» — адно з першых яго апавяданняў.

# МАЎЧУН

## Эцюд

Падпёршы рукою падбародак, Надзя сядзіць за нізкім столікам у чытальні. Перад ёю — тоўсты пацёрты том навуковых запісак. Але яна не глядзіць на пажоўклыя старонкі. Позірк яе скіраваны ў акно.

Там — вясна. Абсыпаныя беллю квецені, стаяць яблыні. Квецені многа. Яна так густа абляпіла голле, што аж не відаць лісця. Ноччу прайшоў цёплы, ціхі дождж, і цяпер у праменнях толькі што выплыўшага сонца ўсё дыша, бы жывое. Усё выглядае гэтак прыўзнята, урачыста, што, здаецца, сёння нейкае вялікае свята. Дождж абабіў шмат адцвіўшых пялёсткаў, і яны белым покрывам услалі дол.

Надзя думае не аб вясне, не аб харастве скверыку, не аб толькі што прачытаных пяці старонках. Думкі яе заняты другім...

Дзень у дзень яна амаль першай прыходзіць у чытальню. Яшчэ далёка залікі, экзамены. Яе сяброўкі ездзяць на возера загараць, ходзяць штовечар у парк на танцы, а то проста шпацыруюць па вуліцах. Усюды зялёная, сонечная вясна, усюды — харաство, прыгажосць невыказная. Ім весела... А Надзі — сумна. Яна адлучылася ад сваіх сяброўак. Чаму? Хто яе прымушае гэтак рана штодзень адной ісці ў гэтую тлумную чытальню? Хто?..

Надзя нават баіцца думаць аб гэтым. Відаць, ён, гэты заўсёды глыбока задуменны, сутулы юнак.

Як нечакана яна змянілася. Дзе падзелася яе ранейшая бестурботнасць, гарэзлівасць, смеласць? Раней усё яе жыццё зводзілася да таго, каб схадзіць на лекцыі, пачытаць кнігу, пажартаваць з дзяўчатамі. Цяпер жа прыбавілася нейкая вострая патрэба бачыць яго. Без гэтага яна не магла, здаецца, пражыць дня.

Да яе падыходзяць свае дзяўчаты і просяць месца — чытальня малая, усім месца не хапае.

— Занятае,— ціха кажа яна, а пасля, чырванеючы, думае, дакарае сябе, што гэтак бессаромна навучылася хлусіць. Месца ж гэтае яна беражэ для яго. А ці прыдзе ён? Ці сядзе каля яе? І нешта ўнутранае



шэпча: «Прыдзе. Сядзе». Чаму ёй хочацца, каб ён сядзеў іменна побач? Што гэта, нарэшце, з ёю? Няўжо і на яе падзейнічала вясна!.. А можа да яе прыйшло тое пачуцце, з якога раней яна смяялася, называючы дзявоцкай выдумкай, і якое завецца адным словам — каханне. Чаго яна раптам у момант змянілася з твару? А, гэта прыйшоў ён...

Вочы яго, чорныя, быстрыя, нейкі час ліхаманкава бегаюць па зале — шукаюць яе... Надзя закалацілася, разгубілася. Яна адсунулася на ражок стала. Ён заўважыў яе і ідзе. Вітаецца кіўком галавы і садзіцца. І ні слова, ні гу-гу. Яму, відаць, і няўцям, што дзяўчына знарок рана прыходзіць толькі дзеля таго, каб заняць яму месца. Нават «дзякуй» не сказаў. Ой, які няўдзячны...

Надзя паспешліва хавае свой позірк у разгорнуты том. Глядзіць на роўныя радкі літар, любуецца маленькімі зграбнымі чорнымі значкамі, нават чытае. Але сэнс прачытанага да яе не даходзіць. Усё неяк адразу ж вылятае з галавы, знікае нямаведама куды. Яна кідае чытаць і так, толькі для выгляду, водзіць вачыма па кнізе. Каб ён не заўважыў, што яна занята чымсьці другім, Надзя праз пэўны час гартае лісты. Адзін... два... чатыры... дзесяць...

А позірк калючы, так і свідруе, так і праймае яе ўсю навылет, як толькі яна ўглядаецца ў кнігу. Усёй істотай Надзя адчувае гэты позірк, але сядзіць нерухома, быццам бы нічога не заўважае. Трываць так дужа цяжка. Надзі пачынае раптам здавацца, што ён аднекуль ведае ўсе яе думкі...

Яна адрывае свае вочы ад кнігі. Хлопец адразу ж са спалохам схіляецца над сваёй кнігай. Ой! Што гэта? Чаму ён цэлую гадзіну чытае адну і тую ж старонку? А што, калі і ён не чытае? Тады, чаго ён сядзіць? Думае. Аб чым ён можа думаць? Аб ёй?..

Надзя выбягае з чытальні — сядзець больш так яна не можа. Да таго ж том ужо ўвесь перачытаны.

Ласкава ўсміхаецца з чыстага, па-вясноваму светлага блакіту сонца, пацеркамі рознакаляровага шкла звісае з травы і малочна-белай квецені буйная раса. Вакол яблынь з лёгкім гудам носяцца пчолы. Пахне мёдам, квеценню, расой, мокрай акрыялай зямлёй і яшчэ нечым дужа мятным, вясновым.

Чаго ён такі маўклівы, нясмелы? А што, калі... Не, не. Гэта бессаромна, недарэчна, нетактоўна. А як жа інакш? Трываць, трываць вось гэтак і далей? Не, не... Трэба напісаць... Напісаць трэба... А што ён можа падумаць тады? Навязваецца сама, лезе сляпіцаю, дурніца нейкая. Не, не, пісаць яна не будзе... Яна не школьніца...

Надзя вяртаецца ў чытальню з цвёрдым намерам не пісаць. Але як толькі яна села і глянула на яго, яе як агнём усю працяла. Ён думае? Аб чым думае? Эх, каб можна было гэта ведаць...





І рука міжвольна (Надзя не магла нават зразумець, як гэта здарылася), сама рука вырвала ліст з канспекта і ліхаманкава напісала: «Які вы маўчун!» Тая ж рука, бы чужая, кінула ліст на кнігу хлопцу, і Надзя амаль што вылецела з чытальні.

Шчокі яе гараць, нібы па іх хто сekануў крапівой. Сэрца тахкае моцна-моцна. Як недарэчна ўсё атрымалася!.. Навошта яна гэта зрабіла?.. Куды цяпер?.. У сквер?.. Не, не... Далей адсюль, далей ад чытальні, далей ад яго...

Надзя выбягае на тратуар. Нейкая сіла прымушае яе адвярнуцца, паглядзець назад. Яна аглядаецца. Што гэта? Ён ідзе за ёй? Ён усміхаецца... Нешта кажа?.. Але што?..

Ах, якая яна дурніца. Што яна зрабіла?

Надзя хоча пайсці хутчэй, пабегчы, але ногі не хочуць яе слухацца...

Ніл ГІЛЕВІЧ

# НЕ ЦІХІ МАЛЕБЕН



Быў вечар—ва ўсіх закаханых у ласцы:
Шапталіся клёны, і зоркі цвілі,
І думаў я песню нягучную скласці
Пра мілую згоду нябёс і зямлі.

Але, як наўмысна, газетны малюнак —
Засланы пажарам чужы краявід —
Балючай трывогай у сэрца мне клюнуў,—
І хруснуў у пальцах каляны графіт.

І вецер, надзьмуўшы, як ветразі, шторы,
Праз фортку ўварваўся, раскідаў лісты...
Даруйце мне, клёны, даруйце мне, зоры,
І травы, і росы, і месяц, і ты —

І ты, неапетае мною каханне,
Шчаслівых надзей маладая зара...
На сонныя шэпты, на траў калыханне
Наладжваць ліру яшчэ не пара!

Яшчэ не пара нам, забыўшыся ў шчасці,
Па гладзі ружовай бяспечна плысці.
Не ціхі малебен павінен я скласці,
А песню, з якою на подзвіг ісці.

Патрэбна мне слова, як стрэл па мішэні,
Каб змусіла сэрцы забіцца мацней,
Каб думкі святлелі,
Каб рукі дужэлі,
Каб вочы наўкол пазіралі ясней.

І, пэўна, не скажа патомкам Радзіма,
Што з чэрствай душою прыйшоў я на свет,
Што я не разгледзеў усіх яе дзіваў,
Што ўсіх яе чараў не зведаў як след,

Што песні дзявочай не ўсюды азваўся,
Што красцы не кожнай кіўнуў галавой,
Не ў кожнай затоцы азёрнай купаўся,
Не з кожнай крыніцы прыгубіў лясной.

Нас гэтай раскошай эпоха не песціць,
І чэсці вышэйшай не знае пясняр,
Як тая, калі яго мужная песня
Па ворагах трапны наносіць удар.

Г. ШЧАРБАТАЎ, П. ВЕСЯЛОЎ

# ЗБЯНТЭЖАНЫ ЖАНІХ

*Гэтая аднаактовая камедыя знойдзена ў архіве Г. Шчарбатава, гадавіна з дня смерці якога спаўняецца ў лютым гэтага года. Яна была напісана супольна з П. Весяловым.*

**Камедыя ў адной дзеі**

Дзеючыя асобы:

Карташоў
Марыя Фёдараўна — яго жонка.
Валя — іх дачка.
Пятро — студэнт-дыпломнік.

Пакой у кватэры Карташовых. На канапе сядзяць Валя і Пятро.

Валя (перастаўшы іграць на гітары). Табе падабаецца, як я іграю?
Пятро (пасля паўзы). Ці хутка ён прыедзе?
Валя. Хто «ён»?
Пятро. Бацька. Я так хвалююся.

Валя. І пахвалюйся. (Зноў пачынае іграць.) Не, ты паслухай. Ты зусім не слухаеш. (Іграе і пяе.) «Не пойму, почему, что это такое, сердцу нет моему на реке покоя». (Кінула гітару.) І не толькі на рацэ, а ўсюды, усюды... (Смяецца.) Дзіўна... Жыў спакой у дзявочым сэрцы і раптам знік, зусім знік. А раней я не верыла... Думала: як гэта вось так, раптам...

Пятро (з цікавасцю). А цяпер?.. Дарэчы, чаму гэта ў вас нідзе не відаць бацькавай фатаграфіі?

Валя. Калі б ты ведаў, як бацька не любіць здымацца, дык не пытаўся б. Ад фотакарэспандэнтаў дык ён, літаральна, уцякае. Але ты не адказаў мне: падабаецца табе, як я іграю, ці не?

Пятро. Так... Наогул...
Валя. А ў прыватнасці?
Пятро (неахвотна). А ў прыватнасці... Можна шчыра?
Валя. Вядома. Толькі шчыра.
Пятро. Гледзячы куды і якая мэбля падыходзіць.
Валя (здзіўлена). Якая мэбля?
Пятро. Я... я наконт гітары, Валянціна Міхайлаўна.

Валя (смяецца). Ну вось табе і маеш: гітара ў вуснах геолага ў мэблю ператварылася.

Пятро (пакрыўджана). Навошта да слоў чапляцца. Сама ведаеш, што я не філолаг.

Паўза. Валя, збянтэжаная, ледзьве кратае струны. Пятро сядзіць надзьмуты.

Пятро. А можа ён не прыдзе?

Валя. Абавязкова прыдзе. З хвіліны на хвіліну. Ды ты не хвалюйся...

Пятро. Галоўнае, каб ён сказаў мне... Разумееш, каб прызнаў мяне зяцем.

Валя. А маё слова не ў разлік?

Пятро (бярэ Валіну руку, жартаўліва, але пяшчотна). Ты—пытанне вырашанае, а значыць і не галоўнае.

Валя. Ой, глядзі, каб твой жарт ды не стаў праўдай. Не дарую.

Пятро. Эх, дзяўчынка мая, цудоўны мой матылёк... Як бы зажылі мы з табою! У мяне такія планы, такія задумы! Толькі няхай бацька скажа: ты мой зяць.

Валя. Тады іншая справа. А то я падумала... Дык табе не спадабалася, як я іграю?

Пятро. Не тое, каб не спадабалася... Я, Валянціна Міхайлаўна, больш наконт характару выканання хацеў сказаць...

Валя. Нічога не разумею.

Пятро. А ты вось так падумай: дачка славутага, паважанага Карташова і раптам... гітара. Клавір, піяніна — вось гэта іншая справа. Гэта — да твару! (Узнёсла.) Кволыя ўзлёты чароўных пальцаў над клавішамі, пяшчотныя гукі... Шаноўныя госці ў захапленні. А я... я на сёмым небе. Бо гэта мая Валянціна, мая і ўсё...

Валя (смяецца). Які ты дзівак!

Пятро (пакрыўджана). Навошта ж абражаць?

Валя (пяшчотна). Пеця, які ты смешны. Лунаеш недзе далёка-далёка. І зусім я не хацела цябе пакрыўдзіць.

Пятро. Ты — дачка славутага чалавека, а што я... Скажы, мабыць вельмі прыемна быць дачкой такой славутасці?

Валя. Не, зусім не. Уяві: дамовішся з татам ісці ў тэатр, білеты купіш. Увечары ён апранае свой выхадны гарнітур... Раптам званок: «Прыязджайце ў міністэрства. Будуць абмяркоўваць вашу кнігу». Тата едзе на пасяджэнне, а я адна, з двума білетамі ў кішэні, іду ў тэатр. Ды яшчэ з табой — безбілетным студэнтам — знаёмлюся.

Пятро. Значыць, шчасце.

Валя (знарок злосна). Што-о?

Пятро. Маё шчасце, Валечка. Уяві, хаджу без білета і думаю, як у тэатр пранікнуць. А тут дачка Карташова, прыемная дзяўчына. І ўсё гэта... (Змоўк).

Валя. Калі пачаў — дагаворвай. І ўсё гэта...

Пятро. ...напярэдадні заканчэння інстытута, перад атрыманнем дыплома...

Валя ( падышла да акна, задумалася). Я цябе слухаю.

Пятро. Як усё цудоўна будзе, Валя! Колькі магчымасцей. Я заўсёды марыў пра гэта.

Валя. Ты вельмі правільна выбраў.

Пятро. Цябе?

Валя. Не, прафесію. (Задумліва.) Ты будзеш адкрываць для людзей скарбы, якія хавае ад іх зямля... Як гэта рамантычна, Пеця!



Пятро. Але рамантыку я разумею крыху інакш.

Валя. Так, так... Кожны раз новыя мясціны, магчыма тыя, дзе яшчэ не ступала нага чалавека. І ты — першы разведчык нетраў, абуджаеш іх. І вось ужо на тым месцы, дзе хлюпалі дрыгвяністыя балоты або шумела тайга, вырастаюць шахты. Аб гэтым заўсёды марыў тата...

Пятро. Дык гэта ён цябе так натхніў?

Валя. І ён, і сама...

Пятро (перадражнівае). Высакародна, высакародна... Прыгажосць для фільма. А калі, любачка мая, у стэпу вады нехапае, у Палессі камары заядаюць, палац твой — парусінавая палатка, мадэльны абутак — гумавыя боты сотага памеру. Тэатр за тысячы кіламетраў, кінаперасоўка прыязджае раз у шэсць месяцаў, а твая Валянціна Міхайлаўна сядзіць на мяккім крэсле і слухае Лемешава ці Казлоўскага... Не, дзякуй за перспектыву. Няхай бы я тады пайшоў на курсы сценаграфістаў.

Валя. Ты нейкі незразумелы чалавек...

Пятро. Які ўжо ёсць.

Валя. Ой, спазняюся. Ледзь не забылася пра заняткі па гімнастыцы. Трэба ж бегчы на трэніроўку.

Пятро (папраўляе гальштук). Выходзіць, так сказаць, і мне сігнал паданы. Шкада.

Валя. Калі шкада, дык чаго табе ісці? У нас трэніроўкі нядоўгія. Я вельмі хутка вярнуся.

Пятро. Але як жа мне аднаму застацца?

Валя. Нічога. Мама ў суседзяў. Я забягу да іх і прышлю яе сюды. Вось і пазнаёміцеся. Добра?

Пятро. А бацька?

Валя. І ён вось-вось прыдзе. (Падае Пятру кнігу.) На, і не сумуй. Гэтая кніга па тваёй геалогіі.

Пятро (бярэ кнігу). А-а. Прафесара Карташова. Дзякую, Валечка. Цяпер сумаваць не буду.

Валя. Адчувай сябе, як у роднай хаце. Няма чаго табе саромецца.

Пятро. Гэта для мяне такое шчасце. Каб толькі твой тата згадзіўся...

Валя. Не бойся, згодзіцца. (Грозіць пальцам.) Чакай, не сумуй. Ну, я пайшла. Прыду—паспрачаемся наконт рамантыкі. Добра? (Выходзіць.)

Пятро (паглядзеўшы ў акно, ці пайшла Валя). Амаль перамога! Вось здорава! Пецька, д'ябал... Вінават, Пётр Раманавіч, віншую з перамогай. А самае цікавае — наперадзе. (Бярэ з канапы кнігу.) Атрымаеш кнігу з рук самога Карташова. Ды яшчэ з надпісам: «Дарагому зяцю, здольнаму вучню, таленавітаму маладому навуковаму супрацоўніку ад прафесара М. Карташова». І як гэта ў мяне ўсё спрытна атрымалася! Жарт лёсу — і я на вяршыні шчасця. Калі ўсё добра пойдзе, дык будзеш ты, Пецька, ездзіць на сваёй машыне. Ды не на «Масквічу», а на «Пабедзе». І будзеш, далібог, будзеш. Дадуць, напрыклад, яе ў пасаг. Ды што яму «Пабеда»! Ён і «Волгу» можа купіць. Грошай хапае, сям'я невялікая. Ці многа яму, старому, трэба! Эх, як цудоўна ўсё выйшла! І трэба, каб здарылася гэткае супадзенне: бацьку выклікаюць у міністэрства, дачка мае лішні білецік і натрапляе на беднага студэнта. (Падыходзіць да люстэрка.) А што я, ломак які? З твару не брыдкі, нават прыемны, дык чаго там здзіўляцца, што мяне ўгледзела. Ды і яна нішто. Нават прыгожая. Носік, як гузічак, на шчоках ямачкі. У размове прыемная. Пашанцавала табе, Пецька. Была б у Карташова дачка і брыдкай, дык усёроўна жаніўся б. Дзе б ты дзеўся: да чорта на рогі ехаць вунь як не хочацца. А папруць, як піць даць

папруць, вось толькі інстытут закончыш. Таму і жаніцца трэба на дочках, ну калі не прафесараў, дык хоць дацэнтаў, старшых выкладчыкаў. А тут, як манна нябесная, Валянціна Карташова. Як гучыць! Валянціна Міхайлаўна Карташова. Арыя, паэма, сімфонія! Я, як толькі пазнаёміўся з ёю, усё разведаў. Сустрэў аднаго знаёмага медыка. «Ты, пытаюся, ведаеш такую Валю Карташову?» «А як жа,— адказвае ён,— ведаю». «А хто яе бацькі? «Няўжо не чуў пра Карташова? — здзівіўся медык. — Праслаўлены чалавек». Наш Карташоў, — ледзь не крыкнуў я, але пытаюся: «А яшчэ ў яго сыны або дочкі ёсць?» «Не, — кажа,— адна толькі». Ну, тут ужо я яму больш і слова не даў сказаць. Напаіў ад радасці яго півам, сам напіўся. Жартачкі, гэткую птушку злавіць. І вось я — ў кватэры Карташова. (Смяецца.) Уяўляю, як здзівіцца прафесар, калі ўбачыць мяне тут, ды яшчэ пачуе, што я буду яго зяцем. Божа літасцівы, па колькі разоў ён мяне прымушаў пераздаваць экзамены. А можа ўжо забыў мяне? Гэта лепш было б. Але забыў не забыў, а давядзецца табе, паважаны прафесар, уладжваць мяне ў аспірантуру або куды-небудзь у міністэрства. Не пашле ж ён, пень лысы, свайго роднага, адзінага зяця ў глухамань. Чш-ш-ш. Нехта ідзе. Напэўна, шаноўная маман. А можа сам?.. (Робіць выгляд, што з цікавасцю чытае кнігу.)

Уваходзіць пажылая жанчына ў простым адзенні. Гэта маці Валі Марыя Фёдараўна.

Марыя Фёдараўна. Гэта Пецечка? А я адразу пазнала цябе. Валя пра цябе так часта гаварыла, што я інакшым і не ўяўляла.

Пятро (ідзе насустрач. Трымае перад сабой раскрытую кнігу, падае руку). Пётр Раманавіч. Вельмі прыемна. А я чытаю і захапляюся: які талент! Якія глыбокія вывады!

Марыя Фёдараўна. Затрымалася я крыху, загаварылася. Ды і думаю сабе: свой чалавек, не пакрыўдзіцца.

Пятро (з захапленнем). Так, маці, свой чалавек, родны чалавек, гэта вы правільна заўважылі.

Марыя Фёдараўна. І ўсё ж аднаму, мусіць, было сумнавата.

Пятро (узнімае кнігу, падкрэслена). Чаму адзін? Вось з ім не будзеш сумаваць. Найразумнейшы чалавек! Самы родны сваяк... і любімы настаўнік з першай гадзіны, калі сеў на студэнцкую лаўку.

Марыя Фёдараўна. Дык вы любіце сваю навуку?

Пятро. Геалогію? Вельмі!

Марыя Фёдараўна. І мой гэтую геалогію, ох, як любіць.

Пятро. Дзіва што, каму ж і любіць яе, як не яму. Я ўвесь час сяджу над яго кнігамі.

Марыя Фёдараўна. Жах адзін: і мой ночы навылет сядзіць над кнігамі. А як дазнаўся, што ты геолаг, так абрадаваўся, што і слоў няма.

Пятро (спалохана). А хіба яна яму ўжо ўсё расказала пра мяне?

Марыя Фёдараўна. Расказала, усё як ёсць. Чаго ж утойваць.

Пятро. Значыць, ён ужо ведае, хто я?

Марыя Фёдараўна. Ведае. І гаворыць: першае — гэта добра. Малайчына, што геолага выбрала. А там відаць будзе, калі бліжэй пазнаёмімся.

Пятро (супакоіўся). Маладзец, Валя, ведала, як лепш расказаць.

Марыя Фёдараўна. Ды што і казаць — спадабаўся. Паглядзела я на цябе, і нібы родны ты мне... Некалі вось так і я.

Пятро. І вы, маці?

Марыя Фёдараўна. У яе гады ўбачыла я свайго Мішачку і адразу адчула — ён. І Міша зразумеў, што я — гэта я. Праз тыдзень і вяселле згулялі. Трыццаць гадкоў прайшло, а нібы ўчора сустрэліся.



Пятро. Дык і я кажу: чаго чакаць? Тым больш і час зараз іншы, рашаючы. Хутка дыплом атрымаю. Назначэнне хвалюе. Ды і вам: адна дачка.

Марыя Фёдараўна. Няўжо ж. Пра ўсё пагаворым, вось толькі ён прыдзе.

Пятро. Так, так. Сямейны савет. Яго думка рашаючая, галоўная... Толькі хутчэй бы прыходзіў.

Марыя Фёдараўна. Ён хутка прыдзе. Я пакуль стол падрыхтую. А ты ў кнігах пакапайся. Бачу, ахвотнік ты да іх вялікі.

Пятро. Праўда, маці, вялікі ахвотнік.

Марыя Фёдараўна. А я тым часам буду стол накрываць і з табою гутарыць.

Дастае талеркі і ставіць іх на стол. Потым прыносіць бутэльку каньяку. Пятро ў гэты час разглядае кнігі.

Пятро (гаворыць сам з сабою). Дзіўна. Кнігі па такарнай справе, па машынабудаўніцтву. Навошта яны яму?

Марыя Фёдараўна. Ты пра што гэта там?

Пятро. Дзіўлюся вось, навошта так многа кніг па такарнай справе.

Марыя Фёдараўна. Ды ён іх так любіць чытаць.

Пятро. Дзіўны густ. (Для сябе.) Дачка на гітары іграе, бацька такарнай справай захапляецца. (Услых.) Вось ужо ніколі не падумаў бы.

Марыя Фёдараўна. Як толькі ў кнігарню паступаюць новыя кнігі, дык яму пакідаюць па кніжцы і па тэлефоне звоняць. Прынясе ён кнігу дадому і на ўсю ноч: чытае, чытае і нешта запісвае. Не адарвеш.

Пятро. У кожнага вялікага чалавека свае дзівацтвы. Мне расказвалі пра аднаго прафесара-хірурга. Дык той сам сабе гарнітуры шыў, нават швейную машыну купіў.

Марыя Фёдараўна. Мой у Чэхаславакію ездзіў. Да тамашніх станочнікаў.

Пятро. Па такарнай справе?

Марыя Фёдараўна. Па такарнай.

Пятро (убок). Дзівак гэты прафесар. (Да Марыі Фёдараўны.) Дзіўныя, вельмі дзіўныя захапленні ў вялікага чалавека.

Марыя Фёдараўна. І нічога тут няма дзіўнага. Адна карысць толькі. Ён ім сваю кнігу на памяць пакінуў. Напісалі, што вельмі спадабалася.

Пятро. Ды што там могуць зразумець токары, хоць яны і замежныя.

Марыя Фёдараўна. Выходзіць, зразумелі. Я сама пісьмо чытала. Дзякуюць. пішуць, што вялікая ім карысць ад кнігі. Жадаюць далейшых поспехаў. Нават тэму для новай кнігі падказалі.

Пятро (здзіўлены). Ды што яны ў гэтым разумеюць? (Памахвае ў паветры кнігай Карташова.)

Марыя Фёдараўна. Пішуць, што чыталі кнігу з дапамогай перакладчыка, абмяркоўвалі на вытворчай нарадзе і рашэнне прынялі: прасіць выдавецтва перавыдаць кнігу на чэшскай мове.

Пятро (у захапленні). Значыць, у таты сусветная слава? Нават за мяжой ведаюць пра яго працы?

Марыя Фёдараўна. Так, Пеця, так, сусветная слава. Пайду абед падагрэю, а то вось-вось прыдзе. Ён у нас акуратны. Ды і пра тваё

наведванне ведае. Захоча паглядзець на цябе. Пра шчасце дачкі клапоціцца.

Пятро. Я, маці, у гэтым упэўнены. Я за яе шчасце на ўсё гатовы.

Марыя Фёдараўна. Дык ты пасумуй тут адзін. Я зараз. (Выходзіць.)

Пятро (узяў кнігу па такарнай справе і па геалогіі). Я яму пакажу, што таксама такарнай справай цікаўлюся. А што мне, цяжка? Для дасягнення мэты ўсе сродкі карысныя. А ён узрадуецца, падумае, што я такі ж дзівак, як і ён. (Падыходзіць да стала, бярэ ў рукі бутэльку каньяку.) «Арарат», пяць зорак! Цуда! Відаць, стары ў вінах нядрэнна разбіраецца. Вось тут я яму добрай падмогай буду. (Сеў на мяккую канапу, паклаў на калені кнігі.) Дзіва дый годзе! Скажы каму са студэнтаў, што прафесар Карташоў захапляецца такарнай справай — не павераць, засмяюць.

Уваходзіць Карташоў. Гэта невысокі каранасты чалавек. Ён апрануты ў светлы гарнітур. Карташоў падыходзіць да Пятра падае руку.

Карташоў. Гэта, мяркую, Пятро Раманавіч? Будзем знаёмы — Карташоў.

Пятро (здзіўлены, разгублены, падае руку). А вы хто будзеце? Дзядзька?

Карташоў (усміхаецца). Не, бацька. Самы сапраўдны бацька.

Пятро (ашаломлены, трэ кулаком вочы). Вы — бацька? Ды як жа так?..

Карташоў (нічога не разумее). Вельмі проста, яна мая дачка, а я яе бацька.

Пятро. Пачакайце, дык вы гэта не вы?

Карташоў. Не, я гэта я. Токар станкабудаўнічага завода.

Пятро. А прафесар?

Карташоў. Міхаіл Трыфанавіч? Ведаю, вось кнігу падараваў мне. Чалавек з вялікімі заслугамі.

Пятро. Так, так, з заслугамі.

Карташоў. Ну, пайду памыюся ды за стол.

Пятро. Пачакайце.

Карташоў. Потым, потым пагаворым, малады чалавек.

Пятро (паспешліва). Можа прафесар ваш сваяк?

Карташоў (здагадваючыся, злосна). Не, не сваяк, аднойчы ехалі ў мяккім вагоне, вось і пазнаёміліся.

Пятро. Дык навошта ж тады... А вы не жартуеце?

Карташоў. Не, я сур'ёзна. (Выходзіць.)

Пятро. Токар, усяго токар. Ды што ж гэта такое? Навошта ён мне. Час толькі марна патраціў. Вось табе і на! Геалогія. Славутасць. Цьфу ты! Уцякаць хутчэй, пакуль не сасватаюць. (У дзвярах ён сустракаецца з Валяй.)

Валя. Ты куды?

Пятро. Навошта мне токар, навошта? (Уцякае.)

Уваходзяць Карташоў і Марыя Фёдараўна.

Марыя Фёдараўна. А дзе ж жаніх?

Валя (стаіць разгубленая). Вельмі, вельмі дзіўна.

Карташоў. І зусім зразумела. Камедыйная сцэнка своечасова закончылася. Збянтэжаны жаніх збег. І ў гэтым тваё шчасце, Валечка!

Заслона.

Пітэр АБРАХАМС



# АФРЫКА Ў АГНІ

Пераклад з англійскай мовы С. Дорскага.

**Раман**

Мал. А. Паслядовіч.

## 4

Ад'ютант губернатара расчыніў дзверы і абвясціў:

— Яго правасхадзіцельства!

Джонс і Смізерс усталі. Губернатар, лорд Рослі, хуткімі крокамі ўвайшоў ў кабінет і апусціўся ў крэсла.

— Паны...

— Сэр, — прагаварылі абодва чалавекі амаль у адзін голас.

— Прашу садзіцца. Я запрасіў вас сюды таму, што мне не падабаецца гэтая новая падзея. Я хацеў бы ведаць вашы меркаванні да пасяджэння Выканаўчага Савета.

— Вы бачылі газету? — спытаўся Смізерс.

— Толькі што прачытаў яе. Д'ябальскі моцная ўзрыўчатка, калі яна будзе мець уплыў. Пытанне ў тым — ці будзе?

Смізерс сказаў:

— На ногі паднята ўся паліцыя, яна канфіскуе кожны экземпляр, які толькі зможа знайсці.

— А нам вядома колькі экземпляраў распаўсюджана? — спытаўся Рослі.

— Я гаварыў з адным з уладальнікаў газеты. Звычайнае выданне мае тыраж каля трох тысяч экземпляраў.

Пачатак у № 1 за 1958 год.

— Але гэтае выданне не звычайнае,— спакойна сказаў Джонс.— Сёння раніцай я быў у друкарні. Учора ноччу быў выкарыстаны трохтыднёвы запас газетнай паперы. Магчыма, і больш: стары друкар не ўпэўнены.

— А што ён мог сказаць у сваю карысць?

— Ён у гэтай справе не замешаны, сэр. Яму трэба было пайсці па справе. Удома выкарыстаў момант, калі старога не было.

— А як наконт уладальнікаў?

— Я ўпэўнены, яны тут ні пры чым,— сказаў Смізерс.

— У такім разе, усё, што нам вядома, гэта тое, што недзе ў горадзе могуць быць схаваны дзесяткі тысяч экземпляраў гэтай газеты.

— Баюся, што так,— сказаў Джонс.

— Я і сам думаў пра гэта, — сказаў Смізерс.

Губернатар сказаў:

— Для нас самае галоўнае цяпер — даведацца, які настрой у горадзе, ці робіць гэтая рэч уплыў на народ? І вось яшчэ якое пытанне непакоіць мяне: ці стаіць за спіной Удома якая-небудзь арганізацыя?

Губернатар глянуў спярша на Смізерса, потым на Джонса. Выняў з кішэні партсігар і працягнуў ім. Смізерс узяў папяросу. Джонс палез па сваю люльку.

Смізерс адкашляўся. Джонс падумаў: напышлівы асёл. Ён убачыў, як у вачах губернатара ўспыхнуў агеньчык, і імкліва адвёў позірк.

— Гэта бура ў шклянцы вады, — цвёрда прамовіў Смізерс. — Удома ўсяго толькі падбухторшчык. Ён і два яго дурні запёрты пад замок. Няхай яны там крыху астынуць. Паліцыя хутка збярэ ўсё бруднае смецце, і на гэтым усё скончыцца. Гэта сямідзённае цуда, нічога больш. Я стары, вопытны служака, сэр. Такія рэчы я ўжо бачыў.

—Значыць, вы не думаеце, што за спіной Удома стаіць якая-небудзь арганізацыя?

— Не, сэр. І чым хутчэй мы аддадзім Удома пад суд і скончым з гэтай справай, тым хутчэй усё ўвойдзе ў сваю каляіну. Гэтыя людзі паважаюць цвёрдасць. Я ўпэўнены, уся гэтая шуміха праз тыдзень сціхне, калі мы цвёрда павядзем справу Удома. Я ведаю, што Савет правадыроў і старэйшын падтрымае любую акцыю ўрада ў гэтым пытанні. Эндура сам скажа вам аб гэтым на сённяшнім дзённым пасяджэнні.

— А народ пойдзе за Эндурай?

— Ён самы тонкі і самы важны палітычны дзеяч у гэтай калоніі. Я б прапанаваў хутчэй пачаць працэс над Удома — заўтра ці паслязаўтра — і весці справу цвёрда, сурова і хутка, але без якіх-небудзь незаконных актаў насілля і абраз. Гэта верне ім цвярозасць. Яны вельмі хутка забудуць пра Удома.

— Карацей кажучы, — прамармытаў Рослі, — вы за дэманстрацыю сілы.

— У даным выпадку — так, сэр.

— Як вы думаеце, Джонс, гэта будзе мець якое-небудзь уздзеянне?

Смізерс пачырванеў. Пальцы, якія трымалі папяросу, задрыжалі.

— Магчыма, будзе мець,— сказаў Джонс.

Нешта ў яго голасе прымусіла галоўнага сакратара і губернатара ўважліва паглядзець яму ў твар. Джонс набіваў сваю люльку, нібы не прыкмячаючы іх пільных позіркаў.

Губернатар зірнуў на свой гадзіннік і ўстаў.

— Дзякую вам, паны. Цяпер у мяне ёсць на чым абгрунтоўваць свой даклад. Чаю хочаце?



— Нажаль, не магу, сэр, — сказаў Смізерс. — Там мяне чакаюць некалькі горцаў.

— Спадзяюся, вы будзеце піць, Джонс?

— Дзякую, сэр, — прамармытаў Джонс.

— Тады я пайду,— сказаў Смізерс.— Да пабачэння, сэр.

— Да пабачэння, Смізерс. Дзякую за дапамогу.

— Гэта наш абавязак, сэр.

Смізерс пайшоў.

Раптам Рослі гучна засмяяўся.

—Інакш кажучы, мой дарагі Джонс, губернатары паяўляюцца і знікаюць, а галоўныя сакратары застаюцца і на самай справе кіруюць спектаклем... Наш галоўны сакратар не вельмі любіць мяне, Джонс. Але першае правіла «Губернатарскага наказу» гаворыць: «Абавязак кожнага добрага губернатара быць у самых лепшых адносінах з усім персаналам, гэта згуртоўвае дух».

— Сапраўды? — шчыра пацікавіўся Джонс.

Рослі зарагатаў. Джонс падумаў: а ён мне падабаецца.

— Вядома, не. Такога губернатарскага наказу няма ў прыродзе. Але павінен быў быць, і гэта павінна было б быць першым правілам... Ну, пойдземце ў мае пакоі. Там не так строга, як уся гэтая паліраваная пышнасць. Тут я заўсёды адчуваю сябе не да месца, як самазванец... Мартын!

Увайшоў ад'ютант.

— Вольна,— сказаў Рослі.— Вось што, містэр Джонс і я хочам папіць чайку там, у мяне. І цэлую гадзіну ні для каго з наведвальнікаў яго правасхадзіцельства няма. Трэба страшэнна многа зрабіць дома. Ну, паднімемся да мяне, Джонс.

Наверсе частка губернатарскіх асабістых пакояў была ператворана ў камфартабельную, неахайную халасцяцкую кватэру. Яны сядзелі ў мужчынскай гасцінай. Чорны бой у белай ліўрэі прынёс чай. Губернатар падкрэслена падзякаваў яму. Гэты чалавек усё правільна разумее, падумаў Джонс.

— Дык вось, Джонс. Я вельмі хацеў з вамі пагаварыць, і я рады, што Смізерс не мог застацца. Ён глядзіць на падобныя сітуацыі стандартна— вачамі традыцыйнага каланіяльнага службіста.

— Я б не недаацэньваў Смізерса, сэр. Можа, ён і напышлівы і стандартны ў сваім падыходзе, але я б сказаў, што сёння ён адзін з самых выдатных дзеячоў каланіяльнай службы.

— Паверце, я не недаацэньваю яго, Джонс. Але я думаю, вы пападаеце ў самую кропку, калі гаворыце «стандартны». Ці дадуць добры вынік стандартныя лекі Смізерса ў гэтым выпадку? Ці сапраўды гэта толькі бура ў шклянцы вады, сямідзённае цуда, як думае ён?

— Пачакайце, самі не адказвайце. Дазвольце мне расказаць вам, як я гляджу на ўсю праблему імперыі ў сучасны момант. Мне здаецца, што сёння ва ўсім свеце пануе пэўны настрой. Сутнасць гэтага настрою — глыбокая агіда да ідэі, што адзін народ можа кіраваць другім — няважна, наколькі сумленна, няважна, наколькі дабратворна. Як навальнічная хмара, плыве гэты настрой над зямлёю і заражае ўсіх людзей ва ўсіх краінах. Ён стварае ў людзей гэтае ўпартае імкненне, гэтае жаданне, гэтую **неабходнасць** самім кіраваць сваімі справамі — няважна як. Вы разумееце, куды я вяду? А ў нас?

— Так. І ў нас.

— Вы не думаеце, што я звар'яцеў, не? Прашу богам, скажыце. Смі-

зерс падумаў бы, што я не пры сваім розуме, але з далікатнасці прамаўчаў бы.

Джонс усміхнуўся. Яго жаўтаваты твар стаў па-хлапечаму прывабны.

— Не, Джонс. Я не лічу вас вар'ятам. Я неяк і сам аднойчы прабаваў сказаць Смізерсу тое ж самае, але не мог знайсці патрэбных слоў. Пра гэта лягчэй думаць, чым гаварыць. А нас яшчэ завуць народам Шэкспіра! Ва ўсякім разе, я ўпэўнены, што праўда цалкам ваша. Я адчуваю гэта ўжо вельмі даўно. У народзе расце неспакой. Гэта падобна на душэўную хваробу. Сціплыя хлопцы, з якімі я даўно знаёмы, хлопцы, з якімі я разам жартаваў, цяпер раптам пачалі крыўдзіцца і агрызацца на самыя бяскрыўдныя словы. У іх з'явілася нейкая новая чуллівасць...

— Так... — задуменна дадаў Рослі.

— Вам трэба спусціцца ў горад,— сказаў Джонс.— Сёння я гэта адчуў асабліва моцна.

— Узрыўчатка?

— Больш падобна на навальнічную хмару.

— І тут з'яўляецца наш друг Удома. Што вы скажаце, ён прычына ці вынік?

— Ні тое, ні другое, сэр. Я б сказаў, усё гэта адбываецца незалежна ад яго.

— Але ён можа выкарыстаць і накіраваць.

— Так, сэр.

— Ведаеце, Джонс, нам не трэба запіраць яго на замок.

— Ёсць такі закон, сэр. Я асабіста сам паслаў яму палажэнне аб друку.

— Дык вы ведаеце яго?

— Тое, што я чуў пра яго, прымусіла мяне шукаць з ім сустрэчы. Я сустрэў яго на ўзмор'і ў дзень яго прыезду.

— І якое ён зрабіў на вас уражанне?

— Смешна сказаць, ён мне адразу спадабаўся. Ён трымаўся вельмі холадна. Выразна даў мне зразумець, што я яму ні пад якім соусам не патрэбен. Не груба, не, але зусім ясна.— Джонс нявесела ўсміхнуўся.

— Так, у нашага Удома нешта такое ёсць.

— Ведалі яго ў Лондане, сэр?

— Так. Першы раз я ўбачыў яго на кватэры ў адной вельмі чароўнай жанчыны ў аздабленні артыстычнай багемы. Потым чуў, што яна стала яго палюбоўніцай, але я сумняваюся ў гэтым. Яна не такая жанчына. Ва ўсякім разе, гэта проста пустыя плёткі. І яшчэ раз сустрэў яго на адной з нашых нарад, — Рослі ўсміхнуўся. — Ведаеце, на самай справе я прагрэсіст, які не можа вылезці са Смізерсавага хамута.

— Ніякіх асабістых прычын у Смізерса няма. Проста яго турбуе прынцып.

— Вядома, я гэта ведаю. Вам зусім не трэба ўвесь час так яго абараняць, дружа.

— Прабачце, сэр.

— Паверце, я не адношуся з няўвагай да добрых якасцей Смізерса. Але, як бы там ні было, Удома тады моцна ўразіў мяне. Ад яго прамовы ва ўсіх прысутных мурашкі прабеглі па спіне. Амаль як гэтая рэч, што ў газеце. Што ж нам з ім рабіць? Калі б ён не быў такі д'ябальскі палымяны, шчыры і адданы...

Доўга ніхто не парушаў цішыні. Джонс сядзеў, пасмоктваючы сваю люльку. Асляпляльны бляск дзённага святла тут быў мякчэйшым. У пакоі веяла халадком. Напэўна, ад тоўстых каменных пліт, з якіх пабудаваны



гэты палац, разважаў Джонс. Трэба ж што-небудзь сказаць у абарону пасады губернатара ў гэтым пекле. А ён, здаецца, д'ябальскі добры хлапчына.

Рослі ўстаў з крэсла і падышоў да акна. Ён уважліва паглядзеў праз шыбу.

— Паслухайце, Джонс. Я хачу нешта паспрабаваць. У нас няма кантактаў з тутэйшымі адукаванымі афрыканцамі. Я б сказаў, што і Савет Эндуры таксама іх не мае. Я б нават сказаў, што яго ўплыў абмежаваны толькі больш далёкім раёнам. Я хачу паспрабаваць уступіць у кантакт з гэтымі гарадскімі афрыканцамі. Мне патрэбен іх спіс. Яго правасхадзіцельства дасць прыём, на які ўсе яны будуць запрошаны. І ніякіх там афіцыяльнасцей. Як вы глядзіце на гэтую ідэю?

— Выдатная, сэр.

Рослі імкліва павярнуўся і дапытліва паглядзеў на Джонса.

— Вы шчыра?

— Гэта якраз тое, што некаторы час таму назад я прабаваў зрабіць,— прамармытаў Джонс.— Я нават прабаваў гэта з Удома.

— Але яны не пажадалі гуляць у гэтую гульню?

— Магчыма таму, што я з органаў бяспекі. Сапраўды, нельга ж іх вінаваціць. У нас на радзіме народ таксама вельмі баіцца паліцыі. А да пятага аддзела ваеннай разведкі яны б адносіліся з яшчэ большай асцярогай.

— Так, гэта правільна. Вы можаце даць мне гэты спіс? Я хачу, каб ужо заўтра былі разасланы запрашэнні.

— Зараз, сэр.

— І яшчэ адно. Як вы думаеце, ці трэба, каб стала вядома, што яго правасхадзіцельства стаіць за ўсеагульнае братанне паміж белымі і чорнымі?

— Гэта, безумоўна, будзе карысным, сэр.

— А цяпер аб самым далікатным пытанні. Помніце, першае правіла ўяўнага губернатарскага наказу? Як мне атрымаць згоду Смізерса?

Джонс пажаваў мунштук сваёй люлькі, потым зірнуў на губернатара вачыма, у якіх загарэліся агенькі.

— Яго правасхадзіцельства мог бы даць прыватны абед, на які запрашаюцца толькі начальнікі аддзелаў і пэўныя прадстаўнікі дзелавых колаў тубыльнай інтэлігенцыі. А мэта — жаданне губернатара выказаць сваё задавальненне тым, як па-майстэрску галоўны сакратар правёў яго паміж рыфаў пры прыняцці губернатарам новай пасады.

— Цудоўна! Значыць, я магу ў гутарцы — паміж іншым — падняць гэтую тэму. Цудоўна, Джонс. Я хачу зрабіць гэта сёння ж вечарам.

— За гэта я атрымаю звонкі пацалунак,— усміхнуўся Джонс.

— Вы заслужылі яго! А цяпер наконт Удома: у турме ён для нас больш небяспечны, чым на свабодзе. Вы разумееце гэта?

— Разумею. Але ў сучасны момант мы нічога зрабіць не можам. Павінна закруціцца звычайная юрыдычная машына.

— Дапусцім, што так. Але ж мы не можам увесь час глядзець у кнігу. Мы хочам пайсці ў нагу з гэтай падзеяй і накіраваць яе ў пазітыўныя каналы. Яна раздушыць і нас і калонію, калі мы паспрабуем стаць на яе шляху. Я б дзякаваў богу, калі б яго не пасадзілі!

— Магчыма, план Смізерса будзе мець поспех, сэр. Ва ўсякім разе, я спадзяюся, што так.

— Я таксама, Джонс. Але што, калі не?

— Я з вамі, сэр.

— Сачыце за падзеямі і інфармуйце мяне. І калі ў вас з'явяцца якія-небудзь меркаванні, не адкладвайце, зараз жа паведаміце мне.
— Ёсць, сэр,— сказаў Джонс і ўстаў.— Дзякую за чай.
— Заходзьце,— сказаў губернатар.— Як-небудзь вечарам я загляну да вас — інкогніта, калі ўдасца.
— Калі ласка.
— Самая непрыемная рэч у нашай імперыі, Джонс, гэта тое, што мы спакойна сядзім на сваіх задніх месцах, пакуль хто-небудзь не ўдарыць нам па твары. Але ці можа быць інačай?
— Да пабачэння, сэр.
— Да пабачэння, Джонс. Калі нікога няма, можаце не гаварыць «сэр».
Джонс сыйшоў уніз і выйшаў з губернатарскага палаца. «Вось дык малайчына, гэты Рослі,— падумаў ён,— проста малайчына».
Паліцэйскі ля брамы аддаў яму чэсць.

## 5

Па ўсяму гораду мужчыны і жанчыны непрыкметна пракрадаліся ў маленькія паўцёмныя пакойчыкі дамоў на водшыбе. Іх сустракалі ля дзвярэй і бралі з іх клятву захоўваць тайну. Потым яны ўваходзілі ў пакой, і ім чыталі словы, якія напісаў Удома. Разам збіралася не больш трох чалавек. Але па меры таго, як набліжаўся вечар, лічба гэтая падвойвалася, потым патройвалася. Пасля чыткі людзям прапанавалі ўступіць у партыю Удома — Афрыканскую партыю свабоды. Да вечара ў члены новай партыі ўступіла каля дзесяці тысяч чалавек. Кожны заплаціў адзін шылінг уступных узносаў.
Такія маўклівыя гурткі чыткі збіраліся ў розных кутках горада. А паліцэйскія па-двое, па-трое шнырылі ўсюды, ганяючыся за нелегальным нумарам газеты «Квінстаўн Пост».
Але ніякіх інцыдэнтаў не адбылося.

* * *

На кірмашы вадзіцелі стракатых разбітых прыватных грузавікоў, што з'ехаліся з усіх канцоў краіны, заходзілі да Сяліны. І кожны выносіў ад яе сто экземпляраў забароненай газеты. Звычайна ў якой-небудзь жанчыны знаходзілі адзін нумар гэтай газеты. Але асноўную колькасць прапускалі, і грузавікі спакойна ехалі далей.
Да Сяліны ўвесь час заходзілі людзі. Яны аб нечым таропка і ціха гаварылі з ёй і зноў патаемна знікалі.

* * *

Доктар Эндура ўвайшоў у кабінет Смізерса і сеў у крэсла.
— Вітанне,— сказаў Смізерс і зірнуў на свой гадзіннік. — Да пачатку пасяджэння засталося пяць мінут. Сёння раніцай я бачыў губернатара. Яго непакоіць гэтае здарэнне з Удома.— Смізерс уважліва вывучаў твар госця. Ён так і не прыйшоў да якога-небудзь вываду наконт Эндуры. Гэтых чорных арыстакратаў не раскусіш.
Па вуснах Эндуры прабегла ўсмешка, у вачах засвяціліся смяшынкі. Гэта быў здаровы мужчына, ростам значна больш шасці футаў, моцна скроены. Сваё вялізнае цела ён нёс з лёгкай грацыяй.



— Толькі не гаварыце, што наш добры губернатар спалохаўся нейкага крыкуна,— недзе глыбока ў горле забулькаў яго смех.
— Гэта вельмі сур'ёзна! — выпаліў Смізерс. Гэты малойчык дзейнічаў яму на нервы сваім пявучым голасам з аксфордскім акцэнтам. Доктар філасофіі, што пакланяецца астанкам сваіх продкаў.
— Але я не жартую, мой даражэнькі. Я страшэнна сур'ёзны і занепакоены. Мая адукацыя асноўвалася на думцы, што англічане ніколі не палохаюцца. Падумайце аб тым, чым вы заваявалі сваю імперыю. Мабыць не тым, што кожны раз палохаліся, калі які-небудзь падбухторшчык падымаўся і выкрыкваў напоўпісьменныя лозунгі! Не падрывайце маёй павагі да бульдожнай пароды.
Смізерс стрымаў гнеў, які нарастаў у яго грудзях. Эндура ўбачыў гэта і засмяяўся, злёгку пагойдваючыся сваім вялікім целам.
— Лепш пойдзем на пасяджэнне, калі вы лічыце ўсё гэта жартам. Магчыма, яго правасхадзіцельства ўбачыць сутнасць справы.
— Ну, пойдзем, Смізерс...
«Якое нахабства»,— падумаў Смізерс.
Эндура працягваў:
— Праўленне — гэта ўменне кіраваць. Добрае праўленне — гэта майстэрства добра кіраваць, так, каб тыя, кім кіруюць, былі згодны. Цвёрды, упэўнены, другімі словамі, добры ўрад ведаў бы, як весці справу з Удома замест таго, каб круціцца, як у зачараваным коле.
— Думаю, вы б ведалі, як весці справу з Удома.
— Мы вялі справу з людзьмі яшчэ да таго, як вы выйшлі на арэну. Ва ўсякім разе, нашы продкі рабілі гэта.
— Атрутай і забойствам, ці не так?
— Ох, Смізерс! Вы ведаеце лепш за мяне, што ўрады не могуць забіваць. Яны могуць толькі караць правапарушальнікаў. А калі яны для гэтага вельмі слабыя, то павінны сыйсці з дарогі. Фактычна, яны амаль заўсёды сыходзяць з дарогі, калі ў іх ёсць розум.
— Куды вы гнеце?
З вуснаў Эндуры знікла ўсмешка, у голасе ўжо не было насмешлівасці.
— Ну, гэта вельмі проста, вы ж ведаеце. Я думаю, прышоў ужо час, каб вы перадалі руль кіравання ў нашы рукі...
— Што? Вы...
— Не трэба абурацца, Смізерс. Мы абодва спрактыкаваныя людзі, дык давайце ж спакойна паглядзім фактам проста ў твар. Мы з вамі ведаем, што мы трымаем вас тут не ад любві да вас. Вы нас заваявалі. Мы скарыліся магутнейшай сіле. Вы маглі кіраваць, пакуль мы паважалі вашу большую сілу. Але цяпер усё мяняецца. Ваша моц слабне, а міжнародны рух выступае супраць каланіяльных дзяржаў з такой сілай, што вы траціце ўпэўненасць у сваю боскую місію. Таму вашы губернатары робяцца нерашучымі. А народы пад кіраўніцтвам такіх гарачых галоў, як Удома, паўстаюць супраць вас. Якое тут выйсце? — Ён замоўк. На яго вуснах зноў зайграла ўсмешка, але не закранула вачэй.
— Скажыце ж вы мне, — холадна прагаварыў Смізерс.
— Я скажу. Я вельмі доўга чакаў такога становішча. І вось яно ўзнікла. Выйсце — у пераглядзе канстытуцыйнага падыходу з тым, каб уладу перадалі нам. Толькі мы можам вярнуць народ да ранейшага спакою, які парушыў гэты Удома. Вы, безумоўна, ведаеце, Смі-

зерс, вы нам спатрэбіцеся на вельмі, вельмі доўгі час. У вас ёсць умельства і найлепшая і самая спраўная ў свеце службовая сістэма, і трэба быць дурнямі, каб адмаўляцца ад яе. Напэўна, вы спатрэбіцеся нам сама меней яшчэ на паўстагоддзя, а можа і на большы час. Цяпер жа толькі мы, традыцыйныя кіраўнікі, можам аднавіць парадак, не ўжываючы насілля. Я сапраўды сумняваюся, ці зможа цяпер нават насілле паліцыі ці войск аднавіць трывалы парадак.

— Вы вядзеце гандаль за ўладу? — узарваўся Смізерс.

— Вядома. Калі вам гэта не да спадобы, узважце альтэрнатыву. І помніце, палітыка — гэта майстэрства магчымага, вядома, для разумных людзей. Наш сябар Удома без пакут сумлення падпаліў бы ўсю краіну. А мы абодва жадаем як мага хутчэй аднавіць у краіне закон і парадак.

— Але ж вы самі толькі сёння раніцай гаварылі, што праяўленне цвёрдасці аднавіла б сітуацыю.

— Я недаацаніў арганічнага неспакою народа. — Ён ціхенька засмяяўся.

— Гэта шантаж!

— Праўда? Ну дык канчайце з ім.

Смізерс адкінуўся ў крэсле і доўга сядзеў так, утаропіўшыся ў кут свайго кабінета.

«Старанна ўсё абдумай, містэр галоўны сакратар», — падумаў Эндура. Ад гэтай думкі ён адчуў задавальненне.

Нарэшце Смізерс зірнуў на яго.

— Здаецца, вы хочаце сказаць пра гэта на пасяджэнні?

— Калі вы не маеце нічога супраць. Я спадзяюся, што вы самі ўзнімеце гэтае пытанне, але...

— Пара ісці, — рэзка сказаў Смізерс.

Ля дзвярэй Эндура саступіў у бок. Смізерс прайшоў у дзверы і накіраваўся ў залу пасяджэння Выканаўчага Савета. За ім пайшоў Эндура.

* * *

Перад захадам сонца ў паліцыі з'явілася першае падазрэнне, што ў горадзе збіраюцца на чытку газеты. Заўзяты чарнаскуры інспектар паліцыі ўзяў на сябе кіраўніцтва некалькімі налётамі і зрабіў некалькі арыштаў. Калі пра гэта стала вядома яго белым начальнікам, іх апанавала роспач.

Пасля арыштаў Сяліну наведалі двое неграў-юрыстаў. Адзін з іх сказаў ёй:

— У палажэнні аб друку нічога не гаворыцца аб людзях, якія чытаюць газеты. Гэтыя людзі арыштаваны незаконна. Мы гатовы абараняць іх для вас, для партыі.

— Дык вам вядома пра партыю?

— Усім вядома. Мы хочам уступіць у яе.

— Прыходзьце сёння ўвечары да мяне на кватэру. Паслухаем, што скажа доктар Эдэбхай. Ён першы пасля Удома. Ён гаворыць за Удома, пакуль Удома не зможа гаварыць сам за сябе.

* * *

Джонс сказаў:

— Як яе прапусцілі?

— Гэты тэлеграфіст адзін з іх, сэр, — адказаў негр афіцэр ахоўнай паліцыі.



— З іх? — перапытаў Джонс.

Афіцэр *бездапаможна паціснуў плячыма. Джонс яшчэ раз прачытаў каблаграму:*

ЛЭНВУДУ 36 РЫДЖЭНСІ М'ЮЗ ЛОНДАН ТЭРМІНОВАЯ УДОМА АРЫШТАВАНЫ ПАЛАЖЭННЕ ДРУКУ КРОПКА КРАІНЕ НЕСПАКОЙ АБНАРОДУЙЦЕ — ЭДЭБХАЙ.

— Добра, ідзіце, — сказаў Джонс.

Афіцэр выйшаў. Джонс таропка прайшоў па калідоры ў кабінет Смізерса. Увайшоў, не пастукаўшы ў дзверы, і шпурнуў тэлеграму Смізерсу на стол. Смізерс адпусціў памочніка і прачытаў яе.

— Яна адпраўлена?

— Так.

Смізерс зняў тэлефонную трубку:

— Дайце бальніцу!.. Заўтра гэта будзе ва ўсёй прэсе метраполіі. А ў парламенце заўсёды знойдзецца дастаткова дурняў, якія падымуць шуміху... Ало. Так... Смізерс. Паслухайце, у вас ёсць такі Эдэбхай... Так. Дык яго трэба зараз жа звольніць, няважна, добры ён работнік ці не... Не, не, ён яшчэ не зацверджан. Так, я бяру на сябе ўсю адказнасць... Як звычайна, заганныя паводзіны. Ён заблытан у гэтай справе з Удома...

— Ён стаіць за гэтай новай партыяй, — сказаў Джонс.

— Джонс толькі што сказаў, што ён арганізатар гэтай новай партыі. Не... не... Так, справа пачынае рабіцца непрыемнай. Мне званілі з другіх месц. Гэтыя праклятыя газеты ўсюды... Правільна... — Ён даў адбой і паглядзеў на Джонса. — А што здарылася яшчэ?

— Ходзяць чуткі пра нейкі сход, які адбудзецца сёння позна ўвечары.

— А што з гэтымі гурткамі чыткі?

— Вы ж ведаеце, тут нейкае непаразуменне. Іх юрысты збіраюцца даць бой. З пункту гледжання закону мы не абвясцілі надзвычайнага становішча, а наш інспектар дзейнічаў так, быццам мы ўжо абвясцілі.

— Цяпер нічога ўжо нельга зрабіць, — сказаў Смізерс. — Прыдзецца абвясціць такое становішча, калі так пойдзе і далей.

— Бяда ў тым, што нічога не здарылася... — сказаў Джонс і потым дадаў: — яшчэ.

— Вось гэта і ёсць самае дрэннае! Што мы даведаліся пра гэтую жанчыну Сяліну?

— Адна з буйнейшых і самых аўтарытэтных купчых. Гандлюе ўсім. Ніхто не ведае, колькі ў яе грошай. Разлічваецца наяўнымі нават калі справа даходзіць да тысяч. Гордая, асабліва з еўрапейцамі. І яшчэ больш пасля звароту з Англіі. Яна ехала назад на тым жа параходзе, што і Удома. І разумна дапусціць, што там ён яе і абваражыў.

— А чаго яна ездзіла ў Англію?

— Гэтага ніхто не ведае. Па маіх вестках, яна паехала з намерам прабыць там тры месяцы, але ўжо праз тыдзень пасля прыбыцця заходзіла ў параходную кантору. Учыніла там цэлую бучу, калі ёй сказалі, што да канца трох месяцаў яны не змогуць даць ёй месца. Падобна на тое, што яна дабралася да лонданскай канторы Пан-Афрыканскай кампаніі, і яны націснулі на ўсе кнопкі. Яна ў іх — адзін з буйнейшых індывідуальных кліентаў. Цікава, што да паездкі ў Англію яна вельмі прыязна адносілася да іх служачых у нашай краіне. Неаднаразова запрашала іх да сябе выпіць. Ну, як звычайна гэта робяць. Але пасля яе

звароту ўсяму гэтаму прышоў канец. Пан-Афрыканскі прадстаўнік, які знаходзіцца тут, паведаміў мне, быццам яна яму проста, без хітрыкаў сказала, што ў далейшым будзе браць у іх толькі тое, чаго не зможа дастаць у другіх месцах, і што яна зусім перастане ў іх купляць, як толькі другія змогуць задавальняць яе патрэбы. Індыйскія імпарцёры ўжо завязалі з ёю ажыўлены гандаль японскімі таварамі. І ўсё гэта пасля яе звароту.

— Але чаму? Па-першае, чаго яна ездзіла? І чаму з'явіўся цяпер гэты антыбрытанскі настрой?

— На ваша апошняе пытанне, Смізерс, я магу адказаць, узяўшы на сябе смеласць зрабіць здагадку. Сяліна зусім непісьменная і па сваёй прыродзе ўсё яшчэ знаходзіцца пад уплывам племянных уяўленняў. Мы гаворым ім тут, што ўсе яны брытанцы. Ці нельга падумаць, што яна паехала туды, як едуць у маці-краіну гэтай імперыі, аб якой мы ім так многа гаворым? А цяпер падумайце аб усіх тых выпадах супраць каляровых, якія маглі закрануць і першабытную матулю, якая гуляе па Лондану са сваім тато за спіной. Свайму ўласнаму народу мы столькі не нагаварылі аб сваёй імперыі і садружнасці, колькі нагаварылі самаму непісьменнаму з гэтых людзей. Мы ўжо занадта часта забываем, што маем справу з гордым народам.

— Ведаеце, Джонс, — спакойна сказаў Смізерс, — я пачынаю думаць, што зусім не разумею гэтых людзей. Вазьміце, напрыклад, Эндуру. Я ведаю яго па працягу многіх год, а тут сёння я раптам убачыў яго ў новым святле. Ён аказаўся зусім не такім чалавекам, як я ўвесь гэты час думаў... — Смізерс перадаў Джонсу сваю гутарку з Эндурай.

Раптоўная хваля жалю захліснула Джонса. Смізерс раптам паказаўся яму так безнадзейна, так небязгрэшна чалавечным. Ён неяк своеасабліва верыў у Эндуру. Нягледзячы на ўсе свае насмешкі над акцэнтам Эндуры, над яго пакланеннем перад астанкамі продкаў, Смізерс да гэтага верыў у тое, што яны падзяляюць з ім агульныя ідэалы, і Эндура ўбачыць і ацэніць станоўчыя дасягненні брытанскага праўлення. Ён глядзеў на Эндуру, як на новы тып афрыканца, які свядома і з падзякай вучыцца ў брытанскіх настаўнікаў майстэрству заходняга цывілізаванага праўлення. І раптам Эндура выступіў са сваёй шантажысцкай ідэяй...

— У нас цяжкая і няўдзячная праца, — сказаў ласкава Джонс, падумаў хвілінку, а потым дадаў: — А ў вас больш, чым у каго-небудзь з нас.

Ён падняўся і хуценька выйшаў.

«Так, мне канец, — падумаў Смізерс. — Я памыляюся наконт усіх? — Але яму стала лепш, значна лепш. — Лаяльнасць у цяжкія часы — вось чаму прыдзецца павучыцца гэтым людзям. І ім прыдзецца навучыцца гэтаму ад нас».

* * *

Той ноччу было афіцыяльна абвешчана аб стварэнні Афрыканскай партыі свабоды. На доўгім і вузкім участку зямлі на паўночнай ускраіне горада сабраўся статысячны натоўп людзей. У цемры пры слабым святле маладога месячыка Эдэбхай абвясціў праграму новай партыі: СВАБОДА.

Сяліна прапанавала абраць Удома пажыццёвым лідэрам, старшынёй і прэзідэнтам партыі. Потым чытала ім прысягу вернасці Удома і новай партыі. Нечакана ва ўсіх канцах гэтага вялікага сходу загарэлася полымя факелаў. Юнакі трымалі іх высока над сабою.

— Мы, народ Панафрыкі... — сказала Сяліна.

«Мы, народ Панафрыкі...» — рэхам адгукнуўся натоўп.

— Клянемся ў неўміручай вернасці Афрыканскай партыі свабоды...

«Клянемся ў неўміручай вернасці афрыканскай партыі свабоды...»

— І яго вялікаму і любімаму правадыру...

«І яго вялікаму і любімаму правадыру...»

— Удома!

«Удома!»

— Мы пойдзем за ім...

«Мы пойдзем за ім...»

— Да СВАБОДЫ!

— «Да СВАБОДЫ!»

Потым стары, вельмі стары чалавек падышоў да імправізаванага гучнагаварыцеля і пачаў шэптам маліцца, каб іх продкі суправаджалі іх у гэтым вялікім пачынанні.

* * *

Галоўны сакратар і начальнік службы бяспекі сядзелі ў аўтамашыне з краю гэтага велізарнага сходу. Ніхто не звяртаў ніякай увагі ні на іх, ні на дзесяткі паліцэйскіх, што снавалі ў натоўпе.

— Я б не паверыў у гэта! — сказаў Смізерс. — І цяпер не веру. Быццам звяртаешся ў мінулае. Як быццам нас тут ніколі і не было!

— Ці ў будучае. Мабыць патрошку і таго і другога, — сказаў Джонс. — Я баюся, што сапраўднасць зрабіла нашы лепшыя намеры нічога не вартымі. Мы аддалі ініцыятыву ў рукі Удома.

— Каб ён праваліўся, — са злосцю сказаў Смізерс.

— Ён толькі іскра, — заўважыў Джонс. — Становішча чакала яго. Але, я думаю, вы згодны, што ў тым, як ён зразумеў становішча і як ён яго выкарыстаў, ёсць элемент велічы.

— Вы звар'ячэлі! — узарваўся Смізерс. — Якая тут веліч!

У цемры Джонс усміхнуўся.

— Ну, нам лепш ісці адсюль. Ноччу многа будзе работы. Цяпер мы павінны ісці па цячэнню і паспрабаваць правесці карабель паміж рыфаў. А гэта будзе не лёгка... Шафёр, ад'язджайце.

* * *

Турма знаходзілася на ўзгорку, вышэй губернатарскага палаца. За кратамі, у невялічкай камеры Удома да болю ў суставах сціскаў жалезныя пераўкладзіны. Ён пільна ўглядаўся ў тысячы мігаючых агнёў. За яго спіной стаяў адвакат.

— Цяпер яны даюць клятву, — сказаў адвакат.

— Вы гаворыце — сто тысяч? — Удома не хапіла дыхання.

— Больш, — сказаў юрыст. — І ў другіх месцах тое ж самае.

Удома стаяў на дыбках, прыціснуўшыся да кратаў, пакуль не пагаслі агні. Тады ён заплюшчыў вочы. О, Маці-Афрыка! Маці-Афрыка! Яго вочы напоўніліся слязьмі. Слёзы пацяклі па шчоках. Ён адпусціў краты і павярнуўся да адваката.

— Ідзіце, мой сябар.

— Але нам трэба падрыхтавацца да працэсу. Ён пачынаецца заўтра.

Скрозь слёзы Удома ўсміхнуўся, гэта была ўсмешка, нібы асветленая сонцам.

— Няўжо вы не разумееце, што адбылося, дружа! Цяпер працэс нічога не значыць. Мы можам заняцца гэтым у любы час заўтра. У любы час. Ідзіце!.. Ідзіце да народа і скажыце: «Удома стаяў ля акна сваёй турмы, сціскаў краты і глядзеў праз іх. І ён убачыў агні і зразумеў, што яны даюць клятву. Тады ён заплакаў». Скажыце ім гэта. Дык ідзіце ж, дружа!

Адвакат пайшоў. Удома адышоў ад акна і сеў на свой цвёрды турэмны ложак, усміхаючыся скрозь слёзы. У яго вачах з'явіўся новы бляск.

Гэтая маленькая камера, гэтая турма былі варотамі ў свабоду.

Я адамкнуў твае дзверы, Маці-Афрыка! Я адамкнуў гэтыя дзверы!

## Раздзел другі

### 1

Вялікі натоўп маўкліва сачыў, як прышвартоўваўся параход. Каля таможні з аўтамабіля Афрыканскай партыі свабоды грымеў рэпрадуктар:

— Наша партыя вітае вас, Лэнвуд! Партыя вітае вас, Мхендзі! Афрыка вітае сваіх двух вялікіх сыноў! Няхай жыве свабода Афрыкі! Няхай жыве Афрыканская партыя свабоды! Няхай жыве наш лідэр Удома! З добрым прыбыццём!

У рэпрадуктары сціхла, а потым зноў пачуліся тыя самыя словы.

Пачалі ставіць сходні. Натоўп падаўся наперад. Белыя пасажыры саступілі ўбок. Вочы Лэнвуда блішчалі. Яго цёмны твар ззяў радасцю. Ён дакрануўся да рукі Мхендзі.

— Божа мой!— прамармытаў ён.

— Сходзьце,— прашаптаў Мхендзі.

Лэнвуд пачаў сыходзіць першы. За ім — Мхендзі.

— Яны ідуць!

Гучны крык узняўся над натоўпам. Радыст паставіў грамафонную пласцінку. У паветры паплылі гукі вясёлай танцавальнай музыкі пад акампанемент барабанаў. Жанчыны прыкладалі рукі да вуснаў і падпягвалі тонкімі, зычнымі галасамі. Вялікі натоўп пагойдваўся ў такт музыцы.

Не дайшоўшы да канца сходняў, Лэнвуд прыпыніўся і праз плячо зірнуў на Мхендзі. На яго вачах блішчалі слёзы. Ён мітусліва корпаўся ў кішэнях, шукаючы насавой хустачкі.

— Ну, ідзіце ж,— мякка сказаў Мхендзі.

Лэнвуд павярнуўся, і людзі ўбачылі на яго твары слёзы. Калі ён ужо быў на апошняй ступеньцы сходняў, адна жанчына прарвалася праз ланцуг паліцыі, сцягнула Лэнвуда на зямлю і пацалавала яго. Зноў пачуўся дружны крык людзей. Рэпрадуктар загрымеў:

— Разам з Удома яны абдумвалі планы нашага вызвалення! З добрым прыбыццём!

Ззаду натоўпу прыпынілася вялікая легкавая машына, афарбаваная, як і радыёаўтамабіль, у чорны і чырвоны колеры. Музыка змоўкла. Пачуліся крыкі:



— Удома! *Прыехалі Удома і Эдэбхай!*

Стала зусім ціха, калі Удома разам з Эдэбхаем выйшлі з машыны. Іх вопратка нагадвала рымскія тогі — вялікія кавалкі тканіны, завязаныя на плячах вузлом. Натоўп расступіўся, утварыўшы вузкі праход да сходняў. Удома шпарка пайшоў наперад, на яго твары свяцілася шырокая ўсмешка, вочы гарэлі.

— З добрым прыбыццём, Том, Мхендзі! Вітаю вас!

— Майк...— усхвалявана прамовіў Лэнвуд.

— Вітанне, браты!— Эдэбхай заліўся шчаслівым смехам.

Удома абхапіў адной рукой Лэнвуда, а другой Мхендзі.

— Стойце так, сэр!— нешта бліснула і шчоўкнула.

— Якая сустрэча!— усклікнуў Мхендзі.

— Ты яшчэ нічога не бачыў!— сказаў Эдэбхай.— Пачакай!

— Як ехалі?— спытаўся Удома.

— Як каралі,— адказаў Лэнвуд.— Як маешся, Майк? Колькі часу прайшло! Божа!

— Добра.— Удома ўскінуў вочы на параход.— Калі ехаў я, са мной абыходзіліся, як з быдлам. Я рады, што яны чаму-небудзь ды навучыліся.

Лэнвуд расправіў плечы.

— На параходзе белыя прабавалі пабратацца з намі, але мы адціснулі іх. Усе яны крывадушныя.

Удома рассеяна кіўнуў галавой. Мхендзі ўважліва сачыў за ім. «Ён перамяніўся,— падумаў Мхендзі,— але ў які бок?»

— Нас чакаюць,— сказаў Эдэбхай.

— Так,— пацвердзіў Удома.— Пойдземце.— Ён павёў іх да вялікай аўтамашыны.— Перад тым, як сесці, памахайце рукамі. Народ будзе рады.

Траім неграм-фотакарэспандэнтам патрэбны былі іх фота, і ўсе яны пазіравалі ім каля машыны. З рэпрадуктара зноў палілася музыка. Удома памахаў натоўпу рукой. Жанчыны зноў пранізліва закрычалі. Лэнвуд з Мхендзі таксама памахалі рукамі і ўслед за Удома селі ў машыну. Калі машына кранулася і паехала, зноў пачуліся гучныя воклічы.

* * *

Наверсе, на борце парахода, адзін з белых людзей, што ўпершыню прыехалі сюды па справах Пан-Афрыканскай кампаніі, сказаў чалавеку, які яго сустракаў:

— Дзякуй богу — паехалі! Цяпер можна пачынаць выгружацца. Вось дык цырк!

— Тут лепш не рабіць заўваг,— спакойна сказаў яго спадарожнік.— Нават у прысутнасці сваіх слуг.

— Я нічога такога не хацеў сказаць,— запратэставаў навічок.

— Я ведаю, дружа. Але яны паглядзелі б на гэта інакш. Усё тут вельмі складана. Яны крыўдуюць страшэнна. Усім нам трэба сачыць за кожным сваім крокам, калі разлічваем і надалей тут гандляваць. Ведаеце, у першыя дні перамены яны спалілі нашы таварныя склады. Гэта абышлося нам у кругленькую капейку. Трымайцеся правіла: кланяйцеся і далікатнічайце з усімі. І не ўступайце ў палітычныя ды-

скусіі. Цяпер яны выйшлі на сцэну. А мы тут толькі гандляры. Забудзьцеся на ўсё, што чулі пра Афрыку і афрыканцаў, іначай зваліцеся з сядла, ва ўсякім выпадку, тут, у гэтай частцы Афрыкі.

— Разумею... — недаверліва прамармытаў навічок.

— Былыя часы прайшлі, — сказаў стары служака з жалем. — Пойдземце, дружа.

* * *

Машына імчала цераз горад. То тут, то там дамы былі ўпрыгожаны кавалкамі выцвілай тканіны; то тут, то там пад праменнямі ранішняга сонца нерухома звісалі чырвона-чорныя сцягі Афрыканскай партыі свабоды. «Чырвоныя, як кроў народа, чорныя, як іх радзіма». І дзе б ні праязджала машына, людзі выходзілі на вуліцу махалі рукамі, крычалі словы прывітання.

Лэнвуд не мог апамятацца. Ён сядзеў, трымаючы руку Удома, і кожныя некалькі мінут паўтараў:





— Божа мой, Майк! Божа, якое дасягненне! Якая сустрэча!

Эдэбхай сядзеў, абняўшы за плечы Мхендзі.

Удома нахіліўся ўперад і паклаў руку на калена Мхендзі.

— Ну, браце, што ты пра нас думаеш?

— Усё гэта выклікае ў мяне трывогу аб нашай уласнай барацьбе, аб Плюраліі,— адказаў Мхендзі.— Мяне пачынаў ахопліваць адчай — ты напісаў мне толькі праз год пасля таго, як стаў на чале ўлады, але і тады не запрашаў мяне сюды. Я думаў, што ты забыўся на мяне.

— Я вачам сваім не паверыў, калі прышла твая тэлеграма, — сказаў Лэнвуд.

— Амаль два гады...— заўважыў Мхендзі.

— Такія рэчы хутка не робяцца— адказаў Удома.— Нам прышлося добра паваяваць, перш чым запрасіць вас сюды.

— Многае яшчэ ў іх руках,— прамовіў Эдэбхай.— Але мы да ўсяго дабярэмся.

— Вы ж ведаеце, якія яны хітрыя,— сказаў Удома.— Трэба быць вельмі асцярожнымі.

— Нішто цяпер не можа нас спыніць!— усклікнуў Лэнвуд, яго чорны твар загарэўся чырванню.

І зноў Мхендзі прыкмеціў, што, як і там, на прыстані, Удома не звярнуў увагі на словы Лэнвуда.

— Нашы планы наконт мяне ўсё яшчэ ў сіле? — спакойна спытаўся Мхендзі.

— Аб гэтым пагаворым потым,— адказаў Удома.— Галоўнае — ты цяпер тут.

— Так, — сказаў Мхендзі. — Нарэшце, я вярнуўся ў Афрыку.

Раптам Удома нахіліўся ўперад і схапіў яго руку.

— Не турбуйся, браце...— у яго голасе пачуліся старыя сяброўскія ноткі тых лонданскіх дзён.

Мхендзі супакоіўся і ўсміхнуўся.

Машына праімчалася цераз хрыбет невысокага ўзгорка.

— Паглядзіце!— сказаў Эдэбхай.

Яны былі ўжо на заходняй ускраіне горада, і наперадзе, вакол высокага драўлянага памосту, не звяртаючы ўвагі на спякотнае ранішняе сонца, тоўпіліся тысячы людзей. З рэпрадуктараў, якімі была абвешана ўся гэтая велізарная плошча, несліся гукі музыкі.

— Гэта Плошча Свабоды,— сказаў Удома.

— Вось тут была заснавана наша партыя,— сказаў Эдэбхай.—Тут усе мы далі клятву ў дзень арышту Удома. Вось чаму мы і назвалі яе Плошчай Свабоды. Калі-небудзь на гэтай плошчы вырасце будынак нашай партыі. Тут абвяшчаюцца народу ўсе нашы важнейшыя рашэнні.

Калі натоўп убачыў машыну, з тысяч грудзей вырваўся гучны вокліч.

— Я напішу гісторыю гэтай бяскроўнай рэвалюцыі!— усклікнуў Лэнвуд.

Машына спынілася. Удома павёў усіх да трыбуны. Сярод мноства людзей ён ішоў лёгка і спакойна. Часам яго прыпыняў мужчына або жанчына. Ён уважліва слухаў, што яны гаварылі. Іншы раз вымаў са складак сваёй тогі блакнот і аловак і нешта запісваў.

Сяліна і другія партыйныя дзеячы стаялі ўжо на трыбуне. Удома падышоў да мікрафона. Ён гаварыў спакойна, нібы звяртаючыся да кожнага паасобку.

— Вы помніце, я гаварыў вам тут, на мітынгах, а таксама пісаў у газеце пра людзей, што былі са мной, калі я марыў аб свабодзе, якую мы цяпер заваявалі. Вы ведаеце Эдэбхая. Ён увесь час знаходзіцца сярод вас. Ён і Сяліна стварылі нашу партыю, пакуль я быў там.— Ён паказаў на турму, што стаяла на вяршыні ўзгорка.— Але ў той час, як Эдэбхай, і Сяліна, і ўсе вы змагаліся тут, гэтыя людзі, пра якіх я гаварыў і пісаў,— мае браты,— змагаліся за нас у чужой і халоднай краіне зброяй сваіх вусных і друкаваных слоў. Вы чыталі тое, што яны пісалі ў нашай газеце. Цяпер яны прыехалі да нас. Доўгі час пайшоў на тое, каб дабіцца іх прыезду сюды. Мы не атрымалі яшчэ ўсёй свабоды, да якой імкнемся. Чужыя людзі ўсё яшчэ кантралююць многія рэчы ў нашай краіне. Ёсць такі звер, ён называецца — іміграцыяй, і ён знаходзіцца ў іх руках. Памятаеце, я расказваў вам, што было, калі я прыехаў на радзіму? Перш чым нам дазволілі сыйсці на бераг, Сяліне і мне прыйшлося чакаць, пакуль не сыйдуць белыя людзі. Гэта толькі часцінка таго, што завецца іміграцыяй. Але сёння мае браты,— а яны, як вы бачыце, чарнаскурыя,— сыйшлі на бераг першымі. Вы бачыце, што мы ўтаймоўваем звера і ўжо нядоўга чакаць, калі ён трапіць у нашы рукі, і мы будзем загадваць яму, як чалавек загадвае сабаку. Такім шляхам мы возьмем у свае рукі ўсё, з чаго складаецца свабода. Але калі хто-небудзь паспрабуе супраціўляцца, мы ўжывем другія метады. Правільна?

Над плошчай загрымела і ўзнялося высока ў неба:

— Правільна!

— Дык вось, яны не хацелі пускаць сюды маіх братоў, але я быў цвёрды. І цяпер мае браты тут. Мы зможам быць цвёрдымі, калі спатрэбіцца наша цвёрдасць. А цяпер вось што. Вы ўсе, мае сябры, чулі аб краіне, што завецца Плюралія, дзе яшчэ белыя з'яўляюцца гаспадарамі нашых братоў афрыканцаў. Сёння наш народ не мае там ніякіх правоў. Я гавару з вамі цяпер як афрыканскі нацыяналіст, як лідэр вашай партыі. Аднак я не магу гаварыць так ад імя ўрада нашай краіны. Вы гэта разумееце. Як лідэр вашай партыі, я гавару, што наш народ не мае там ніякіх правоў. Яны змагаліся за свае правы, але іх бязлітасна задушылі. Аднак яны зноў паўстануць. І прыйдзе дзень, калі і яны будуць свабоднымі. Дык вось, тут знаходзіцца мой брат Дэвід Мхендзі, правадыр нашых прыгнечаных братоў у Плюраліі. Вітайце яго, прыміце яго так, каб тыя белыя з Плюраліі ведалі пра ваш настрой!

Удома падвёў Мхендзі да мікрафона. У натоўпе раздаліся воклічы.

— Не гавары прамовы,— прашаптаў Удома.

— Я вельмі шчаслівы, што я тут,— сказаў Мхендзі.— Вельмі шчаслівы, што зноў знаходжуся ў Афрыцы. Дзякую вам за вашы прывітанні.— Ён зноў сеў на сваё крэсла.

Удома ўзяў Лэнвуда пад руку і падвёў да мікрафона.

— Не гавары прамовы, Том. — У мікрафон ён сказаў: — А вось мой сябар адзін з найвялікшых палітычных настаўнікаў — Том Лэнвуд. Яго імя ўсім вам вядома. Ён даў нашаму пакаленню словы свабоды. Прывітайце яго!

Зноў над натоўпам узняўся гучны крык.

— Сябры мае!— пачаў Лэнвуд.— Афрыканскія браты і сёстры! Гэта найвялікшы дзень у маім жыцці! Гэта ўзнагарода за ўсе гады барацьбы і пакут.— Яго голас наліўся сілай.— Гэта таксама слаўны пачатак вялікага руху афрыканскіх народаў усяго кантынента, і Плюраліі таксама, наперад да сваёй канчатковай мэты — вызвалення ад імперыялістычнай і капіталістычнай эксплуатацыі...



Удома настойліва пацягнуў яго за рукаў. Лэнвуд змоўк. Удома падышоў да мікрафона.

— Цяпер вы ўбачылі маіх братоў. Вы ўбачыце іх зноў. Пазней для гэтага будзе час, час для гутарак і забаў, бо ім трэба будзе чым-небудзь пазабавіцца пасля тых доўгіх гадоў сярод халодных людзей у халодных краінах. Пакажыце ім наша цяпло! Помніце, яны мае госці, мае браты, дык няхай яны будуць і вашымі. А цяпер апошняе. Вы памятаеце, я гаварыў вам пра нашу вялікую патрэбу ў адукацыі, калі толькі наш народ хоча ўзяць у свае рукі ўсе органы кіравання. Перш чым здзейсніць афрыканізацыю, нам патрэбна мець спецыялістаў ва ўсіх галінах жыцця. А гэта значыць, што трэба вучыцца. У гэтым годзе заграніцу едуць вучыцца дзве тысячы мужчын і жанчын. І мы цяпер распрацоўваем законапраект аб бясплатным і абавязковым навучанні кожнага дзіцяці ў нашай краіне. Гэта нашы планы на будучае. На ўсё гэта спатрэбяцца грошы. Савет Нацый адпраўляе да нас дэлегацыю для вывучэння нашых патрэб. Я раскажу ім пра нашы патрэбы. Але мы не павінны залежаць ад іншых. Мы самі павінны даць на гэта сродкі. Калі ўсё будзе прадумана, я прыду і раскажу вам, як заўсёды гэта раблю.— Ён узняў над галавою руку ў партыйным салюце.

Народ шумна выказаў сваё адабрэнне.

З магутных рэпрадуктараў зноў панесліся гукі музыкі. Дзесяткі людзей ускочылі на трыбуну, каб паціснуць рукі Мхендзі і Лэнвуду. Невялічкімі групкамі, смеючыся і размаўляючы, людзі пачалі спускацца ў горад. Дзяўчаты, члены партыі, у сваіх чырвона-чорных формах ажыўлена прадавалі чырвона-чорныя кветкі. Адна прыгожая дзяўчына прышпіліла да пінжакоў абодвух ганаровых гасцей самыя вялікія кветкі. Удома стаяў крыху ўбаку і ўважліва да ўсяго прыглядаўся.

Мхендзі падумаў: «Цяпер у яго вачах няма сцягаў, яны ўсе вакол яго, і як ён ад гэтага пасталеў, якім стаў стрыманым!» Мхендзі ўбачыў, як босая жанчына падышла да Удома і аб нечым з ім загаварыла. «Яна тут галоўная асоба»,— вырашыў Мхендзі. Удома кіўком галавы падазваў яго да сябе. Ён падышоў. Лэнвуд быў вельмі заняты. Юнакі, члены партыі, абступілі яго з усіх бакоў і на кавалачках паперы ён пісаў ім свае аўтографы і адказваў на пытанні. На твары яго ўвесь час свяцілася бацькоўская ўсмешка.

— Сяліна паклапоціцца аб табе,— сказаў Удома.— Нам трэба ісці ў сакратарыят. Калі табе што трэба, не саромейся, прасі. Сёння ўвечары ўбачымся. Вельмі шкада, што не можам пабыць з табой — шмат чаго трэба зрабіць.

— Я разумею,— сказаў Мхендзі.

Эдэбхай праціснуўся да Лэнвуда і сказаў, што пара ўжо ісці. Лэнвуд нешта безуважліва адказаў. Тады Удома і Эдэбхай пайшлі, і натоўп пачаў хутка разыходзіцца. Толькі Лэнвуд усё яшчэ трымаў каля сябе людзей. Ён нешта горача даказваў, суправаджаючы свае словы ўзмахамі рук. Сяліна сачыла за Лэнвудам. «Трэба было папярэдзіць Тома,— рашыў Мхендзі,— ён паводзіць сябе, быццам усё яшчэ знаходзіцца ў Англіі. Надта доўга не было яго ў Афрыцы. Ён адарваўся ад жыцця і можа наламаць дроў»...

— Ваша сустрэча кранула мяне,— сказаў Мхендзі Сяліне.— Не хапае слоў, каб перадаць, як радасна ў мяне на сэрцы.

На халодным, суровым твары жанчыны мільганула ўсмешка. Яна пагладзіла яго па рукаву сваімі доўгімі, хударлявымі чорнымі пальцамі.

— Гэтая сустрэча — ад нашых сэрцаў, дружа. Не ўсе ведаюць, чаго вы прыехалі, а я ведаю. У нас адна барацьба. Не адчувайце сябе чужаком. Пазней мы з вамі ўдваіх пагаворым пра тое, аб чым вы марыце... Ваш сябар увесь час гаворыць... — з яе твару сыйшла прыязнасць.— Калі ён скончыць, мы пойдзем да мяне. Вы там адпачнеце і паясцё.

— Я паклічу яго. Ён усхваляваны сустрэчай.

Мхендзі пайшоў да другога канца трыбуны, прабіваючыся скрозь цесную групу моладзі.

— Том! Канчай, дружа! Хадзем, Сяліна нас чакае.

— Я буду з вамі праз хвіліну.

— Зараз жа, Том!

— Не магу ж я, дружа, пакінуць гэтых маладых людзей на паўслове!

— Прашу цябе, Том! Падумай, дзе ты!

— Ідзіце, са, ідзіце!— сказаў адзін з маладых людзей.—Сяліна гэта не хто-небудзь.

— Добра,— з прыкметным намаганнем Лэнвуд стрымаў сваё нецярпенне.— Але мы сустрэнемся зноў. Я прыехаў не з публічным візітам, а для таго, каб працаваць для рэвалюцыі. Вы, моладзь, будучае рэвалюцыі. Вы павінны разумець свет, у якім жывеце. Мы...

— Хадзем жа, Том!

Сярдзіты агеньчык бліснуў у вачах Лэнвуда. Моладзь пачала разыходзіцца.

— Бывайце, са!

— Да пабачэння, са!

Падышла Сяліна.

— Машына чакае.

— Прабачце, што затрымалі вас,— сказаў Мхендзі.

— Нічога.

— Цудоўная моладзь!— сказаў Лэнвуд.— Радасна жыць у такую пару, у пару рэвалюцыі.

— Пойдзем, — сказала Сяліна.

Таксама, як і машына Удома, яе аўтамабіль быў афарбаваны ў колеры партыі і над ім развяваўся чырвона-чорны сцяг; як і шафёр Удома, яе вадзіцель быў апрануты ў чырвона-чорную форму. Яны ад'ехалі пад развітальныя воклічы тых, хто яшчэ застаўся на плошчы. Следам за імі ішла машына, у якой сядзелі некалькі партыйных функцыянераў.

У Сяліны іх чакаў банкет. Сабраліся ўсе выдатныя партыйныя дзеячы. На партыйнай Асамблеі быў абвешчан перапынак, таму тут прысутнічала большая частка членаў Асамблеі. Увесь дзень весяліліся, гутарылі. Пад вечар перад домам Сяліны выступалі танцоры і спевакі. Потым Сяліна прапанавала Лэнвуду і Мхендзі адпачыць, пакуль не прыдзе Удома. Яна спачатку паказала пакой Лэнвуду, а потым павяла Мхендзі. Мхендзі быў у вельмі добрым настроі. Яны ішлі па калідоры, трымаючыся за рукі.

— Мхендзі, паслухайце ўважліва, што я скажу,— сказала Сяліна.— Два гады назад, а мо' і больш, застрэлілі вашу жонку. Я бачыла яе фотаздымак. Тая, з кім я вас зараз пазнаёмлю, падобна на яе. Я адшукала яе спецыяльна для вас. Калі вы захочаце, яна будзе вашай жонкай — бо ў вас абаіх кроў Афрыкі. Яе завуць Марыя...



2

— А цяпер можна і пагаварыць.

Удома адкінуў галаву на падушку крэсла. Было блізка да паўночы, яны сядзелі ў гасцінай прыгожага новага будынка, які партыя пабудавала для Удома.

— Які цудоўны дзень! — задаволена сказаў Лэнвуд.

— Раскажыце нам, — сказаў Мхендзі. — Вы ж гэта ўсё перажылі. Раскажыце нам тое, аб чым прамаўчалі газеты.

— Як мне тады хацелася быць з вамі! — усклікнуў Лэнвуд.

— Вы былі больш карысныя там, дзе знаходзіліся, — сказаў Эдэбхай. — А Удома быў больш карысным у турме, чым на волі.

— Бачыце! — усміхнуўся Удома. — Я ўсяго толькі фігура. Партыю стварылі Эдэбхай і Сяліна. Сапраўдная ўлада ў іх. Га, Эд?

Вочы Удома блiснулі ўсмешкай, але Мхендзі адчуў у яго словах нешта сур'ёзнае.

Смяшок Эдэбхая ператварыўся ў рогат. Ён падышоў да століка з напіткамі, зноў напоўніў сваю шклянку і паднёс Мхендзі бутэльку з віскі. Удома дакрануўся вуснамі да сваёй шклянкі з вінам і паставіў яе на месца.

— Цяпер яго называюць джокерам, — сказаў Эдэбхай.

— Бачыце... Яны нават насміхаюцца з мяне ў вочы. Джокер Удома.

— Ну, дык расказвайце, хлопцы.

— Раскажы ім, — сказаў Удома.

Удома павярнуў галаву і зірнуў на Эдэбхая. На вуснах яго блукала загадкавая ўсмешка.

— Ведаеце,— пачаў Эдэбхай,— у той самы дзень, калі выйшла газета, улады хацелі канфіскаваць яе. Яны прабавалі гэта зрабіць, але мы вывезлі яе з-пад самага іх носа. Меней чым праз дванаццаць гадзін Сяліна арганізавала дзейсную кантрабандную арганізацыю. Акрамя таго, мы стварылі гурткі чыткі, каб як мага больш людзей пачулі гэты заклік. Абавязкам кожнага пісьменнага чалавека — мужчыны, жанчыны ці дзіцяці — стала чытанне заклiку хоць бы дзесятку непісьменных. Вось чаму партыйная газета завецца цяпер «Заклік». Усё гэта мы зрабілі ў дзень арышту Удома. У тую ж ноч мы стварылі нашу партыю. Назаўтра раніцай мы надрукавалі лістоўку аб тым, што ён плакаў. Гэта ўсхвалявала народ. Аб працэсе вы ведаеце. Іменна тады пачалі злятацца сюды карэспандэнты з усяго свету. А яго прамова на працэсе, у якой ён заклікаў да ўсеагульнай забастоўкі, паклала канец усяму і прыкончыла ўрад. На другі дзень ніхто не выйшаў на работу. Тады яны абвясцілі надзвычайнае становішча. Забаранілі партыю і ўсялякія сходы...

— І ўвесь гэты час, усе тыя тры месяцы, я бескарысна валяўся на турэмным ложку, — сказаў насмешліва Удома.

— Але партыя перайшла ў падполле і працягвала сваю дзейнасць. І тады Рослі кінуў сваю апошнюю карту. Ён апублікаваў праект новай канстытуцыі і абяцаў, што яна ўвойдзе ў сілу на працягу месяца пасля

аднаўлення работы. Урад і Савет правадыроў і старэйшын сур'ёзна думалі, што такім чынам яны абыйдуць партыю і тым самым падарвуць наш уплыў.

— Яны ледзь не дабіліся свайго, — спакойна ўставіў Удома. — Нягледзячы на надзвычайную забарону публічных сходаў, урад дазволіў Эндуры раз'язджаць па краіне, выступаць перад народам і растлумачваць, што новая канстытуцыя з'яўляецца яго ідэяй. Некаторы час ужо здавалася, што народ пайшоў за Эндурай.

Эдэбхай працягваў:

— Але тады за працу ўзяліся Сяліна і яе жанчыны. Яны кінулі свае справы і хадзілі ад вёскі да вёскі, з горада ў горад і гутарылі з народам. Яны не адкрывалі публічных мітынгаў. Ішлі з хаты ў хату і гаварылі з людзьмі ў іх дома. Адліў змяніўся прылівам, і зноў пачало нарастаць супраціўленне.— Раптам Эдэбхай зарагатаў на ўвесь пакой. — Ведаеце, Том, Эндура прыехаў у адну вёску пасля таго, як там пабывала Сяліна са сваімі жанчынамі. Сяляне накінуліся на яго, і ён разам з правадырамі вымушаны быў ратаваць сваё жыццё ўцёкамі! Пасля гэтага іх выганялі з кожнай вёскі, куды яны толькі совалі свой нос!

— Па заслугах гэтым брудным пацукам! — з гневам крыкнуў Лэнвуд.

— Вось і ўсё. Краіна была паралізавана, пакуль не выйшаў з турмы Удома...

Удома ціха засмяяўся.

— Я атрымаў палёгку «за добрыя паводзіны» і замест пяці месяцаў адседзеў толькі тры.

— Яны, нарэшце, зразумелі, што народ ні да чаго не дакранецца, пакуль не пачуе жывое слова Удома... Вас усхвалявала сённяшняя сустрэча. Што там!.. Вось калі б вы былі тут у той дзень, калі ён выйшаў з турмы, вы б убачылі відовішча. Дружа! У той дзень надзвычайнае становішча не варта было ломанага граша! Сабраўся народ з усёй краіны, і ва ўрада хапіла розуму не чапаць іх. Удома вывучыў канстытуцыю і рэкамендаваў партыі праверыць яе на справе. Партыя прапанавала народу аднавіць працу. І толькі таму, што партыйная дырэктыва была падпісана Удома, людзі вярнуліся на свае месцы. Праз два месяцы адбыліся выбары. З шасцідзесяці месц мы заваявалі пяцьдзесят, і ў Рослі не было другога выйсця, як даручыць Удома сфарміраваць урад. Ці не так, зямляк?

— Гэта першая афрыканская рэвалюцыя, якая мела поспех, — уголас падумаў Лэнвуд.— І да таго-ж бяскроўная. Вы, хлопцы, сапраўды зрабілі вялікую справу!

— А як цяпер? — спытаўся Мхендзі. — Яны супрацоўнічаюць з вамі?

— А што ім застаецца рабіць? — усклікнуў Лэнвуд.

— Тыя, што не маглі, паехалі,— прамармытаў Удома.— Смізерс, былы галоўны сакратар, не мог, і ён паехаў. Яго пераемнік Джонс ніштаваты чалавек. Рослі супрацоўнічае з намі. Нам ад іх больш нічога не патрэбна.

— Гэтая ліса мяняе поўсць, — сказаў Лэнвуд.

Удома непрыкметна паківаў галавой, але нічога не сказаў.

— Ёсць яшчэ і другія, каму трэба знікнуць, — сказаў Эдэбхай. — Нам не патрэбны людзі, якія не могуць працаваць з афрыканцамі.



Позірк Мхендзі перабягаў з твару Эдэбхая на твар Удома. «Недзе ў гэтым пытанні ў іх разыходжанні», — падумаў ён.

— Афрыканізацыя пазбавіць вас ад іх, — сказаў Лэнвуд.

«Ох, Том!» — Мхендзі непрыкметна ўздыхнуў. Да гэтага часу ён не ўяўляў сабе, якім непраніклівым быў бедны Том. Няхай бы ўжо лепш маўчаў.

— Тут перад намі паўстаюць праблемы, — прабурчаў Удома.—Для замены гэтых англічан нам патрэбны людзі. Ведаеце, кіраваць дэпартаментамі — не тое, што гаварыць прамовы. — Нягледзячы на ўвесь яго спакой, у голасе чулася рэзкасць. Ён узняў галаву і паглядзеў у твар Эдэбхаю.— Табе гэта вядома лепш, чым каму другому, Эд...

— Так, — сказаў з неахвотай Эдэбхай.

«Том можа ўсё сапсаваць», — падумаў Мхендзі і сказаў:

— Вядома. Мне іншы раз здаецца, што заваяваць уладу гэта самае лёгкае.

— Але на самай справе аказалася не так, — пажартаваў Лэнвуд.

— Так, вы маеце рацыю, — сказаў Удома, быццам і не чуў заўвагі Лэнвуда.— Кіраваць краінай можа аказацца цяжэй, чым яе заваяваць. Эд і яшчэ некаторыя вельмі нецярплівыя. Яны хочуць заўтра ж мець рэспубліку. Яны лічаць, што я вельмі марудлівы. Ці не так, Эд?

«Ясна, — падумаў Мхендзі, — паміж імі канфлікт».

— Яны застануцца на нашых умовах, — сказаў Эдэбхай. — Ім вельмі добра плацяць. А нашы людзі вельмі хутка растуць. Але надта давярацца белым нельга.

— Мабі шле вам прывітанне, — паспешліва ўставіў Мхендзі.

У вачах Удома прамільгнуў агеньчык.

— І мне таксама?

«Ты стаў праніклівым, мой сябар», — падумаў Мхендзі.

— Так, — адказаў ён.

— Мы думаем выклікаць яго на радзіму, — сказаў Эдэбхай. — Ва ўрадзе нам патрэбен прадстаўнік ад горцаў. Апазіцыянеры Эндуры падбухторваюць горцаў, гаворачы ім, што яны не прадстаўлены ва ўрадзе.

— Поль прыімчыцца куляй, — сказаў Лэнвуд. Ён нахіліўся да Удома і дадаў па-бацькоўску: — Не дазваляй асабістым пачуццям мінулага засцілаць хмарамі твой розум, Майк. Справа важней, чым асабістыя сімпатыі.

— Добра! — раптам выпрастаў спіну Удома. Яго твар пасуровеў. — Займіся заўтра гэтым, Эд... Бачыце, Мхендзі, усё, што я магу, дык гэта згаджацца з рашэннямі...

Эдэбхая гэта моцна здзівіла.

— Дык ты згаджаешся...

— Так, так. Ты лепш скажы Сяліне, каб яна пераканала нашага бездапаможнага старога міністра асветы і нацыянальнага кіраўніцтва, што ў інтарэсах краіны Мабі павінен сесці ў яго крэсла. Але не звяртайся да мяне, калі ён палічыць, што плады яго пасады занадта салодкія, каб ад іх адмовіцца.

— Ён не будзе пярэчыць, зямляк! Я абяцаю табе. Яго падазраюць у братанні з еўрапейцамі...

— О! Дык чаму ж мне раней ніхто пра гэта не казаў?

— Апошні час ты быў вельмі заняты... — збянтэжана прамармытаў Эдэбхай.

— Так, — сказаў Удома. — Але вы ўсё ж можаце мне сказаць, калі задумваецеператасоўваць мой кабінет.

— Але, зямляк...

Удома не даслухаў.

— Ва ўсякім разе, я хачу ведаць вашы планы яшчэ да таго, як вы пачынаеце дзейнічаць.

— Што ж, тваё права, — адказаў Эдэбхай.

— Выдатна! — сказаў Лэнвуд. — Заўтра я напішу Полю. Я скажу яму, што пагавару з табой.

— Дык ён прасіў цябе са мной пагаварыць? — спытаўся Удома з цікавасцю.

— Не. Я сам сказаў, што пагавару. Ну, цяпер гэта ўжо вырашана. А як з намі? Са мной? Я прыехаў, каб штo-небудзь рабіць. Для гэтага ж я і жыў. Гэтыя дні — выпрабаванне здольнасцей чалавека.

— Што скажаш, Эд? — голас Удома гучаў насмешкай. — Што ёсць там у вас для Тома?

Эдэбхай перастаў усміхацца і апусціў вочы ў падлогу. Наступіла цяжкая цішыня. Лэнвуд пераводзіў позірк з аднаго на другога.

— Хіба ж не для гэтага вы, хлопцы, клікалі мяне сюды? — Яму таксама стала неяк няёмка.

Да яго падышоў Удома і сеў побач.

— Паслухай, Том. Гэта нялёгка зрабіць. Ты ведаеш, што камісія па справах грамадзянскай службы не залежыць ад урада, значыць нечага і гаварыць. А ў Асамблеі ў цяперашні момант свабодных месц няма. Але калі б нават і былі, то мы не можам проста так узяць цябе і ўвесці ў спіс. Ёсць сотні адданых партыйных работнікаў, якія чакаюць магчымасці папасці ў Асамблею.

— Але ж толькі што ты гаварыў, што Полю можна...

— Зразумей жа, Том. Ты ведаеш, як бывае ў палітыцы. Мабі выдатная фігура сярод горцаў. Эндура падбухторвае ў гарах. Эд табе пра гэта ўжо гаварыў. Мабі прадстаўляе тых людзей. Калі ён да нас далучыцца, то і народ будзе з намі...

— А я нікога не прадстаўляю, — ён адразу пастарэў. — Я той крэол, чые бацькі былі высланы з краіны, і, хоць ён вярнуўся назад, ён нікому не патрэбны. А я ж аддаў усё сваё жыццё барацьбе!

— Не, Том, гэта было трошкі не так. Твая сям'я вярнулася назад, калі ты быў яшчэ дзіцём. Ты адзін з нас. Але ты вельмі доўга жыў у Еўропе. Ім трэба пазнаёміцца з табой. А племянныя традыцыі вельмі моцныя, дружа. Ты павінен гэта зразумець. З цягам часу мы іх пераадолеем. Вось дзе ты можаш дапамагчы нам. Мы павінны стварыць нацыянальныя традыцыі замест племянных. Эндура і яго зграя раздуваюць племянныя забабоны народа. Нам трэба супраць гэтага змагацца, інакш мы ніколі не пабудуем магутную афрыканскую дзяржаву, такую ж сучасную, як і любая еўрапейская дзяржава. Перш чым свет прыслухаецца да голасу Афрыкі, нам патрэбна стварыць магутныя сучасныя дзяржавы. Вось дзе ты нам больш за ўсё спатрэбішся. Ты гаварыў пра кнігу. Партыя выдасць яе. Няхай яна будзе пачаткам. Зведай зноў свой народ. І рабі гэта старанна. Нашы людзі не падобны на еўрапейцаў. Ты можаш тут знайсці сваё месца. Толькі будзь асцярожны з нашымі звычаямі... А цяпер лепш пайсці спаць. Заўтра мяне чакае цяжкі дзень перагавораў. Прыдзецца мець справу з цвёрдалобымі прамыслоўцамі, і трэба хоць некалькі гадзін паспаць. Мы яшчэ пагаворым.

Ён устаў. Да Лэнвуда паступова вярталася прытомнасць. Мхендзі стараўся не глядзець на яго. Эдэбхай наліў у сваю чарку і прынёс бутэльку Мхендзі.



— Адну на дарогу, — сказаў Эдэбхай і апаражніў чарку. — Убачымся заўтра, хлопцы.

Удома сказаў:

— Прыходзьце да мяне ў кабінет як мага раней. Там будзе Джонс. З таўстаскурымі бізнесменамі без вас я не спраўлюся.— Раптам ён усміхнуўся. — Шкада, што нельга паклікаць Сяліну.

Удома з Эдэбхаем выйшлі на веранду. У святле месяца цені двух рослых вартавых здаваліся пачварнымі. Шафёр Эдэбхая прачнуўся ў той самы момант, як яго гаспадар адчыніў дзверцы машыны. Вартавыя адчынілі браму.

Праз паўгадзіны Удома ціхенька ўвайшоў у пакой Мхендзі.

— Хацеў пачакаць, пакуль засне Том, — прашаптаў ён.

Мхендзі ўключыў лямпачку на начным століку.

— Я думаў, што ты ўжо спіш.

— Адзіны вольны час для разбору папер. Мне за імі трэба пільна сачыць. У нас у Кабінеце ёсць тры чалавекі, якія думаюць, што ўся праца міністра зводзіцца да таго, каб падпісваць паперы, што яму падносяць. Не ведаю, што б я рабіў без Эда... Але я прышоў не для таго, каб расказваць табе пра мае турботы. Наліць табе чаго-небудзь?

— Не, дзякую.

Удома сеў на край ложка.

— Што нам з ім рабіць?

— З Томам?

— Так. — Раптам Удома ўсклікнуў: — Божа мой! Там, у Англіі, я, напэўна, быў зусім сляпы. Ён такі ж самы тут, як і там. Я не памыляюся, праўда?

— Такі ж самы, крышачку пастарэў, але такі ж самы.

— Не верыцца! Але ведаю, што гэта так. Цяпер застаецца толькі ўспамінаць. Усё ж ён многа год быў маім героем... Дык што ж з ім рабіць? Яго проста няма куды дзець.

— Сяліна гаварыла з табой?

— І з другімі. Але я і сам бачу. Я думаў аб камандная пасадзе ў партыі, за кулісамі. Але для гэтага ён не падыходзіць.

— Ты ўпэўнены?

— А ты хіба не?

Мхендзі ўздыхнуў:

— Том цяпер ужо стары чалавек, яму хутка споўніцца шэсцьдзесят. Усё сваё жыццё ён марыў і пісаў пра афрыканскую рэвалюцыю. Ён звыкся з гэтым. Сёння ён першы дзень тут, а ўжо бачыць у сваіх марах кнігі. Гэта яго жыццё. Гэта ж здзяйсненне ўсіх яго мар!

— Я ўсё гэта разумею, Мхендзі. Але ён такі дзівак з людзьмі. Ён прачытаў лекцыю ў выканкоме партыі і толькі ўсіх раззлаваў.

— Ён лічыць сябе бацькам гэтай рэвалюцыі, Майк.

— Для яго гэта проста гульня.

— Больш важная, чым жыццё.

— У гэтым і загвоздка. Мы маглі б знайсці месца ў Асамблеі, але, мне здаецца, выканком не дасць згоды. Да яго прыезду яны б згадзіліся. І хоць я вельмі люблю Тома, я і сам не хачу, каб цяпер ён сядзеў у Асамблеі.

— Дайце яму час, Майк. Ён здолее ўсё зразумець.

— Або нарабіць шкоды. Я павінен любой цаной захаваць адзінства партыі.

— А гэтая кніга, якую ён хоча напісаць, — няхай ён піша яе. То справа патрэбная, і ён здольны на гэта. Калі ж ён адчуе сябе лішнім, то не вытрымае. Атрымаўшы тваю тэлеграму, ён парваў з Мэры Фелд. Гэта была жахлівая сцэна. Я ўсё бачыў. Не ведаў, што можна так моцна ненавідзець чалавека і жыць з ім разам. Цяпер яму ўжо няма куды ісці.

— Што ты, я не думаю адсылаць яго.

— Я пагавару з ім, Майк. Ты таксама пагавары. У яго ж найлепшыя намеры.

— Трэба зрабіць гэта да таго, як ён паспее ператварыць усіх адказных партыйных работнікаў у сваіх ворагаў.

— Ці нельга на некаторы час адаслаць яго куды-небудзь з Квінстаўна?

— На наступным тыдні я адпраўляюся ў паездку па краіне.

— Вазьмі яго з сабой, Майк.

— Так... так.. Здаецца, ты маеш рацыю. Я гэтак і зраблю. — Удома сцвярджальна кіўнуў галавой. — Ну, а як з табой?

— Ты ведаеш, чаго я прыехаў. Я не хачу быць праблемай.

Па твары Удома прабегла ледзь прыкметная ўсмешка.

— Мне цяпер не даюць спакою гэтыя перагаворы; яны — частка майго плана індустрыялізацыі. Ты ўжо зразумеў, што некаторыя з нас супраць яе. Не супраць самой індустрыялізацыі, не. Я, нарэшце, пераканаў іх, што гэта — адзіны для нас шлях стаць магутнай дзяржавай. Яны толькі супраць таго, што для гэтага нам патрэбны еўрапейскія спецыялісты і еўрапейскі капітал. Але другога выйсця няма. Наша вялікае ўнутранае возера можа стаць крыніцай электраэнергіі для ўсёй краіны. Але мы не можам зрабіць гэта без еўрапейскага капіталу і інжынераў. Вось адна з прычын, чаму нам непажаданы антыкапіталізм Тома. Нетры зямлі, асабліва ў раёне гор, багатыя золатам і уранам, а таксама іншымі выкапнямі. Зноў-такі нам патрэбен капітал і вопыт еўрапейцаў. Усё гэта вельмі складана. Эндура ўбачыў мае цяжкасці. Я абяцаў вызваліцца ад еўрапейцаў. Народ ідзе за мной дзякуючы гэтаму абяцанню. Можа, ты думаеш, што ў мяне чысты чэк? Гэта не так. І мне патрэбны еўрапейцы. Усё гэта вельмі складана. Я павінен упэўніць еўрапейцаў, што іх грошам нішто не пагражае. Паверыш ці не, але адзіныя, хто разумее, чаго я хачу дабіцца, гэта Рослі і Джонс, і гэтая старая ліса Эндура. Мая ўласная партыя адносіцца да ўсяго гэтага падазрона. Справа ў тым... — ён змоўк і развёў рукамі. — Справа ў тым, Мхендзі, што твая краіна, тыя белыя людзі з Плюраліі, робяць мне самую выгадную прапанову дапамагчы спецыялістамі і капіталам. Заўтра я сустрэнуся з іх прадстаўнікамі. — Ён зноў узмахнуў рукамі і адвёў вочы ў бок.

— Разумею... — спакойна сказаў Мхендзі.

На твары Удома зноў прамільгнула ўсмешка.

— Сапраўды?

— А можа і не. Скажы мне, што гэта значыць для мяне.

Удома нахіліўся і схапіў голае плячо Мхендзі.

— Супакойся, дружа. Гэта не значыць таго, што ты думаеш.

— А што ж?

— Толькі тое, што ўсё гэта вельмі складана. Некалі і на табе ж ляжала адказнасць, таму ты ведаеш, што чалавек не заўсёды можа рабіць тое, што яму хочацца.

— А ўсё ж?



— Супакойся, дружа!

— Табе лёгка гаварыць! — раптам усклікнуў Мхендзі.

— Твой план застаецца ў сіле, — сказаў спакойна Удома. — Павінна быць ясным толькі адно: я да ўсяго гэтага не маю ніякага дачынення. Я нічога пра гэта не ведаю. Я Прэм'ер-міністр нашай краіны. Прэм'ер-міністры не аказваюць дапамогі рэвалюцыянерам суседніх краін, асабліва, калі яны залежаць ад гэтых краін, ад іх капіталу і спецыялістаў. Ніхто, акрамя Сяліны, не ведае, чаго ты тут. З гэтай мінуты ні я, ні Эдэбхай таксама не ведаем. Таму толькі ты і Сяліна...

Мхендзі супакоіўся.

— Мне трэба ехаць адсюль...

— Сяліна думае тое ж самае. Яна аб гэтым паклапоціцца... Вядома, мы б маглі і тут знайсці табе месца. Ты мог бы быць вельмі карысным, і гэта не было б небяспечным — для нас абодвух...

— Там мой народ. Я павінен ісці туды.

— Я ведаў, што ты так скажаш. Магчыма, ты паедзеш заўтра. Сяліна ведае калі. Між іншым, Рослі прасіў перадаць табе прывітанне і сказаць, што ён запрасіў бы цябе ў Дом урада, калі б не наша палітыка, якая забараняе братанне паміж чорнымі і белымі. Ён добры чалавек. Без яго падтрымкі я б не мог узяць цябе сюды. За кулісамі нам перашкаджалі.

— А ён не ведае, чаго я прыехаў?

— Ён ведае, што ты прыехаў, каб вярнуцца ў Афрыку. Многа ж мне прышлося паваяваць, каб даць прыстанішча афрыканскаму патрыёту!.. Смешна: людзі з якімі можна гаварыць, адгароджаны палітыкай небратання. Мне іншы раз хочацца з кім-небудзь пагаварыць так, як я цяпер гавару з табой.

— Рэвалюцыйны лідэр канчае тым, што робіцца вязнем рэвалюцыі, якой ён кіраваў. Аб гэтым Тому трэба было недзе сказаць ці напісаць.

— Я амаль што чую, як ён гэта гаворыць. Але трэба быць зусім другім Томам, каб гэта сказаць.

— Мажліва, ён навучыцца.

— Спадзяюся... Ну, я вельмі рады, што ў нас была магчымасць пагаварыць. Можа другой такой ужо і не трапіцца. Заўтра цябе тут ужо не будзе. Але я пастараюся знайсці час пабачыцца з табой. Калі ты думаеш паехаць?

— Як мага хутчэй. Я пагавару з Сялінай.

— Яна паклапоціцца аб табе. — Удома ўстаў. — Ну, добра, браце.

Мхендзі прысеў на ложку. Удома працягнуў яму руку.

— Ты разумееш?

— Не трывожся. Майк. Я разумею ўсё.

— Скажы... — Удома павагаўся, позірк яго слізгануў міма Мхендзі. Ён паспрабаваў усміхнуцца. — Ты бачыў Лойс перад ад'ездам?

— Не. Не бачыў яе ўжо больш года. Праз некалькі месяцаў пасля твайго ад'езду яна кінула школу і паехала з Англіі.

— Домік у гарах?

— Так.

— Я не забыў, як там было цудоўна. Ты ведаеш, нашы партыйныя кіраўнікі даюць клятву не жаніцца на белых жанчынах.

— Не ведаў гэтага.

— Так, сапраўды, яны даюць такую клятву.

Хвілінку Удома пастаяў моўчкі. Мхендзі ўвесь напружыўся, каб стры-

мацъ пытанне, якое вось-вось сарвецца з яго вуснаў. Але раптам Удома прашаптаў:

— Яна гібее там, браце.

«Што на гэта скажаш?» — падумаў Мхендзі.

Твар Удома раптам заліла ўсмешка. Ён расправіў плечы. Голас зноў стаў энергічным і халодным:

— Добрай ночы, Мхендзі. Нам многае трэба зрабіць, табе і мне. Жадаю поспеху.— Ён глянуў на гадзіннік.— Божа! Хутка тры...

Ён выйшаў з пакоя гэтак жа ціха, як і ўвайшоў.

Мхендзі схіліўся на падушку, працягнуў руку і выключыў святло. З расплюшчанымі вачыма ляжаў ён у цёмным пакоі.

«Удома адчуў ужо адзіноцтва тых, хто кіруе людзьмі. Самае дзіўнае, што гэта зрабіла яго непахісным, надало яму сілы».

— А чаму я так не магу? — прашаптаў ён.

Не знайшоўшы адказу на сваё пытанне, ён павярнуўся на бок і заплюшчыў вочы.

## 3

Марыя спала, паклаўшы галаву на калені Мхендзі. Грузавік моцна падскокваў на ўхабах, але гэта не парушала сну. Мхендзі трымаў яе моцна, каб яна не звалілася пад ногі шафёру.

І сапраўды, яны вельмі добра ўладзіліся побач з шафёрам. Тыя небаракі, што едуць у кузаве, згрудзіліся там, як селядцы ў бочцы. А там жа, ззаду, не менш паўтузіна маленькіх дзяцей.

Мхендзі адвёў вочы ад яркага святла фар, якое пранізвала цемру перад машынай і зірнуў на шафёра. Той сядзеў, згорбіўшыся над баранкай руля, пільна ўглядаючыся ў ноч. Старэйшы і больш сур'ёзны, чым першыя два шафёры. Ён стараецца аб'язджаць калдобіны, а там, дзе дарога роўная, цвёрда трымаецца пяцідзесяці міль у гадзіну. Але наогул у гэтай краіне няма роўных дарог. Шкада, што нельга з ім пагаварыць. Ён гаворыць толькі на сваім уласным дыялекце.

Яны едуць ужо трыццаць шэсць гадзін. Тры разы перасаджваліся з аднаго грузавіка на другі. Ад Квінстаўна яны ўжо едуць адзін дзень і дзве ночы.

Толькі пасля другога прыпынку Мхендзі зусім супакоіўся. У першай вёсцы, дзе яны прыпыняліся, іх сустракаў нейкі чалавек. Ён прывёў іх у сваю хату, паказаў, дзе памыцца і адпачыць, і даў ім пад'есці. Ім не трэба было ісці на рыначную плошчу і сварыцца з-за месца ў грузавіку. Машына сама прыехала па іх, і ў кабіне шафёра ім было пакінута месца. Можа ім проста пашанцавала, і яны трапілі да паслужлівага мясцовага жыхара? І толькі тады, калі тое ж самае паўтарылася і на наступным прыпынку, ды яшчэ глухой ноччу, Мхендзі зразумеў, што ўсё гэта загадзя падрыхтавана, а не проста шчаслівы выпадак. І ён супакоіўся і стаў з большай цікавасцю прыглядацца да аднастайнай, роўнай мясцовасці, па якой яны ехалі. Глеба тут пераважна бедная і неўрадлівая, не тая чырвоная глеба, што ў яго роднай Плюраліі, — цвёрдая, жаўтаватая, парослая хмызняком. Вёскі са сваімі хацінкамі з абмазаных глінай плеценых шчытоў здаюцца няшчаснымі ў параўнанні з вёскамі, дзе жыве яго народ у Плюраліі. Але галоўнае — людзі. У людзей, якія жывуць тут, шчаслівы выгляд. Яны вельмі вясёлыя і прыязныя, і ў іх прысутнасці весялеў і аднастайны краявід. Іх смех для яго адкрыццё і нечаканасць.



Над яго родным народам заўсёды вісела хмара ціхага смутку, які накладваў свой адбітак нават на смех і гульні. У гэтым якраз і розніца. Нават галасы тутэйшых людзей адрозніваюцца ад галасоў яго ўласнага народа. І — ледзь прыкметна — пастава, знешні воблік. А бязглуздыя белыя людзі звальваюць усю Афрыку ў адну кучу. Калі іх не будзе, то афрыканскія народы, напэўна, пачнуць адрознівацца адзін ад аднаго, як некалі немцы ці англічане ад французаў. І тады для Сяліны колер скуры не будзе мець такога вялікага значэння, як цяпер...

Сяліна... Дзіўная яна жанчына. Прымусіла яго чакаць тры тыдні без ніводнай весткі. Потым яна прыйшла да яго і сказала:

— Усё ўладжана. Вы паедзеце заўтра ноччу. У дарозе ні аб чым ні ў каго не пытайцеся. І не турбуйцеся. Аб вас паклапоцяцца.

І вось ён імчыцца скрозь ноч, страшэнна змораны, але не можа заснуць. А Марыя, якая ўвесь час сочыць за ім у дарозе, цяпер спіць.

Ім прыдзецца прабірацца скрозь джунглі адным? Марыя нічога не ведае, апрача таго, што іх будуць чакаць. Яна нават не ведае, якія гэта будуць людзі. Але там, на тым баку джунгляў, калі ім удасца праз іх прабрацца, ляжыць яго краіна, тая краіна, якую ён хацеў вызваліць...

Ён расплюшчыў вочы, пачуўшы гучныя галасы. Шэрае святло заступіла месца цемры. Марыя ўжо не спала, а сядзела побач з ім.

— Зірніце на горы,— сказала яна.

Удалечыні, проста перад імі, у туманнай намітцы смугі ўздымаліся горы, злёгку падфарбаваныя сінню і асветленыя сонцам, якога тут яшчэ не было відаць. Адсюль, здалёку, яны здаваліся суцэльным неадольным бар'ерам. Мхендзі ўпершыню ўбачыў горы ў гэтай аднастайнай сваім ландшафтам краіне.

— Мы пераправімся цераз іх?

— Так. Але спачатку паедзем да мяне. Вам трэба пабачыць маю маці і вашага новага сына.

Машына абмінула ўзгорак, і перад іх вачыма ўзнікла возера, вялікае ўнутранае мора, чорнае ў першых промнях світання. Грузавік загрукатаў на ўхабістай пясчанай дарозе. Падняўся пыл. Ніхто з пасажыраў не спаў, усе гучна размаўлялі. Наперадзе яны ўбачылі канец свайго падарожжа.

Мхендзі прыкмеціў, што зямля тут урадлівейшая, расліннасць багацейшая, чым усё тое, што яны бачылі на сваім шляху. Тут было прыгожа, і гэтая мясцовасць нагадвала яго радзіму. Ён адчуў, што Марыя ўсё больш хвалюецца. Вядома, яна ж едзе дадому. Сэрца заўсёды спяшаецца.

— Ты вельмі рада,— сказаў ён.

— Тут мой дом. — Яна прыхінулася да яго пляча.

— Так, — сумна прагаварыў ён. — Дом...

— І ваш таксама, — паспешліва дадала яна.

Як адчувае яна, разумее яго настрой, як хоча яго ўцешыць. Ён ціха дакрануўся да яе рукі. Узняў вочы на ахінутыя смугой горы.

Праз паўгадзіны машына з грукатам пад'ехала да рыначнай плошчы і прыпынілася. З кузава высыпалі людзі. Шафёр загаварыў з Марыяй.

— Мы застаемся тут, — сказала яна Мхендзі. — За намі прыдуць. Тут многа белых, і вам лепш не трапляць ім на вочы. У гэтым горадзе знаходзяцца таксама і часці англійскай арміі. Баяцца нам няма чаго. Проста трэба быць асцярожнымі, пакуль не прыедзем да возера.

Шафёр пакінуў іх у кабіне.

Мхендзі пачынаў непакоіцца, але раптам каля іх затармазіла легкавая машына. Нехта адчыніў заднія дзверцы і паклікаў іх.

— Нас завуць, — сказала Марыя. — Ідзіце.

Яны паспешна пераселі ў легкавую машыну, і яна адразу ж паімчалася наперад.

Мхендзі хутчэй адчуваў, чым бачыў чалавека, што сядзеў побач з ім. Марыя, супакойваючы, сціснула яго правую руку.

— Не трывожцеся, містэр Мхендзі, — сказаў чалавек па-англійску. — Гэта толькі таму, што тут праходзіць граніца з другімі краінамі, і ўлады пільна сочаць за кантрабандыстамі. Тут прасочваецца за мяжу вельмі многа брыльянтаў, таму тут прыглядаюцца да ўсіх людзей.

Мхендзі інстынктыўна знелюбіў гэтага чалавека.

Машына прыпынілася перад домам на ўскраіне горада.

— Ідзіце за мной.

Яны пайшлі за чалавекам у дом. Ён прывёў іх у вялікі пакой і запаліў газавую лямпу.

Мхендзі адразу зразумеў гэтага праважатага. Ён ужо бачыў такіх людзей у многіх краінах. У іх бывае чорная ці карычневая, жоўтая ці белая скура, але пад ёю ўсе яны аднолькавыя — людзі з нястрымнай прагнасцю да ўлады. Аб гэтым заўсёды гавораць іх галасы і тая затоеная пагарда, з якой яны ставяцца да сумленных людзей. Гэта быў невысокі, каратканогі, тоўсты чалавечак з маленькімі бліскучымі вачыма.

— Сардэчна запрашаю, містэр Мхендзі. Не ўсякі ведае ваша імя, а я ведаю. Квінстаўнскія газеты расказвалі пра ваш прыезд у нашу краіну,





і калі я атрымаў загад прыняць невядомую важную асобу і дапамагчы ёй пераехаць цераз возера, я сказаў сабе: «Гэта можа быць толькі містэр Лэнвуд ці містэр Мхендзі». Але містэр Лэнвуд цяпер раз'язджае з нашым вялікім Прэм'ер-Міністрам, таму я здагадаўся, што гэта вы. Ну, дык сардэчна запрашаю, сэр. Мяне завуць Сайман Чынва. Я тутэйшы партыйны бос. Віскі?

— Ён хацеў бы выпіць чаю, — сказала Марыя. — І я таксама.

Сайман Чынва хутка акінуў яе насмешлівым позіркам.

— Няма часу, сястрыца. Лодачнікі чакаюць.

— Тады лепш пойдзем, — сказаў Мхендзі.

— Спярша вам трэба пераапрануцца, сэр. Калі вас убачаць у такім адзенні ў лодцы, гэта можа выклікаць падазронасць. У мяне ёсць выдатная вопратка і сандаліі, іх прыслалі для вас з галоўнай кватэры. Белы чалавек дурны. Калі вы будзеце апрануты ў гэтае адзенне, ён не паглядзіць вам у твар. — Чынва паказаў на цёмны кут. — Вось ваша адзенне, сэр.

— Я дапамагу вам, — сказала Марыя.

— Я хутка прыду, — сказаў Чынва і выйшаў.

— Штосьці не давяраю я гэтаму чалавеку, — прашаптала Марыя. — Да прыезду Удома ён лізаў рукі белым людзям.

Мхендзі хутка распрануўся.

— А Сяліна ведае?

— Тая ўсё ведае.

— Дык чаму ж...

— Ніхто не ведае, што думае Сяліна, калі яна што-небудзь робіць... Ш-ш-ш...

Увайшоў Чынва і радасна ўсміхнуўся.

— Цяпер вы падобны на нас, сэр! Пакіньце лепш сваё адзенне тут.

— Не, — сказала Марыя. — Я вазьму яго з сабой. У мяне ёсць для вас пасланне ад Сяліны. Яна сказала, каб я перадала вам, што ў мужчыны ці жанчыны, якія будуць балбатаць, вырвуць язык, а потым іх будуць гнаць голымі з адной вёскі ў другую і біць усюды, куды б яны ні пабеглі.

— Гэта яна мне прасіла перадаць? — у голасе чалавека пачуўся страх.

— Вам і ўсім, хто ведае пра наша падарожжа.

Чынве адлягло ад сэрца.

— Я нічога не ведаю. Усё, што мне вядома, — гэта тое, што я павінен вас сустрэць, прыгатаваць для вас спецыяльны човен. Я гэта зрабіў. Больш я нічога не ведаю. Як можа хто-небудзь балбатаць, калі ён нічога не ведае?

— Я толькі перадала вам словы Сяліны.

— Ну, пойдзем ужо, — сказаў Мхендзі.

— Можа, чаю, сэр...

— Не. Мы пойдзем, — сказала Марыя.

Яна звязала ў клунак адзенне Мхендзі. Чынва павёў іх да машыны, што чакала ля дома, і пагаварыў з шафёрам.

— Ён вас павязе, сэр. Шчаслівай дарогі!

Машына сарвалася з месца. Яна ад'ехала ад горада, але потым павярнула і пачала паступова набліжацца да возера. Праз дваццаць хвілін яна затармазіла сярод купкі дрэў ля самай вады. Яны выйшлі. Шафёр развярнуўся і паспешліва паехаў назад.

На возеры іх чакала доўгая, тонкая, прыгожая байдарка. На вёслах

сядзела шэсць чалавек. Такіх прыгожых мужчынскіх цел Мхендзі яшчэ ніколі не бачыў. Старэйшы лодачнік нецярпліва паківаў ім галавой. Яны селі ў лодку. Ён адпіхнуўся ад берага, і нос байдаркі павярнуўся ў бок гор. Ён нешта ціха сказаў веслярам. Байдарка паімчалася наперад. Весляры пачалі рытмічна веславаць, іх целы рухаліся зладжана, вёслы паднімаліся і апускаліся адначасова. У ваду... з вады... у ваду... з вады... у ваду... з вады... раз... два... раз... два... Стройная лодка імкліва неслася па цёмнай вадзе. Людзі веславалі лёгка і рытмічна.

— Ты, напэўна, вельмі хочаш есці, Марыя,— сказаў Мхендзі.

Старэйшы вясляр нешта рэзка сказаў.

— Ён сказаў, каб ты больш не гаварыў,— растлумачыла Марыя.— Гаворыць, што гукі гутаркі адцягваюць увагу весляроў ад рытму, і лодка прыцяшае ход.

— Прашу прабачэння,— сказаў Мхендзі.

У ваду... з вады... раз... два..

Калі сонца выглянула з-за гор, прагнаўшы з іх сінюю смугу, лодка дасягнула ўжо сярэдзіны гэтага вялікага возера. Нідзе не было відаць берагоў, і толькі наперадзе высока ў небе ўзнімаліся горы. А весляры ўсё працавалі, нібы толькі што пачалі.

У Мхендзі горла перасохла. Барвовыя вусны Марыі сталі шэрымі, як попел. Калі яна хоць напалову хоча так піць, як ён, калі яна хоць напалову хоча так есці, то ёй цяпер вельмі, вельмі дрэнна. Па-праўдзе, яны не елі з учарашняга поўдня. А цяпер хутка зноў поўдзень. У грузавіку есці было немагчыма — ён увесь час падскокваў і ўсё было забіта пылам. «Ты разбэсціўся, Мхендзі», — сказаў ён сам сабе. Бедная Марыя. Навошта ёй усё гэта? Для яе ж Плюралія пусты гук. Ён узяў яе руку.

Яны былі адзінымі людзьмі на гэтым вялікім возеры. Яны маглі такім жа чынам згубіцца ў маленькай лодцы на шырокай прасторы акіяна. Але ўперадзе былі горы, і яны супакойвалі.

Раз... два... раз... два...

Ці чалавечыя істоты гэтыя людзі? Ці могуць звычайныя смяротныя гадзіну за гадзінай, без перапынку падтрымліваць гэты машынападобны рытм?

Сонца цяпер вісела проста над галавою. Потым яно паволі пасунулася на захад. У Мхендзі пачала кружыцца галава. Яму здавалася, што Марыя схавалася ад яго, як за мутнае шкло.

Старэйшы лодачнік, усміхаючыся, глядзеў на Мхендзі іківаў галавою. Ківаў і ўсміхаўся. Зямля!

— Марыя! Марыя! Зямля!

Марыя ўзняла галаву і расплюшчыла вочы. Ён паказаў рукою:

— Зямля!

На беразе іх чакалі двое. Байдарка лёгка стукнулася ў бераг. Яны схапілі нос лодкі. Мхендзі паспрабаваў устаць, але не мог. Яму дапамаглі выйсці. У яго анямелі ўсе суставы.

«Божа! Яны яшчэ падумаюць, што я слабавольны. Слабавольны».

— Скажы ім, што я не слабавольны чалавек, Марыя. Растлумач, што мы нічога не елі і бесперапынна едзем ужо два дні і дзве ночы.

Але загаварыла не Марыя. Загаварыў адзін з тых, што сустракалі іх байдарку.

— Хто вы такі?— спытаўся Мхендзі.

— Хіба вы мяне не ведаеце, сэр? Я прышоў, каб павесці тых людзей, якія пойдуць з вамі. Я бачыў вас у Сяліны. Яна прыслала мяне сюды падрыхтавацца да пераходу. Калі вы адпачнеце трохі, мы рушым у дарогу.



— Не гаварыце мне «сэр». Я не белы чалавек!

Малады чалавек усміхнуўся і моцнай рукой абхапіў Мхендзі за талію.

— Падтрымайце жанчыну, пакуль яна не звалілася з ног,— загадаў ён сваім людзям.— Яны ледзь не паміраюць з голаду. Гэта быў цяжкі шлях...

* * *

Мхендзі прачнуўся ў цемры. Некаторы час ціхенька паляжаў, стараючыся зразумець, дзе ён. Але так і не зразумеў.

— Марыя! Марыя!

Яна падышла, трымаючы ў руцэ маленькую бляшанку з маслам, на якім гарэў кноцік.

— Вы прачнуліся?

— Я доўга спаў? Дзе я?

— У доме маёй маці. Вы праспалі ўсю ноч і ўвесь дзень, а цяпер зноў наступіла ноч. Джазэф загадаў не будзіць вас, пакуль самі не прачнецеся.

— Джазэф?

— Пазнаеце яго, калі ўбачыце. Вы сустракаліся з ім у Сяліны. Ён той самы, каго яна паслала падрыхтаваць нам шлях. Цяпер ён чакае. Паклікаць яго?

— Не трэба. Я апрануся. А як ты? Ты адпачыла?

— Так.

— Ідзі сюды, Марыя.

Яна паставіла лямпу на табурэт і падышла да яго. Ён прыгарнуў яе да сябе, і яе галава апынулася ў яго на грудзях.

— Я хачу падзякаваць табе за ўсё, што ты для мяне зрабіла, і за тое, што ты развеяла маю адзіноту.

— Мужчыне не варта дзякаваць сваёй жанчыне. Тое, што робіць, яна робіць таму, што гэта яе абавязак, які прыносіць ёй радасць.

— Усё ж я хачу, каб ты ведала.

— Я і без слоў ведаю, што вы мне ўдзячны, Мхендзі.

Хваля пяшчоты заліла Мхендзі. Ён прытуліўся да Марыі.

— Я нарадзіўся ў такой жа хаце,— сказаў ён.

— Ведаю.

— Я ніколі аб гэтым табе не гаварыў.

— Мне сказала маё сэрца.

Ён пагладзіў яе шчаку і адхінуўся.

— Ну, мне трэба апранацца. Прышлі сюды таго юнака.

— Добра. Пакуль вы пагаворыце, я прыгатую чаго-небудзь з'есці. Жыхары вёскі хацелі наладзіць банкет, але Джазэф сказаў, што лепш не трэба, так што яны будуць прыходзіць вітаць вас невялічкімі групкамі, і толькі правадыр сядзе з вамі есці.

Пасля яды і прывітанняў Мхендзі і Джазэф сядзелі на ўзгорку, што ўзвышаўся над возерам. Над цёмнай вадою нізка вісеў поўны месяц.

— Нас тут дванаццаць,— сказаў Джазэф.— Астатнія чакаюць на ўзлеску джунгляў. Мы ехалі невялічкімі групкамі, каб не выклікаць падазрэння.

— І вы ўпэўнены, што ёсць сцежка?

— Сцежка ёсць.
— А як з правіянтам?
— У нас усё ёсць. Самая цяжкая справа была знайсці тую сцежку. На гэта пайшло два тыдні, і я пачынаў ужо думаць, што старыя людзі ў сваіх легендах усё павыдумлялі.
— Калі адправімся?
— Калі загадаеце, містэр Мхендзі.
— Вы ведаеце, што шлях небяспечны?
— Ведаем.
— Ну, дык добра. Заўтра.
— Заўтра. А зараз пойдзеце адпачываць, са?
Джазэф пайшоў, і да Мхендзі падышла Марыя.
— Мы адпраўляемся заўтра,— паведаміў ён.
— Я заўсёды гатова,— сказала яна.
Ён узяў яе руку, і яны пайшлі ў дом.

* * *

Дзень у змроку, ноч у цемры; дзень без сонца, ноч без зор. Месяц усё яшчэ на небе? Неба ўсё яшчэ на месцы? Дзе яно?
Гэта — джунглі.
Джунглі — нешта большае, чым дрымучы лес. Страшнейшае, чым самая цёмная ноч, здрадлівейшае, чым хісткая дрыгва.
Гэта — час, які прытаіўся і насміхаецца над чалавекам. Гэта — цемра ў чалавечым сэрцы. Гэта грань чалавечага страху. Джунглі старажытней за чалавека...
Асцярожна ступай, чалавек, інакш джунглі праглынуць цябе.
Твая маці гаварыла праўду, перасцерагаючы дзіця.
Асцярожна ступай, чалавек...
...Яны выйшлі з джунгляў праз дзевяць дзён пасля таго, як у іх увайшлі. Яны выбеглі на святло і ўзнялі галовы, і пачалі смяяцца ад радасці, што зноў убачылі неба.
Першым апамятаўся Мхендзі.
— Далей не ідзіце!— гукнуў ён.
Усе павярнуліся да яго.
— На адкрытым месцы нельга рабіць прывал,— сказаў ён.— Нас могуць убачыць з самалётаў ці выдасць дым вогнішча. Прыдзецца адысці крыху назад, у джунглі. Перад намі Плюралія, і трэба быць асцярожнымі.
Ён адчуў, што ім было страшна. Яны надта маладыя для ўсяго гэтага. Цудоўныя і адважныя юнакі. Але цемра і таямнічасць джунгляў палохалі іх больш, чым яны думалі.
— Дзе ж мы зробім прывал? — спытаўся Джазэф.
— Воддаль ад трасы самалётаў. На ўзлеску джунгляў, здаецца, мы схаваемся.
Джазэф пачаў распараджацца. Двум юнакам ён загадаў пайсці на пошукі вады. Астатніх павёў выбіраць месца для лагера. Над галавою раскінуўся блакіт неба, ярка свяціла сонца, і да людзей паступова вярталася адвага.
Мхендзі ўважліва ўглядаўся ў краявід, што паўстаў перад яго вачамі. Гэта Плюралія, яго краіна, краіна яго народа. Ён ужо не ад-



чуваў стомы і вырашыў, што пойдзе далей як мага хутчэй — сёння ж увечары, калі добра сцямнее.
Ён зірнуў на Марыю і зноў з удзячнасцю ўявіў сабе тое, што яна перажыла дзеля яго. Ён абняў яе за плечы.
— Вось мы і прыйшлі, — ціха сказала яна.
— Для цябе гэта было вельмі цяжка. Не трэба было выпраўляцца з намі.
— Мне там было так страшна,— яна паказала галавой у бок джунгляў.— Але я хацела ісці з вамі... Дык гэта ваша краіна. Прыгожая...
— Гэта добрая краіна. Толькі тут людзі не свабодныя.
— Але вы павядзеце свой народ да свабоды... Калі вы пойдзеце туды?
— Сёння ўвечары. Так лепш. Ты ведаеш, што табе нельга ісці са мной.
— Ведаю. Вы вернецеся да мяне, Мхендзі?
Ён мацней абняў яе плечы. Дзіўна, якая яна спакойная...
— Я зраблю ўсё, што ў маіх сілах, любая мая. Пойдзем, мне трэба пагаварыць з Джазэфам.
Яны пайшлі назад у змрок джунгляў.
Джазэф быў добрым арганізатарам. У паслухмянасці маладых людзей было нешта вайсковае. Адны расчышчалі пляцоўку, пакуль другія ставілі палатку. Вярнуліся тыя два, якіх паслалі па ваду, і пачалі распальваць маленькае вогнішча, што давала вельмі мала дыму. Мхендзі агледзеў усё і кіўком галавы паказаў, што ён задаволены. Пад камандай Джазэфа тут можна нічога не баяцца.
— Хутка закіпіць чай, са,— гукнуў Джазэф.
Мхендзі кіўком галавы падазваў Джазэфа да сябе.
— Які настрой у людзей?
— Цяпер усё ў парадку.— Джазэф сарамліва ўсміхнуўся.— Гэтыя джунглі напалохалі нас, але мы — салдаты партыі. Удома называе нас сваімі ўдарнымі войскамі, таму нам сорамна, што мы паказалі свой страх.
— Мне таксама было страшна, Джазэф.
— Дзякую, са! Гэта супакоіць маіх людзей. Але мы больш ужо не будзем баяцца.
— Колькі часу вы можаце чакаць мяне тут?— спытаў Мхендзі.
— Колькі загадаеце, са.
— У вас хопіць ежы на месяц?
— Хопіць. Можа і больш. Але я магу паслаць шасцярых прынесці яшчэ. Цяпер ім будзе лягчэй, яны ж ужо ведаюць сцежку. Трэба яшчэ прынесці сюды і зброю, каб навучыць ёй карыстацца людзей, якіх вы прывядзеце. Трэба арганізаваць з іх ударныя атрады.
Мхендзі ўсміхнуўся.
— Я перадумаў, Джазэф. Перш чым пайсці, я пакіну ліст да Сяліны. Няхай тыя, што пойдуць назад, возьмуць яго з сабой і перададуць каму-небудзь, хто адвязе яго да Сяліны. Я ўвесь час думаў, і мне здаецца, што цяпер патрэбна другая барацьба. Мы ўжо праба- валі змагацца са зброяй у руках і нас перамаглі. Нам і цяпер патрэбна будзе зброя, але мы паспрабуем абысціся без яе. Самае галоўнае

для нас — добра арганізавацца, каб па нашаму закліку ўсе чорныя, ва ўсёй краіне пакінулі працу. Трэба паказаць народу, што ў нас сур'ёзныя намеры і мы імкнемся да перамогі. Трэба зноў уліць у сэрцы людзей адвагу. Для гэтага я арганізую з нашых маладых людзей ударныя атрады, як вы іх называеце. Мы будзем пераразаць лініі электраперадач, каб не было электрычнасці. Мы будзем падрываць таварныя цягнікі. Мы парушым спакой ва ўсёй краіне. Мы атруцім жыццё белым. Мы напалохаем іх. І я зраблю, каб стала ўсім вядома, што ўсё гэта справа маіх рук. Народу стане ясна, што гэта азначае. І мы будзем набліжаць дзень усеагульнай забастоўкі, якая паралізуе краіну. Бясспрэчна, яны будуць ганяцца за мной і шукаць па ўсёй краіне. Але як толькі яны пачнуць шукаць мяне, я зноў прыду сюды, і яны мяне не знойдуць. Я буду хадзіць сярод народа і будзіць яго, а потым вяртацца сюды, каб зноў пайсці да народа. І яны не знойдуць мяне. Аб гэтым плане я раскажу ў лісце да Сяліны, а ваша справа зрабіць так, каб ніхто, акрамя яе, не бачыў гэтага ліста.

— Цудоўны план, са! Як бы мне хацелася пайсці з вамі!

— Не. Вы павінны заставацца тут і клапаціцца аб Марыі, добра клапаціцца — і чакаць мяне. Але калі праз месяц я не вярнуся, тады ведайце — мяне схапілі...

— Не!— ускрыкнула Марыя.

— Гэта магчыма, дзіця маё.— Ён пагладзіў яе па плячы.— Цяпер я вазьмуся за гэты ліст.

— Ваша палатка гатова, са.— Джазэф правёў іх да палаткі.

Мхендзі сеў на паходны ложак і пачаў пісаць, паклаўшы на калені блакнот. Ён пісаў уважліва, не спяшаючыся, узважваючы кожнае слова. Можа здарыцца, што гэта яго апошні запавет.

Прынеслі чай, потым ежу. Калі яны пад'елі, Марыя пакінула яго аднаго.

Нарэшце, Мхендзі скончыў свой ліст. Ён паклікаў Марыю, і яны ляглі спаць.

Калі надышоў змрок, Мхендзі развітаўся з юнакамі. Джазэф і Марыя пайшлі з ім да апошніх дрэў. Джазэф даў яму аўтаматычны пісталет.

— Шчаслівай дарогі, са. Няхай жыве свабода Афрыкі!

Мхендзі паціснуў яму руку.

— Памятайце, адзін месяц, Джазэф. Бывайце! Клапаціцеся аб Марыі.

Марыя прайшла з ім некалькі крокаў. Потым раптам павярнулася да яго і абняла.

— Сцеражыся, мой муж, сцеражыся.

— Я вярнуся, — сказаў ён. Так, жанчынам заўсёды кахаць і чакаць... — Я вярнуся, дарагая.

Ён вызваліўся з яе абдымкаў і хуткімі крокамі пайшоў прэч. Неўзабаве яго праглынула цемра. Але Марыя ўсё стаяла і ўглядалася ў ноч.

Прайшло многа, многа часу. Падышоў Джазэф. Ён дакрануўся да яе локця.

— Пойдзем ужо, ён пайшоў. Цяпер трэба чакаць.

— Так,— прашаптала Марыя і павярнулася да яго.— Цяпер я павінна чакаць.

Яны прышлі ў лагер.



**4**

У аэрапорце Поля Мабі сустракаў Эдэбхай.

— Мабі, дружа! Як я рады, што бачу цябе! Як справы? Віншую з прыбыццём на радзіму!

Невялічкая група людзей з усмешкаю сачыла, як іх міністр аховы здароўя і жыллёвага будаўніцтва абхапіў рукамі маленькага чалавека і ледзь не скакаў ад радасці.

— Рад бачыць цябе, — сказаў Мабі. — Я баяўся, што ўбачу такі ж самы спектакль, як вы арганізавалі для Тома і Мхендзі...

— Ты ж ведаеш наш народ!— зарагатаў Эдэбхай.— Ён любіць добрыя відовішчы, і мы яму іх даем... Ну, паедзем у горад. Не клапаціся аб сваім багажы. Яго прывязуць... Ах, дружа, як добра, што ты прыехаў!

Невялічкі натоўп апладыраваў ім, пакуль яны селі ў машыну, і махаў рукамі ёй услед.

— Думаў, што і другія прыедуць,— сказаў Мабі.

— Удома раз'язджае па краіне. З ім Лэнвуд. На тым тыдні яны вернуцца.

— А Мхендзі?

— Яго няма.

— Дык Майк стрымаў абяцанне...

— Вядома. А ты што думаў?

— Які ён цяпер?

— Удома?

— Так. Цяпер, калі ён на чале ўлады?

— Як належыць. Больш спакойны, але такі ж самы.

Нешта ў голасе Эдэбхая прымусіла Мабі дапытліва зірнуць на яго. Эдэбхай засмяяўся.

— Не ашуквай мяне сваім смехам! — рэзка сказаў Мабі. — Раскажы ўсё.

Машына імчалася па асфальтавай дарозе, што злучала аэрапорт з горадам, які знаходзіўся ў васьмі мілях ад яго. Чорная істужка дарогі ззяла пад праменнямі яркага сонца. Цёмны цень прамільгнуў на твары Эдэбхая.

— Няма чаго расказваць,— сказаў ён.— Усё добра. Народ цвёрда стаіць за нас. Толькі некаторыя лічаць, што Удома дзейнічае вельмі ўжо марудліва. Але пабачыш сам...

— А ты?— спытаўся Мабі.— Ты таксама так лічыш?

— У нас было яшчэ вельмі мала часу,— асцярожна адказаў Эдэбхай. — Але мы абяцалі народу многае. Ну, сам пабачыш... А як Лондан? Іншы раз я мару аб тых днях...

— Лондан — старажытны горад. Ад таго, што мы ад'язджаем ці прыязджаем, ён не мяняецца. Застаўся, якім быў.

— Так,— засмяяўся Эдэбхай.— І ты таксама зусім не змяніўся.

— Затое ў вас тут усё перамянілася. Скажы, а якая мне знойдзецца работа? Я ўпэўнены, што Удома не хацеў выклікаць мяне сюды.

— Наша барацьба вышэй асабістых прыхільнасцей,— сказаў Эдэбхай.— Але аб гэтым пагаворым потым. Наш выканком увечары наладжвае прыём у твой гонар. Пагаворым пасля прыёму.

На чорным небе выплыў месяц, калі яны пасля прыему прыехалі да Эдэбхая.

— Вельмі сціплы прыём,— уедліва сказаў Мабі.
— Так, дружа... А ты ім усім спадабаўся. Ты ведаеш, як гэта важна. А цяпер пагаворым... Вып'еш?
— Хопіць, і так набраўся.
Калі Эдэбхай наліваў сваю чарку, ён крыху пахіснуўся.
— Раскажы мне пра Сяліну,— папрасіў Мабі.— Раней нічога пра яе не чуў.
— Значыць, ты прыкмеціў... На самай справе тут усім верхаводзіць Сяліна. Яна вучыць жанчын, што гаварыць дома мужам, а тыя робяць усё, што кажуць ім жонкі. Без яе ў нас не было б гэтай партыі.
— Яна — прыхільніца племяннога ладу.
— Мы ўсе — народ племяннога ладу, Мабі. Без Сяліны мы б не перамаглі Савета правадыроў і старэйшын.
— Значыцца, выходзіць, што Майк — новы правадыр плямён, які ўзняўся над усімі іншымі. Нешта накшталт вярхоўнага племяннога правадыра і бацькі народа.
Эдэбхай зайшоўся ад смеху:
— Скажы гэта яму, Мабі. Ты скажы гэта яму!
— Ты п'яны?
— Я? П'яны? Міністр п'яны! Не! Крыху выпіў, вось і ўсё.
— Ну, добра. Што ж тут знойдзецца для мяне?
— Ты прымеш міністэрства адукацыі і нацыянальнага кіраўніцтва.
— А што будзе з цяперашнім міністрам?
— Ты станеш міністрам не адразу. Чалавек, які сядзеў у Асамблеі ад горцаў, атрымаў новую пасаду і выйшаў з Асамблеі. Цяпер праводзяцца выбары, і кандыдатам мы вылучылі цябе. Ты станеш членам Асамблеі. Пасля гэтага цябе назначаць міністэрскім сакратаром, а праз месяц ты прымеш міністэрства.
— Вы ўжо ўсё прадугледзелі.
— Аб усім дамоўлена, браце. Але прыдзецца паспяшацца. Зграя Эндуры ўжо распачала перадвыбарчую кампанію.
— А калі дзень галасавання?
— Дзён праз пятнаццаць.
— Тады мне лепш паехаць у свае краі.
— Заўтра цябе чакае самалёт. Вось чаму было вельмі важна, каб сёння ж увечары ты сустрэўся з выканкомам. А там да цябе далучыцца Удома і два дні будзе ўдзельнічаць у кампаніі.
— Ох...
— Я ўжо гаварыў табе, што справа вышэй за асабістыя прыхільнасці...
— Для таго ж я і прыехаў! — зласліва сказаў Мабі, нечакана загарэўшыся.
— Ну, добра, добра! Пойдзем лепш спаць.
— Ёсць якія весткі пра Мхендзі? Калі ён паехаў?
— Я нічога не ведаю. Я — міністр, і ты таксама хутка будзеш міністрам. Таму лепш нічога не ведаць. Ты разумееш. Але Сяліна сказала б табе, што ён паехаў з Квінстаўна сем тыдняў таму назад.
— А калі, на тваю думку, нам будзе што-небудзь вядома?
— Не магу сказаць. Забудзься на ўсё гэта, пакуль не атрымаем вестак. Цяпер у нас тут знаходзіцца вялікая дэлегацыя прамыслоўцаў і інжынераў з Плюраліі. Нашы іх не любяць, але Удома гаворыць, што гэта вельмі важна. Там, у вас, ты таксама знойдзеш некаторых з гэтых людзей. Таму лепш не называць нават імені Мхендзі. Разумееш, дружа?
— Разумею.
— Добрай ночы! Я вельмі рады, што ты нарэшце прыехаў. Удома і я кіруем гэтым урадам. З табой будзе лягчэй.
— Добрай ночы,— сказаў Мабі. Калі Эдэбхай выйшаў, ён застаўся сядзець у сваім крэсле.



З непрывычкі ў час гутаркі з Эдэбхаем ён увесь час чуў гудзенне начных стварэнняў. Цяпер іх гучны хор запоўніў увесь пакой, разросся ў магутную, але стрыманую сімфонію, што неслася да яго з усіх бакоў. Там, у гарах, на яго радзіме, маладыя жанчыны праразалі ў чароце дзіркі і развешвалі яго знадворку на сценах дома. Пад ветрам чарот адклікаўся пяшчотнай музыкай. Многа год назад, яшчэ хлопчыкам, ён любіў начамі ляжаць на траве і прыслухоўвацца да пяшчотных галасоў чароту, якія вылучаліся сярод гучнага хору цыкад. Цяпер не хапала толькі чароту, каб зноў вярнуцца ў тыя далёкія часы дзяцінства. Ён заплюшчыў вочы і пачаў услухоўвацца ў шум...

Мабі падышоў да акна. Заўтра ён будзе дома, на радзіме... Ён крыху баяўся гэтага. Яны ж засталіся такімі самымі, якімі былі, а ён перамяніўся. Добра хоць, што горцы менш экспансіўныя, чым жыхары раўнін. Як добра, што ён зноў убачыць сваю маці! Але перш чым абняць яе, трэба будзе прайсці праз гэты непрыемны старадаўні рытуал.

А Лойс... Што гэта за гучная фраза, якой ён імкнецца апраўдаць сваю здраду? Гэта сказаў Эдэбхай: «Справа вышэй за асабістыя прыхільнасці». Добрая заслона, за якой можна здраджваць сваім сябрам, і самае жахлівае, што так і робіш... Лойс, даруй мне. У гэтым афрыканскім закліку да святла ёсць нешта такое, супраць чаго я не магу ўтрымацца. Хіба гэтым можна апраўдаць здраду сябру? Ці можна, наогул, калі-небудзь апраўдаць здраду хоць бы самаму маленькаму сябру? Табе ж гэта заўсёды было ясна, і мне іншы раз таксама. Але як быць з гэтай Афрыкай, якая нарадзіла мяне? Што лепш — здрадзіць табе ці здрадзіць мары? Хіба трэба заўсёды выбіраць толькі паміж дзвюма злымі сіламі? І ніколі — паміж дабром і злом? Калі так, тады гэта самае жахлівае. І самы страшны выбар заўсёды прыходзіцца рабіць іменна пераходнаму пакаленню.

Даруй мне, Лойс...

* * *

Маленькі самалёт здаваўся страшэнна кволым, калі яго кідала з адной паветранай ямы ў другую. Ён пачаў падымацца ўгару, нібы карабкаючыся па стромкаму схілу. Вялізнае возера засталося ззаду. Набліжаліся горы. Раптам іх пікі апынуліся проста пад самалётам. Далёка ўлева, збягаючы па супрацьлеглых схілах гор, цёмнай плямай вызначаліся джунглі. Малады чарнаскуры пілот павярнуў галаву, ашчэрыўся і выгукнуў:
— Праз пяць хвілін садзімся, сэр! Трымайцеся! Трошкі трасе!
Мабі кіўнуў галавою. Маленькі матор заглушаў словы. Ты забаўляешся, прыяцель. Я гэтага не люблю. Спусці мяне дзе-небудзь. Гэта ўсё, што мне ад цябе трэба.

Самалёцік уздрыгваў і падымаўся ўсё вышэй. Потым ён імкліва паляцеў уніз. Скрозь шум матора Мабі пачуў голас лётчыка. Гэты дурань

нешта напявае. Ён небяспечны хлопец! Зямля набліжалася да іх з трывожнай хуткасцю. Потым самалёт раптам выраўняўся і страціў хуткасць. Цяжка стукала ў вушшу, калі самалёт, падскокваючы на зямлі, набліжаўся да групкі людзей, што іх чакалі. Малады пілот зноў павярнуў да яго галаву і ва ўвесь рот радасна ўсміхнуўся.

— Ну як, сэр? Цэлы і здаровы?

Мабі супакоіўся і нехаця ўсміхнуўся.

— Дзе вы навучыліся лятаць?

— У Ваенна-Паветраных Сілах.

— І вам дазвалялі так лятаць?

— Не, сэр!— весела зарагатаў пілот.— Гэтыя англічане занадта асцярожныя.

— У такім разе няхай маім пілотам будзе англічанін,— сказаў Мабі.

Лётчыку гэта здалося дасціпным жартам.

Маленькі самалёт падруліў да прыпынку, дзе яго чакалі сустракаючыя. Пераважна гэта была моладзь. Тут, у гэтых горных вёсках, старыя людзі не прыходзяць сустракаць маладзейшых за сябе. Мабі будуць сустракаць толькі людзі яго ўзросту і моладзь. А ўжо справа Мабі наведаць старэйшын і апавясціць іх аб сваім прыездзе. Калі яму пашанцуе, калі старэйшыны будуць лічыць, што ён варты якоганебудзь знаку павагі, яны збяруцца ў адным месцы, куды ён і павінен прыйсці і аб'явіць аб сваім прыбыцці. Інакш яму прыдзецца хадзіць з вёскі ў вёску, ушаноўваючы старэйшых, і толькі пасля ўсяго гэтага ён, нарэшце, зможа ўвайсці ў дом сваёй маці.

Мабі і пілот вылезлі з самалёта. Сустракаючыя разбіліся на дзве групы, адна большая, другая меншая. «Рытуал»,— з горыччу падумаў Мабі. Ён павярнуўся да невялічкай групкі людзей. Гэта яго крэўныя родзічы. Ён глядзеў на іх, але нікога не пазнаў. Безумоўна, яго сястра цяпер ужо выйшла замуж, а яе муж жыве, напэўна, за многа міль адсюль.

Ён чакаў. Да яго пачалі падыходзіць родзічы, па аднаму, спачатку мужчыны і па старшынству. Кожны з іх дакранаўся да яго рукі, рабіў невялікі паклон і даваў месца другому. І так яно ішло — спярша крэўныя родзічы, а потым усе астатнія. Нарэшце, цырымонія скончылася. Яму адрэкамендаваўся чалавек у еўрапейскай вопратцы:

— Я тутэйшы настаўнік.

— Рад бачыць вас. Скажыце, дзе старэйшыны?

Настаўнік усміхнуўся.

— Яны сабраліся і чакаюць вас. Людзі Эндуры прабавалі ўгаварыць іх не збірацца на сустрэчу... Урач — мы з ім тут адзіныя члены партыі — прыслаў за вамі сваю машыну. Ён і сам прыехаў бы, але яго выклікалі да хворага. Прыдзе да вас, як толькі вызваліцца.

— Багаж увесь,— крыкнуў пілот.

Некалькі маладых людзей з ахвотаю паднеслі багаж Мабі да віліса. Мабі патрос рукі пілота. Каб пазабавіць вяскоўцаў, малады чалавек надзеў свой лётны шлем і акуляры. Потым сеў у кабіну і ўзляцеў. Зрабіў над імі адзін круг, набраў вышыню, зрабіў двайны пераварот цераз крыло і куляй паімчаўся назад цераз возера.

Пасадачная дарожка была за паўмілі ад вёскі. Мабі і настаўнік паехалі ў віліс. Хто мог, узабраўся на амартызатары і падножку. Астатнія беглі побач і ззаду віліса, які рухаўся вельмі павольна. Хутка яны апынуліся на ўскраіне вёскі.



Мабі глянуў на купку хацін з левага боку дарогі. Вунь мой дом. У ім я нарадзіўся. Там мая маці. Сядзіць і чакае, пакуль скончыцца гэты праклbriefly рытуальны фарс. О, маці! Ці адчуваеш ты такое ж нецярпенне, як я? Чаму гэтыя людзі душаць свае пачуцці непатрэбным рытуалам? Можа, гэта з-за гор? О, маці... Ён хуценька павярнуўся да настаўніка.

— Дык вы гаворыце, што Эндура тут мае ўплыў?

— Чалавек, які сядзеў у Асамблеі, быў стаўленік Эндуры, пакуль Сяліна яго не падкупіла. І зноў туды ўвойдзе чалавек Эндуры, калі супраць яго выступіце не вы, а хто іншы.

— Калі ён такі магутны, ці не зможа ён пабіць і мяне?

— Не. Вас тут лічаць героем. Вы сын гор, вы першы, хто выйшаў у навакольны свет. І ў вас вялікі поспех. Калі ў англійскіх газетах хоць што-небудзь друкуецца пра вас і вашу дзейнасць, яны пранікаюць сюды, і моладзь развешвае іх на сценах. Некаторыя з гэтых газет вы ўбачыце ў школе. Моладзь будзе галасаваць за вас, што б ім ні раілі старэйшыя. Вось чаму яны прымаюць вас. Бо ведаюць, якую вы маеце ўладу над моладдзю.

— Пабачым,— сказаў Мабі.

Віліс затармазіў у самым цэнтры вёскі перад будынкам, у якім знаходзілася вялікая зала нарад.

— Вас чакаюць,— сказаў настаўнік.— Жадаю ўдачы.

Мабі выйшаў з машыны і пакрочыў да хаціны. Тыя, хто яшчэ застаўся ля віліса, застылі ў маўчанні. У другім канцы вёскі шалёна забрахаў сабака.

Мабі пастаяў імгненне, потым пераступіў парог вялізнай хаты. Вакол правадыра паўколам сядзелі старэйшыны. Яго бацька сядзеў справа ад правадыра. Забудзься на ўвесь твой заходні індывідуалізм, Мабі. Памятай, ты зноў у першабытна-племянным свеце.

— Я вітаю вас, мой правадыр.— Ён пакланіўся бацьку: — І цябе, мой бацька. — Потым пакланіўся астатнім. — І вас, старэйшыны горнага народа. У вас мудрасць, закон, улада; вітаючы вас, я пакланяюся ўсяму гэтаму.

Усе вочы павярнуліся да яго. Колькі часу будуць яны гэтак сядзець і разглядаць яго?

Правадыр адкашляўся.

— З добрым прыбыццём, малады чалавек. Цябе доўга не было сярод нас. Якую мудрасць ты прынёс з сабой?

— Нічога такога, што было б новым для правадыра і старэйшын майго народа... Прашу прабачэння, што прышоў да вас у адзенні белага чалавека. Я не хацеў прымушаць правадыра і старэйшын чакаць мяне.

Чалавек, што сядзеў па левы бок правадыра, кашлянуў. Правадыр кіўнуў галавою.

— Ты гаворыш, што нічаму не навучыўся за ўсе гэтыя гады, што адсутнічаў?

— Я многаму навучыўся. Наш правадыр спытаўся ў мяне пра мудрасць. Сяму-таму я навучыўся. А навучыцца мудрасці не так лёгка.

— Значыць, ты думаеш, што мудрасці можна навучыцца?

«Асцярожна, Мабі!»
— З узростам — так.
— А чаму можна навучыцца без узросту?
— Ведам.
— Сапраўды?
— Вазьміце таго юнака, што прывёз мяне сюды на сваёй машыне, якой ён кіруе. Ён малады, у яго няма мудрасці, але ў яго ёсць веды, якія прымушаюць лётаць машыну, і гэта дало мне магчымасць пакінуць узбярэжжа раніцой, а да цямна быць ужо тут.
— Ён белы чалавек. Шляхі белых людзей — не нашы шляхі.
— Не. Ён не белы. Вам скажуць другія. Яны бачылі яго. Ён чорны, але ў яго ёсць веды, каб ляцець на той машыне.
Умяшаўся правадыр:
— А якая карысць лётаць на машыне, калі ў цябе няма мудрасці?
— Карысць у тым, што мудрыя, як вы, могуць цяпер ехаць на ўзбярэжжа, дзе ўрад выслухае вашу мудрасць, і вярнуцца дадому яшчэ да цямна.
— У такім паспешлівым падарожжы няма ніякай прыемнасці,— прамармытаў нехта.
Мабі ўхапіўся за гэты варыянт.
— Калі пажадаеце, я зраблю так, каб вы падняліся на такой машыне.
Па твары старога правадыра прамільгнула ўсмешка. «Якога д'ябла яны не даюць мне крэсла»,— падумаў Мабі.
Спакойна загаварыў яго бацька:
— Мы чулі пра маладых людзей, якія прывозяць з сабой белых жонак...
— У мяне няма жонкі.
— Мы чулі, што ты чалавек Удома.
— Я чалавек свайго народа.
— Тады яны ілгуць, тыя, што гаворыць, што ты прыехаў сюды, каб прыняць удзел у гэтых выбарах?
— Яны не ілгуць. Так, я прыехаў, каб удзельнічаць у гэтых выбарах. Але ад гэтага я не раблюся чалавекам Удома.
— Як жа гэта так?— рэзка спытаўся правадыр.
«Цяпер сцеражыся, Мабі, сцеражыся».
— Трэба, каб голас нашага народа быў чуцен там, на ўзбярэжжы. Трэба, каб горны народ меў аднаго з сваіх у Асамблеі і каб ён выступаў за народ, ахоўваў яго інтарэсы і дапамагаў выпрацоўваць усе законы, якія будуць кіраваць народам.
— Вось як!— пачуўся нейчы злосны голас.— Малады чалавек хоча выпрацоўваць для нас законы.
— Хоць у іх ёсць веды, яны заўсёды будуць кіравацца вашай мудрасцю. Няхай у моладзі будуць веды, напрыклад, як у таго чалавека, што водзіць самалёт, але за мудрасцю яны звернуцца да вас, я звярнуся да вас. Яны зробяць мяне міністрам, каб наглядаць за адукацыяй і выхаваннем моладзі нашай краіны.
— Ты будзеш міністрам?— спытаўся правадыр.
— Так, калі мяне выберуць.
— Першы раз у нашай гісторыі адзін з нас будзе кіраўніком у саветах раўнінных людзей. Ты будзеш міністрам таксама і над іх моладдзю?



— Над усёй моладдзю краіны.
Правадыр усміхнуўся, павярнуўся да бацькі Мабі і павольна кіўнуў галавой. «Гэта паваротны пункт,— падумаў Мабі.— Чаму я ім гэтага адразу не сказаў?»
— Я гэтаму не веру! — са злосцю крыкнула нейкая сівая барада. — Раўнінныя людзі ненавідзяць нас і будуць правіць намі.
— Правільна. Вось убачыце,— пацвердзіў нехта.
Яшчэ адзін стары ўзняў голас у карысць гэтага падазрэння:
— Гавораць, што гэты Удома не паважае старых людзей і мудрасці старых. Гавораць, што ён хоча пазбавіць нас нашых звычаяў, звычаяў нашых продкаў. Што ён прынясе сюды звычаі белых, чыя моладзь не паважае старых, а традыцыі выкідвае прэч. Гавораць, ён не баіцца і не паважае нашых старадаўніх багоў. Што ты на гэта скажаш?
Ах, якая гэта нудная справа. К чорту старых, калі ў іх няма такту прапанаваць маладому крэсла пасля такога стамляючага падарожжа! Хіба маладыя не людзі? Спакойна, Мабі, спакойна. Ён павярнуў галаву, каб агледзець увесь гэты паўкруг старых твараў. Прыязным здаваўся толькі твар правадыра.
— Вы гаворыце: «гавораць», мой старэйшына. Скажыце мне, калі ласка, хто яны такія, што гавораць?
— Тут не мы, а ты павінен адказваць, малады чалавек!
— Выбачайце, я пытаюся з мэтай.
— Разумна,— сказаў правадыр.— Адкажыце юнаку.
— Мне ўсё гэта не падабаецца,— прабурчаў нехта.
— Адкажыце, каб мы маглі ўбачыць яго мэту, — сказаў правадыр.
— Тыя хто выступаюць за Эндуру і Савет старэйшын,— адказаў стары праціўнік.
Мабі сказаў:
— Хіба ж гэта не ваша мудрасць, правадыр і старэйшыны, што калі два чалавекі імкнуцца да аднаго і таго ж, то трэба з падазронасцю слухаць тое, што адзін з іх гаворыць пра другога? Хіба ж супернік не ілжэ заўсёды на свайго праціўніка?
— Гэта разумна,— сказаў правадыр.— Мэта пытання маладога чалавека цяпер ясная. Ён напомніў нам пра нашу ўласную мудрасць. Я вельмі задаволены.
Але стары праціўнік не суніmaўся.
— Малады чалавек, ты гаварыў з мудрасцю, але пытанне маё застаецца, і я хацеў бы паслухаць адказ. Гэты Удома, гэты новы правіцель краіны, ці паважае ён сівыя валасы і нашы старадаўнія звычаі і багоў нашых продкаў? На гэтае пытанне не было яшчэ адказу!
— Вы атрымаеце адказ, паважаны старэйшына. Вось тут, вось цяпер я мог бы сказаць вам, што ён паважае ўсё гэта. Але я зраблю лепш. Хутка, праз два-тры дні, Удома сам будзе тут. Ён прыедзе да вас. Я абяцаю вам гэта. І ён сам адкажа на ўсе вашы запытанні.
Сярод старэйшын пракацілася лёгках хваля ўзбуджэння.
— Гэта зробіць Прэм'ер-міністр краіны?!. — усклікнуў правадыр.
Мабі падавіў іранічную ўсмешку.
— Я папрасіў яго, і ён прыедзе.
— Таму, што ты папрасіў яго?— шэптам спытаў правадыр.
Мабі сцвярджальна паківаў галавою. Старэйшыны абмяняліся позіркамі. «Так,— падумаў Мабі,— што б вы ні думалі пра Удома, ён —

новая ўлада, а аснова вашага жыцця, краевугольны камень вашай традыцыі — гэта павага да ўлады».

— У гэтага маладога чалавека вялікая ўлада,— прашаптаў правадыр на вуха старэйшыне, які сядзеў злева.— А мы не прапанавалі яму нават сесці. Ён кліча Удома, і Удома прыязджае. Нават белыя ці Савет правадыроў і старэйшын раўніны не могуць гэтага зрабіць. — Ён устаў.— Гутарка закончана. Ты нас задаволіў, юны сын Мабі. Ты прынёс гонар свайму народу. На маю думку, трэба наладзіць банкет у твой гонар, і я думаю, што на ім павінны прысутнічаць усе старэйшыны, нягледзячы нават на тое, што ты не нашага ўзросту. Я распараджуся і прыеду сам. Пазней мы падрыхтуемся да прыезду Прэм'ер-міністра Удома. Ці згодны старэйшыны?

Старэйшыны прамармыталі сваю згоду, некаторыя з іх нехаця, але ніхто не выступіў супраць. Яны былі старэйшыны і ведалі, што неразумна ісці супраць плыні.

— Тады гутарка скончана.

Пачуццё горычы агарнула Мабі, калі правадыр і старэйшыны пакінулі свае месцы і падышлі да яго. Сапраўднае зло першабытна-племяннога ладу ў сучасны век заключаецца ў тым, што яго рытуальны кодэкс страху і пакланення перад уладай пазбавіў чалавека яго чалавечай годнасці. Як лёгка тут можа расквітнець дыктатура!

Ён холадна скарыўся афіцыяльным абдымкам бацькі. Па сутнасці, ён не ведаў гэтага старога чалавека. Паміж ім і гэтым старым ніколі не было ўсіх тых дробязей, што ствараюць асаблівыя адносіны паміж бацькам і сынам.

Як патрабуе цырыманіял, ён адказаў на прывітанні старэйшын, правадыра і старога чалавека, што нарадзіў яго, ніколі не будучы яго бацькам. Нарэшце, усё скончылася. Зараз ён можа ісці да сваёй маці. Ён заўсёды ясна помніў яе твар. Як перанесла яна гэтае чаканне, ведаючы, што ён тут і праходзіць рытуал?

На двары амаль нікога не засталося; але настаўнік яшчэ чакаў яго ля віліса. Ён сеў у машыну.

— Ну, як?

— Для мяне наладжваюць банкет. Прыедуць правадыр і старэйшыны.

— Цудоўна! Мы ведалі, што вы гэта зробіце!

— Не я, гэта зрабіў Удома. Ён новы вярхоўны племянны правадыр.

Настаўнік не зразумеў іроніі і гучна зарагатаў.

Віліс прыпыніўся ля двара Мабі. Мабі выскачыў з машыны і на развітанне памахаў настаўніку рукой.

Уваходзячы ў адгароджаны двор, ён натыкнуўся на дзяцей і куранят. Некаторыя жонкі яго бацькі працавалі ля сваіх хацін. Яны сустрэлі яго вітальнымі крыкамі. Ён безуважліва гукнуў ім нешта ў адказ. Потым з хаціны выйшла яна.

Маці! О, маці! Вадзяністыя вочы на круглым цярплівым чорным твары, які зморшчыўся ад часу і цяжкай працы. Маленькі, маленькі, як у мяне. О, заблішчэўшыя вочы, і дрыжачы падбародак, і пах дыму вакол цябе! О, галодныя, шукаючыя вочы! Маё сэрца і вочы таксама галадалі і імкнуліся да цябе ўсе гэтыя гады.

На яе левым павеку дрыжала слязінка.

— Якая хата мая?— прашаптаў ён на мове свайго дзяцінства.



Яна прашмыгнула міма, лёгка дакрануўшыся да яго. Ён павярнуўся і пайшоў за ёю. Другія жанчыны і дзеці сачылі за маці і сынам.

Яна ўвайшла ў хату і павярнулася да яго. Цяпер яны былі адны, нарэшце, адны; ніхто не сачыў за імі пільнымі вачыма. Яна амаль упала ў яго абдымкі.

— Мой сын... Ох, мой сыночак,— гаварыла яна, плачучы.

Ён абняў яе і моцна трымаў у сваіх руках.

— О, маці...— прашаптаў ён па-англійску.

Праз доўгі, доўгі час яна вызвалілася з яго рук і паспешліва выцерла вочы.

— Я баялася...— прашаптала яна.

— Чаго ты баялася, мама?

— Што белыя людзі цябе адбяруць у мяне.

— А цяпер?

— Мае страхі былі бязглуздымі. Ты ўсё яшчэ мой сын, вялікі чалавек, а ўсё ж мой сын.— З яе вачэй зноў пацяклі слёзы, але цяпер ужо ад радасці.

— Дарагая мама,— сказаў ён ціха па-англійску і зноў прытуліў яе да сябе.

— Падгарыць страва...— прашаптала яна.

Заканчэнне будзе.

Мікола ХВЕДАРОВІЧ

# АПОВЕСЦЬ ПРА ЦІШКУ ГАРТНАГА

1

Дарагія вобразы радзімы ніколі не цьмянеюць перад нашымі вачыма. Непрыкметна праходзіць час, змяняецца жыццё, а яны заўсёды жывуць у душы, як самы запаветны яе скарб, і заўсёды вабяць, заўсёды завуць да сябе светлым смуткам далёкіх успамінаў.

Маё роднае мястэчка Капыль... Пасля доўгай ростані мне асабліва добра відаць, як змянілася яно за гэты час, разраслося, развінулася ва ўсе бакі новымі будынкамі. У адным яго канцы стаяць высокія будынкі МТС, у другім — сярэдняя школа. На старой базарнай плошчы расце малады парк, з Дома культуры даносяцца вясёлыя галасы маіх маладых землякоў, для якіх я цяпер — амаль незнаёмы чалавек. А ў гэтым жа доме трыццаць пяць год таму назад я, будучы камсамольцам, ставіў на сцэне свае ўласныя рукапісныя п'есы, тут пачыналася маё юнацтва, бурлівыя дні камсамола...

Але аповесць мая будзе не пра гэта.

Яшчэ і цяпер у Капылі, на былой Свержанскай вуліцы, у самым канцы яе, стаіць маленькая хаціна. Яна ўрасла ў зямлю, ад старасці асела, ледзь трымаючы на сабе імшастую шапку струхлелай страхі.

У гэтай хаціне ў 1887 годзе, 23 кастрычніка, нарадзіўся мой зямляк, вядомы беларускі пісьменнік Цішка Гартны (Зміцер Фёдаравіч Жылуновіч). Бацькі Цішкі Гартнага былі бедныя местачковыя людзі. Яны не мелі ні зямлі, ні гаспадаркі, а жылі з працы сваіх рук і называліся ў той час «бруковымі». Бацька Цішкі працаваў то грабаром, то пільнікам, то служыў у багатай навакольнай шляхты.

На цэлае лета Фёдар Жылуновіч наймаўся ў маёнтак на грабарку. Цяпер маладое пакаленне можа і не ведае сэнсу гэтага слова, бо назаўсёды адышла ў нябыт цяжкая праца грабара, які некалі, стоячы па калені ў балотнай вадзе, рыдлёўкай капаў на балоце канаву.

У сваёй біяграфіі пісьменнік сам апавядае нам пра гэта: «Радзіўся я 23 кастрычніка 1887 года. То была пара, калі ў хаце пераходзілі ад цяжкае падзёншчыны на нудную, чуць не дарэмную «здзельшчыну». Бацька вяртаўся з Палесся, дзе капаў канавы ў падрадчыка. Маці канчала капанне бульбы. Да аднаго варштата, на якім рабіў дзед, мусіў дадацца другі. І ад ранку, з досвітку, да поўначы, пры агні лучніку, павінны былі



зайграць ляды і вітушкі несціхана нудныя песні, каб праз тыдзень найграць для сям'і восім злоты; пры гэтым — з дадаткам муштры ад заказчыка».

На адзінаццатым годзе жыцця Змітрака аддалі вучыцца грамаце. Вучоба ў «дарэктара» не пакінула прыкметнага следу ў жыцці хлопчыка. Да каляд ён прайшоў увесь часаслоў. Нуднае і тупое вывучванне трапароў і царкоўных малітваў хутка яму апрыкрала, і неўзабаве яго вызвалілі ад гэтай «вучобы», даўшы магчымасць яшчэ дзве зімы пакоўзацца на санках і падраць некалькі пар падноскаў на лёдзе.



Цішка Гартны. 1911 год.

Бацькі Цішкі Гартнага вельмі хацелі, каб іх маленькі Зміцер вучыўся і, вывучыўшыся, меў трохі лягчэйшы кавалак хлеба. Калі ў Капылі адчынілася школа, Цішку Гартнага запісалі адразу ў трэці клас.

Вучыўся хлопчык зімою, а летам, стараючыся дапамагчы маці зарабіць кавалак хлеба, наймаўся ў пастухі. Усё лета хлопчык уставаў да ўсходу сонца і ад вербнае нядзелі да п떲ліпавічных дзядоў пад сонцам і дажджом, з патрэсканымі нагамі, з аблупленым носам і паколатымі пальцамі бегаў за чужымі каровамі, сам раз у тыдзень спытваючы малака, але штодзённа церпячы ўсялякую муштроўку гаспадароў. Плацілі хлопцу па рублю за карову за ўсё лета.

Людзям падабаўся старанны і кемлівы хлопец. Каровы былі заўсёды дагледжаны, не было на іх баках пісягоў ад пякучай пугі «дратаванкі». Людзі казалі пры сустрэчы маці:

— Хлопец у цябе, Яўгенька, каб не ўрачы, дай бог кожнаму. Такі кемлівы і спакойны, аж завідкі бяруць. Шчаслівая ты, што маеш такога добрага сына.

Здзіўляў усіх пастушок яшчэ і тым, што ў яго торбе, якая вісела цераз плячо, акрамя акрайца хлеба, заўсёды ляжала кніжка. З самага ранку, калі жывёла спакойна пасецца на выгане, пастушок вымае з торбы кніжку і чытае, нават забываючыся аб тым, што ўжо сонца высушыла росы і здрасі пачынаюць непакоіць жывёлу. Чарнявы, як цыганчук, сябар Змітрака, таксама пастушок, Хведар Чарнушэвіч, якога Цішка Гартны паважаў аж да самай смерці, даваў яму кніжкі для чытання, якія атрымліваў з бібліятэкі сацыял-дэмакратаў у мястэчку Капылі.

Гонячы з пашы кароў, Хведар і Змітрок наперабой абменьваліся ўражаннямі аб прачытаных кніжках.

У 1905 годзе Змітрок заканчвае Капыльскае вучылішча. «Бацькі думалі, што я вывучуся абы на якога, але на «пана». Тым часам ужо не панам пахла. Кніжкі выдання Гарбунова-Пасадава і сяброўская пазычка забароненай літаратуры зрабілі мяне «мечтателем» аб іншых рэчах. Якраз у гэты год зімою па калядах я выпадкова паспрабаваў разам з таварышам Красуцкім пісаць вершы. Напісалі пра сваё мястэчка, ні то па-руску, ні то па-беларуску. Атрымалася прыблізна так:

Капыль горад небальшой,
Слава аб ім громка
Разнеслася па ўсім свеце,
А дзяржыцца тонка.

Гэта акрыліла. Хутка ў нас гэтакіх вершаў сабралася каля 500 радкоў. Паказалі настаўніку — слабыя»...

Аднойчы Змітрок з Красуцкім прачыталі ў «Вестнике знаний» артыкул. Расказваў у ім нейкі Васюкоў пра аднаго самародка з талентам ад прыроды. Гэты чалавек з нейкіх вельмі далёкіх месц прыходзіў да Васюкова, і цяпер Васюкоў праз артыкул шукаў яго. Гэтае здарэнне прыйшлося хлопцам па густу. Іх таксама пацягнула да вандравання, і яны вырашылі пайсці да Льва Талстога.

І вось аднойчы, узяўшы з сабою свае творы, хлопцы выехалі з Капыля. Іх праводзілі сябры з песнямі і вялікімі спадзяваннямі. Але трапілі «вандроўнікі» не да Талстога, а ў Кіеў. Спакусіла тое, што ў Кіеве жылі нейкія далёкія родзічы. Здавалася, так будзе лепей, усё ж сваякі дапамогуць.

Аднак сваякоў яны не знайшлі і неўзабаве, змардаваныя і галодныя, вярнуліся ў Капыль.

У гэты час у родным Змітраковым Капылі адбыліся падзеі, якія павярнулі лёс юнака зусім у іншы бок. Ішоў 1905 год. Аднойчы сярод белага дня ўдарыў на царкоўнай званіцы самы большы звон, які звычайна склікаў людзей на пажар. Гэта і было сігналам да дэманстрацыі. Арганізавана, з палымяным чырвоным сцягам, які развяваўся пад парывамі ветру над галовамі дэманстрантаў, натоўп рушыў з базарнай плошчы на Замкавую гару. Спявалі «Варшавянку» і іншыя рэвалюцыйныя песні, чутны былі выкрыкі «Далоў цара-крывасмока!», «Наш цар — свіння».

Гэтая дэманстрацыя працягвалася некалькі гадзін, і доўга чырвоны сцяг палыхаў на ветры і відзён быў усяму мястэчку з высокай Замкавай гары.

«Адчыніліся іншыя гарызонты, маім бацькам чужыя і незразумелыя»,— успамінаў пазней у сваёй біяграфіі Цішка Гартны. Я зрадніўся з арганізацыяй сацыял-дэмакратаў, кінуў усялякія думкі аб далейшым вучэнні і пайшоў працаваць спачатку чарнарабочым на будаўніцтва. Цягаў цэглу, мяшаў вапну, вечарам чытаў кнігі і пісаў вершы. Калі будаўнічыя работы спыніліся, пайшоў працаваць «бэйгарам» у гарбарню. Гэта было ў лютым 1906 года».

Гарбарні — гэта невялічкія прыватныя майстэрні, у якіх працавала да двух дзесяткаў чалавек. Брудныя, смярдзючыя і цёмныя, яны былі наскрозь прапахшыя дзёгцем і мітрыволем. Маленькія акенцы не прапускалі святла і свежага паветра. Людзі працавалі па пояс голыя, бо стаяла нясцерпная гарачыня. Не было чым дыхаць. Твары рабочых былі сухотна бледныя, рукі патрэсканыя, з балячкамі, прасмаленыя наскрозь дзёгцем. Работа «пасадчыка», якую выконваў Цішка Гартны, была адной з самых цяжкіх работ «бэйгара». Трэба было выхіляць перады, выцяжкі, галоўкі з грубай скуры і выскрабаць іх датуль, пакуль скура не стане эластычнай, з бліскучым глянцам. Умовы гэтай працы вельмі дасканала апісаны паэтам у сваіх вершах.

Я — рабочы гарбар:
Рыцар працы цяжкой,




**Фёдэр Жылуновіч — бацька Цішкі Гартнага.**

Я з жалезнай душой,
З сэрцам палкім, як жар...

Ці задушша, ці чад —
Ўсё на сэрцы маім,
А спужаць ворага-кат
Не здалее нічым.

Я здружыўся з трудом,
Я ў ім рос, я ў ім крэп;
Запрацованы хлеб
Люблю мець за сталом.

Сярод местачковага люду рабочыя-гарбары карысталіся вялікай павагай за сваю катаржную працу ды яшчэ за тое, што яны былі смелыя і згуртаваныя, што сярод іх заўсёды вяліся вольналюбівыя размовы.

Прыходзячы дамоў з цяжкой работы, Цішка Гартны ласкава звяртаўся да маці:

— Мамачка, ці ёсць у нас цёплая вада? Трэба было б памыцца...

— Ёсць, сынок, і вада і абед. Распранайся ды падыходзь да мыцельніка, я табе палью. Нешта ты сёння такі змардаваны. Можа нездароў? — спагадліва пытала яна.

— Не, нічога. Гэта я затрымаўся з хлопцамі. Ці не чулі? Забралі ўчора Васіля Татарынчыка. Я прашу, мама, да мяне зойдуць хлопцы. Нам трэба пагутарыць. Не пярэч, мама, і не паказвай выгляду, што ты незадаволена іх прыходам. Добра, мама?

Маці спакойна і ласкава кажа:

— Ну, мыйся, мыйся хутчэй, а то абед прастыне,— і палівае з конаўкі на мазольныя рукі сына і бачыць, што яны ў мазалях, патрэсканыя і прасмоленыя пякучым мітрыволем. Сэрца ў яе заходзіцца ад жалю, але яна не паказвае свайго гора. Гэта ж яе сын не мае прасветлае гадзіны. цэлы дзень стаіць за брудным варштатам, не бачачы сонца... А прышоў дамоў і зноў нейкі неспакой трывожыць яго... Яна выходзіць у сенцы і, каб ён не бачыў, выцірае пякучую слязіну.

Працуючы гарбаром, Цішка Гартны рыхтуецца да паступлення ў Нясвіжскую семінарыю.

У адзін з сонечных жнівеньскіх дзён 1907 года ён з торбачкай за плячамі ідзе ў Нясвіж. З вялікім хваляваннем і надзеяй пераступае парог Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. Вось і кабінет дырэктара...

— Я падаваў заяву, маё прозвішча Жылуновіч.

Дырэктар насуплена паглядае на невысокага плячыстага юнака з грубымі чорнымі рукамі. Адкуль у яго такая рашучасць і смеласць?

— Па паходжанню вы хто? — чуецца кароткае запытанне.

— Рабочы, бэйгар. Скончыў два класы, але рыхтаваўся сам, спадзяюся...

Дырэктар трымае ў белых тоўстых пальцах маленькі кавалачак паперы, відавочна, заяву. Відзён таксама надпіс зялёным алоўкам.

— Так, так,—мармыча дырэктар.—А вы ведаеце, што ваш бацюшка Савіч даў пра вас нядобры водзыў... І наогул, падрыхтоўкі бракуе.— развёў ён рукамі.

— Я, пан дырэктар, спадзяюся на сваe веды і прашу...

Але яго перабівае скрыпучы голас дырэктара:

— Рашэнне ўжо ёсць. З прычыны недабранадзейнасці адмовіць...

Сумна было на сэрцы. Ідучы дамоў, Змітрок аб усім перадумаў і прышоў да вываду: працаваць над сабой, покуль хопіць сілы, займацца самаадукацыяй. Хіба ж толькі святла, што ў акне. За акном яго куды больш...

Дарога з Нясвіжа да Капыля вілася па дрымучай пушчы паноў Радзівілаў, Сапегаў і Вайніловічаў. Векавечныя дубы і ясені пачыналі скідаць сваё жаўталісце. Сям-там на прагалінах, у засені дрэў, стаялі шляхецкія засценкі з вялікімі садамі і добрымі будынкамі. На самых нізінах, ля гразкіх і калдобістых грэбляў, туліліся гнілыя вёскі з вузкімі і пустымі вуліцамі. У адной з такіх вёсак—Салтанаўцы—Зміцер спыніўся на начлег. Зайшоў да аднаго знаёмага чалавека, з якім аднойчы пазнаёміўся ў майстэрні. Канапелька—так звалі сябра з Салтанаўкі, хоць сапраўднае прозвішча яго было Ждановіч. Гэты Канапелька пасылаў свае вершы ў «Нашу ніву». Было аб чым пагаварыць, бо Цішка Гартны таксама пасылаў карэспандэнцыі і вершы на рускай мове ў газеты «Звязда» і «Праўда». Канапелька на развітанне даў госцю новыя экземпляры «Нашай нівы» і параіў дасылаць туды свае вершы.

У «Нашай ніве» Змітрок прачытаў вершы Янкі Купалы і Якуба Коласа. Бунтарская сіла гэтых вершаў захапіла юнака. Спадабалася яму таксама прастата і зразумеласць мовы, на якой яны былі напісаны. Парашыў і сам пісаць на роднай мове.

У 1908 годзе ў газеце «Наша ніва» з'яўляюцца карэспандэнцыі за подпісам Гартнага аб самавітых капыльскіх паэтах. А потым з'яўляецца і верш пад назвай «Бяздольны», прысвечаны Янку Купалу і падпісаны «Цішка Гартны».

У Капылі працавала невялікая група паэтаў, некаторыя з іх пісалі пабеларуску і былі звязаны з рэдакцыяй «Нашай нівы». На старонках газеты неўзабаве з'явіліся вершы Хведара Чарнушэвіча і Алеся Гурло, а ў рукапісным часопісе «Голас нізу», які выдаваўся ў Капылі, друкаваліся вершы Рыгора Чарнушэвіча і Івана Чарнушэвіча.

Але пасля рэвалюцыйнага ўздыму 1905 года пачаўся дзікі разгул рэакцыі. У Капыль прыгналі салдат і стражнікаў, якія бязлітасна знішчалі ўсё жывое, у чым білася неспакойная думка і шукала выйсця з бяспрасветнай цемры. Разам з рэакцыяй прышло і беспрацоўе. Цішка Гартны едзе ў свет шукаць работы. У гэтым вандраванні па Беларусі ён многа чаго пабачыў і цясней звязаўся з рабочым рухам. Працуючы ў гарбарнях Смаргоні, Вялікаміра, Ковенскай губерні, Ваўкавыска, Міра і іншых гарадоў, Гартны піша карэспандэнцыі і вершы ў падпольныя бальшавіцкія выданні. За тры гады ён аб'ездзіў каля трох дзесяткаў гарадоў, пабываў у Кіеве, Палтаве, Вільні, Рызе. Пры дапамозе сацыял-дэмакратычнай арганізацыі ён звязваецца з рэвалюцыйнымі цэнтрамі Кіева і Рыгі.

Шмат пакут перажыў Цішка Гартны, начуючы на лаўках сквераў, у цёмных калідорах начлежак; былі выпадкі, што даводзілася начаваць і ў паліцэйскіх участках. Але ні на хвіліну яго не пакідала вера ў светлы





**Цішка Гартны са сваёй жонкаю Надзеждай Сцяпанаўнай, 1916 год.**

заўтрашні дзень свайго народа. Ён не шкадаваў сіл, каб наблізіць гэты дзень новага жыцця.

У 1910 годзе Цішка Гартны на кароткі час прыязджае ў Капыль, каб праведаць маці. Яшчэ і па сённяшні дзень памятаюць некаторыя капыляне аб гэтым прыездзе. З'яўленне яго на Свержанскай вуліцы засталося прыкметным здарэннем у іх жыцці. Акрамя сяброў па сацыял-дэмакратычнай арганізацыі, да яго ішлі ўсе, хто хацеў атрымаць параду і распытаць пра тое, што робіцца на свеце. Ён умеў ласкавым словам супакоіць чалавека, умеў разгадаць яго хваляванні і думкі і памагчы добрай і шчырай парадай. Ён пісаў скаргі і прашэнні, хадзіў нават да валаснога старшыні, дзейнічаў праз шматлікіх знаёмых, былі выпадкі, што дапамагаў людзям і працоўным рублём.

Светла і хораша тады было ў хаце Жылуновічаў. Старая маці ўвіхалася каля печы, ласкава раз-по-раз паглядаючы на свайго сына. Яна нібы змянілася з твару, маладзела, кожнае слова яе было пранікнёным і сардэчным.

— Можа б ты, Зміцерка, кінуў чытаць? Няхай яно залядзеецца, гэтае чытанне. Нават пагаварыць няма калі. Хутка ж зноў пакінеш нас...— І ў старой на вочы набягалі слёзы. Сын адразу закрываў кнігу, падыходзіў да старой і, ледзь чутна кранаючыся рукою яе плячэй, гаварыў:

— Не трэба, мама, не трэба хвалявацца, я ж яшчэ пабуду трохі разам, а там буду старацца, можа цябе забяру да сябе. Мне без цябе таксама не жыццё.

І зноў святлее твар у маці, зноў яна ўвіхаецца, накрываючы стол, зноў гаворыць ласкава, сардэчна:

— Зміцерка, ты нешта кашляў ноччу. Можа табе заварыць ліпавага цвету?

Хутка прабягаюць дні ў роднай хаце. Ужо час збірацца ў дарогу. Яшчэ ж трэба па дарозе заехаць у Мінск. Хведар Чарнушэвіч гаварыў, што ў Мінскім астрозе сядзіць Якуб Колас. Па даручэнню сяброў трэба наведаць яго, дабіцца спаткання, а гэта вельмі складаная справа.

Сустрэўшыся ў Мінску з Канапелькай на явачнай кватэры, Цішка Гартны даведаўся, што ранейшыя спробы сяброў дабіцца спаткання з Коласам не мелі поспеху. Начальнік турмы заявіў, што на гэта маюць права толькі крэўныя сваякі. Давялося заручыцца «адпаведнымі» паперамі.

І вось настаў дзень сустрэчы. Першы раз у жыцці давялося пераступіць турэмны парог. За сталом сядзеў адутлаваты вусаты чалавек у мундзіры, з соннымі, млявымі вачыма:

— Вось мая заява, — прагаварыў Цішка Гартны, — маё прозвішча Ждановіч, я жанаты на сястры Міцкевіча Канстанціна Міхайлавіча. Прыехаў я з Мікалаеўшчыны. Прашу дазволіць спатканне.

Паперы гэтак добра былі зроблены, што начальнік і не падумаў доўга размаўляць. Падазваўшы маладзенькага танклявага пісарка, перадаў яму паперу, а сам падняўся з-за стала і выйшаў. Пісарок аказаўся прыдзірлівым. Ён нешта доўга чмыхаў, а потым пачаў задаваць пытанні:

— А вы не ведаеце аб размовах Міцкевіча з сялянамі? Ці часта бывалі ў яго дома? А хто яшчэ бываў?

— Я, паночку, жыву на хутары. Да мяне заходзяць акуратна штодня толькі ноч і дзень. Я жыву адзін, як воўк, а Міцкевіча толькі і сустракаў на сваім вяселлі, дзе ён трымаў сябе вельмі далікатна.

Пасля доўгай, непатрэбнай размовы пісар папрасіў Гартнага выйсці ў калідор і пачакаць. Ён некалькі разоў выбягаў у другі пакой, падазрона заглядаў у твар Цішкі Гартнага. Чакаць давялося доўга. Нарэшце, дзверы прачыніліся і чыноўнік гучна крыкнуў:

— Ждановіч, заходзь!

Зноў тыя ж праклятыя пытанні, але іх ужо задае начальнік турмы. Ён нібыта прачынаецца на момант і неахвотна пытае:

— А Міцкевіч часта бываў у вас?

— Я ж кажу, што пасля вяселля ўжо два гады з ім не бачыўся, — гучыць адказ, і зноў пачынаецца доўгае разглядванне нейкіх папер. Здаецца, начальнік заснуў, такая стаіць у канцылярыі цішыня.

Нарэшце, атрыманы дазвол. Турэмныя дзверы з грукатам адчыніліся. Пераступіўшы праз нейкія клункі, Цішка Гартны апынуўся ў змрочнай бакоўцы. На лаўцы сядзеў наглядчык. У жоўтых пракураных пальцах ён трымаў паперу.

— Прозвішча? Імя?

Адказ быў спакойны і пераканальны.

Праз нейкі момант увялі арыштаванага. Якуб Колас з недаверлівасцю пачаў углядацца ў твар госця, а потым праказаў толькі адно слова:

— Дабрыдзень!

Сустрэча фактычна была першым знаёмствам, і Цішку Гартнаму давялося цішком назваць сваё сапраўднае прозвішча, якое Якубу Коласу было даўно знаёма. Потым сябры моцна паціснулі рукі і загаварылі аб літаратурных справах, аб далейшай працы. Размова вялася дзе позіркам, дзе словам, але так, што наглядчык нічога не мог зразумець. Ён толькі лыпаў вачыма, рабіў разумны выгляд. І нарэшце прамовіў:

— Час скончыўся...

Пасля гэтай сустрэчы, якая на ўсё жыццё здружыла паэтаў, Цішка Гартны напісаў верш, прысвечаны Якубу Коласу, пад назвай: «Не хістайся, дуб зялёны».

У 1913 годзе Цішка Гартны прыязджае ў Пецярбург і паступае рабочым на завод «Вулкан». Ён збліжаецца з сацыял-дэмакратычнай арганізацыяй завода і ўсяго сябе аддае рэвалюцыйнаму руху, прымае актыўны ўдзел у культурна-асветным таварыстве «Знание», якое ставіла сваёй мэтай уцягненне рабочых у культурна-асветныя гурткі. У той час газета «Правда» шырока папулярызавала работу гэтага таварыства і змяшчала на сваіх старонках карэспандэнцыі і вершы яго членаў. Цішка Гартны



становіцца карэспандэнтам «Правды». За подпісам З. Жылуновіч ён змяшчае тут свае допісы і вершы. У № 130 за 26 мая 1913 года змешчаны яго верш пад назвай «Говор волн».

Чувств тоскливых, назойливых полн,
С гордой думой, как с призраком споря,
Я прислушался к говору волн
Расходившейся бури на море.

И средь гула сердитых валов
Мне шумела в лицо непогода:
«Нам не надо нигде берегов,
Были б только простор и свобода».

У гэтым жа годзе выходзіць першы зборнік яго вершаў пад назвай «Песні» (Пецярбург, 1912 год), а неўзабаве паэт заканчвае сваю паэму «Паэт, маці і муза» (1912—1915 гг.).

Тут-жа, у Пецярбургу, у 1914 годзе Цішка Гартны распачаў працу над раманам у трох частках «Сокі цаліны». Гэта фактычна першы беларускі раман, які расказвае аб побыце, жыцці і барацьбе беларускага народа за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Раман з'яўляецца ў поўным сэнсе аўтабіяграфічным. Першая частка рамана — «Бацькава воля» — закончана пісьменнікам у 1916 годзе і ўрыўкамі надрукавана ў газеце «Дзянніца», якую ў гэты час рэдагаваў сам аўтар.

Дзіву даешся, якім кіпучым і ў творчым сэнсе багатым было ў гэты перыяд жыццё пісьменніка! Прагдядаючы пажаўцелыя ад часу старонкі гэтай газеты, мы знаходзім амаль у кожным нумары карэспандэнцыі, артыкулы, фельетоны, вершы, апавяданні Цішкі Гартнага.

Уся творчая праца пісьменніка была падпарадкавана адной ідэі, — ідэі вызвалення працоўнага чалавека ад прыгнёту капітала. Пісьменнік адчувае прыход рэвалюцыйнага прадвесня Кастрычніка. У вершы «Паўстанне» гэтае прадчуванне выказана ў палымяных словах:

Над светам рэе сцяг чырвоны,
Вакол ўздымаючы паўстанне
Супроць вяковага прыгона,
Супроць няволі панавання.

Сцярпеўшы раб ўстае да бою,
Рвучы вакол свае аковы.
І ўжо вітае над зямлёю
Жыцця уклад свабодны, новы.

Усёй душой Цішка Гартны прывітаў Вялікую Кастрычніцкую сацыялістычную рэвалюцыю.

Гары ж агонь Кастрычніка, гары,
Свой промень зыркі раздувай.
Няхай ён ззяе з краю ў край...
Хто спіць да гэтае пары;
Уставай!

«Работнічая і сялянская рэвалюцыя»



Цішка Гартны са сваімі сёстрамі Кацяй і Лізай. 1911 год.

Кастрычніцкая рэвалюцыя паклала пачатак новаму этапу ў жыцці і творчасці пісьменніка. Ён сэрцам адчуў, што векавыя мары працоўнага народа збыліся, і сваім паэтычным словам, сваімі штодзённымі справамі дапамагаў умацаванню новага ладу.

У 1918 годзе Цішка Гартны ўступае ў рады Камуністычнай партыі. У перыяд шалёнага наступу ворага на заваёвы Кастрычніка Цішка Гартны працуе там, куды пасылае яго партыя. Працуе шчыра і самааддана. У гэты час ім напісана многа артыкулаў, фельетонаў, вершаў і нават адозваў, накіраваных супраць белагвардзейцаў, здраднікаў радзімы. Вось адна з яго адозваў:

«Пецярбург, 1 сакавіка 1918 года. Работнікі, сяляне і салдаты! Цяжкі момант прышоў для нашай рэвалюцыі, для нашай старонкі. Усё тое, за што мы цярпелі і ўміралі, грозіцца быць растаптаным паслухмянымі Вільгельму і буржуазеі ўсіх народаў цёмнымі нямецкімі салдатамі. Можа згінуць усё. Дык не дапусцім жа гэтага! Усе як адзін ідзем мы ў Чырвоную Сацыялістычную Армію і гатоўмася на смелае спатканне з варужжам у руках супроць нашага смяртэльнага ворага. Расейская Савецкая Федэратыўная Рэспубліка не павінна памерці бясслаўнай смерцю. Праз пекла мук яна муся стаць збавіцельніцай працоўнага люду ўсяго свету. З варужжам да бойкі!

З. Жылуновіч».

«Дзянніца» № 1, 1 сакавіка 1918 года.).

Пісьменнік і сам ідзе ў Чырвоную Армію і працуе ў палітаддзеле Заходняга Фронта, не пакідаючы сваёй творчай працы.

Высока ацэньваючы работу Цішкі Гартнага, партыя камуністаў накіроўвае яго на самую адказную работу — на пасаду Старшыні Рэвалюцыйнага Рабоча-Сялянскага Урада Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. У Музеі Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі экспануецца тэкст Маніфеста аб стварэнні Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, падпісаны старшынёй урада Змітрам Жылуновічам. Усе свае сілы ён аддае адбудове Беларускай сацыялістычнай дзяржавы, арганізацыі прамысловасці і культуры маладой рэспублікі.

Цішка Гартны выбіраецца шмат разоў членам ЦК КПБ і членам ЦВК СССР, працуе рэдактарам газеты «Савецкая Беларусь».



Доўгі час пісьменнік працуе дырэктарам Белдзяржвыдавецтва, намеснікам наркома асветы, рэдактарам часопіса «Полымя», а пазней выбіраецца акадэмікам Акадэміі навук БССР.

Цішка Гартны карыстаўся велізарным аўтарытэтам сярод беларускай інтэлігенцыі. Ён быў адным з арганізатараў літаратурнага руху на Беларусі. Першая літаратурная арганізацыя Беларусі — «Маладняк» была створана пры яго непасрэдным удзеле. Высока цанілі дружбу з Цішкам Гартным паэты Якуб Колас і Янка Купала, а таксама Змітрок Бядуля (Ясакар) і Міхась Чарот. У дзень пятнаццацігоддзя яго літаратурнай дзейнасці Янка Купала, Якуб Колас, Змітрок Бядуля, Міхась Чарот прысвяцілі яму свае вершы.

Многа поля з добрай доляй
Нешчаслiва і шчасліва
Праляцеў ты, мой саколе,
Па-над роднай сваёй нівай.
Гэй ляці, саколе, далей
Па-над буйнай Беларусяй.
Не спыняйся ў векаў далях
І не гніся, як не гнуўся.

Янка Купала.

...Але выйшаў ты ў пуціну,
Каб за родную краіну
Цвёрда сцяг падняць чырвоны,
Каб да працы, да змагання
Клікнуць смела ўсіх дазвання,
Хто насіў ярмо прыгону.

Якуб Колас.

Пятнаццаць год вяшчуння ліра
Прарочыць волі дзіўны сказ.
Як той вясновы свежы вырай
Прымчаўся к нам камуны час.
Пад нашым небам серп і молат,
Пайшла нядоля ў забыццё.
Народ наш дуж, народ наш молад
Імкнецца ў новае жыццё.

Ясакар.

Праца, змаганне і праца
Акрылялі бунтарскі твой дух.
Хай глядзяць, куды могуць узняцца
Нашай вёскі гарбар і пастух.

Міхась Чарот.

У першыя гады адбудовы гаспадаркі маладой Беларускай рэспублікі паліграфічнай базы ў нас амаль не было. Старыя маленькія прыватныя друкарні не маглі справіцца нават з выданнем газет. Аб друкаванні мастацкай літаратуры і гаварыць не было чаго. Было вырашана арганізаваць выданне беларускай мастацкай літаратуры і падручнікаў для школ за мяжой, у Берліне. Гэтая справа была даручана Цішку Гартнаму.

Як грамадскі і палітычны дзеяч, Цішка Гартны сустракаецца за мяжой з Янам Райнісам, Іаганесам Бехерам, Андрэем Упітам, Юліусам Фучыкам, Здэнекам Няедлым і завязвае з імі сяброўскую перапіску і абмен перакладамі мастацкіх твораў. У гэтыя гады выходзіць зборнік яго апавяданняў «Трэскі на хвалях», а пазней — зборнік вершаў «Урачыстасць».

Нельга не адзначыць удалай спробы сіл пісьменніка і ў драматургічным жанры. Ім напісаны п'есы «Сацыялістка», «Хвалі жыцця», «На стыку» і інш. Праўда, гэтыя п'есы не вызначаюцца сцэнічнасцю і дасканаласцю ў акрэсленні вобразаў, але яны маюць пэўнае выхаваўчае значэнне. Некаторыя з гэтых п'ес, як «Сацыялістка», у той час ставіліся многімі самадзейнымі калектывамі.

У наступныя гады выходзіць з друку зборнік апавяданняў «Прысады», дзе пісьменнік імкнецца паказаць тое новае, што несла вёсцы калектывізацыя. Цішка Гартны глыбока пранікае ў жыццё, пазбаўляецца натуралістычнай апісальнасці і схематызму, якія часам адчуваліся ў ранніх творах. Мастацкае слова пісьменніка становіцца больш багатым, пранікнёным і праўдзівым. Гэтыя рэалістычныя якасці з большай паўнатой праяўляюцца ў яго творах «Гоман зарніц» і інш. Найбольш характэрным у гэтым сэнсе трэба лічыць раман «Перагуды», які выйшаў у свет у 1932 годзе.

У апошнія гады свайго жыцця Цішка Гартны працаваў над раманам пра Мінскі завод імя Кірава. Амаль тры гады працаваў ён непасрэдна на заводзе, ведучы культурную работу сярод рабочых, удзельнічаў у абмеркаванні вытворчых планаў у цэхах, працаваў у шматтыражцы, кіраваў літаратурным гуртком. Нарысы пад назвай «Наступ на горны», якія выдадзены масавым сектарам Беларускай акадэміі навук у 1932 годзе, пабудаваны на матэрыялах, сабраных на заводзе. Пісьменнік не паспеў іх закончыць. Асобныя раздзелы рамана друкаваліся ў нашым перыядычным друку. Яшчэ і цяпер жывуць і працуюць на заводзе рабочыя, якія часта ўспамінаюць добрым словам свайго субяседніка і шчырага дарадцу пісьменніка Цішку Гартнага. Ён стаў душой вялікага калектыву завода, сваім чалавекам, дбайным і прынцыповым, чулым і заўсёды ўважлівым да кожнага рабочага.

## 2

Маючы шчасце быць земляком Цішкі Гартнага, я хачу расказаць пра некаторыя характэрныя рысы яго, як чалавека і грамадскага дзеяча. Вядома, што гэтыя ўспаміны не прэтэндуюць на поўную абмалёўку яго асобы, але сёе-тое могуць дадаць да яго біяграфіі.

Яшчэ вучачыся ў Капыльскім двухкласным вучылішчы, мне давялося сядзець на адной парце з меншай сястрой Цішкі Гартнага — Кацяй і часта бываць у іхнім доме. У той час Цішка Гартны працаваў «бэйгарам» і прыходзіў з работы зморады. Ад яго пахла дзёгцем і скуратамі. У іхняй хаце на стале заўсёды ляжалі кнігі. У Гартнага нават была свая невялічкая бібліятэчка.

Летам мне трэба было мець добрую пугу з гарапнікам. За рамухамі мы бегалі ў бэйгарку да Лэмкі ці Шмаліцы. У Шмаліцы працаваў Цішка і па знаёмству надзяляў мяне адмысловымі рамухамі. Ён таксама часта заходзіў да майго стрыечнага брата Івана, які таксама быў бэйгарам і пісаў вершы на беларускай мове. Аднойчы, калі Іван быў у бэйгарцы, я забег да іх у хату. У кутку на лаўцы я знайшоў сшытак. Разгарнуўшы яго, убачыў напісаныя вершы і ўсе на беларускай мове. Я хоць не вучыў беларускую мову, — ды ў той далёкі час такой навукі і не было, — аднак мне ўсё было зразумела. У сшытку я знайшоў вершы, якія былі прысвечаны паэту Хведару Чарнушэвічу — Таракану, як звалі ў нас яго па-капыльску. Яны былі напісаны пра чалавека, якога я ведаў, і перадавалі яго характэрныя рысы. Праз сорак гадоў я не забыў некаторыя строфы.



Ля капліцы, бліз паркана
Стаіць хата Таракана.
Ён весь чорны, як цыган,
Ну, сапраўдны таракан.

А ўсім хваліцца, што ён паэта,
Не смей чапаць яго ніхто.
Пакінь ты думаць, брат, пра гэта.
А свінні пасвіць будзе хто?

У той час Хведар Чарнушэвіч ужо зрэдку друкаваў свае вершы ў газеце «Наша ніва». Бацькі яго жылі бедна. Сёе-тое ён зарабляў сваёй літаратурнай дзейнасцю, сябраваў з мясцовай інтэлігенцыяй і называў сябе паэтам. Таму ён насіў даўгія валасы, якія закручваліся ўгору так, што надзетая шапка ляжала зверху, як у гняздзе. Справіў ён сабе картовы, але досыць шчыгульны гарнітур, нават насіў гальштук-матылёк на паркалёвай кашулі.

Не падабалася гэтая шчыгульная шляхетнасць Цішку і майму брату Ваньку, вось і склалі яны пра яго гэты памфлет.

Сярод капылян Цішка Гартны лічыўся дэмакратам і адукаваным чалавекам. Ён ніколі не грэбаваў сустрэцца і пагутарыць з самымі простымі людзьмі. Прыезд яго ў Капыль на пабыўку да сваякоў быў цэлай падзеяй для капылян. Усе ішлі да яго за парадамі, а таксама каб пачуць, што робіцца на свеце. І калі ў 1916 годзе была надрукавана першая частка яго рамана «Сокі цаліны», капыляне яшчэ з большай павагай пачалі адносіцца да яго сям'і; яны казалі, што «вось Зміцер сам праз сябе, саматугам, выбіўся ў людзі і, ці чулі, напісаў пра Капыль вялікую кнігу».

Ганарыліся капыляне і тым, што Зміцер стаў камуністам і адным з кіраўнікоў савецкага ўрада. У сваю чаргу, Жылуновіч кожны год праводзіў свой адпачынак у Капылі. У нядзелю капыляне любяць збірацца на базарнай плошчы і гутарыць пра ўсе здарэнні на свеце, абмяркоўваць мясцовыя навіны, жартаваць і нават выпіць па чарцы. Жылуновіч абавязкова бываў сярод іх. Акрамя сур'ёзных і дзелавых размоў, ён любіў жартаваць, прыдумваць неверагодныя здарэнні, так што капыляне ад смеху ледзь трымаліся на нагах. Там, дзе быў Жылуновіч, стаяў такі рогат, што чуцён быў аж на ўскраінах мястэчка. Гумар у яго быў густы, як мёд, настоены на капыльскім перцы. Моцная сіла трымала гэтага чалавека ў гушчы народа, як трымаецца магутны дуб сваімі карэннямі за родную зямлю. Ён, будучы ўжо славутым пісьменнікам і грамадскім дзеячом, знаходзячыся ў гасцях у маці, любіў пасядзець у капыльскай карчме сярод сваіх людзей, пахадзіць па рынку і патаргавацца з селянінам за які-небудзь цэбар ці свінчо. Прычым, гэты торг быў падобны на сапраўдны, і даводзілася за руку адводзіць яго ад воза, вакол якога збіраўся натоўп зацікаўленых.

Такім жа кампанейскім і простым памятаюць яго пісьменнікі. Ён не любіў фанабэрыстых людзей, і калі заўважаў гэтую прыкрую хваробу, імкнуўся жорстка высмеяць пры першай сустрэчы. Мы ўсе памятаем яго

простыя і шчырыя сяброўскія гутаркі з намі. Усіх ён называў толькі па імю і абавязкова на «ты». Сур'ёзная размова канчалася якім-небудзь жартам.

Але як уважліва і па-бацькоўску адносіўся ён да маладых пісьменнікаў, асабліва калі заўважаў у іх сапраўдную «іскру» мастака! Усё жыццё Цішка Гартны быў цесна звязаны з сваім земляком паэтам Алесем Гурло, якому ён нямала дапамог у выяўленні яго паэтычных здольнасцей. Будучы рэдактарам газеты «Савецкая Беларусь», Гартны дапамог яму выдаць зборнік «Барвенак», садзейнічаў выданню яго першых кніжак.

Тое ж можна сказаць і аб узаемаадносінах Цішкі Гартнага з Міхасём Чаротам. Сустрэўшыся з ім у рэдакцыі газеты «Савецкая Беларусь» у 1920 годзе і заўважыўшы здольнага паэта, ён ужо ніколі не выпускаў яго з-пад свае ўвагі, сачыў за яго ростам і быў бязмерна рады праяўленню яго здольнасцей у прозе і паэзіі. Ён чытаў усё, што было напісана Чаротам, стараўся дапамагаць яму парадай, а іншы раз практычна падмацоўваючы той ці іншы радок сваім уласным пяром. Міхась Чарот у далейшым апраўдаў спадзяванні Гартнага і напісаў добрыя паэмы і вершы, якія назаўсёды засталіся ў скарбніцы беларускай літаратуры.

У 1921 годзе Андрэй Александровіч, будучы яшчэ зусім малым хлапчуком, босы прышоў да Цішкі Гартнага ў рэдакцыю газеты «Савецкая Беларусь» і прачытаў свае першыя паэтычныя радкі. Цішка Гартны доўга гутарыў з Андрэем, распытваў, дзе ён жыве, хто яго бацькі, што робяць, і нават не забыў запытацца, ці абедаў сёння хлопчык. Андрэй трохі сароме́ўся і казаў, што ён зусім не галодны, што абедаў сёння, але паскардзіўся на тое, што ён сірата і маці яго вельмі цяжка гадаваць дзяцей. Цішка Гартны, зрабіўшы заўвагі наконт прынесеных вершаў, прасіў Андрэя зайсці да яго праз пару дзён пасля папраўкі верша. Зірнуўшы на пазбіваныя пальцы на босых нагах і на віхрасты чубок бялявых валасоў, ён дастаў з кішэні грошы і даў на булку. Потым, узяўшы хлапчука за руку, павёў яго ў магазін і купіў новыя чаравікі. Развітваючыся, ён пагладзіў яго па галаве і сказаў:

— Абавязкова пішы, Андрэй. А будзе што напісана, прынось да мяне ў рэдакцыю.

У 1921 годзе былі надрукаваны ў газеце «Савецкая Беларусь» першыя вершы Андрэя Александровіча.

Праз некаторы час Андрэй Александровіч стаў вядомым беларускім паэтам, але на ўсё жыццё запомніў ён першую сустрэчу з Гартным у рэдакцыі.

У 1927 годзе я падрыхтаваў першы зборнік сваіх вершаў «Настроі». Кожнаму паэту зразумела, якая гэта падзея ў яго жыцці. І як сорамна паказваць свае вершы, асабліва вядомаму пісьменніку, калі ў цябе яшчэ няма ўпэўненасці ў іх літаратурнай вартасці. Усё ж, нарэшце, я асмеліўся і панёс свае вершы ў выдавецтва. Зайшоўшы ў пакой сакратара, я нясмела падаў сшытак і думаў, што на гэтым будзе канец маім пакутам. Праз месяц ці больш я зноў наведаў сакратара, які мне паведаміў наступнае:

— Вашы вершы ўзяў на чытанне дырэктар выдавецтва Цішка Гартны, ён прасіў зайсці да яго.

Разоў пяць я падыходзіў да дзвярэй, на якіх была прыбіта шыльдачка «Дырэктар выдавецтва». Але асмеліцца пастукаць у дзверы ўсё не мог і ўсё з-за тое ж праклятае сарамлівасці. Але выручыў выпадак. З кабінета выйшаў сам дырэктар і, заўважыўшы маю збянтэжаную постаць, сказаў:

— Ну, заходзь, «воін», чаго ты туляешся па нашым калідоры, нібы на якім шпацыры...



Я намерыўся сказаць, што хацеў зайсці да яго, але ў горле неяк запяршыла і я, не ведаю чаму, вымавіў:

— Гэта ж ішоў у «Звязду», ды папаў не ў тыя дзверы, вось і сланяюся па гэтым калідоры...

Цішка Гартны добра ведаў, чаго мяне занесла сюды, і, каб выручыць мяне і падбадзёрыць, сказаў:



**Цішка Гартны са сваёй сям'ёй. 1928 год.**

— Ну, як хацця вучышся? Чуў, што хутка канчаеш рабфак. Куды думаеш падавацца пасля? З кім сустракаешся з капылян. Зайдзі да мяне, я хутка прыду.

Я зайшоў у кабінет. На стале ляжала шмат папер, і сярод іх я ўбачыў свой сшытак вершаў. Неўзабаве вярнуўся і гаспадар пакоя, а я ўжо за гэты час асмеліўся і адразу пры сустрэчы пачаў расказваць яму пра сваё жыццё, нават набраўся духу і сказаў, што сёе-тое друкую ў газетах. Цішка Гартны выцягнуў з-пад нізу мой сшытак, паліставаў і сказаў мне зусім ветліва, нібы дома, у іх хаце дваццаць гадоў таму назад:

— Я чытаў твой зборнік. Мы яго надрукуем, але вось я тут зрабіў свае заўвагі, мяркую, што згодзішся з імі і сёе-тое паправіш. А некаторыя слабейшыя, якія памечаны сінім алоўкам, трэба параіць табе не друкаваць,— і ён зачытаў адну страфу з верша, памечанага сінім алоўкам:

І вясна, і снег, і замяць,
Стынуць ў лузе жураўлі.
Акрапіліся слязамі
Пад туманамі палі.
Снег растаў і на гумнішчы
Заўчарашні чорны след.
Нехта ноччу ходзіць, свішча
У свісцёлку па сяле...

— Ты, Мікола, тут штосьці накруціў,— працягваў ён гутарку,— нават цяжка разабрацца: у цябе і вясна, і дождж, і замяць, і жураўлі стынуць; снег спачатку валіць, а потым растае — малюнак невыразны. Прымешваецца нешта накшталт нейкай містыкі, як напрыклад: «нехта ноччу ходзіць, свішча у свісцёлку па сяле». Хто свішча? Калі гэта вартаўнік, дык трэба аб гэтым сказаць проста і выразна. Усе іншыя вершы, памечаныя сінім алоўкам, маюць такія ж промахі. Дабівайся, каб думкі ў вершах былі выразнымі і кожнае слова стаяла на месцы. Не крыўдуй, браце, ідзі папрацуй яшчэ трохі.

Перадаўшы мой сшытак, ён затрымаў увагу на маёй постаці і запытаў:

— Можа вельмі туга з харчамі, ведаю, што рабфакаўцы пакуль што

не маюць лішніх грошай у кішэні. Можна будзе сёе-тое падкінуць на ўсялякі выпадак. І доўга не чакаючы, ён зняў тэлефонную трубку і ціха сказаў:

— Паклічце Івана.

Напэўна, той Іван падышоў да тэлефона, і Цішка Гартны працягваў размову:

— Слухай, Іван. Да цябе зойдзе малады паэт Хведаровіч. Дай яму сто рублёў, як аванс, ён мае хутка друкаваць сваю кніжку, дык потым разлічымся.

Паклаўшы трубку, ён накіраваў мяне да таго добрага Івана, які дае грошы паэтам. На развітанне ўспомніў пра нашу незвычайную сустрэчу ў 1923 годзе ў вёсцы Цароўцы Слуцкага раёна. Там я ў той час працаваў загадчыкам хаты-чытальні і сакратаром валаснай ячэйкі камсамола. Якраз у гэты час пастановай ЦК партыі вялікая колькасць партыйных і камсамольскіх работнікаў была накіравана ў вёску для ўзмацнення работы сярод шырокіх колаў сялян. У адну з груп уваходзіў і Цішка Гартны. Гэтая група якраз і была накіравана ў Слуцкі раён. Аднойчы дзверы мае чытальні адчыняюцца, і на парозе я пазнаю свайго земляка. Вядома, я быў надзвычайна абрадаваны такой сустрэчай і стараўся паказаць свайму госцю ўсю сваю работу. Хутка склікаў сход камсамольцаў, запрасіўшы на гэты сход свайго госця. І як здзіўлены былі мае хлопцы, калі пачулі простую і шчырую гутарку члена ЦВК СССР і аднаго з кіраўнікоў урада БССР, ды яшчэ да таго ж вядомага пісьменніка. Ён гаварыў аб рабоце сярод вясковай моладзі, аб барацьбе з бандытызмам і рэлігійнымі забабонамі. Наш драмгурток паставіў п'еску пад назвай «Марат». Яму ўсё вельмі спадабалася. Развітваючыся са мною, ён затрымаўся і сказаў:

— Мікалай, на цябе скардзяцца тутэйшыя людзі. Кажуць, што ты іх непакоіш стралянінай. Кажуць, страшна выйсці на вуліцу. Вайна, кажуць, ды і толькі. А фельчар медпункта нават скардзіўся, што ты ноччу страляеш нават у будынку хаты-чытальні?

Мне нечым было апраўдвацца, бо гэта былі справядлівыя скаргі. Актыў нашай ячэйкі быў поўнасцю ўзброены. Зброя ў нас засталася ад ЧОНА, у якім мы служылі. Нам дазволена было трымаць яе таму, што яшчэ ў 20-х гадах у гэтай мясцовасці арудавалі бандыты, якія засылаліся праз граніцу з панскай Польшчы. У мяне была трохлінейная вінтоўка, торба патронаў і наган. У вызначаныя дні мы наладжвалі стрэльбішча на паплаўку за вёскай. Страляў я ў будынку хаты-чытальні таму, што сярод ночы на мяне навальваліся штурмам злосныя мае ворагі — пацукі, якіх у чытальні было процьма. Ад іх мітусні мне здавалася, што нехта лезе ў вокны, і я паднімаў страляніну. Я быў вінаваты, апраўданняў не было.

— Спыні, воін, гэты ваяўнічы запал, — сказаў ён мне. — Каб больш гэтага не было. Чуеш, Мікалай, ці не? Людзі напішуць скаргу ў выканком, і цябе за гэта па галоўцы не пагладзяць.

Успамінаючы на развітанне аб гэтым выпадку, Цішка Гартны так моцна рагатаў, што з суседніх пакояў выбеглі супрацоўнікі, падумаўшы, што ў дырэктара ў кабінеце здарылася нямаведама што.

Пазней мне даводзілася сустракацца з Цішкам Гартным у Доме пісьменніка на літаратурных вечарах, але ён і там не забываў напомніць аб гэтай стралянiне ў вёсцы Цароўцы.

У 1933 годзе мы разам з Цішкам Гартным паехалі ў камандзіроўку на Случчыну. Я ў той час быў рэдактарам часопіса «Чырвоная Беларусь», і мы парашылі разам напісаць нарыс аб калектывізацыі для нашага часопіса. Наведалі мы і Цароўку, успамінаючы тыя дваццатыя гады. Мы шукалі маіх хлопцаў-камсамольцаў, якія ў той час сустракаліся з пісьменнікам. Але мала каго знайшлі ў гэтай вёсцы. Некаторыя з іх працавалі ўрачамі, настаўнікамі, а былі і такія, якія ўжо даслужыліся да камандзіраў батальёна. Многія працавалі на камсамольскай і партыйнай рабоце, адным словам, дзесяць гадоў унеслі свае карэктывы ў наша жыццё. У вёсцы быў арганізаваны калгас, на палях якога чутна была гамонка трактароў.



Нельга было не заўважыць, як радаваўся мой зямляк, бачачы, як людзі змяняюць жыццё і выходзяць на светлы шлях. Зусім шчыра і па-гаспадарску ён вёў гутарку з упартым «нехацімцам» Іванам Мялешкам:

— Ну, што вы трацiце, пакідаючы вашу бедную гаспадарку і ўступаючы ў калгас? У вас няма сапраўднай гаспадаркі, яе ніколі і не было. Я быў у вашай хаце. Ну, хіба ж гэта хата? Гэта струхлеўшая куча смецця, накрытая гнілой саломай. Я бачыў вашых дзяцей. Яны можа ніколі не елі добрага хлеба. Калгас дапаможа вам стаць на ногі і ўбачыць па-сапраўднаму, як чалавеку патрэбна жыць на свеце...

Я адшукаў выпадкова гэтыя мае запісы ў блакноце і радасна мне, што словы і мары нашы спраўджаны. Толькі хачу я паехаць у той калгас і адшукаць таго «нехацімца» Мялешку і пасядзець у яго за сталом. Упэўнены, што наша гутарка будзе цяпер зусім іншая. Дзеці Мялешкі, можа, і не павераць, як упіраўся іх бацька ў 1933 годзе, не хочучыісці ў калгас, і за гэта яго празвалі на вёсцы «нехацімцам».

Вярнуўшыся ў Слуцк, мы спыніліся ў гасцініцы, якая ў той час называлася «Чайнік». У гэтым «чайніку» не было электрычнасці, і мы ўвесь вечар прасядзелі за пяцілінейнай лямпай. Размаўляючы на літаратурныя тэмы, я запытаўся ў Цішкі Гартнага:

— Скажыце, дзядзька Зміцер, вы вось доўгі час працуеце на заводзе. Што практычна вам дае гэтая праца ў творчых адносінах. Пэўна, нарысамі, якія вы змяшчаеце ў нашым друку, яна яшчэ не вычэрпваецца?

Цішка Гартны падкруціў кнот у лямпе, дастаў з партфеля блакнот і прачытаў прыблізны сюжэт свайго новага рамана. Гэта быў сюжэт, распрацаваны накшталт кароткага сцэнарыя. У плане былі выпісаны ўсе героі, падзеі занатаваны ў форме кароткіх літаратурных замалёвак.

Цяжкая хвароба псавала настрой пісьменніка, і ён часам упадаў у нейкае недавер'е сваім сілам.

— Ці змагу, ці хопіць сілы закончыць гэты раман да дваццатай гадавіны БССР? Але намагаюся паставіць кропку пад першай часткай аб жыцці і працы рабочых завода, аб яго партарганізацыі, аб вынаходніцтве ў тэхніцы і арганізацыі працы. Другая частка будзе напісана пра сувязь завода з калгасамі і дапамогу ў арганізацыі калгаснай працы. Тэма гэта вельмі шырокая і складаная, але мне, як быламу рабочаму, найбольш родная і блізкая.

Не ведаю, ці захаваліся рукапісы гэтага рамана, над якім пісьменнік працаваў больш пяці год.

Прыпамінаецца лета 1936 года. Праўленне Саюза пісьменнікаў Беларусі па запрашэнню палітаддзела 2-й Беларускай дывізіі камандзіравала брыгаду пісьменнікаў у вайсковую часць, якая знаходзілася ў летнім лагеры. Сярод нас быў Цішка Гартны. Стаялі гарачыя летнія дні.

Дарога вілася паміж густых дуброў, але часта насустрач нам раптам выбягаў малады сасоннік. На шырокіх прагалах палёў шаўкавістым дыва-

ном перакатваліся, як хмары, ураджайныя нівы. На поймішчы рэчкі Случ, якая вужакай выкручвалася паміж пералескаў, цвілі ўсімі колерамі беларускага лета багатыя лугі.

У цікавай гутарцы мы неўзаметку мінулі густы смалісты бор; машыны выбеглі на шырокую паляну, якая бялела ад палатняных армейскіх палатак. На крутым узгорку стаяў прыгожы драўляны домік — лагерная гасцініца. На шырокай верандзе яе, якая хавалася ад сонечнай спякоты ў густым бярозавым галлі, нас пазнаёміў тав. Гарнастаеў з чорнымі, як смоль, людзьмі, прадстаўнікамі рабочай дэлегацыі народаў чорнай Афрыкі, якія гэтак жа, як і мы, прыехалі ў госці да чырвонаармейцаў з Масквы. Большасць з іх былі негры. Завязалася таварыская гутарка. Сярод неграў былі і такія, што валодалі рускай моваі. У гутарцы прымалі ўдзел і жанчынынегрыцянкі. Цішка Гартны расказваў далёкім гасцям аб нашай савецкай літаратуры, аб непарыўных яе сувязях з народам.

— Вось вам яскравы прыклад гэтай сувязі, — казаў ён, — наш прыезд да чырвонаармейцаў, якія з'яўляюцца самымі ўдзячнымі нашымі чытачамі.

Праз нейкі час мы былі сведкамі спаборніцтваў па футболу паміж камандай чырвонаармейскай часці і камандай народаў чорнай Афрыкі.

На літаратурным вечары Цішка Гартны выступаў з прывітаннем ад пісьменнікаў і чытаў свае вершы.

З таго часу прайшло больш дваццаці гадоў. Сярод нас ужо няма натхнёнага песняра беларускага народа Цішкі Гартнага. Але ён жывы сярод нас сваёю багатай творчасцю, і, як сёння, я чую яго грубаватабасісты голас, ён гучыць натхнёна і пераканаўча:

І там, дзе скрозь насіўся цень,
Дзе рабства вокал панавала,
Праменнем сонца азіяла,
Пад гучны спеў Інтэрнацыянала,
Камуны светлай вечны дзень.



# КРЫЛАТАЯ ГВАРДЫЯ

Н. ВІНАГОРАЎ

## 1. НАВЕЧНА Ў СТРАІ

Эскадрылля вярнулася ў казарму на цямку. Прагучала каманда:

— Праз дзесяць хвілін падрыхтавацца да вячэрняй паверкі. Разыйдзіся!

Вайскавікі, як ніхто іншы, умеюць карысна выкарыстаць кожную хвіліну вольнага часу. Толькі што байцы стаялі ў страі, і вось ужо, падзяліўшыся на купкі, пяюць, спрачаюцца, расказваюць навіны...

У казарму ўвайшоў афіцэр Філімонаў. Музыка заціхла. Салдаты сталі смірна, вітаючы начальніка.

— Прадаўжайце, таварышы! — сказаў афіцэр, вітаючыся.

Да афіцэра падышоў стрыжаны салдат у новенькай гімнасцёрцы і папытаўся дазволу задаць пытанне.

— Пытайцеся.

— Вось мы, маладыя байцы, хочам, каб вы расказалі нам пра Вядзеніна...

У размову ўступіў другі малады салдат:

— Таварыш камандзір, вы, кажуць, ваявалі разам з Вядзеніным?

— Даводзілася, — загаварыў Мікалай Пятровіч Філімонаў. — Пра Івана Пракопавіча Вядзеніна я раскажу вам ахвотна.

* * *

Вядзенін нарадзіўся ў шахцёрскай сям'і. Родам з Горлаўкі. Рана застаўся без бацькі. Іх, дзяцей, у маткі было трое — два браты і сястра. З маленства яны выхоўваліся сціплымі і паважалі працу.

Іван Вядзенін яшчэ задоўга да вайны марыў стаць лётчыкам. Марыў і рабіў усё, каб ажыццявіць сваю мару. Ён пачаў займацца спортам, загартоўваць свой арганізм. Апрача гульні ў футбол, хадзіў займацца гімнастыкай у палац культуры, зімой спаў пры адкрытым акне, мыўся снегам, рабіў вялікія пераходы на лыжах.

У школе Вядзенін вучыўся добра, адначасова наведваў заняткі ў аэраклубе. Тут настаўнікі заўважылі ў хлопца вялікую цягу да авіяцыйнай тэхнікі. Неяк увечары адзін з выкладчыкаў пажартаваў:

— Хлопцы, хто збярэ матор к раніцы, дазволю ляцець...

Вядзенін падгаварыў сваіх сяброў Молазева і Юмашова ўзяцца за зборку. Утраіх яны за ноч зманціравалі матор. А работы было не менш, як на два дні.

Вядзенін у аэраклубе закончыў вучобу з выдатнымі ацэнкамі. Выдатна ён займаўся і ў ваенным вучылішчы.

Жнівень 1942 года. Вайна.

Малады лётчык Іван Вядзенін прыбыў у полк. Жыццерадасны і дапытлівы, ён адразу пасябраваў

з бывалымі штурмавікамі. Тут з ім і пазнаёміўся Філімонаў. Механік заўважыў, што новы камандзір экіпажа сам сур'ёзна і ўважліва правярае ўсе «дробязі» ў самалёце і нядрэнна разбіраецца ва ўсіх дэталях. Але аднойчы пытанне яго здзівіла Філімонава. Закончыўшы агляд машыны, ён раптам спытаў:

— Таварыш сержант, як бы гэта раздабыць пару гранат?

— Якіх гранат? — здзівіўся Філімонаў.

— Звычайных, што кідаюць у ворага.

— Што вы, таварыш камандзір, у нас ёсць больш моцная зброя: у машыне — 600 кілаграмаў бомбаў.

— А больш хіба нельга пакласці?

— Нельга. А навошта вам гранаты?

— На ўсякі выпадак, Мікалай Пятровіч, — загадкава ўсміхнуўся

**Куток у казарме, прысвечаны герою-лётчыку І. П. Вядзеніну.**



Вядзенін. — Хоць бы пару. Адну — для ворага, а другую — так... Няхай будзе. Калі давядзецца сесці, жывым не здамся!..

Давялося знайсці пару «лімонак». Вядзенін пашыў для іх мяшочак і павесіў у сваёй кабіне.

Пасля першага баявога палёту капітан Пруткоў, пад камандаваннем якога быў *малады лётчык*, сказаў Вядзеніну:

— У палёце вы дзейнічалі добра. Я сказаў бы, як для навічка — гэта выдатна!..

На чацвёртым баявым вылеце — гэта было ў першы дзень палётаў — падбілі самалёт Вядзеніна. Варожы зенітны снарад прабіў крышку галоўкі правага блока, і масла загарэлася на выхлапных патрубках. Дым запоўніў кабіну, перашкаджаючы назіраць, не даваў дыхаць. Усё ж лётчык прадаўжаў выконваць заданне. Не вышаўшы са строю, ён прывёў самалёт на аэрадром.

Філімонаў, заўважыўшы шлейф дыму ад самалёта, з трывогай чакаў пасадкі. Як толькі самалёт прызямліўся, механік кулём кінуўся насустрач.

Іван Вядзенін вылез з кабіны, але механік не пазнаў яго. Камбінезон, твар, рукі, шлемафон — усё было запэцкана чорным перагарам масла. Твар быў абпалены, і толькі вочы, якія былі схаваны акулярамі, свяціліся.

— Мікалай Пятровіч, чаго ты глядзіш на мяне? — жартаўліва ўсклікнуў Вядзенін. — Не пазнаеш, ці што?

— Жывы! Здаровы! — узрадавана прагаварыў Філімонаў. Як ён мог інакш выказаць сваю радасць, што яго любімы камандзір вярнуўся!

Воіны палка, дазнаўшыся аб подзвігу маладога лётчыка, як маглі выказвалі захапленне. А Вядзенін, пераапрануты ў новую вопратку, дапамагаў механіку



рамантаваць самалёт і ўсё трывожыўся:

— Мікалай Пятровіч, нам трэба ўправіцца да чарговага вылету...

Хвілін праз сорак машына была гатова, і Вядзенін пяты раз вылецеў на заданне. Камандзір не планаваў яго палёт, але хлопец упрасіў. *Ды хто тады мог уседзець!*

Фашысты ірваліся да Сталінграда. Трэба было спыніць азвярэлых ворагаў. Дорага была кожная баявая машына, кожны чалавек.

...У кароткія хвіліны адпачынку, пасля бою, калі збіраліся авіятары, Іван Вядзенін звычайна заводзіў песню, з якой ніколі не разлучаўся — «Распрагайце, хлопцы, коней».

Юнак цяпер з сумам прыгадваў *матку, сястру і брата, якія засталіся там*, у роднай Горлаўцы, захопленай ворагам.

А іншы раз Вядзенін чытаў вершы ўголас. Яго слухачамі звычайна былі механікі, матарысты, ружэйнікі. Лежачы пад плоскасцю самалёта, ён з захапленнем чытаў Пушкіна, Някрасава, Маякоўскага.

Слухаючы прачулыя пушкінскія ці някрасаўскія радкі, воіны пранікаліся пачуццём любві да Радзімы, вастрэй успрыймалі яе гора і пакуты. Гнеўныя вершы Маякоўскага клікалі да барацьбы.

...Аднойчы група самалётаў, у *якой быў Вядзенін, вярталася* з задання над знаёмым палаючым горадам. У Івана засталіся нявыкарыстаныя рэактыўныя снарады і кулямётныя патроны. Ён уважліва глядзеў уніз, стараючыся заўважыць якую-небудзь цэль. Горад быў яму знаёмы, і лётчык лёгка ў ім арыентаваўся з паветра. Раптам на вуліцы выявілася калона машын, у якіх везлі гаручае. Гэта была важная цэль. Як паведаміць вядучаму аб сваім намеры? Вядзенін ішоў замыкаючым, перадатчыка на яго машыне не было. Ён зрабіў некалькі знакаў крылямі, але гэтага ніхто не заўважыў. Тады прышла думка: атакаваць самастойна!

Вядзенін аддзяліўся ад групы і спікіраваў. Праціўнік адкрыў зенітны агонь. Па самалёту стралялі з усіх відаў пяхотнай зброі. Але куляў і дробных асколкаў «ІЛ» не баяўся. Потым вельмі ўжо смелай і нечаканай была гэтая атака.

Пікіруючы, Вядзенін страляў па варожай калоне з баявых кулямётаў. Потым прайшоўся ўздоўж вуліцы брыючым палётам, ледзь не над самымі дахамі. Перагароджваючы яго дарогу, высока ўзнімаўся трохпавярховы будынак. Раней тут была школа, а цяпер (аб гэтым *лётчык даведаўся пазней*) у ёй *размяшчаўся штаб нямецкага злучэння*. Лётчык кінуў некалькі рэактыўных снарадаў. Вуліца запалыхала полымем...

Гэты подзвіг Івана Вядзеніна бачыў камандуючы легендарнай 62-й арміі, што абараняла Сталінград, генерал-лейтэнант Чуйкоў, які знаходзіўся на назіральным пункце. Ён запытаўся па тэлефоне прозвішча смельчака і перадаў яму ад сябе падзяку і аб'явіў, што гэты лётчык узнагароджваецца ордэнам Чырвонага Сцяга. Сержант Іван Вядзенін быў таксама прадстаўлены да прысваення чарговага воінскага звання.

Гэта было 22 верасня 1942 года.

29 верасня Вядзенін зрабіў 22-гі свой баявы вылет, які быў апошнім яго вылетам. Штурмавікі бамбілі варожыя скопішчы на подступах да Сталінграда. Вядзенін ляцеў услед за камандзірам эскадрыллі капітанам Пстыгаю.

...Філімонаў змоўк, як заўсёды бывае, калі расказчык падыходзіць да самага важнага месца ў сваім апавяданні. Усе слухалі з затоеным дыханнем. І афіцэр прадаўжаў:

— З раніцы надвор'е было нялётнае — нізкія воблакі, туман, імжыў дождж... Потым дождж сціх, але зямля яшчэ доўга была спавіта туманам.

У той дзень Вядзенін быў сумны, злосны. Можа ён прадчуваў нешта нядобрае, а можа на яго настрой уплывала надвор'е, якое перашкаджала ісці ў палёт.

Сядзелі пад крыллямі самалёта. Вядзенін пачаў нешта расказваць пра тое, як ён праводзіў сваю дзяўчыну на фронт, але хутка сціх.

— Чаму я заўсёды расказваю, а ты маўчыш? — раптам спытаўся Вядзенін у свайго механіка.— Раскажы ты пра сябе!

— Што вы, таварыш камандзір, — сумеўся Філімонаў.— У мяне няма нічога цікавага...

— Без мары, без блізкага друга — жыць цяжка, — натхнёна прамовіў камандзір і зноў запытаўся ў таварыша: — А ў цябе ёсць якая-небудзь мара?

— Тэхнікам хачу стаць.

— Гэта добра!

Пакуль лётчык адпачываў, механік рыхтаваў машыну. Самалёт іхні не быў запланаваны на палёт, але тэхніка павінна быць заўсёды напагатове, і механік яшчэ раз праверыў спраўнасць самалёта.

І раптам паведамілі:

— Ваш самалёт ляціць.

Вядзенін шчыра ўзрадаваўся. Ён хутка падхапіўся, весела кінуў:

— Гэта іншая справа. Механік, к бою!

Падышоў капітан Пруткоў, удакладніў з лётчыкам заданне. Тымчасам механік прагрэў рухавік. Садзячыся ў кабіну, лётчык, як заўсёды, кіўнуў на развітанне.

— Я бачыў, — уздыхнуў Мікалай Пятровіч Філімонаў,— як самалёт Вядзеніна параўняўся са строем і заняў сваё месца... Так я правёў свайго камандзіра ў апошні палёт.

Над цэллю, як потым расказваў вядучы групы капітан Пстыга, Вядзенін дзейнічаў храбра. Ужо ў часе першай атакі прамым пападаннем бомбы падпаліў нямецкі танк. Пры выхадзе з атакі машына Вядзеніна была падбіта зенітным снарадам. Матор задыміўся. Полымя ахапіла ўвесь самалёт. Капітан Пстыга, заўважыўшы гэта, перадаў па радыё, каб лётчык ішоў на сваю тэрыторыю. Але зрабіць гэта той ужо не мог. Машына ляцела палаючай каметай...

Пстыга бачыў, як самалёт Вядзеніна апісаў дугу і палаючы, з боепрыпасамі ўрэзаўся ў танкавую калону. Страшэнны выбух страсянуў паветра.

... Імя старшага сержанта Івана Пракопавіча Вядзеніна залічана навечна ў спісы палка.

Калі Філімонаў закончыў расказ, нейкую хвіліну панавала ўрачыстае маўчанне. Потым усе неяк разам загаманілі, выражаючы сваё захапленне подзвігам чалавека, які не пашкадаваў свайго жыцця ў імя свабоды і шчасця сваёй Радзімы.

Але вось пачулася каманда:

— Выходзь на вячэрнюю паверку!

Старшына, падаўшы каманду «смірна», прыступіў да паверкі.

— Старшы сержант Іван Вядзенін!

Правафлангавы чотка далажыў:

— Старшы сержант Вядзенін загінуў смерцю храбрых у баі за свабоду нашай Радзімы!

Гэта прагучала ўрачыста і адгукнулася ў сэрцы кожнага воіна, як клятва вернасці баявым традыцыям.



**І. ГУСЕЎ, В. МІШЫН**

# 2. ВАРТАВЫЯ МІРНАГА НЕБА

* * *

Чарговы лётны дзень. Пастроіўшыся ля самалётаў, авіятары атрымліваюць апошнія ўказанні.

— Сёння мы будзем страляць па наземных цэлях на палігоне,— гаворыць камандзір.— Строга выконвайце правілы вядзення агню і меры бяспекі.

Затым афіцэр даводзіць планавую табліцу, паведамляе чарговасць вылетаў самалётаў.

Задача ўдакладнена. Тыя, каму належыць ляцець у першую чаргу, накіроўваюцца да сваіх машын.

— Самалёт да палёту гатовы! — дакладваюць авіяспецыялісты лётчыкам.

Праз некалькі мінут у паветра ўзлятае зялёная ракета, і знішчальнікі адзін за другім вылятаюць на заданне. Курс — на палігон. Там ужо ўсё падрыхтавана да стральбы. На палігоннай пляцоўцы расстаўлены макеты самалётаў і машын, шчыты.

Афіцэр, якому даручана кіраваць стральбой, узыходзіць на вышку. У гэты час у паветры паказваюцца знішчальнікі. У кабінеце вядучага — камандзір звяна, лётчык другога класа Жыгалаў. Справа ідзе, паблісюваючы срабрыстымі крыллямі, машына, якой кіруе малады пілот. Жыгалаў звязваецца з палігоннай радыёстанцыяй.

— Дазвольце? — пытае ён кіраўніка палётаў.

З зямлі даносіцца сцвярджальны адказ.

Адзін за другім, набіраючы патрэбныя дыстанцыі, ідуць самалёты. З зямлі строгім, прыдзірлівым позіркам сочыць за імі кіраўнік палётаў.

— Павялічце дыстанцыю,— радыруе ён аднаму з лётчыкаў.

І бачна, як машына за машынай, нібы накіроўваемыя адной рукой, выконваюць загад, выпраўляюць памылкі.

— Цяпер добра,— чуваць у шлемафонах лётчыкаў.— Напамінаю мішэні...

Знішчальнікі падыходзяць да чацвёртага развароту. Вядучы рыхтуе прыцэлы: ссоўвае ромбікі на радыус, які адпавядае мінімальнай дальнасці. Потым пераводзіць самалёт у пікіраванне.

Насустрач імкліва прыбліжаецца зямля. Стрэлка прыбора, які фіксуе вышыню, хутка адлічвае метры. Мужнасць, дакладны разлік патрабуюцца тут ад лётчыка; яго ўвага прыкавана да наземных цэляў.

«Час пачынаць стральбу!» — мільгае ў галаве і, упісаўшы цэль у ромбікі прыцэлу, Жыгалаў націскае на гашэтку.

Сухі выбух стрэлаў.

— Выдатна! — ледзь паспявае заўважыць кіраўнік палётаў.

А знішчальнік ужо набірае вышыню. Да новай мішэні накіраваўся малады лётчык, які ляцеў за Жыгалавым.

— Атакую! — дакладвае лётчык.

На палігоне назіраюць за стральбой. Адзін з салдат, які паглядзеў на шчыт, заўважыў:

— Добрая кучнасць!

Адстраляўшыся, знішчальнікі бяруць курс на аэрадром.

* * *

Экіпажу камсамольца Танакава пастаўлена задача: выведаць аэрадром «праціўніка». Гэта заданне не лёгкае. Вядома, што «варожы» аэрадром моцна ахоўваецца зенітнай артылерыяй, забяспечаны радыётэхнічнымі сродкамі. Значыць, разведчык можа быць заўважаны яшчэ задоўга да таго, як падыйдзе да намечанага аб'екта. І тады яму насустрач панясуцца знішчальнікі, каб перахапіць яго.

Экіпаж як мае быць прадумаў свае дзеянні ў паветры.

І вось самалёт-разведчык у небе. Строга захоўваюцца ўсе меры перасцярогі. Камандзір няспынна мяняе курс, хуткасць і вышыню палёту, умела выкарыстоўвае метэаралагічную абстаноўку для маскіроўкі самалёта. Забраўшыся глыбей у «варожы» тыл, Танакаў разварнуў машыну на 180° і ўзяў курс на зададзены аб'ект.

— Падыходзім да цэлі, — дакладвае праз некаторы час штурман экіпажа лейтэнант Канайкін. Як і камандзір, ён з'яўляецца спецыялістам высокага класа, умела водзіць самалёт у складаных умовах.

Як і было загадзя намечана, Танакаў пераводзіць машыну на зніжэнне. Хутка падае вышыня. Зусім недалёка ад зямлі лётчык выроўнівае самалёт і, маскіруючыся воблачнасцю, бярэ курс на аэрадром.

Уперадзе паказаўся характэрны арыенцір. Гэта — цэль. Выканаўшы супрацьзенітны манеўр, Танакаў робіць заход. Лейтэнант Канайкін тым часам падрыхтаваў апаратуру, устанавіў неабходныя даныя, уключыў фотаапараты...



**Лётчык другога класа капітан В. А. Жыгалаў.**
Фота А. Мураўёва.

Аэрадром сфатаграфаваны.

«Праціўнік», апамятаўшыся, накіроўвае свае знішчальнікі, каб перахапіць і «знішчыць» разведчыка. Але позна. Манеўруючы, Танакаў дэзарыентаваў знішчальнікаў і схаваўся ў воблаках.

Захоўваючы ўсе меры перасцярогі і ўмела выкарыстоўваючы баявыя якасці самалёта, экіпаж у дадатак разведаў і сфатаграфаваў яшчэ некалькі важных аб'ектаў. Звесткі аб іх адразу ж паведамляліся на камандны пункт.

Ведаючы, што «праціўнік» можа рабіць радыёперашкоды, камандзір загадаў стралку-радысту перадаваць кожную радыёграму двойчы. Авіятар дзейнічаў умела, дакладна, і ўсе радыёграмы былі прыняты на камандным пункце.

Неўзабаве самалёт-разведчык вярнуўся на свой аэрадром.

— Заданне выканана! — далажыў лейтэнант Танакаў камандзіру падраздзялення.

Выслухаўшы грунтоўны даклад членаў экіпажа, камандзір сказаў:

— Малайцы, сёння працавалі выдатна!

Гэта пацвердзілі і фотаздымкі з паветра.

* * *

На аэрадроме — баявое напружанне. Маюцца быць палёты, і авіятары рыхтуюцца да іх. Па заснежанай стаянцы снуюць машыны. Ля срабрыстых знішчальнікаў завіхаюцца тэхнікі. Гэта іх клапатлівымі рукамі самалёты рыхтуюцца да вучэбных палётаў. Перад вылетам яны дэталёва і ўважліва правяраюць кожную машыну, рыхтуюць усё, што неабходна для лётчыкаў у паветры.

Набліжаецца час палётаў. Кіраўнік займае сваё месца на стартавым камандным пункце.

— Давайце сігнал, — гаворыць камандзір — і зялёная ракета ляціць у паветра.

Палёты пачаліся. Старшаму лейтэнанту Цвёрдахлебаву згодна планавай табліцы трэба на вялікай вышыні правесці вольны паветраны бой.

Лётчыкі ўжо занялі месцы ў кабінах і нецярпліва глядзяць у бок стартавага каманднага пункта, чакаючы дазволу на вырульванне.

— Вырульванне дазваляю, — чуваць нарэшце ў шлемафоне Цвёрдахлебава прыглушаны голас кіраўніка палётаў.

У той жа час пачуўся нарастаючы гул матораў. Самалёты выходзілі на лінію выканаўчага старту.

Праходзіць некалькі хвілін, і срабрыстыя птахі, распырскваючы снежны пыл, імкліва бягуць на ўзлёт. Яшчэ імгненне — і яны ў паветры.

Упэўнена рулюючы, Цвёрдахлебаў вядзе самалёт у зону паветранага бою. За ім неадступна ляціць «вядомы».

Унізе мільгаюць зялёныя абшары лесу; белай лапінкай здалося знаёмае возера. Стрэлка прыбора паказвае зададзеную вышыню.

— Разыходзімся, — коратка кідае вядучы ў эфір.

Паслухмяныя волі лётчыкаў, знішчальнікі разыходзяцца ў бакі: адзін налева, другі направа.

Паветраны бой пачаўся.

Цвёрдахлебаў павялічвае абароты. Самалёт імкліва ідзе ўгару. Аднак яго «вядомы», імкнучыся стаць гаспадаром вышыні, таксама развіў вялікую хуткасць. Самалёты сышліся, і пачаўся бой на віражах.

Цвёрдахлебаў, прыпаўшы да прыцэлу, ловіць кожны рух «праціўніка», цаляючы зайсці яму ў хвост. Той хутка разгадвае гэты манеўр і выходзіць з-пад удару.

«Малайчына!» — хваліць у думках Цвёрдахлебаў свайго маладшага таварыша і робіць новы складаны манеўр.

На гэты раз Цвёрдахлебаў узляцеў вышэй напарніка. Спрактыкаваны паветраны баец, ён імгненна, злавіўшы самалёт у перакрыжаванне прыцэлу, націснуў на гашэтку фотакулямёта. Затым пачаў рыхтаваць манеўр для паўторнай атакі. Аднак гэтая задума не ўдалася — вядомы хутка паляцеў на сонца.

...Задаволеныя лётчыкі вярнуліся на свой аэрадром.

Расшыфраваная плёнка паказала, што старшы лейтэнант трапна расстраляў «праціўніка». Некалькі ўдалых атак зафіксавана і ў яго напарніка.



Перад вылетам.

* * *

Шэрая бясконцая істужка імклíва неслася насустрач, мякка кідалася пад колы самалёта. З шалёнай хуткасцю па баках мільгалі аэрадромныя ліхтары. І раптам зямля, злёгку хіснуўшыся, стала імгненна знікаць з-пад самалёта.

Бамбардыроўшчык набіраў вышыню.

У кабіне сярод шматлікіх прыбораў працуе штурман. Гэта — старшы лейтэнант Мухін. Ён яшчэ малады. Але ў падраздзяленні аб ім гавораць, што ён спецыяліст сваёй справы, майстар бомбавых udaраў. І ўдзень, і ўначы, у самае горшае надвор'е, ён беспамылкова трапляе ў цэль, умела водзіць самалёт.

Палёт, пра які ідзе гутарка, быў не лёгкі. Экіпажу належала прайсці па ламанаму маршруту, у строга загаданы час выйсці на цэль і ва ўмовах, калі зусім не відаць зямлі, знішчыць аб'ект.

Цяжкія, шэрыя воблакі скрозь закрылі неба. Злёгку падалі на зямлю лёгкія сняжынкі. Аднак такое надвор'е не палохала лётчыкаў. Ім не раз даводзілася лятаць яшчэ і ў горшых умовах.

Спытаўшы дазволу ў кіраўніка палётаў, лётчык бярэ штурвал на сябе, і самалёт, узляцеўшы ўгару, ідзе ў воблакі. Адразу стала цемнавата, зацягнулася шэранню шкло кабін. Самалёт ішоў цяпер толькі па прыборах.

У кабінах авіятары адчувалі сябе, як дома. Тут да дробязей усё знаёма і звычна. Тонкія стрэлкі компасаў, паказчыкаў гаварылі аб рэжыме палёту, папярэджвалі ад выпадковых памылак.

Нарэшце, скончыліся воблакі. Асляпляльнае сонца заліло яркім святлом кабіны, сонечныя зайчыкі заскакалі на шкле. Імгненна набіралася вышыня. Сем тысяч метраў... Восем... А самалёт ляціць усё вышэй і вышэй.

Шэрыя, цьмяныя воблакі былі цяпер далёка ўнізе і нагадвалі мора, хвалі якога застылі ў нерухомасці. А яшчэ ніжэй, пад воблакамі, была зямля і на ёй маленькая кропка — цэль на палігоне.

Яшчэ некалькі хвілін палёту, і самалёт лёг на зададзены курс. Гэта — нябачная лінія ў бязмежным нябесным акіяне, аб якой могуць сказаць толькі прыборы. Па гэтай лініі трэба правесці самалёт, з дакладнасцю да секунды выйсці да цэлі і знішчыць яе.

Экіпаж не губляе ні хвіліны. Лётчык нарыхтаваў аўтапілот, штурман з дапамогай радыёлакацыйнага прыцэлу двойчы вызначыў знаходжанне самалёта, удакладніў скорасць і напрамак ветру, Стралок-радыст падтрымлівае сувязь з зямлёй, дапамагае, калі што патрэбна, штурману...

Палігон ужо блізка. Бамбардыроўшчык — на баявым курсе. Наладжана сувязь з палігонам. Цяпер настаў найбольш адказны момант у рабоце штурмана. Мухін уключае галоўны тумблер на шчытку бамбардыра. Потым па дапаможных мясцовых арыенцірах адшуквае цэль на экране прыцэлу. Гэта справа нялёгкая. Не адразу ўдаецца заўважыць малюсенькі імпульс, адлюстраваны на цэлі. Трэба не зблытаць гэтую адметнку з іншымі, якія падобны на яе.

Адшукаўшы цэль, Мухін прыкінуў, што яна знаходзіцца ўбаку ад курсавой мяжы.

— Даварот улева, — камандуе ён лётчыку. І тут жа паведамляе камандзіру экіпажа. — Бяру ўпраўленне на сябе.

Цяпер усё залежыць ад штурмана, ад яго ўмення строга вытрымліваць кірунак палёту і своечасова скінуць бомбы.

Лётчык і штурман упэўнены, што і гэтае цяжкае заданне будзе выканана. Іх упэўненасць нарадзілася ў працэсе напружанай вучобы, у выніку сістэматычнай і старраннай падрыхтоўкі да палёту.

...Пераляцелі прыводную радыёстанцыю палігона. Самалёт імкліва набліжаўся да цэлі. Мухін цяпер не адводзіць вачэй ад экрана. Ён дамагаецца яркасці, сочыць за тым, як паўзе па экране маленькая светлая кропка — цэль. Яму трэба працаваць адначасна некалькімі рукаяткамі. Ён іх намацвае — вочы не адрываюцца ад экрана. Гэтак жа не гледзячы, ён адкрывае бомбалюкі, уключае рычаг скіду. Заняты апаратурай, штурман не забывае паведаміць аб сваіх дзеяннях лётчыку, а сам у гэты час у думках падлічвае: яшчэ 10... 5... 3 градусы...

І вось наступіў гэты даўгачаканы момант, дзеля якога столькі рыхтаваўся на зямлі. Апісаўшы дугу, бомба выслізнула з-пад самалёта і панеслася ўніз. Накіраваная трапнай рукой штурмана, яна і на гэты раз трапіла ў цэль.

Бамбардыроўшчык вярнуўся на стаянку. Адкрыўшы люк, штурман узняўся з кабіны, каб павітацца з сябрамі, якія акружылі самалёт. Іх усмешкі сказалі: палёт прайшоў удала.

У гэтым рэпартажы — асобныя эпізоды вучэбных будняў авіятараў.

У класах, на аэрадроме, у палётах маладыя лётчыкі настойліва ўдасканальваюць сваё майстэрства, выхоўваючы ў сабе высокія маральна-баявыя якасці паветраных воінаў-патрыётаў.



# ДА НОВЫХ ВЫШЫНЯЎ

**Гутарка з А. І. ЗОЛАВЫМ — першым намеснікам Старшыні Савета Міністраў БССР, старшынёй Савета народнай гаспадаркі Беларускай Рэспублікі**

Прайшло крыху больш паўгода пасля ўтварэння Беларускага Саўнаргаса.

Што змянілася на прадпрыемствах за гэты час? Якія практычныя крокі зрабіў Саўнаргас па палепшанню кіраўніцтва прамысловасцю, лепшаму выкарыстанню рэзерваў вытворчасці, асваенню і ўкараненню новай тэхнікі?

З такімі пытаннямі рэдакцыя часопіса «Маладосць» звярнулася да Старшыні Саўнаргаса Беларускай ССР тав. А. І. Золава. Вось што ён расказаў.

— Савет народнай гаспадаркі Беларускага эканамічнага адміністратыўнага раёна аб'ядноўвае 800 буйных прамысловых прадпрыемстваў машынабудаўнічай, станкабудаўнічай, лёгкай, папяровай і дрэваапрацоўчай, шкляной і хімічнай, лясной і іншых галін прамысловасці. Яны выпускаюць самую разнастайную прадукцыю — ад наручных гадзіннікаў да самых магутных не толькі ў нашай краіне, але і ў Еўропе аўтамабіляў-самазвалаў грузападымальнасцю 40 тон. Валавая прадукцыя Саўнаргаса склала ў 1957 годзе каля 16 мільярдаў рублёў, або 75% прадукцыі ўсёй прамысловасці Беларусі. Колькасць рабочых і служачых, якія заняты на прадпрыемствах, падпарадкаваных Саўнаргасу, дасягае 80 працэнтаў агульнай колькасці рабочых і служачых рэспублікі.

Аб перавагах новай формы ўпраўлення красамоўна сведчаць вынікі работы прамысловасці Саўнаргаса ў другім годзе шостай пяцігодкі. 10 снежня, на 20 дзён раней тэрміну, быў выкананы гадавы план па выпуску валавой прадукцыі. У параўнанні з 1956 годам выпуск прадукцыі павялічыўся на 15 працэнтаў. Пры гэтым выпуск металарэжучых станкоў узрос амаль на адну трэцюю, калёсных трактараў «Беларусь» — на 19 працэнтаў, сіласаўборачных камбайнаў — у паўтара раза, тэлевізараў — амаль што ў два з палавінай раза, падшыпнікаў — на 71 працэнт. Значна павялічылася вытворчасць абутку, шарсцяных і шаўковых тканін, будаўнічых матэрыялаў, цукру, каўбасных вырабаў, масла і іншых вырабаў. Звыш плана выпушчана прадукцыі больш чым на адзін мільярд рублёў. Такіх поспехаў прамысловасць Беларусі яшчэ не ведала.

У 1957 годзе на прадпрыемствах Саўнаргаса асвоены выпуск больш 90 мадэлей новых высокавытворчых станкоў, новыя мадэлі трактараў і аўтамабіляў, радыёпрыёмнікаў і тэлевізараў, матацыклаў, падшыпнікаў, сіласаўборачных камбайнаў і дарожных машын, прыбораў і электраабсталявання і г. д. Многа зроблена па далейшаму тэхнічнаму ўдасканаленню вытворчасці, укараненню каштоўных прапаноў вынаходцаў і рацыяналізатараў. Толькі на Мінскім трактарным заводзе ад укаранення рацыяналізатарскіх прапаноў атрымана каля 7 мільёнаў рублёў умоўнай гадавой эканоміі.

Асноўную сваю дзейнасць спецыялісты Саўнаргаса перанеслі на прадпрыемствы, туды, дзе вырашаецца поспех справы. Гэта дазволіла ім лепш ведаць запатрабаванні прадпрыемстваў, аказваць ім практычную дапамогу.

Бабруйскі машынабудаўнічы завод імя Сталіна раней дрэнна забяспечваўся чыгунным і асабліва стальным ліццём. Яго прывозілі з Масквы, Ленінграда і нават з Узбекскай ССР. Цяпер завод атрымлівае ліццё з Мазырскага рамонтна-экскаватарнага завода. З гэтага ж прадпрыемства на бабруйскі завод перададзена некалькі высокапрадукцыйных станкоў, якія доўгі час бяздзейнічалі.

Работнікі Саўнаргаса ўстанавілі, што на заводзе «Гомсельмаш» магутнасць інструментальнага цэха выкарыстоўваецца не поўнасцю. У той жа час іншыя заводы Гомеля адчуваюць недахоп прыстасаванняў і інструменту. Прымаюцца меры, каб поўнасцю выкарыстаць магчымасці інструментальнага цэха завода «Гомсельмаш».

Доўгі час у ліку адстаючых прадпрыемстваў быў Добрушскі цэлюлёзна-папяровы камбінат «Герой працы». Тут не заўсёды выконваліся дзяржаўныя планы. Доўгі час камбінат не мог дабіцца ад былога міністэрства папяровай і дрэваапрацоўчай прамысловасці БССР неабходнага абсталявання. Саўнаргас дапамог камбінату хутка атрымаць яго. Палепшылася і дастаўка балансавай драўніны. У выніку камбінат, упершыню за апошні час, паспяхова закончыў гадавы вытворчы план, выпусціў звыш задання сотні тон высакаякаснай паперы.

Такіх прыкладаў многа. Але і сказанага дастаткова, каб зрабіць вывад — пасля перабудовы ўпраўлення прамысловасцю прадпрыемствы пачалі працаваць больш рытмічна і зладжана, кіраўніцтва стала больш канкрэтным і аператыўным.

Вялікая работа праведзена па спрашчэнню і скарачэнню кіраўніцкага апарату, ліквідацыі непатрэбных прамежкавых звенняў. Так, напрыклад, на Мінскім аўтазаводзе аб'яднаны цэх дробных серый і механазборачны ў адзін цэх, што вызваліла больш 20 інжынерна-тэхнічных работнікаў і значныя вытворчыя плошчы. На падшыпнікавым заводзе аб'яднаны ў адзін таксама два цэхі — нестандартнага абсталявання і рамонтна-механічны. Вядзецца работа па карэннай перабудове аддзела тэхнічнага кантролю. Адказнасць за якасць прадукцыі ўскладзена на майстра, наладчыка і рабочых. Без кантралёраў працуюць многія цэхі Аршанскага завода швейных машын, некаторыя ўчасткі трактарнага, аўтамабільнага і іншых прадпрыемстваў.

Усё большая колькасць прадпрыемстваў пераходзіць на бясцэхавую структуру. Раней на Гомельскім падшыпнікавым заводзе было два цэхі. Цяпер замест іх створаны вытворчыя ўчасткі. Узначальваюць іх старшыя майстры, падначаленыя непасрэдна дырэктару завода. Кантроль на прамежкавых аперацыях ажыццяўляюць майстры, а спецыяльныя кантралёры ёсць толькі на апошніх, фі-

нішных аперацыях. Пераход на бясцэхавую структуру станоўча адбіўся на ўсёй дзейнасці завода — яго калектыў датэрмінова выканаў гадавы план.

Характэрнай асаблівасцю новай формы кіраўніцтва вытворчасцю з'яўляецца актыўны ўдзел у кіраванні гаспадаркай шырокіх мас працоўных. У гэтай сувязі асаблівая роля належыць створанаму пры Саўнаргасе тэхніка-эканамічнаму савету. У яго склад увайшлі наватары вытворчасці, кіраўнікі прадпрыемстваў, партыйныя, прафсаюзныя і камсамольскія работнікі, відныя вучоныя.

Тэхніка-эканамічны савет ужо пачаў сваю работу. Разгледжаны, напрыклад, план асваення і ўкаранення новай тэхнікі на 1958 год. Пры гэтым члены тэхніка-эканамічнага савета ўнеслі шмат каштоўных заўваг і прапаноў, якія ўлічаны Саўнаргасам.

Ва ўсенароднай барацьбе за новы магутны ўздым эканомікі і культуры нашай краіны, за тэхнічны прагрэс самы актыўны ўдзел прымае Ленінскі камсамол, наша слаўная моладзь. Тысячы камсамольска-маладзёжных брыгад, змен і ўчасткаў удзельнічаюць у сацыялістычным спаборніцтве за павышэнне прадукцыйнасці працы, хутчэйшае асваенне і ўкараненне новай тэхнікі, павелічэнне выпуску і паляпшэнне якасці прадукцыі.

У канструктарскіх бюро і завадскіх лабараторыях, ля станкоў і сталеплавільных печаў юнакі і дзяўчаты няспынна ўдасканальваюць вытворчасць, уносяць сваю ініцыятыву, свой пачын. Перабудова кіравання прамысловасцю адкрыла перад імі яшчэ больш шырокі прастор для творчай дзейнасці.

Асабліва вялікія задачы камсамольцаў і моладзі ў барацьбе за рэжым эканоміі.

Камсамольскія арганізацыі рэспублікі ўжо дабіліся некаторых дадатных вынікаў у гэтай справе. Напярэдадні 40-годдзя Вялікага Кастрычніка камсамольцы і маладыя рабочыя рэспублікі рапартавалі аб тым, што ў камсамольскую скарбніцу ўнесена звыш 100 млн. рублёў.

Надаючы важнае значэнне рабоце, якая праводзіцца камсамольскімі арганізацыямі ў барацьбе за эканомію і беражлівасць, Савет народнай гаспадаркі БССР і ЦК ЛКСМБ прынялі пастанову — арганізаваць на ўсіх прадпрыемствах Саўнаргаса сацыялістычнае спаборніцтва камсамольскіх арганізацый, камсамольцаў і моладзі за эканомію і беражлівасць у гонар 40-годдзя ВЛКСМ і забяспечыць шырокую прапаганду вопыту работы перадавікоў, брыгад, змен, участкаў, цэхаў, прадпрыемстваў, якія дабіліся значных вынікаў па скарачэнню выдаткавання металу, сыравіны, паліва, электраэнергіі.

Зацверджаны ўмовы рэспубліканскага сацыялістычнага спаборніцтва. Саўнаргас і ЦК ЛКСМБ прызналі мэтазгодным, каб маладыя рабочыя, маладзёжныя калектывы, камсамольскія арганізацыі стварылі на прадпрыемствах атрады «лёгкай кавалерыі», кантрольныя камсамольска-маладзёжныя пасты і рэйдавыя брыгады, завялі асабовыя рахункі эканоміі, увялі «камсамольскія скарбонкі».

Для пераможцаў у рэспубліканскім сацыялістычным спаборніцтве ўстаноўлены пераходныя Чырвоныя Сцягі ЦК ЛКСМБ і Саўнаргаса, грашовыя прэміі.

Велічныя перспектывы адкрыліся перад нашай рэспублікай у трэцім годзе шостай пяцігодкі. У 1958 годзе валавая прадукцыя прамысловасці павялічыцца больш чым на 6 працэнтаў у параўнанні з мінулым годам, а аб'ём капітальных укладанняў узрасце на 23 працэнты. Пачынаецца будаўніцт-




**1945 год. Воіны-вызваліцелі, байцы 3-га Беларускага фронта, вяртаюцца дадому пасля дэмабілізацыі.**

Фота А. Дзітлава.



У заалагічным музеі БДУ. Студэнт другога курса біялагічнага факультэта Яўгеній Юрачка наглядае за работай старэйшага лабаранта А. К. Цітка.

Фота А. Дзітлава.



ва магутнага нафтаперапрацоўчага завода, газапровода Дашава — Мінск, буйнейшай у Беларусі Беразоўскай ГРЭС, будаўніцтва торфапрадпрыемстваў, торфабрыкетных і іншых заводаў. Уступіць у строй завод аўтаматычных ліній і спецыяльных агрэгатных станкоў і рад іншых прадпрыемстваў.

У трэцім годзе шостай пяцігодкі на прадпрыемствах Беларускага Саўнаргаса будуць створаны машыны і вырабы, якія стаяць на ўзроўні лепшых узораў айчыннай і замежнай тэхнікі, а таксама прынцыпова новыя арыгінальныя канструкцыі. Да іх распрацоўкі прыцягваюцца не толькі канструктарскія бюро, лабараторыі і тэхнічныя службы прадпрыемстваў, але і інстытуты Акадэміі навук БССР, Цэнтральныя навукова-даследчыя інстытуты. Усяго ў 1958 годзе будзе асвоена на 70 мадэлей машын і вырабаў больш, чым у 1957 годзе.

На Мінскім аўтазаводзе будзе выпушчана вопытная серыя 40-тонных самазвалаў, выраблены ўзоры і закончаны выпрабаванні двух мадэлей 8-тонных аўтамабіляў — бартавога і самазвала.

Акрамя таго, намечана правесці работы па стварэнню раду цегачоў магутнасцю 100, 170 і 300 конскіх сіл, якія разам з землекапальнымі машынамі дазволяць знізіць сабекошт земляных работ у два разы. Над стварэннем двух новых мадэлей трактараў будзе працаваць калектыў трактарнага завода. На Гомельскім заводзе сельскагаспадарчых машын будзе створана тры мадэлі сіласаўборачных камбайнаў і адзін прычапны. Усе яны прызначаны для механізацыі ўборкі сіласных культур у розных зонах краіны.

Вялікія задачы стаяць перад беларускімі станкабудаўнікамі. Прадстаіць асвоіць 60 мадэлей станкоў, у тым ліку 32 назвы спецыяльных і чатыры аўтаматычных лініі. Паводле папярэдніх падлікаў, выкарыстанне новых станкоў дасць народнай гаспадарцы нашай краіны больш 40 мільёнаў рублёў гадавой эканоміі.

У 1958 годзе на прадпрыемствах Саўнаргаса рэзка павялічыцца выпуск новых прыбораў, прыёмнікаў і тэлевізараў, электраабсталявання, помпаў і іншых вырабаў.

Вялікія работы намечаны ў тарфяной, лясной, папяровай і дрэваапрацоўчай, шкляной і хімічнай, лёгкай і іншых галінах прамысловасці па механізацыі і аўтаматызацыі вытворчых працэсаў, укараненні прагрэсіўнай тэхналогіі.

У адпаведнасці з рашэннем ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР, зараз Саўнаргас распрацоўвае перспектыўны план на 1959 — 1965 гг. Яго ажыццяўленне ўздыме ўсю народную гаспадарку Беларусі на новую, вышэйшую ступень.

Быць у першых радах барацьбітоў за новы магутны ўздым эканомікі і культуры нашай краіны, актыўнымі барацьбітамі за тэхнічны прагрэс, няспыннае павышэнне прадукцыйнасці працы — ганаровы абавязак кожнага камсамольца, кожнага маладога рабочага, кожнага юнака і дзяўчыны.

*Размова аб майстэрстве*

Аляксей КУЛАКОЎСКІ

# ЖЫЦЦЁВЫ МАТЭРЫЯЛ І МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА

Сярод літаратурнай моладзі, а найбольш сярод чытачоў часта ўзнікаюць пытанні, як ствараецца мастацкі твор, як пісьменнік працуе, скажам, над раманам, аповесцю, апавяданнем? Бярэ ён факты з жыцця ці проста ўсё выдумляе? Усё апісвае, што сам бачыў, чуў ад людзей, сам перажыў, ці адбірае, асэнсоўвае жыццёвы матэрыял?

На гэтай глебе падчас узнікаюць і зусім няправільныя погляды на працу пісьменніка, бо адны ў сваім уяўленні залішне ўжо ўскладняюць гэтую працу, лічачы талент пісьменніка ледзь не звышнатуральнай з'явай, а другія — залішне спрашчаюць, мяркуючы, што пісьменнікам можа стаць кожны, калі толькі гэтага захоча. Не так даўно адзін чалавек сказаў мне: «От добра ты зрабіў, што пайшоў у пісьменнікі. Зарабляеш нядрэнна. Я таксама спачатку быў намерыўся стаць пісьменнікам, а потым перадумаў, — і вось працую цяпер у канторы галоўчормета».

Вядома, не лёгка расказаць аб усіх асаблівасцях пісьменніцкай і журналісцкай працы, гэта, магчыма, мне і не пад сілу, аднак некаторыя пытанні, блізкія да гэтай тэмы, хацелася б закрануць.

Найбольш важным у творчай рабоце пісьменніка з'яўляецца яго пастаянная сувязь з жыццём, яго ўменне бачыць і правільна асэнсоўваць жыццёвыя з'явы, глыбока разумець душу чалавека. Аб гэтым напісана і ў артыкуле Мікіты Сяргеевіча Хрушчова «За цесную сувязь літаратуры і мастацтва з жыццём народа». Бадай не будзе памылкі, калі мы скажам, што ні адзін сапраўды мастацкі, рэалістычны твор як у класічнай, так і ў сучаснай літаратуры не быў выдуманы. Усё пісалася з жыцця, толькі кожны пісьменнік, напэўна, праяўляў свой уласны падыход да справы, прымяняў свой почырк, сваю манеру пісьма. Мела значэнне, вядома, і тое, што чалавек пісаў: раман, аповесць, навелу, і якую выбіраў тэму. Ёсць многа прыкладаў, калі пісьменнік браў з жыцця, з канкрэтных фактаў толькі адну якую-небудзь характэрную дэталь, і з гэтай дэталі ў яго паступова вырастаў сюжэт. Ёсць жа і такія прыклады, калі ў аснову сюжэта клалася ўся, або амаль уся тая ці іншая з'ява жыцця. «Драматург не вынаходзіць сюжэтаў, — пісаў Аляксандр Мікалаевіч Астроўскі, — усе нашы сюжэты запазычаныя. Іх дае жыццё, гісторыя, расказ знаёмага, часам газетная заметка».



Галоўнае ж тут у тым, каб бачыць і адбіраць з жыцця самае важнае, самае характэрнае, ніколі не набліжацца да звычайнага фатаграфавання жыццёвых з'яў. Толькі тады могуць быць створаны сапраўды мастацкія вобразы, калі ў аснову іх будуць пакладзены найбольш яркія і тыповыя факты з жыцця. Вось што піша наконт гэтага Антон Паўлавіч Чэхаў:

«Мне трэба, каб памяць мая працадзіла сюжэт і каб у ёй, як у фільтры, засталося толькі тое, што важнае, або тыповае».

Доўгі час лічылася, што сюжэт «Дуброўскага» Пушкіна мае чыста літаратурнае паходжанне, інакш кажучы, што ён поўнасцю выдуманы. Такія меркаванні падтрымліваліся яшчэ і тым, што ў сусветнай літаратуры сюжэтаў аб высакародных разбойніках было ўжо нямала. Пушкін сапраўды мог паддацца літаратурнай традыцыі і проста выдумаць сюжэт. Аднак на самай справе ўсё было зусім не так. Цяпер ужо ўсім вядома, што сюжэт пушкінскага твора ўзяты проста з жыцця. У запісках П. Н. Барцянёва прыводзіцца размова аўтара запісак з блізкімі сябрамі Пушкіна Паўлам Воінавічам Нашчокіным і яго жонкай. З гэтых запісак відно, што Нашчокін у свой час расказаў Пушкіну пра аднаго небагатага беларускага двараніна Астроўскага. Гэты дваранін не паладзіў са сваім суседам, багатым памешчыкам, і паміж імі пачаўся судовы працэс за зямлю. Падгоджаныя багатым памешчыкам пад'ячыя і засядацелі павялі судовую справу так, што багаты памешчык адсудзіў у Астроўскага ўсю зямлю і выгнаў яго з сэдаса. Астроўскі, застаўшыся са сваімі прыгоннымі на пустым месцы, пайшоў у лес і пачаў рабаваць. Спачатку ён спаганяў злосць на пад'ячых, а потым не даваў спуску і багатым памешчыкам. Пазней Астроўскі трапіў у астрог, і Нашчокін сам бачыў яго там.

Што ў аснову сюжэта рамана пакладзены якраз гэты выпадак, відно яшчэ і з таго, што ў першым пушкінскім чарнавіку герой і называўся Астроўскім. Гэта ўжо пры далейшай рабоце аўтар замяніў Астроўскага на Дуброўскага.

Нямала было ў свой час такіх гора-даследчыкаў, якія лічылі, што такі выдатны твор, як «Мцыры» Лермантава, з'яўляецца нейкім адгалоскам Байрана і нічога самастойнага не мае. Між тым, усім цяпер вядома, што паэма «Мцыры» вельмі цесна звязана з адной жыццёвай гісторыяй. Я не буду паўтараць яе тут, бо яна прыводзіцца нават у школьных хрэстаматыях.

У артыкуле сына Льва Мікалаевіча Талстога, Сяргея Львовіча, пад назвай «Аб адлюстраванні жыцця ў «Анне Карэнінай» прыводзіцца вельмі многа жыццёвых выпадкаў, выкарыстаных у сюжэце рамана. Што ж датычыць трагічнага канца рамана, то ён амаль што поўнасцю ўзяты з аднаго жыццёвага факта. Жонка Льва Мікалаевіча Соф'я Андрэеўна ў сваім запісу «Чаму Карэніна Анна і што навяло на думку аб падобным самагубстве» паведамляе аб адным яснапалянскім суседзе А. Н. Бібікаве. У гэтага Бібікава была каханая дзяўчына, звалі яе Анна. Дзяўчына кахала Бібікава вельмі шчыра, самааддана, а Бібікаў, відаць, толькі забаўляўся ёю і крывіў душой. Праз некаторы час гэты памешчык узяў да сябе ў дом гувернанткай прыгожую немку і потым ажаніўся з ёй. Даведаўшыся пра гэта, Анна сый-

шла з дому і на станцыі Ясенкі, зусім блізка ад Яснай Паляны, кінулася пад таварны цягнік. Леў Мікалаевіч ведаў гэтую дзяўчыну, бачыў яе пасля гэтага трагічнага выпадку ў анатамічцы. Блізкія да Талстога людзі, а таксама многія даследчыкі творчасці вялікага пісьменніка лічаць, што гэты выпадак зрабіў вельмі глыбокае ўражанне на Льва Мікалаевіча і пэўным чынам уплываў на развіццё сюжэта рамана. Літаратуразнаўцы сцвярджаюць, што аўтар спачатку не хацеў, каб Анна Карэніна канчала жыццё самагубствам. Выпадак жа з дзяўчынай Аннай перайначыў яго творчы план.

Вядома, што з гэтага нельга рабіць такі вывад, быццам Талстой узяў ды проста спісаў прыведзены выпадак. Жыццёвы факт толькі актывізаваў яго творчыя пошукі, памог знайсці найбольш праўдзівыя, рэалістычныя сюжэтныя ходы.

Многа можна было б прывесці такіх прыкладаў як з рускай класічнай, так і з замежнай літаратуры. Тут можна было б успомніць, як Драйзер стварыў сваю «Амерыканскую трагедыю», як у Мапасана ўзнік сюжэт такога выдатнага твора, як «Пышка», як была напісана Хемінгуэем аповесць «Стары і мора», і шмат іншых прыкладаў. Аднак нам хацелася б крыху больш падрабязна спыніцца на вопыце творчай работы некаторых нашых сучасных, савецкіх пісьменнікаў, і ў першую чаргу беларускіх.

Усім вядома, што наш старэйшы пісьменнік, класік беларускай літаратуры Якуб Колас быў вельмі цесна звязаны з жыццём народа, бязмежна любіў народ і заўсёды чэрпаў з крыніц народнага жыцця жыватворны, сакавіты матэрыял для сваіх мастацкіх твораў. Творча асэнсаваныя жыццёвыя назіранні і біяграфічныя рысы ляглі ў аснову многіх твораў Якуба Коласа. Усім вядома, што жыццёвы шлях слаўнага партызана грамадзянскай вайны дзеда Талаша лёг у аснову аповесці «Дрыгва», многа фактычнага з жыцця палешукоў, а таксама аўтабіяграфічнага ёсць, вядома, у паэмах «Сымон Музыка», «Новая зямля», у палескай трылогіі.

Мне хацелася б прывесці тут толькі адну дэталь, з якой, як нам здаецца, добра відно, як вялікі пісьменнік Якуб Колас увасабляў у мастацкі твор тое, што перажыў сам, тое, што назіраў у людзей, у жывой прыродзе. Аднаго разу мне давялося чуць, як Канстанцін Міхайлавіч расказваў пра свае дзіцячыя гады. Ён расказваў, як з самага маленства ён вельмі любіў прыроду, музыку, усё прыгожае, нават крыху таямнічае. Суседнія хлапчукі, а то і некаторыя дарослыя часам падсмейваліся з яго, але хлопчык не зважаў на гэта і вельмі часта хадзіў адзін на рэчку, у лес, а то ў поле, дзе расла збажына. От прыдзе на рэчку, сядзе на пясочку ля берага. Ціха плывуць хвалі, і яму здаецца, што яны шэпчуць пра нешта невядомае і таямнічае. Пад каленямі пясочак, цёплы, сыпучы, чысценькі. Возьмеш яго ў прыгаршчы, а ён сыплецца між пальцаў, нібы льецца. І нельга яго ўтрымаць у руках.

Выходзіў хлопчык у лес, слухаў там ласкавае шалясценне лісця, спеў птушак, і ўсюды яму чуліся чалавечыя словы, заўсёды гучала ў вушах чароўная музыка. У полі ён захапляўся ціхім гаманком спелага жыта. Хістаецца жытні каласок на лёгкім ветры, кланяецца зямлі, а хлопчыку здаецца, што ён аб нечым расказвае, нейкай сваёй думкай дзеліцца з іншымі каласамі. Нешта незвычайнае, радаснае чулася хлопчыку ў стракатанні конікаў, у палётах мушак і жучкоў, а кветкі ўсюды не цвілі, а смяяліся ў яго ўяўленні, кожная травін-



ка не проста расла, а думала сваю думу.

Зімою, прышоўшы на рэчку, хлопчык прабіваў лёд і слухаў, як пад ім булькала заўсёды жывая вада; малому здавалася, што тут таксама чуецца нейкая мелодыя. Ішоў потым дадому, а ў вушах заставалася гэтае бульканне, хвалявала душу.

І вось мы чытаем у паэме «Сымон Музыка»:

Я насыплю горку
Жоўтага пясочку;
Правяду разорку
Беленькім кіёчкам.
Шу-шу-шу! — пясочак
Шурхнуў залаценькі.
Пясок — мой дружочак,
Дробненькі-драбненькі.
На пясочку зайкі
Кідаюць слядочкі...
Ой, якія байкі
Баюць мне пясочкі!

І далей:

На каменьчык сядзе ў збожжы,
Не схінецца і маўчыць,
Ловіць сэрцам спеў прыгожы,
Як жытцо загаманіць.
Як зазвоняць, заіграюць
Мушкі, конікі, жучкі,
І галоўкай заківаюць,
Засмяюцца васількі.
Спеў у сэрцы адклікаўся,
І так добранька было,
Што Сымонка сам смяяўся,
Усё смяялася, цвіло.
Заміраў тады хлапчынка,
І здавалася яму,
Што ён знае, як травінка
Сваю думае думу,
Што гаворыць жытні колас,
І аб чым шуміць ячмень,
І чаго спявае ўголас
Мушка, конік, авадзень...

Калі яшчэ дадаць да гэтага, што сам Якуб Колас быў музыкам і добра граў на скрыпцы, то стане яшчэ больш зразумелай гісторыя стварэння такой выдатнай паэмы, як «Сымон Музыка».

З твораў Янкі Купалы найбольш характэрнай у гэтых адносінах з'яўляецца п'еса «Паўлінка». Амаль усе персанажы гэтага твора маюць сваіх прататыпаў. І прататыпы гэтыя не выпадковыя людзі, а якраз даволі блізкія Янку Купалу, у большасці выпадкаў родзічы. Як расказвае Уладзіслава Францаўна Луцэвіч, жонка паэта, у вобразе Пустарэвіча ёсць многія рысы швагра Янкі Купалы, Быкоўскі вельмі нагадвае аднаго добра вядомага аўтару і Уладзіславе Францаўне шляхцюка. Што ж датычыць самой Паўлінкі, то ў гэтым вобразе ёсць сёе-тое з жыцця добра вядомай аўтару дзяўчыны Ядзі Аблачынскай, а таксама і многае з біяграфіі Паўліны Мядзёлкі.

Амаль тое ж самае можна сказаць і наконт «Раскіданага гнязда». Тут у аснову сюжэта пакладзены выпадак, які здарыўся з дзедам Янкі Купалы. Князь Радзівіл сагнаў дзеда з зямлі ды некалі-небудзь, а вясной, калі ўжо ўсё было засеяна.

Нябожчык Кузьма Чорны некалі гаварыў, што амаль пра кожнага цімкавіцкага чалавека ён мог бы напісаць раман. Сам ён быў, як вядома, з Цімкавіч і ўсё сваё жыццё трымаў сувязь са сваімі землякамі. Некаторых вельмі паважаў, сябраваў з імі, некаторых менш паважаў, аднак усёроўна цікавіўся іх жыццём, бытам, вывучаў асаблівасці характару. Людзі, якія блізка ведалі Кузьму Чорнага і часта сустракаліся з ім, расказваюць, што ён гадзінамі мог гаварыць пра цімкаўцаў і пра розныя цімкавіцкія з'явы і здарэнні. Тут былі і анекдоты, і розныя жыццёвыя выпадкі, розныя смешныя прыгоды, а часам і трагічныя сітуацыі. Вядома, што і ў кнігах яго нямала, калі можна так сказаць, цімкавіцкага. Некаторыя персанажы з «Трэцяга пакалення» і іншых твораў маюць сваіх прататыпаў у асобе землякоў пісьменніка.

Многія думаюць, што пісьменнік працуе над мастацкім творам толькі тады, калі сядзіць за пісьмовым сталом. Так, між іншым, вызначаецца і час напісання кнігі.

ад такога вось месяца і года да такога. Маецца на ўвазе, колькі пісьменнік сядзеў. А колькі ён яшчэ хадзіў і ездзіў, калі збіраў, вывучаў матэрыял, колькі разоў сустракаўся і гаварыў з рознымі людзьмі, колькі начэй не спаў, абдумваючы сюжэтныя ходы, кампазіцыю, характары персанажаў будучага мастацкага твора, аб гэтым мала хто ведае.

Наш шырока вядомы пісьменнік Міхась Ціханавіч Лынькоў заканчвае работу над сваім вялікім раманам-эпапеяй «Векапомныя дні». Толькі само напісанне гэтага твора заняло, мабыць, гадоў чатыры, а калі мець на ўвазе збіранне матэрыялу, працэс апрацоўкі, сістэматызацыі, або, як кажуць, працэс пераварвання матэрыялу, то на ўсё гэта ўвогуле пайшло не менш дзесятка год. Мне добра вядома, што яшчэ ў сорак сёмым годзе Міхась Ціханавіч вельмі актыўна цікавіўся гісторыяй партызанскага руху на Беларусі, многа меў гутарак з непасрэднымі ўдзельнікамі партызанскай барацьбы, запісваў гэтыя гутаркі. Дык гэта мне вядома, што ў сорак сёмым годзе вялася такая творчая падрыхтоўка, а магчыма гэта было і раней. Можа нельга сцвярджаць, аднак меркаваць, бяссрэчна, можна, што аўтар думаў пра свой будучы твор і ў вайну і ў самыя першыя гады пасля вайны.

З'яўленне такога выдатнага рамана, як «Сустрэнемся на барыкадах» Піліпа Пестрака, абумоўлена перш за ўсё тым, што аўтар гэтага твора сам прайшоў вельмі складанае і, можна сказаць, гераічнае жыццё. Піліпу Сямёнавічу самому давялося на працягу многіх год працаваць у камуністычным падполлі ў заходніх абласцях Беларусі ў той час, калі яны былі пад прыгнётам пілсудчыкаў. Больш таго. Польскія паны пасадзілі Пестрака ў турму, і ён прасядзеў там адзінаццаць год. Колькі дум было перадумана за гэтыя гады, колькі людзей пабачана, колькі розных гаворак пачута?! Выдатная памяць пісьменніка ўсё гэта адкладвала, запасіла, творчая інтуіцыя адбірала ўсё найбольш значнае, цікавае, характэрнае, і ў выніку атрымаўся твор, праўдзівы, глыбокі, здольны хваляваць чытача.

Для таго, каб напісаць раман «Мінскі напрамак», Іван Паўлавіч Мележ, нягледзячы на тое, што сам ён у свой час служыў у арміі і, значыцца, ведаў вайсковыя справы, доўга і вельмі старанна вывучаў жыццё, побыт і асабліва баявыя подзвігі вайсковых часцей, асобных камандзіраў і радавых байцоў. Збіранне патрэбнага матэрыялу праводзілася аўтарам вельмі грунтоўна, дасканала. Перш чым напісаць пра танкістаў, Іван Паўлавіч, акрамя вывучэння адпаведнай літаратуры, шматлікіх гутарак з былымі ўдзельнікамі баёў, браў спецыяльную камандзіроўку ў адну танкавую часць і ў форме афіцэра доўга жыў у гэтай часці і прымаў непасрэдны ўдзел ва ўсіх яе справах. Аднак гэта яшчэ далёка не задаволіла аўтара. Ён расшукаў і пазнаёміўся з родзічамі і блізкімі людзьмі Чарняхоўскага, меў некалькі гутарак з жонкай нябожчыка. Асабліва многа цікавага і патрэбнага расказаў пісьменніку былы ад'ютант Чарняхоўскага. Гэтага чалавека вельмі цяжка было знайсці і яшчэ цяжэй — выцягнуць з яго патрэбныя словы. Мала таго, што гэты чалавек аказаўся вельмі негаваркі, замкнуты, дык яшчэ і ганарлівы: з якімсьці там штацкім пісьменнікам ён не надта хацеў мець справу. І ўсё ж Івану Паўлавічу ўдалося разварушыць яго, увайсці ў давер і атрымаць патрэбныя звесткі. Усё гэта потым вельмі спатрэбілася для рамана.

Жыццёвыя факты найбольш ха-



рактэрныя, яркія, самабытныя ляглі ў аснову амаль усіх твораў Янкі Брыля. Помню, неяк мы, група пісьменнікаў, былі ў яго на радзіме. Стаім на двары, размаўляем, а ў гэты час едзе калгаснік, вязе дровы. Убачыў Івана Антонавіча, — спыніў каня, падышоў да варот, Брыль таксама падышоў: паздароўкаліся, пагаманілі. Калі чалавек паехаў да свайго двара, Іван Антонавіч сказаў нам:

— Гэта прататып «Майго земляка», памятаеце, ёсць у мяне такое апавяданне? Ведае, што пра яго напісана, але не крыўдуе, хоць там і крытыкі трохі падпушчана па яго адрасу.

Вядома, што не ўсе рысы гэтага чалавека ўзяты аўтарам для стварэння вобраза свайго земляка; не браўся ў аснову характар толькі адной жанчыны для стварэння вобраза Галі з апавядання «Галя». Вобразы гэтыя, як і многія іншыя ў творах Янкі Брыля, з'яўляюцца тыпізаванымі, значыцца, не з аднаго чалавека выпісанымі. Аднак сам Янка Брыль гаварыў не раз, што заўсёды, калі ён піша, то бачыць перад сабою нейкага канкрэтнага чалавека, аднаго, або некалькіх.

Іван Шамякін неяк расказваў, што ў Цярусе, у сваёй вёсцы, ён сустрэў такую жанчыну, якая некалі вельмі рана выйшла замуж, прышла потым да бацькоў ужо з дзіцем, і тыя не верылі, што гэта яе дзіця. Гэта быў першы матыў будучага сюжэта. Потым трапіўся на вочы нарыс у «Гомельскай праўдзе» аб тым, як адна дзяўчына выратавала яўрэйскае дзіцё, а потым і выхавала яго. У дадатак — расказы партызан, землякоў, родзічаў. Вось так і з'явіўся сюжэт рамана «Глыбокая плынь». Падобным жа чынам з'яўляліся асноўныя сюжэтныя лініі і іншых яго твораў.

Асобна хочацца сказаць некалькі слоў аб тым, што ўсё ж вельмі часта наглядаюцца выпадкі, калі самы шырокі сюжэт нараджаецца з самай маленькай дэталі, узятай з жыцця.

Нядаўна Кандрат Кандратавіч Крапіва расказаў на семінары драматургаў, што першым штуршком для задумы камедыі «Хто смяецца апошнім» з'явіўся пачуты ім анекдот, як у двор ці там у калідор адной навуковай установы сабака прыцягнуў костку, а вучоныя потым знайшлі гэтую костку і доўга спрачаліся, якой жывёліне яна належала. Анекдот гэта быў ці выпадак, цяжка сказаць, аднак ён застаўся ў памяці драматурга і стаў пастугова абрастаць іншымі дэталямі. Спачатку магло ўявіцца, што які-небудзь вучоны мог палічыць гэтую костку не толькі, скажам, воўчай ці мядзведжай, а і значна больш каштоўнай, магчыма, дагістарычнай. Затым творчае ўяўленне ішло далей: калі ёсць такі чалавек у вялікай навуковай установе, дык цікава ж уявіць, што гэта за чалавек, якія яго асаблівасці, што за характар у гэтага чалавека? Перш за ўсё ўжо зразумела, што гэта ніякі не вучоны. А якім чынам прафан, невук мог уладзіцца ў навуковай установе ды яшчэ на адказнай пасадзе? Канешне, толькі пры дапамозе розных махінацый, запалохванняў, ашуканстваў.

Так пастугова намячаўся вобраз Гарлахвацкага.

Ці мог Гарлахвацкі дзейнічаць у такім плане адзін? Вядома, не. У яго павінна быць сваё акружэнне, пэўная глеба для такой дзейнасці. Пайшла творчая думка далей, і рыска за рыскай сталі выяўляцца характары другіх персанажаў, напрыклад, Тулягі і Зёлкіна. Увайшлі затым дадатныя героі, якія павінны весці барацьбу з Гарлахвацкім і Зёлкіным, абдумваліся іх месцы ў творы, і такім чынам вызначаліся сюжэтныя лініі.

Так паступова з'явіўся выдатны, таленавіты твор.

Вядома, усё гэта я перадаю сваімі словамі, коратка і схематычна, сам Кандрат Кандратавіч расказваў лепш, і ён яшчэ калі-небудзь падзеліцца з намі сваім вопытам работы. Але і з гэтых штрышкоў відаць, як часам адна дэталь, узятая мастаком з жыцця, можа прынесці вялікую карысць, калі пісьменнік умее тыпізаваць факты і з'явы жыцця.

З гэтага, аднак, ні ў якім разе нельга рабіць вывад, што дастаткова пачуць недзе нейкі анекдот або расказ бывалага чалавека і ўжо можна пісаць п'есу, аповесць або апавяданне. Анекдот застанецца анекдотам, калі перадаць яго без творчага асэнсавання. Можна апісаць які-небудзь анекдот або вясёлы выпадак на цэлым аркушы, ужыць там многа эпітэтаў, параўнанняў, метафар, а мастацкага твора ўсё-такі не будзе.

Я думаю, што не парушу сціпласці, калі прывяду адзін прыклад са сваёй, вельмі яшчэ невялікай творчай практыкі. Мне часта даводзіцца бываць у той вёсцы, дзе я нарадзіўся. Там жыве ў мяне маці, брат. І вось аднаго разу мая маці кажа:

— Міканор учора хваліўся: маладая нявестка вады яму нагрэла, сказала — папар, тата, ногі, кашляць не будзеш.

Я ведаў гэтага Міканора, ведаў яшчэ дзесятак чалавек, якія жылі прыкладна так, як ён. Мне пачаў уяўляцца лёс старога чалавека, які рана аўдавеў і многа год пражыў у адзіноце. Не бачыў гэты чалавек сапраўднага шчасця, не адчуваў цёплай жаночай спагады. Сам ён і гаспадарыў дома і гаспадыніў, сам сабе крупнік варыў, сам сабе лапіў порткі.

І вось нарэшце прыязджае дадому з арміі ці з якой-небудзь работы сын гэтага чалавека, прыводзіць маладую, ласкавую нявестку. Нявестка нагрэла старому начоўкі вады — і зарадаваўся чалавек, адчуў сябе шчаслівым, можа лепшага шчасця для яго на гэты раз і не трэба было. У яго ўжо душа збалела па добраму, сардэчнаму слову сына, па цёплых вачах дачкі.

Спачатку мне хацелася напісаць на гэтую тэму апавяданне, але вобраз вось такога чалавека стаў у мяне паступова разрастацца, набываць новыя рысы, новыя павароты лёсу. Адна дэталь з цёплай вадой у асноўным вызначыла ў маім уяўленні характар той дзяўчыны, якая потым стане нявесткай адзінокага чалавека. Гэтая дзяўчына павінна быць прыгожай, ласкавай і абавязкова разумнай. А то апошняе ў нас часам не надта прымаецца пад увагу. Вызначыліся таксама іншыя персанажы, і такім чынам з'явілася на свет аповесць «Нявестка». Адзінокі дзед, пра якога я многа думаў і з-за якога стараўся ўспомніць усіх дзядоў, якія толькі сустракаліся мне ў жыцці, выведзены ў аповесці пад імем Данілы, а нявестка пад імем Ларысы.

Найлепшым прыкладам таго, як трэба пісьменніку глядзець на жыццё, як вобразна абагульняць жыццёвыя факты, як у малым бачыць вялікае, можа служыць адзін даволі характэрны ўспамін пра Гогаля. Аднаго разу пры ім быў расказаны звычайны канцылярскі анекдот пра беднага чыноўніка. Чыноўнік гэты вельмі любіў хадзіць на паляванне, высочваць дзікіх качак і іншае птаства. Заядлы быў паляўнічы, але ў яго не было стрэльбы. Набыць сабе добрую стрэльбу стала яго заветнай марай, ледзь не галоўнай мэтай жыцця. І стаў ён паступова адкладваць грошы на стрэльбу. Недаядаў, хадзіў абы як, браў звышурочную работу і ўсё адкладваў, збіраў свае капейкі. Нарэшце, сабралася ў яго дзвесце рублёў, і ён купіў сабе добрую лепажаўскую стрэльбу. Купіў стрэльбу, сеў у свой маленькі чоўнік і паплыў па Фінскаму заліву высочваць дзічыну. Плыве сабе, любуецца прыгажосцямі прыроды, а стрэльба на носе чоўніка ляжыць. Радуецца, спявае душа чыноўніка. Нарэшце збылася яго запаветная мара, ён стаў сапраўдным паляўнічым, у яго такая добрая і прыгожая стрэльба. Толькі ў багатых людзей могуць быць такія стрэльбы. Вось зараз ён пачуе лёгкае крактанне качкі, пакладзе вясло і возьме ў рукі стрэльбу. Качка сама выплыве на чыстае месца, нават падплыве блізка да чоўніка, каб толькі чыноўнік мог стрэліць у яе з той дарагой і прыгожай стрэльбы. А якія цудоўныя зараслі навакол, як чароўна заходзіць сонца!..

І раптам глянуў чыноўнік на нос чоўніка, а стрэльбы няма. Дзе яна? Што здарылася? Вядома што. Пакуль чыноўнік цешыўся сваім шчасцем, захапляўся прыродай, нейкая бязлітасная чароцінка ці водараслінка падчапіла стрэльбу за рамень і нячутна сцягнула ў ваду.

Ледзь не да паўночы лазіў чыноўнік па вадзе, шукаў сваю дарагую пакупку. Але дзе ж там яе знойдзеш! Прышоў дадому і адразу захварэў. Каб не таварышы, якія, на шчасце, неўзабаве даведаліся пра гэты выпадак, то наўрад ці выжыў бы чыноўнік. Таварышы сабралі між сабою грошы і купілі чыноўніку другую стрэльбу. Пасля гэтага ён паправіўся, аднак пра страшнае здарэнне ўсё жыццё не мог успомніць без дрыжыкаў у грудзях.

Усе, хто чуў тады гэты анекдот, пацешна смяяліся, рагаталі, а Гогаль раптам апусціў галаву, задумаўся. Яму не здаўся смешным гэты выпадак, пісьменнік успрыняў яго па-свойму: ён адчуў у гэтым нешта сацыяльна значнае і ў многіх сваіх рысах тыповае для таго часу. І вось тут да месца ўспомніць выказванне Дастаеўскага, як трэба ўмець бачыць жыццё. «Для іншага назіральніка, — гаворыць Дастаеўскі, — усе з'явы жыцця да таго зразумелыя, што і думаць няма пра што, глядзець нават няма на што і не варта». Між тым «прааналізуйце іншы, нават зусім і не такі яркі факт з сапраўднага жыцця — і калі вы толькі ў сілах і маеце вока, то знойдзеце ў ім глыбіню, якой няма ў Шэкспіра. Але ж у тым вось і ўсё пытанне: на чый пагляд і хто ў сілах».

Гогаль і быў у сілах заўважыць у гэтым факце надзвычай вялікую глыбіню, адчуў, што калі творча, як мастак, падысці да гэтага факта, надаць яму належны кірунак, належнае вобразнае абагульненне, то можа выйсці з гэтага мастацкі твор вялікага грамадскага гучання.

Так з'явілася аповесць «Шынель», якая стала потым узорам для ўсіх пісьменнікаў-рэалістаў. «Усе мы выйшлі з гогалеўскай «Шынелі», — пісаў Дастаеўскі.

Уменне бачыць, адбіраць, абагульняць матэрыял жыцця — вельмі важная і вельмі складаная задача пісьменніка, нават незалежна ад таго, мае ён вялікі творчы вопыт ці толькі пачынае пісаць. Без гэтага не можа быць сапраўднай мастацкай творчасці, без гэтага не могуць з'явіцца творы любых жанраў, якія адпавядалі б тым вялікім задачам сацыялістычнага будаўніцтва, што ставіць перад намі Камуністычная партыя. Толькі той пісьменнік можа больш-менш поўна задаволіць сваёй творчасцю нашага чытача, які цесна звязаны з народам, бязмежна любіць свой народ, заўсёды жыве яго інтарэсамі, яскрава бачыць перспектыву развіцця нашага грамадства і ўсімі сваімі сіламі і сродкамі садзейнічае гэтаму развіццю.

## НА ПАРТЫЗАНСКІХ СЦЕЖКАХ

# ХЛОПЦЫ З-ПАД РЭЧЫЦЫ

Рыгор Кастрама скончыў сёмы клас, калі пачалася вайна. Ён быў сакратаром камсамольскай арганізацыі ў сваёй школе. У першы ж дзень вайны хлопец моцна задумаўся, што яму рабіць у такі небяспечны час. Гэтае пытанне не выходзіла з галавы.

З вёскі Валадарск, дзе жыў Рыгор, кожны дзень выклікалі мужчын у райваенкамат і накіроўвалі на фронт. У небе паявіліся варожыя самалёты. Радыё перадавала невясёлыя весткі: фронт набліжаўся да Мінска.

Неўзабаве яго бацька пайшоў у Рэчыцу і назаўтра вярнуўся з вінтоўкай. Рыгор здагадаўся, што ён ідзе на фронт. Улучыўшы хвілінку, калі сям'я села абедаць, хлопец сказаў:

— Тата, і я з вамі!

Антось збянтэжана зірнуў на сына, паклаў лыжку.

— Ты ж яшчэ малы. Нават страляць не ўмееш.

— Чаму не ўмею! — аж гарэў хлопец ад нецярплівасці. — Я ж вунь на стрэльбішчы з пяці патронаў 45 ачкоў выбіў!

— Падрасці яшчэ крыху, сынку, — насупіў бровы Антось Кастрама і ўстаў з-за стала.

— Тады мы арганізуем свой камсамольскі атрад, — адкрыў свой намер сын і шмыгнуў з хаты.

Рыгор пабег у школу, да дырэктара Барыса Іванавіча Янчэўскага. Той выслухаў хлопца і сказаў, што ён параіцца з камандзірам апалчэнцаў.

Цяпер цераз Валадарск ляцелі варожыя самалёты. Чуліся выбухі бомбаў, над Гомелем і Рэчыцай запалымнелася зарава.

Хутка ў вёску панаехалі бежанцы. Людзі расказвалі аб нечуваных зверствах фашыстаў і спяшаліся на ўсход.

Фронт усё набліжаўся. Рыгор ведаў, што апалчэнцы збіраліся ў школе. Туды хадзіў яго бацька, а таксама Лёгкі Піліп, Заяц Хама, Канавальчык Арцём, Капшай Ціт і іншыя калгаснікі. Усе яны мелі зброю. Іншы раз сустракаліся і незнаёмыя людзі з вінтоўкамі, у цывільнай вопратцы.

Не дачакаўшыся, калі Барыс Іванавіч дасць адказ, Рыгор пайшоў да дырэктара на кватэру. Вярнуўся адтуль радасны і ўсхваляваны і адразу пабег да сяброў-камсамольцаў.

Сакратар партыйнай арганізацыі ў Валадарску (ён жа камандзір апалчэння) Самуіл Кастрама выдаў Рыгору, а таксама Міколе Бяляю, Міхасю Кастраме і Алесю



Канавальчыку вінтоўкі, па дваццаць патронаў і па дзве гранаты. Так чатыры сябры, якім ледзь споўнілася па шаснаццаць год, сталі апалчэнцамі.

Калі фашысты наблізіліся да Валадарска, апалчэнцы перанеслі свой штаб у лес, да Цярэшкавага круга. Перавезлі сюды зброю і запасы харчавання.

* * *

Хлопцы ішлі ў разведку па Слабодніцкай дарозе. На ўзлессі яны заўважылі коннікаў.

— Немцы! — адразу здагадаўся Рыгор і кінуўся ў бульбоўнік. Міхась і Мікола таксама пападалі ў разоры. Яны дапаўзлі да кустоў, што раслі ля дарогі, і залеглі.

— Што будзем рабіць? — трывожна запытаўся Міхась. — Іх там многа, нешта каля дваццаці.

— Відаць, разведка, — дадаў Мікола.

— Падрыхтавацца да бою! — загадаў Рыгор: — Яны сюды едуць. Вы з вінтовак, а я — гранатай.

Калі коннікі выехалі на Слабодніцкую дарогу і павярнулі ў іх бок, разведчыкі падрыхтаваліся.

— Агонь! — скамандаваў Рыгор, як толькі немцы наблізіліся, і шпурнуў гранату.

Грымнулі вінтовачныя стрэлы. Рыгор заўважыў, як уздыбіліся коні і некалькі фашыстаў упалі з коней. Але тыя, што засталіся ў жывых, спешыліся і адкрылі аўтаматны і вінтовачны агонь. Хлопцы прынялі няроўны бой.

— Гранаты! — крыкнуў Рыгор, бачачы, што фашысты спешыліся.

Але яго таварышы былі ўжо мёртвыя. Рыгор кінуў другую гранату і, прыгнуўшыся, кінуўся ў лес. Дабегшы да балота, зашыўся ў густы лазняк і стаіўся.

На балоце Рыгор праседзеў да вечара. Калі сцямнела, пачаў прабірацца да Цярэшкавага круга. Тут ён сустрэўся з Алесем Канавальчыкам і расказаў, што два іх таварышы загінулі. Што робіцца ў вёсцы, пакуль што ніхто не ведаў.

Раніцай у лес прыйшла Рыгорава маці і, як толькі ўбачыла сына, заплакала:

— А мой жа ты сыночак, бацька ж твой забіты...

Нешта пякучае здавіла хлопцу горла. Вочы затуманіліся слязамі. Маці расказала, што ў няроўнай бойцы з фашыстамі ля вёскі загінулі таксама Лёгкі Піліп, Заяц Хама, Кастрама Самуіл і Канавальчык Арцём.

— Я адпомшчу, мама, і за бацьку і за маіх сяброў! — узрушана сказаў Рыгор Кастрама.

— Адпомсцім! — паўтарыў яго сябар Алесь Канавальчык.

Хлопцы не вярнуліся з лесу. Каля Цярэшкавага круга зрабілі шалашык, начавалі ў ім, а днём хадзілі па лесе, каб сустрэцца з партызанамі. Харчавацца было чым: у зямлянцы ляжалі сухары, цукар і кансервы. Прайшло болей тыдня, а з апалчэнцаў, якія засталіся ў жывых, ніхто больш да Цярэшкавага круга не прыйшоў.

Аднойчы хлопцы ішлі ўзбоч дарогі, якая вяла на Вузнаж, і сутыкнуліся, як гэта іншы раз бывае ў лесе, з двума ўзброенымі мужчынамі, якія нечакана выткнуліся з густога ельніку.

Незнаёмыя былі ў цывільнай вопратцы. Павітаўшыся з хлопцамі, яны пачалі распытваць, хто яны і адкуль, потым прапанавалі пайсці разам да Дняпра, дзе тады ў гушчары на востраве Воўчы Хвост размясцілася партызанская стаянка.

Так сябры Рыгор і Алесь сталі партызанамі атрада, якім камандаваў Андрэй Пракопавіч Байкоў.

* * *

Вясной 1943 года, выканаўшы сваё заданне, Рыгор вяртаўся з Рэчыцы. Дзень быў цёплы, сонечны. Ля ракі ён заўважыў прыгожы

нямецкі лімузін. Адразу ж мільганула думка: «Купаюцца, чэрці». І тут жа ўбачыў двух немцаў, якія стаялі ў вадзе, націраючыся мылам.

Рыгор стаіўся за куст і прыгледзеўся. З-за машыны вытыркнуўся немец з вінтоўкай. Ён азірнуўся навокал і зноў схаваўся. Мабыць, сеў, бо болей не паказваўся.

— Але ж і выкупаю я вас, чэрці,— прашаптаў Рыгор. Хаваючыся ў кустах, ён папоўз да машыны, нагатовіўшы парабелум. Раптам заўважыў, што немец-вартавы ўстаў і пачаў глядзець навокал. «Пільна вартуеш»,—падумаў Рыгор і стаіўся. Але вось немец абапёрся на вінтоўку і пачаў глядзець на раку.

Рыгор зноў папоўз. Ужо намерыўся стрэліць, а немец узяў ды лёг за машынай. Як бы яму хто падказаў схавацца. Што ж рабіць? Хоць бы не вылезлі тыя, з рэчкі. Падпоўзшы яшчэ бліжэй, разведчык скочыў уперад і стрэліў у немца. Той упаў мёртвы.

— Рукі ўгору!—крыкнуў Рыгор на тых, што мыліся і стрэліў. Адзін з фашыстаў упаў у ваду. Стрэліў другі раз, але—асечка.

Тады ён кінуўся ў ваду і схапіў ворага за горла. У смяртэльным паядынку Рыгор перамог фашыста.

Забраўшы паперы, зброю і вопратку фашыстаў, смелы разведчык падпаліў машыну і пайшоў у лес, у атрад. Па дакументах, якія прынёс Рыгор у штаб, устанавілі, што ён забіў двух афіцэраў жандармерыі і шафёра. За такую адвагу камандзір атрада Андрэй Пракопавіч аб'явіў адважнаму разведчыку падзяку і прадставіў да ўзнагароды.

* * *

На торфазаводзе, непадалёку ад Касцюкоўкі, што пад Гомелем, знаходзіўся лагер ваеннапалонных. Там было многа савецкіх афіцэраў.

Камандаванне партызанскага атрада прыняло рашэнне паслаць роту партызан на чале са смелым разведчыкам Іванам Залівіным вызваліць ваеннапалонных.

Глыбокай ноччу партызаны падышлі да лагера. Да іх, як і было дамоўлена, выйшлі двое паліцэйскіх з ліку ваеннапалонных—начальнік і памочнік варты. Яны перадалі Залівіну ключы ад пакояў, дзе спалі немцы.

Варту ў лагеры знялі ціха. Зрабіць гэта дапамаглі начальнік варты і яго памочнік. На варту сталі партызаны. Група партызан пайшла да немцаў. Адамкнуўшы дзверы, яны ўскочылі ў іх пакоі і ўзялі ў палон 27 фашыстаў.

У гэтым баі ўдзельнічалі Рыгор Кастрама і Алесь Канавальчык. Ім было даручана самае адказнае заданне—узяць жывым начальніка гарнізона Гофта. Ключоў ад яго пакояў ваеннапалонныя не перадалі. Як жа яго схапіць?

Хлопцы знайшлі на двары, ля дрывотні, важкі чурбак, паднеслі яго да дома, разгойдалі і кінулі ў акно. Дзынкнула шкло. Адразу ж праз разбітае акно ў дом кінуліся разведчыкі.

Разбуджаны страшэнным грукатам, Гофт расплюшчыў вочы; тут яму пад нос тыцнулі аўтамат.

— Выбачай, пане, што рана пабудзілі,—усміхнуўся Рыгор і загадаў Гофту апранацца.

Лагер быў распушчаны. Амаль усе ваеннапалонныя сталі партызанамі.

* * *

Улетку 1943 года партызаны пераправіліся цераз Дняпро. Сябры Алесь і Рыгор засталіся ў разведцы, пад Уваравічамі. Неяк яны заўважылі, што каля пасёлка Гарадок апусціўся нямецкі самалёт. Партызаны падышлі да яго і пачалі абстрэльваць. Наблізіўшыся, заўважылі, што самалёт ляжаў, нахіліўшыся на адно крыло. У ім былі два лётчыкі. Партызаны падышлі да яго, але тут прызямліўся другі самалёт-знішчальнік. Разведчыкі разгубіліся і кінуліся ў лес. Але хутка заўважылі, што сярод іх няма Рыгора, і спыніліся. Адкрылі агонь па знішчальніку. Завязалася перастрэлка.

Хутка знішчальнік узняўся ў паветра—немцы не вытрымалі партызанскага агню. Вярнуўшыся да самалёта, хлопцы вельмі хваляваліся за Рыгора,— думалі, што яго схапілі фашысты. Але ён вылез з-пад пакалечанага самалёта і закрычаў:

— Наша ўзяло! Эх, і смаліў жа я па тых фашыстах!

З фашысцкага самалёта партызаны знялі кулямёты, забралі карты, рацыю і выцягнулі двух немцаў. Самалёт спалілі. Трафеі былі дастаўлены на фурманцы ў штаб партызанскай брыгады.

...На гэтым не скончыліся баявыя справы Рыгора і яго таварышаў. Калі Савецкая Армія вызваліла Рэчыцу, яны пайшлі на фронт дабіваць гітлераўцаў. Алесь і Рыгор пабылі ў самым логаве фашыстаў—Берліне.

Алесь Канавальчык цяпер працуе на Гомельшчыне, у Дуброўскім лясніцтве, а Рыгор Кастрама—у Калінінградзе.

**Ц. Піскуноў.**



# НОВЫЯ ІМЁНЫ

## 1. ПАДРЫЎНІК НАСЦЯ ЖАЛАБКОВІЧ

З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны камсамолка Насця Жалабковіч задумалася над пытаннем, як ёй жыць, як дапамагчы Радзіме ў такі небяспечны час. Вядома, адказ на гэтае пытанне адзін: змагацца! Але што прыдумаеш, калі нашы войскі адышлі далёка на ўсход, а вакол—варожыя гарнізоны...

— Пайду ў лес, у партызаны!—выказала сваю цвёрдую думку Насця мацеры. Але спакойная Вера Сямёнаўна на доччына рашэнне адказала няпэўна:

— Каб жа ты ведала, дзе тыя партызаны...

Насці не цярпелася—хутчэй да справы, да змагання! Яна сабралася і пайшла ў лес па ягады, але замест ягад прынесла поўны кошык патронаў, прыхавала іх у застрэшшы. У другі раз прывяла з лесу параненага чырвонаармейца. Але, дзіўная рэч, маці не сварылася на яе: яна зрабіла чырвонаармейцу перавязку, дала цывільную вопратку і харчоў на да-



Насця Жалабковіч.

рогу. Потым у хаце Веры Сямёнаўны знайшоў гасцінны прытулак не адзін савецкі воін, што тым ваенным летам прабіраўся з варожага тылу глухімі ляснымі сцежкамі на ўсход, да сваіх.

Неўзабаве Насця пасябравала з камсамольцам Яшам Апанасовічам, які ўжо меў сувязь з куранецкімі падпольшчыкамі. Цяпер дзяўчына ведала, што ёй рабіць.

Студзень 1942 года, На савецкі фронт фашысцкая Германія кідала свае адборныя войскі, тэхніку, узбраенне...

Варожыя эшалоны ішлі цераз станцыю Куранец... Партызаны рашылі дзейнічаць разам з падпольшчыкамі. Узброіўшыся ўзрыўчаткай, смельчакі пайшлі на ўзрыў чыгункі.

Пад лесам, за Куранцом, грымнуў выбух. Гэта быў адзін з першых выбухаў, які абвясцілі пачатак рэйкавай вайны ў лясах пад Вілейкай.

Як ні шнырылі гітлераўцы і іх паслугачы па вёсках, стараючыся натрапіць на след тых, хто спусціў пад адхон эшалон, але дарэмна. Трэслі ўсе хаты. Уварваліся гітлераўцы і ў хату Насці Жалабковіч. На шчасце, ёй і яе маці ўдалося збегчы. У застрэшшы была знойдзена вінтоўка і патроны.

— Спаліць хату! — распарадзіўся камандзір-эсэсавец.

...Для Насці і яе маткі родным домам стаў знаёмы куранецкі лес, у тую халодную ваенную зіму ён прытуліў многа такіх жа патрыётаў.

Насця стала падрыўніком, — тая самая сціплая дзяўчына Насця, якая ў мірны час была вясковым паштавіком.

Не простая гэта рэч — падарваць эшалон, калі з двух бакоў вакол чыгункі на дзесяткі кіламетраў высечаны лес, на кожным кіламетры — варта. Уздоўж дарогі працягнуты ахоўны провад. Але падрыўнікі не спыняліся перад цяжкасцямі. Яны пускалі пад адхон цягнікі і днём і ноччу, узрывалі эшалоны пад носам у ворага. Узрывалі нават тады, калі нехапала ўзрыўчаткі, — рабілі гэта з дапамогай гаечнага ключа і звычайнай чыгуначнай лапы. Ішлі для гэтай справы і нямецкія бомбы, якіх тады шмат валялася ў лясах.

Камсамолка Насця Жалабковіч стала адным з вядомых падрыўнікоў у атрадзе. Яна дзейнічала смела і ўдала. Калі фашысты ўзмацнілі ахову чыгункі, асабліва на лясных участках, Насця прапанавала:

— Будзем закладваць міны на адкрытых месцах «пад жалезку».

Аднаго разу дзяўчына прынесла тол у кошыку з яйкамі. Пад выглядам сялянкі, якая нібыта ідзе на рынак, днём падклала міну там, дзе фашысты меней за ўсё чакалі, і платформы з танкамі паляцелі пад адхон.

На рахунку Насці Жалабковіч — 18 узарваных варожых эшалонаў. Бясстрашная падрыўніца ўзнагароджана ордэнам Чырвонага Сцягу.

Анастасія Піліпаўна Жалабковіч цяпер жыве ў Вілейцы.

**П. Лавецкі.**

## 2. САМЫ ЮНЫ ЗАСЛОНАВЕЦ

У вядомай брыгадзе імя К. С. Заслонава, што дзейнічала на Віцебшчыне, бадай самым юным партызанам быў Лёня Анкіновіч. Яму ў той час ледзь споўнілася адзінаццаць год.

Пачалося з таго, што Лёня падахвоціўся выконваць сякія-такія даручэнні свайго бацькі, які быў камуністам і трымаў сувязь з партызанамі. Лёня пад выглядам пастушка хадзіў па вёсках, пранікаў нават у гарнізоны, дзе стаялі немцы і паліцэйскія. За пазухаю ў пастушка заўсёды былі лістоўкі,





**Леанід Анкіновіч.**

якія ён і раздаваў знаёмым вясковым людзям. Часта яму даводзілася насіць ад падпольшчыкаў пісьмы ў лес, партызанам.

Юны падпольшчык удала праявіў сябе і ў больш важнай справе. Аднойчы ў вёсцы Машкова спыніўся нямецкі абоз. Лёня заўважыў, што на адной з фурманак немцы пакінулі аўтамат. Ён падкраўся да воза, схапіў аўтамат і шмыгануў на гарод. Гэта быў добры падарунак для партызан.

Хутка споўнілася Лёнева запаветнае жаданне стаць сапраўдным разведчыкам. Разам з бацькамі і старэйшым братам Лёня прышоў да партызан.

Разведчыкам спадабаўся гэты смелы, разважлівы хлопчык, яму яны давалі адказныя заданні.

Заслонаўцы дазналіся, што на іх рыхтуецца карная экспедыцыя, і рашылі сарваць варожыя планы — разграміць нямецкі гарнізон у Машкове. Перад наступленнем патрэбна было ўдакладніць, колькі сілы ў ворага, як ён узброены і г. д.

У Машкова згадзіўся пайсці Лёня, пераапрануты жабраком. Вышаўшы з вёскі Кашына на машкоўскую дарогу, Лёня здрыгануўся: насустрач на машынах імчаліся эсэсаўцы. А ў Кашыне ж адпачывалі партызаны- падрыўнікі. Трэба неадкладна іх папярэдзіць.

Лёня кінуўся бегма назад, каб выратаваць сваіх баявых таварышаў. Але фашысты заўважылі і адкрылі па ім агонь. Цяжка параненьі, разведчык упаў збоч дарогі і прытварыўся мёртвым.

Пачуўшы страляніну знізу, партызаны ўступілі ў бой. Адстрэльваючыся, яны заманьвалі фашыстаў у лес. У гэты час Лёня адпоўз ад дарогі і схаваўся ў хмызняку... Увечары партызаны падабралі свайго юнага таварыша.

Ачуняўшы пасля ранення, Лёня зноў стаў у строй, хадзіў не толькі ў разведку, але і ўдзельнічаў у сапраўдных баях — падносіў кулямётчыкам патроны, зараджаў дыскі, нараўне з іншымі хадзіў у наступленне...

На зыходзе лета ў 1943 годзе фашысты кінулі на партызан атрады карнікаў, танкі і самалёты. У адной з бамбёжак быў цяжка паранены бацька Лёні. Паміраючы, камуніст Лявон Анкіновіч наказваў сынам:

— Хлопцы, адпомсціце Гітлеру і за мяне!

Сыны-партызаны, вядома, бацькаў наказ выканалі. Іх баявыя справы адзначаны ў слаўным летапісу подзвігаў воінаў-заслонаўцаў.

За мужнасць і гераізм, праяўленыя ў партызанах, Лёня Анкіновіч узнагароджаны ордэнам Чырвонай Звязды і медалем «Партызану Вялікай Айчыннай вайны».

Можа, не кожны з цяперашніх маладых рабочых завода швейных машын, што пад Оршай, дзе цяпер працуе слесарам камсамолец

Леанід Анкіновіч, здагадваецца, што ў іх таварыша такая баявая біяграфія. Але гэта так.

**Ал. Вечаркоў.**

### 3. ПАРТЫЗАНСКІ МІНЁР

Жнівеньская ноч 1942 года. Падрыўнікі атрада «Трэці» ішлі «на жалезку». Нялёгкі быў іх шлях. І не толькі таму, што ноч выдалася цёмная і здаецца, што кожны твой крок чуцён за вярсту. На чыгунцы на 50 метраў з двух бакоў немцы павысякалі лес і нават хмызнякі. Ля самага насыпу працягнулі электрычны дрот з ракетамі. Ледзь дакранешся да яго, як у паветра шугане ракета, асвяціўшы ўсё навокал...

Падрыўнікі, стаіўшыся на ўзлессі, пачалі раіцца: ісці або вярнуцца. Сярод іх была семнаццацігадовая камсамолка Аня Цюленева. Яна ўпершыню ішла на чыгунку. Нехта з хлопцаў-партызан, нібы жартам, звярнуўся да дзяўчыны:



Анна Цюленева.

— Што будзем рабіць, Аня? Пойдзем на чыгунку, ці не?

— Трэба ісці,— цвёрда сказала Аня.— Адшукаем дрот, а потым замініруем рэйкі!

І падрыўнікі пайшлі. Разрэзаўшы провад, партызаны Емяльянаў і Цюленева асцярожна ступілі на чыгунку, намацалі рэйкі і падклалі пад іх дзве міны. Замаскіраваўшы як мае быць гэтае месца, яны асцярожна сышлі пад адхон і вярнуліся ў лес, на месца яўкі.

У тую ноч недалёка ад станцыі Обаль, на Сіроцінішчыне (там дзейнічалі партызаны атрада «Трэці»), пачуўся аглушальны выбух. Назаўтра ўдзень — другі выбух.

Першыя міны, якія паставіла камсамолка Аня Цюленева,— былі шчаслівымі: на іх падарваліся два воінскія эшалоны.

Цікавы шлях гэтай дзяўчыны, якую тады называлі проста — партызанскі мінёр.

Перад самым пачаткам вайны Аня Цюленева, атрымаўшы атэстат сталасці ў Курску, паступіла ў педінстытут. Калі фашысты наблізіліся да яе роднага горада, педінстытут эвакуіраваўся. Але Аня засталася ў горадзе, уступіла ў народнае апалчэнне. У хуткім часе апалчэнцы ўліліся ў рэгулярныя войскі. Аня стала медыцынскай сястрой. Шпіталь эвакуіравалі ў тыл на Урал. Тут да Ані прыйшло канчатковае рашэнне — на фронт, туды, дзе можна прыняць непасрэдны ўдзел у разгроме ворага.

Просьба патрыёткі была задаволена. Скончыўшы курсы мінёраў, Аня накіроўваецца ў Беларусь, на партызанскую зямлю. Яна трапіла ў групу, дзе былі людзі розных узростаў і жыццёвай практыкі. Побач з ёю ішлі пажылы беларускі селянін Апанас Зянькоў, яшчэ зусім хлапчук Валодзя Рабенка... Камандаваў падрыўнікамі бясстрашны воін Сяргей Рагожын.



У цеснай сувязі з обальскімі падпольшчыкамі падрыўнікі разгарнулі баявую дзейнасць. З дапамогай чыгуначніка-падпольшчыка С. А. Елісеенкі яны ўзрывалі варожыя эшалоны нават на станцыі Обаль, якая ў той час моцна ахоўвалася.

На чыгунцы Полацк — Віцебск усё часцей і часцей грымелі аглушальныя выбухі. То там, то тут ляцелі пад адхон эшалоны. Фашысты збіваліся з ног, шукаючы партызан-падрыўнікоў і сярод іх дзяўчынку-салдата, пра якую хадзілі самыя фантастычныя чуткі ў навакольных вёсках. Але падрыўнікі былі няўлоўныя.

Сяргей Рагожын і яго сябры падарвалі 26 варожых эшалонаў. Аня Цюленева замініравала і падарвала 8 эшалонаў, склад з боепрыпасамі, адзін чыгуначны і два шасейныя масты. За баявыя заслугі перад Радзімай Анна Цюленева-Братушэнка ўзнагароджана ордэнам Чырвонай Зоркі і медалем «Партызану Вялікай Айчыннай вайны» I ступені.

Анна Цюленева-Братушэнка — настаўніца, жыве ў Мінску. У пасляваенныя гады яна завочна закончыла Маскоўскі інстытут замежных моваў.

**В. Раманоўская.**

Давайце пагаворым...

Ліст у рэдакцыю

# АБ МУЗЫЧНЫМ ВЫХАВАННІ МОЛАДЗІ

Песня спадарожнічае нам праз усё жыццё. Яна нарадзілася на зары чалавецтва і стала любімай ва ўсіх народаў. Пад звон песні людзі нашай краіны гналі з роднай зямлі інтэрвентаў і фашысцкіх захопнікаў. Пад звон песні расце наша маладое пакаленне. Сляды ўчарашняй нядолі засыпаны скібамі чорнай зямлі. Буйна калосяцца ўраджайныя палі. Дымяцца фабрыкі і заводы. Над імі калышуцца звонкія напевы. Гэта народ наш радасна, з песняй крочыць светлымі шляхамі да камунізма.

Песня трывала ўвайшла ў быт народа. Ёсць такія пачуцці, такія адценні настрояў і перажыванняў, якія цяжка выказаць звычайнымі словамі. Гэта можа зрабіць толькі меладычная мова музыкі і спеву.

Ужо з дзіцячае калыскі прыходзіць да нас песня, каб стаць потым неразлучнай сяброўкай. Задумлівая матчына калыханка змяняецца рытмічнымі карагоднымі мелодыямі, а затым задорным піянерскім маршам, а пазней—авалодвае сэрцам пранікнёны і ўзнёслы напеў маладосці... І гэтак — у кожным узросце чалавека: свая любімая песня, свая захапляючая мелодыя. Ці трэба гаварыць, якую вялікую выхаваўчую ролю набывае музыка ў нашай савецкай краіне, дзе робіцца ўсё для раскрыцця духоўных багаццяў народа.

Партыя і ўрад няспынна клапоцяцца аб развіцці музычнай культуры. Узяць хоць бы нашу рэспубліку. Маладзі нават цяжка ўявіць, што сорак год назад у Беларусі не было ні прафесійнага мастацтва, ні прафесійнай музычнай адукацыі. А зараз у рэспубліцы — свая кансерваторыя, пяць музычных вучылішчаў, два культасветвучылішчы, музычна-педагагічнае вучылішча. У многіх гарадах і раённых цэнтрах працуюць музычныя школы. Шмат робяць для музычнага выхавання моладзі шматлікія гурткі і студыі на прадпрыемствах і ва ўстановах. Даволі паспяхова развіваецца самадзейнае харавое мастацтва.

Вельмі прыемна, што, побач са спецыяльнымі навучальнымі ўстановамі, музычным выхаваннем у апошні час пачала займацца агульнаадукацыйная школа. Партыя і ўрад, клапоцячыся аб далейшым развіцці музычнай культуры савецкіх людзей, прынялі пастанову аб выкладанні спеваў у школах ад першага па дзесяты клас, аб арганізацыі школьных хораў. Такая пастанова вельмі своечасовая, бо наша школа і грамадскасць дагэтуль мала клапаціліся, каб далучыць дзяцей да чароўнай скарбніцы музычнай культуры, выхаваць у іх добры мастацкі густ.

Усё гэта не можа не радаваць. І ўсё ж у справе музычнага выхавання ёсць яшчэ вельмі шмат пытанняў, якія чакаюць свайго вырашэння. Аб гэтым і хочацца пагаварыць.

Развіццё эстэтычнага густу трэба пачынаць з дзіцячых гадоў. Дзеля гэтага неабходна ўзняць на належную вышыню харавыя спевы. Хор злучае маладыя сэрцы ў адзіны рытм, дысцыплінуе спевакоў, развівае волю. На вялікі жаль, менавіта стан харавых спеваў, і перш за ўсё дзіцячых хораў, выклікае асаблівую трывогу. Нават лепшыя харавыя калектывы (хор музычнай школы-дзесяцігодкі і ансамбль песні і танцу Палаца піянераў горада Мінска) маюць у сваёй рабоце шмат істотных недахопаў. Толькі нядбайнасцю мастацкіх кіраўнікоў можна вытлумачыць, на наш погляд, той факт, што ў рэпертуары хораў не ўключаюцца творы без суправаджэння. А вядома, што менавіта такое спяванне лепш за ўсё спрыяе развіццю музычнага слыху дзяцей, прывучае іх да чыстага інтэрніравання, выхоўвае пачуццё ансамблю. Дзе, як не ў музычнай школе-дзесяцігодцы, у якой займаюцца найбольш здольныя дзеці, прапагандаваць спяванне без суправаджэння, ці, як яго называюць, спяванне а капела.

Дзіцячыя хоры часта выконваюць творы, якія для дзяцей цяжка спяваць. Многія школьныя калектывы, напрыклад, спяваюць «Паланез» Агінскага. Гэты твор з шырокім дыяпазонам даступны для выканання толькі хорам з развітымі вакальна-харавымі навыкамі. Развіццём гэтых навыкаў у дзяцей якраз вельмі слаба займаюцца мастацкія кіраўнікі хораў.

Выбіраць песні для дзяцей трэба вельмі ўважліва і асцярожна. Матэрыял заўсёды павінен быць даступны дзіцячаму голасу і псіхалагічна блізкі вучням. Нельга злоўжываць высокімі нотамі, каб дзеці не пераходзілі на крык. Хто крычыць, той губіць свой голас. Трэба, каб дзеці зразумелі, што спевы — гэта тая ж гутарка, толькі не словамі, а тонамі. Музыка так жа, як і вусная мова, можа весці гутарку то вясёлую, то сумную, то спакойную, то ўсхваляваную, то павольную, то быструю. Таму спяваць трэба так, як мы гаворым.

Пры спевах неабходна шырока выкарыстоўваць скарбы народнай песеннай творчасці і ў такім дыяпазоне, які найбольш падыходзіць да дзіцячых галасоў. Гэта будзе садзейнічаць развіццю вакальных здольнасцей і добрага мастацкага густу.

Некалькі слоў пра сольнае спяванне. У якасці салістаў нярэдка выступаюць хлапчукі з яўна выражанай мутацыяй (зменай) голасу. Гэта недапушчальная з'ява, бо яна вядзе да захворвання галасавога апарату, а часамі і да страты голасу наогул.

Нам давялося пабываць у многіх сярэдніх школах Мінска. І трэба сказаць шчыра — знаёмства з пастаноўкай музычнай адукацыі ў гэтых школах пакідае далёка не радаснае ўражанне.

У большасці выпадкаў урокі спеваў праходзяць на нізкім метадычным узроўні. Музычная грамата хаця і вядзецца, але практычна вучні ёю не карыстаюцца. Вельмі дрэнна прапагандуецца сярод школьнай моладзі музыка. Амаль зусім не праводзяцца лекцыі-канцэрты, вечары, прысвечаныя выдатным дзеячам музыкі. Існуе практыка, калі ўрокі спеваў вядуць людзі, зусім не знаёмыя з методыкай музычнага навучання. І гэта не таму, што няма кваліфікаваных выкладчыкаў музыкі. Справа ў тым, што кіраўнікі школ не даручаюць ім весці ўрокі спеваў у малодшых класах. І толькі з тых меркаванняў, каб не зменшыць вучэбную нагрузку агульнага профілю.

Што ж, настаўнікі ад гэтага, бясспрэчна, выйграюць...

Хочацца пажадаць кіраўнікам школ, каб яны, клапоцячыся аб дабрабыце настаўнікаў, не забывалі ўсё ж аб галоўным — аб адукацыі сваіх выхаванцаў.

Адной з галоўных прычын недахопаў у музычным выхаванні моладзі з'яўляецца, на наш погляд, дрэннае метадычнае кіраўніцтва з боку Міністэрства асветы, адсутнасць стройнай, разумнай праграмы музычнага навучання.

Неабходна самым сур'ёзным чынам заняцца не толькі выхаваннем дзіцячага голасу, але і пытаннем яго аховы. Усе дзеці, якія спяваюць, павінны знаходзіцца пад сталым наглядам урача-спецыяліста.

Не вырашана яшчэ і пытанне падрыхтоўкі музычна-педагагічных кадраў для школ. У Беларусі музычныя вучылішчы не рыхтуюць настаўнікаў спеваў для сярэдніх школ, хоць вучэбныя планы і праграмы прадугледжваюць гэта. Хочацца спадзявацца, што Міністэрства культуры і Міністэрства асветы БССР пытанне падрыхтоўкі кваліфікаваных выкладчыкаў музыкі для агульнаадукацыйнай школы вырашаць у бліжэйшы час, бо ад гэтага залежыць многае.

І яшчэ раз аб дзіцячых хорах.

Справа гонару працаўнікоў культуры і народнай асветы стварыць у кожным горадзе, раёне добры харавы дзіцячы калектыў. Кожная школа павінна мець, як мінімум, два хоры: малодшай і старэйшай групы. У арганізацыі харавога спявання мы шмат чаму маглі б павучыцца ў нашай суседкі Эстоніі, дзе кожны пяты чалавек спявае ў хоры.

Мы знарок так падрабязна спыніліся на музычным выхаванні ў школе, бо іменна ў школьным узросце ў дзяцей складваюцца эстэтычныя погляды. Адсутнасцю добрага мастацкага густу ў вялізнай ступені тлумачыцца той факт, што многія юнакі і дзяўчаты захапляюцца музыкай слязліва-сентыментальнага гучання. Такая музыка, пазбаўленая глыбокага зместу, расслабляе волю чалавека, абуджае ў яго пачуцці суму і пе-

сімізму, выхоўвае ў маладых людзей вяласць і абыякавасць да жыцця. Яны пачынаюць фанабэрліва выстаўляць на паказ сваю культурную адсталасць, неразуменне цудоўных твораў выдатных кампазітараў мінулага і нашых сучаснікаў. У гэтым няцяжка пераканацца, калі пабываць на так званых «вечарах адпачынку» ў Мінскім палацы культуры. Але гэта ўжо тэма асобнай гутаркі.

Мы закранулі тыя пытанні музычнага выхавання моладзі, якія, як нам здаецца, хвалююць не толькі музычную грамадскасць Мінска, але і ўсёй рэспублікі. Мы былі б рады, калі б наша выступленне з'явілася пачаткам сур'ёзнай размовы аб музычным выхаванні моладзі. Хацелася б пачуць голас не толькі тых, хто мае непасрэднае дачыненне да выкладання музыкі ў школе, але і саміх вучняў, і іх бацькоў, усіх, хто зацікаўлены ў развіцці і распаўсюджванні музычнай культуры ў нашай рэспубліцы.

**Р. ШЫРМА,**
**народны артыст СССР.**
**А. КАЛАНДЗЁНАК,**
**дырэктар Мінскага музычнага вучылішча імя Глінкі.**

*З блакнота падарожніка*

Аляксандра УС

# ПА ГАРАДАХ ГЕРМАНСКАЙ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

Здарылася так, што перад самым пачаткам Сусветнага фестывалю мы ад'язджалі з Масквы. Як і заўсёды, пры развітанні са сталіцай было крыху сумна. Адчувалі незадаволенасць тым, што не паспелі яшчэ паглядзець новабудоўлі, прайсціся па любімых месцах такога блізкага сэрцу кожнага савецкага чалавека горада.

Па-святочнаму прыбраны Беларускі вакзал. Бясконцыя натоўпы юнакоў і дзяўчат ішлі сюды з велізарнымі букетамі жывых кветак. Здавалася, што ўсе кветкі, якія расцвілі ў краіне, апынуліся на гэтым пероне.

Нарэшце падыходзіць поезд. У вокнах кожнага вагона — вясёлыя, узбуджаныя твары. Гэта прыехалі ў Маскву ўдзельнікі фестывалю, нашы нямецкія сябры.

А наш шлях ляжыць на захад. Па запрашэнню Усегерманскага савета міру мы накіроўваемся ў ГДР, каб пазнаёміцца з жыццём нямецкага народа. Нас нямнога — усяго пяць чалавек. Але кожны зможа расказаць шмат цікавага нямецкім барацьбітам за мір.

Праз суткі, а дакладней — праз 27 гадзін, мы спыніліся ў Берліне.

## Берлін

Берлін. Сталіца Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. Тут усюды кіпіць стваральная праца. Гонарам жыхароў дэмакратычнага Берліна з'яўляецца занава пабудаваная вялікая і шырокая Алея Сталіна. Па абодвух яе баках узведзены шматпавярховыя светлыя гмахі. Аднаўляецца прамысловасць горада.

Побач з жылымі і прамысловымі будынкамі адноўлены старыя архітэктурныя помнікі — Чырвоная ратуша, універсітэт, Акадэмія мастацтваў на плошчы Роберта Коха, дзяржаўная бібліятэка на Унтэр дэн Ліндэн і многае іншае. Народная ўлада ГДР любоўна клапоціцца аб пакінутых у спадчыну з даўніх часоў культурных каштоўнасцях. Усе помнікі нацыянальнай культуры знаходзяцца пад асобай аховай народа.

На шырокім тратуары ля дома 220 па Алеі Сталіна мы спыняемся і вядзем між сабой размову. Да нас падыходзіць прыгожы бялявы юнак, у кароценькіх, як трусы, штанах. Ён гаворыць па-руску. Раіць, як лепш дабрацца да месца нашага прыпынку — гасцініцы «Іагансгоф». Юнак распытвае аб Сусветным фестывалі ў Маскве. Мы адказваем. А ён паведамляе нам, што хутка ад'язджае на вучобу ў нашу краіну. На развітанне паціскаем юнаку руку, жадаем поспехаў і прышпільваем фестывальны значок. Шчаслівай дарогі, Фердынанд, наш першы знаёмы ў Берліне!

Мы ходзім па вуліцах Берліна і быццам перагортваем старонкі гісторыі. Вось Брандэнбургскія вароты. З гэтым помнікам звязаны ўспаміны

аб перамозе немцаў над французамі ў вайне 1871 г. Крыху правей Брандэнбургскіх варот відаць закапцелая каробка былога будынка рэйхстага. Гэта той самы рэйхстаг, які падпалілі фашысты ў 1933 годзе, абвінаваціўшы камуністаў.

Колькі няшчасцяў людзям прынёс фашызм! Усёй глыбіні людскіх пакут, праліты́х слёз і крыві вымераць немагчыма.

Па зялёнай вуліцы, абсаджанай з двух бакоў цяністымі ліпамі, едзем да велізарнага Трэптаў-парку. Аб яго існаванні зараз ведае ўвесь свет. Тут знаходзіцца славуты помнік савецкім воінам. Велізарнае ўражанне пакідае статуя засмучанай маці. У бязмерным горы схіліла яна галаву, апавітую тоўстай касой, смуткуючы над стратай сваіх сыноў.

Злева і справа ад магілак — высечаныя з каменя велізарныя мармуровыя сцягі. Каля іх — бронзавыя фігуры байцоў, якія прысягаюць на вернасць Радзіме.

Па абодва бакі забрукаванай каменнымі плітамі плошчы ўстаноўлена па 16 стэндаў-барэльефаў, якія паказваюць эпізоды баёў. Увесь гэты грандыёзны ансамбль увенчаны манументальнай 13-метровай фігурай савецкага воіна-вызваліцеля, устаноўленай на высокім кургане, на які вядзе некалькі дзесяткаў прыступак.

Хмарны дзень, імжыць дождж, а людзі ідуць і ідуць па каменных ступеньках да высокай фігуры савецкага воіна-вызваліцеля, які велізарным мечам рассек кінутую да ног фашысцкую свастыку, а левай з пяшчотнасцю прыціснуў да сябе дзіця, быццам гаворачы: «Я абараняю вас, дзеці свету».

Адразу ж за Брандэнбургскімі варотамі — англійскі сектар. У аднаго народа два жыцці. Той, хто жыве на гэтым баку варот—будуе сацыялізм і змагаецца за мір. А на тым баку ўрад Адэнаўэра імкнецца да новай вайны, да новых народных няшчасцяў.

У тым, каб захаваць і ўмацаваць мір на ўсім свеце, зацікаўлена ўсё дарослае насельніцтва і дзеці. На конкурс дзіцячага малюнку па тэме: «Як вы ўяўляеце жыццё» паступіла звыш 30 тысяч работ. Журы адабрала лепшыя з іх і арганізавала выстаўку. Мы наведалі гэтую выстаўку.

Усе як адзін дзіцячыя малюнкі паказваюць мірнае жыццё. Шасцігадовая Хельда намалявала светлы дом і шмат цацак. Пётр прысвяціў свае малюнкі паказу вялікіх будоўляў. А хлопчык Гізберт намаляваў дом, што, на яго думку, будуць будавацца ў будучым.

Дзецям Германіі, як і ўсім дзецям свету, патрэбны светлыя дамы, карагоды і песні, шмат цацак і самае галоўнае — мір на зямлі.

## Герынгсдорф

Аўтамашына імчыць нас па шырокай і роўнай, як страла, аўтастрадзе. Гэтая дарога будавалася ў трыццатых гадах са спецыяльнай мэтай,— для бліцкрыга (маланкавай вайны). Тут забараняўся рух на конях, веласіпедах і нават пешаходам, каб не было ніякіх перашкод для фашысцкіх машын. Мільгаюць бензазаправачныя калонкі. Здалёку пакажацца населены пункт. Востраверхія чырвоныя чарапічныя дахі дамоў, з абавязковымі пакоямі ў падстрэшным памяшканні, хаваюцца ў зеляніне.

Ля адной з заправачных калонак нас запрашаюць у невялікае кафэ,— выпіць па кубку кавы. Дарэчы сказаць, немцы вельмі любяць чорную каву і ўжываюць яе па некалькі разоў у дзень.

У кафэ ўсе месцы занятыя. Але амаль усе прапанавалі нам свае месцы. Мы не згадзіліся, тады ўсе паціснуліся, і такім чынам вызваліліся для нас месцы. Нам падаюць па вялікай сасісцы з гарчыцай, прыгатаванай на маянэзе, і па кубку кавы без хлеба. Хлеба тут наогул ужываюць мала. Нашы суседзі па сталу ядуць суп таксама без хлеба.

Праз некалькі хвілін мы едзем далей. Па абодва бакі дарогі лес. Кожная сасонка надрэзана, і ў маленькае вядзерца сочыцца смала.

Хутка курортны гарадок Герынгсдорф. Уперадзе, нібы шэрае хмарнае неба, вырысоўваецца марская прастора.

У сталовай дома адпачынку кожная з дэлегацый садзіцца за асобны стол. Нас падводзяць да стала, на якім палымнее сцяжок нашай радзімы з пяцікутнай зоркай, сярпом і молатам.

Такім чынам, наша знаёмства з Герынгсдорфам пачалося са сталовай. З дарогі мы падаспелі на абед (вось чаму так гнаў машыну шафёр). А немцы любяць парадак. У далейшым мы бліжэй пазнаёміліся з нямецкай дакладнасцю. Даволі дзіўна было назіраць, калі ўсе адначасова падымаліся і ішлі з пляжа. На залацістым пяску не засталося ніводнага чалавека. Усе спяшаліся на абед. Калі ж хто-небудзь з нас спазняўся на 3—5 хвілін, абед чакаў яго на стале.





Дом у Герынгсдорфе дзе жыў Максім Горкі.

Савецкая дэлегацыя была самай вялікай. Яна налічвала 58 чалавек. Тут былі прадстаўнікі рабочых розных гарадоў нашай краіны, запрошаныя прафсаюзамі ГДР для правядзення свайго адпачынку. Сярод іх былі і мае землякі — камсамольскі работнік Тамара Дзмітрыева і швачка з фабрыкі імя Крупскай Ніна Калоцкая. Заўсёды прыемна сустрэцца з землякамі, і асабліва — за мяжой.

*Знаходзячыся* ў Герынгсдорфе, нельга не наведаць домік-музей Максіма Горкага — невялікі двухпавярховы асабняк, у якім Аляксей Максімавіч *пражыў* з мая па кастрычнік 1922 года. Тут ён закончыў адну са сваіх цудоўных кніг — «Мае універсітэты». У гэтым спакойным кутку сям'ю Горкага наведаў Шаляпін.

Апрача невялікай гасцінай і яшчэ меншай спальні, Горкі карыстаўся зашклёнай верандай. Вось невялікая канапа, два крэслы і стол. На ім ляжыць пажоўклы ад часу ліст паперы, на якім рукой Горкага напісана:

«... І нягледзячы ні на што, усё-такі людзі, з часам, будуць жыць як браты.25.IX.1922 г. Горкі».

Нам давялося пабываць на суднаверфі ў Штрайзондзе. Верф размешчана ў старадаўнім гарадку з мноствам гацічных вежаў. Яна пабудавана на балотных месцах у 1949 годзе. За гэтыя гады калектыў рабочых вырас да 6 тысяч чалавек, сярод якіх — 1 200 жанчын. Пераканаўчы факт, які сведчыць аб тым, як адыходзяць у мінулае старыя пропаведзі пра абмежаванасць жыцця жанчыны хатнімі справамі.

Пазнаёміўшыся з заводскімі дзіцячымі яслямі і дзіцячымі садамі, шведская дэлегацыя на ўвесь голас захапляецца тым, што зроблена тут для дзяцей.

На верфі вядзецца вялікая работа па падрыхтоўцы кваліфікаваных кадраў. Тут арганізавана трохгадовая школа суднабудаўнікоў. У гэтым годзе яе закончыла таксама 25 карэйцаў. Дзесяць з іх накіроўваюцца ў інжынерную школу ГДР для далейшага навучання, а астатнія пятнаццаць паедуць брыгадзірамі да сябе на радзіму ў рыбалавецкі флот.

На гэтай верфі па дамоўленасці з нашай краінай будуюцца рыбалавецкія траўлеры для СССР «Акіян», «Ленінград», «Калінінград» і іншыя, якія ў бліжэйшы час будуць спушчаны на ваду.

Экскурсія закончана. Падыходзім да выхаду, але гутарка яшчэ працягваецца. Рабочыя верфі ўсё расказваюць нам пра свае вытворчыя справы, распытваюць пра фестываль у Маскве, выказваюць сваё жаданне наведаць нашу краіну. На развітанне шчоўкаюць камеры фотаапаратаў, заканчваецца абмен значкамі, пішуцца на памяць аўтографы.

У аўтобусе пажылы француз звяртаецца да мяне з нейкім пытаннем. Прыходзіцца паклікаць на дапамогу перакладчыцу. Але мой сусед, не чакаючы перакладу, бярэ мой парасонік і пачынае яго разглядаць. А потым пытае: «А гадзіннікі таксама ў Расіі выпускаюцца?»

— Так, вядома,— кажу я, здымаючы з рукі свой гадзіннік.— Прачытайце, тут па-руску напісана «Зара».

## Патсдам

Недалёка ад Берліна размешчаны невялікі гарадок Патсдам. У перакладзе назва горада азначае «Пад дубам». Сем каралеўскіх замкаў, раз мешчаных у ім, не стварылі гарадку вядомасці. Аб ім даведаўся ўвесь свет толькі ў 1945 годзе, калі тут у замку Цыцыліенгоф праходзіла вядомая Патсдамская канферэнцыя.

Замак пабудаваны кронпрынцам у 1913—1916 гадах у падарунак сваёй жонцы Цыцыліен. Гэты падарунак абышоўся ў 4 мільёны залатых марак народных грошай. Усе 176 пакояў сям'я прынца займала да красавіка 1945 года, а потым уцякла ў Заходнюю Германію, захапіўшы з сабою каштоўную маёмасць.

Пасля Патсдамскай канферэнцыі палац Цыцыліенгоф ператвораны ў музей, які наведваюць нямецкія працоўныя, турысты і дэлегацыі розных краін.

Тут захавалася мэбля, карціны, убранства ў такім жа выглядзе, як было падрыхтавана да Патсдамскай канферэнцыі. Наведвальнікі бачаць круглы стол, за якім сядзелі ўдзельнікі канферэнцыі. Па рашэнню глаў урадаў дзяржаўны сцяг СССР умацаваны ў цэнтры,—у знак таго, што наша краіна ўнесла рашаючы ўклад у перамогу над ворагам. Адна амерыканская турыстка, якая наведала залу, спытала: «Чаму савецкі сцяг у цэнтры?» Ёй адказалі, што савецкая краіна панесла ў вайну самыя вялікія страты ў людзях. Яна здзіўлена перапытала: «У людзях, а не ў доларах?»

Музей у Патсдаме мае вялікае пазнавальнае значэнне. Кожны, хто пабываў у ім, мае магчымасць яшчэ і яшчэ раз пераканацца ў чалавекалюбстве і вялікадушнасці савецкага народа. Аб гэтым ярка сведчаць прапановы савецкай дэлегацыі, накіраваныя на стварэнне адзінай дэмакратычнай Германіі.

Круглы стол, за якім сядзелі ўдзельнікі канферэнцыі, напамінае аб тым, што пры жаданні можна дамовіцца і вырашыць самыя складаныя міжнародныя праблемы.

Экскурсавод расказвае цікавы выпадак. У маі 1957 года амерыканцы наведалі музей. Добра стаміўшыся, двое з іх прыселі на невялікую канапку. Але калі экскурсавод падышоў і пачаў тлумачыць, што тут у час канферэнцыі сядзелі савецкія людзі, амерыканцы падхапіліся і хутка пакінулі пакой.

**Цыцыліенгоф. Уваход да памятных месц Патсдамскай канферэнцыі.**



Нас знаёмяць з іншымі пакоямі палаца. Вось мы заходзім у пакой карэспандэнцый прынцэсы Цыцыліен. Убранства пакоя вытрымана ў чырвоным тоне. Як відаць, прынцэса не зусім уяўляла сабе значэнне гэтага колеру, інакш яна зараз жа яго змяніла б. Каму і аб чым пісала Цыцыліен у пакоі карэспандэнцый, меркаваць цяжка, аднак паліцы ўстаўлены мілітарыстычнай літаратурай. А бібліятэка вызначае густ гаспадара.

Усе капрызы Цыцыліен выконваліся некалі з вялікай гатоўнасцю. Улічваючы яе любоў да марскіх прагулак, адзін з пакояў пабудаваны ў выглядзе «каюты». Усе рэчы тут умацаваны на выпадак «качкі». Вінтавая лесвіца вядзе на «палубу». Аднак, трэба валодаць вялікай фантазіяй, каб уявіць сабе неаглядную марскую гладзь або шторм у 9—10 балаў, знаходзячыся ў двухпавярховым гатычным замку.

Недалёка ад Цыцыліенгофа размешчаны яшчэ два замкі. Адзін з іх называецца Сансусі, што азначае «Без клопатаў». Наўрад ці больш удалую назву мог прыдумаць для сваёй летняй рэзідэнцыі Фрыдрых II. Замак «Без клопатаў» называецца яшчэ маленькім Версалем. Але няхай чытач не думае, што ён невялікі. Тут 300 пакояў і старанна падстрыжаны парк займае плошчу ў 300 гектараў.

Мы ідзем з пакоя ў пакой. Колеры абівак сцен, мэблі, карцін і ўбранстваў мяняюцца, як у калейдаскопе. Мармур, егіпецкія вазы, малахіт, аметыст, люстры з горнага крышталю, жэмчуг, люстэркі ўпрыгожваюць пакоі гэтага замка. Столі, сцены калоны так званай залы ракавін аздоблены ракавінкамі, дастаўленымі з усіх мораў свету. У замак сцягнуты і японскія вазы, і італьянскі жывапіс, і французская мэбля, і галандскі фарфар.

Часу для агляду трэцяга замка ў нас не засталося. Наш шлях ляжыць на Ляйпцыг.

## Ляйпцыг

Ляйпцыг — гэта горад кірмашоў, кангрэсаў і выставак. Ён слаўны сваімі рэвалюцыйнымі традыцыямі. Тут жыў Ленін, тут быў надрукаваны ў 1901 годзе першы нумар «Искры». Тут пражыў каля 20 год з сям'ёй Карл Лібкнехт. Яго домік наведвалі ў свой час Карл Маркс і Аўгуст Бебель. Гэта быў цэнтр рэвалюцыйнай работы ў Саксоніі.

Ляйпцыг — індустрыяльны цэнтр ГДР, горад навучальных устаноў, шырока вядомы кнігадрукаваннем, музыкай і спортам, металаапрацоўчай, машынабудаўнічай, тэкстыльнай індустрыяй. У нацыянальнай бібліятэцы Ляйпцыга, самай вялікай у Германіі, налічваецца каля 2 500 000 тамоў кніг.

Шырока вядомы гэты горад і як музычны цэнтр. Тут гучала музыка Іагана-Сабасцяна Баха і Рыхарда Вагнера.

У гэтым горадзе здаўна сканцэнтроўваўся гандаль. На працягу некалькіх соцень год Ляйпцыг займае становішча горада сусветных кірмашоў. Вось і нядаўна адкрыўся традыцыйны кірмаш, на якім прадстаўлены каля трох дзесяткаў краін. У час нашага прабывання кірмаш яшчэ быў закрыты. Праязджаючы каля яго, мы бачылі на шпілі самага вялікага і высокага павільёна пяцікутную зорку Савецкага Саюза.

У Ляйпцыгу многа помнікаў. На невялікім узгорку ўзвышаецца руская царква святога Аляксея. Яна пабудавана ў 1913 годзе ў гонар рускіх воінаў, якія загінулі ў бітве з войскамі Напалеона. Царкву ўпрыгожвае іканастас з срэбра і бронзы, 800-кілаграмовая люстра ручной работы і адмысловай разьбы, абраз Георгія-Пабеданосца — падарунак арэнбургскіх казакаў. Захоўваецца тут і рыза царыцы Елізаветы Пятроўны з дарагіх каменняў. На першым паверсе царквы вісіць партрэт Кутузава. У дзень 200-годдзя з дня нараджэння вялікага палкаводца рускія людзі, якія жывуць у Ляйпцыгу, паклалі тут шмат кветак і вянкоў.

Горад Ляйпцыг мае вялікія літаратурныя традыцыі. Тут у 1785 годзе Шылер напісаў адзін з сваіх цудоўнейшых твораў «Песню радасці», у якой гаворыць аб яднанні народаў і дружбе.

У Ляйпцыгскім універсітэце з 1768 па 1774 год вучыўся Гётэ. Грамадскія дзеячы горада арганізавалі сустрэчу з нашай дэлегацыяй у славутым вінным склепку — збудаванні XVI стагоддзя. У скверыку каля гэтага рэстарана ўстаноўлены помнік юнаму Гётэ.

Успаміны аб Ляйпцыгу натхнілі паэта на стварэнне бессмяротнага «Фауста».



У склепку-рэстаране і да гэтага часу амаль усё захавалася, як было ў часы Гётэ.

Аб жыцці і дзейнасці Гётэ і Шылера мы даведаліся яшчэ больш цікавага ў Веймары.

## Веймар

Кожны горад мае нейкую сваю асаблівасць, толькі яму ўласцівую адметную рысу. Такой асаблівасцю Веймара з'яўляецца здзіўляючая цішыня. Апынуўшыся ў гэтым невялікім зялёным горадзе, не адразу можна з ёй звыкнуцца. Пасля шумнага вялікага Ляйпцыга тут, здаецца, быццам чагосьці нехапае.

Вечар. Ні грукат трамвая, ні гул аўтамашын, ні фабрычны гудок — нішто не парушае спакою.

Раніцой на плошчы каля гасцініцы, дзе мы спыніліся, размясціўся перасоўны зялёны рынак. Гандляры пятрушкай, доўгімі агуркамі і радыскай, капустай і зялёным гарошкам выстраіліся роўнымі радамі і прапаноўвалі пакупнікам дары сваіх старанняў. Пасля распродажу ніякіх адзнак рынку не застаецца. Выбрукаваная брусчатым каменем шэрая плошча свабодная — да наступнай раніцы.

Да гасцініцы падыходзіць вялікі аўтобус. Шафёр узбіраецца на дах і ў абгароджаную пляцоўку ўшчыльную адзін да аднаго састаўляе чамаданы, якія яму падаюць з панелі. Добра накрыўшы іх брызентам на выпадак дажджу, спускаецца і пачынае ўсаджваць паспеўшых з'явіцца к гэтаму часу пасажыраў. Здалёку чуем смех і рускую мову, а потым песню. Гэта вялікая група савецкіх настаўнікаў-турыстаў. Мы ўжо не ўпершыню сустракаем сваіх суайчыннікаў.

Неўзабаве накіроўваемся на тэатральную плошчу. Нажаль, тэатр у гэтыя дні не працуе, калектыў яго выехаў на гастролі. У сувязі з гэтым нам не ўдаецца пабываць у славутым тэатры, дзе ў 1919 годзе праходзіў народны сход, на якім была прынята вядомая Веймарская канстытуцыя.

На тэатральнай плошчы ўзвышаецца помнік двум вялікім паэтам — Шылеру і Гётэ. У позірку Гётэ — філасофская задумлівасць, рамантычны запал — у позірку Шылера. Гётэ перадае вянок славы — лаўравы вянок Шылеру, які трымае ў руках згорнуты рукапіс. Пры адкрыцці гэтага помніка ў 1857 годзе дырыжыраваў аркестрам кампазітар Ліст.



Рабочы пакой у веймарскім доме Шылера.

У час другой сусветнай вайны рабочыя і перадавая інтэлігенцыя захавалі помнік Гётэ і Шылера, схаваўшы ў падвале аднаго з дамоў.

Гонарам і славай нямецкага народа з'яўляюцца гэтыя вялікія паэты, геніяльныя творы якіх залатым фондам увайшлі ў скарбніцу сусветнай літаратуры.

Вось мы каля доміка-музея Шылера. Вялікі паэт гараваў усё жыццё. Штогод ён пісаў 2—3 п'есы і жыў у беднасці. Гэты домік, цяперашні музей, ім быў куплены ў доўг за грошы выдаўцы. Тут напісаны «Вільгельм Тэль» і «Месінская дзева».

Паэт хварэў цяжкай, страшэннай у той час хваробай — туберкулёзам. Жонка і чацвёра дзяцей жылі ўнізе, а ён, баючыся за іх здароўе, адзін жыў наверсе. Цяжка хворы паэт начамі садзіўся за работу.

Маленькая спальня паэта служыла яму і рабочым кабінетам. Просценькая кніжная шафа, вузкі драўляны ложак, пакрыты шытай коўдрай, два драўляныя крэслы, тры рэпрадукцыі, гітара, на якой жонка іграла, суцяшаючы хворага мужа. На пісьмовым стале захоўваюцца ўсе прадметы, якія засталіся пасля смерці вялікага паэта.

Раніцой, без дзевяці хвілін шэсць, 9 мая 1805 года Шылера не стала. Гадзіннік, спынены ў гэты момант, больш ніколі не заводзіўся. На стале — глобус, карабок запалак, агарак свечкі, невялікія нажніцы і лісцік рукапісу з незакончанай драмы пра Дзмітрыя-самазванца. Гэтыя асабістыя рэчы і бялявы локан валасоў, які захаваўся за шкляным каўпаком, уваскрашаюць вобраз жывога паэта.

Ля ўваходу ў старадаўні цяністы парк-могілкі пад трохсотгадовым вязам гараджане Веймара пабудавалі ў 1949 годзе помнік Пушкіну, у знак яго дружбы з вялікім нямецкім паэтам Гётэ.

Ліпавая алея вядзе да велізарнага склепа-ўсыпальніцы ў грэчаскім стылі. Купал расфарбаваны пад цёмнаблакітнае зорнае неба. Тут устаноўлены мармуровыя бюсты Гётэ і Шылера.

Усыпальніца пабудавана ў 1824 годзе для Карла Аўгуста і яго продкаў, аднак за ёй цвёрда ўстанавілася назва Гётэ-і-Шылергрот. Гётэ загадзя ведаў, што яго труна будзе знаходзіцца ў гэтай усыпальніцы, і таму прасіў побач з ім паставіць труну Шылера. Праз 26 год пасля смерці Шылера веймарцы выканалі просьбу Гётэ.

Спускаемся ўніз. У паўпадвальным памяшканні — труны радаслоўнай Аўгуста і яго самога ў бронзавым саркафагу. А ў баку ад іх стаяць дзве зусім аднолькавыя труны з чырвонага дрэва, выкананыя па эскізу самога Гётэ.

Праз некалькі хвілін — мы каля дома Гётэ, падараванага яму герцагам Аўгустам. Гэты дом-музей пры жыцці Гётэ з'яўляўся цэнтрам грамадскага жыцця нямецкай інтэлігенцыі.

Нас здзіўляе мноства карцін і скульптурных твораў. Іх у гэтым доме — 20 тысяч!

Мы ходзім па пакоях і разглядаем карціны Рафаэля і Ціцыяна, любуемся антычнай скульптурай.

У пакоі жонкі Гётэ Крысціны — некалькі партрэтаў, напісаных паэтам. У Веймары захавалася больш 2 500 яго малюнкаў.

Гётэ шмат займаўся мінералогіяй. Ім сабрана велізарная калекцыя — звыш 30 тысяч каменняў з розных краін свету. У адным з пакояў у шафе за шклом захоўваецца 2 000 рэпрадукцый з карцін, якія заўсёды знаходзіліся закрытымі. Гётэ знаходзіў час весці дакладнае апісанне ўсіх сабраных ім вельмі каштоўных скарбаў. У бібліятэцы захаваліся кнігі на розных мовах свету. Паэт валодаў, апрача нямецкай, французскай, італьянскай, грэчаскай і лацінскай мовамі. У бібліятэцы вельмі шмат рускіх кніг.

Імкненні паэта да бязмежнага пазнання проста здзіўляючыя. Ён вывучаў фізіку, прыродазнаўства, астралогію (навуку аб касцях), займаўся прэпарацыяй хрыбетных касцей, вёў вывучэнне чарапных касцей. Гэтыя



ўсебаковыя пазнанні зрабілі Гётэ папярэднікам Дарвіна. Геніяльны паэт быў адным з найбольш адукаваных людзей свайго часу.

## Йена

Недалёка ад Веймара па дарозе ў Дрэздэн размешчан невялікі, але сусветна вядомы горад Йена. Вядомасць яму прынёс буйнейшы завод аптычных прыбораў «Цэйс». 18-тысячны калектыў завода выпрабляе самую дакладную і разнастайную оптыку, пачынаючы з акуляраў і канчаючы апаратамі для планетарыяў.

Нашу дэлегацыю гасцінна сустрэлі прадстаўнікі гэтага буйнейшага калектыву. Мы агледзелі выстаўку заводскай прадукцыі. На прадпрыемстве нам паказваюць апарат-дошку. Гэта нешта вышэй звычайнага стала, накшталт трыбункі. Апарат вырабляецца для вучэбных мэт у школах. Дзякуючы яму, выкладчыку не прыходзіцца, стоячы спіной да вучняў, пісаць на дошцы. За гэтым сталом ён піша сказы або матэматычныя формулы, а апарат па ходу запісу перадае іх на белае палатно, прымацаванае на сцяне. Усе прысутныя ў аўдыторыі чытаюць выразныя, ясныя надпісы.

Па ходу лекцыю можна ілюстраваць малюнкамі, картамі, дыяграмамі і іншым наглядным матэрыялам.

Цікавыя і мікрапраекцыйныя апараты. Пры дапамозе звычайнага мікраскопа можа працаваць толькі адзін чалавек. Мікрапраекцыйны апарат, які вырабляецца на заводзе «Цэйс», служыць для ўсёй аўдыторыі. Павярнулі ўключальнік, і на сцяне заварушыліся мікраарганізмы з адной кроплі вады, якую разглядае апарат. Каляровы праекцыйны апарат мае здольнасць павялічваць невялікія каляровыя паштоўкі да вялікіх палотнаў, захоўваючы ўсё багацце фарбаў. Адзін з апаратаў з лямпай у 350 ват ужываецца ў вялікіх студэнцкіх аўдыторыях у часе розных медыцынскіх аперацый. У нашай прысутнасці дэманстравалася карціна хірургічнай аперацыі каленнай чашачкі. Выразна і ясна відаць надрэз, зашчыпы, чырвоная кроў, белая косць, і трэба меркаваць, што медыкі ўбачылі і яшчэ многае, недаступнае неспрактыкаванаму воку.

Сыравінай для вырабу ўсіх дакладнейшых апаратаў выкарыстоўваецца шкло 240 гатункаў. У выніку складанага і працяглага вытворчага працэсу велізарныя зліткі шкла ператвараюцца ў апрацаваныя лінзы. Адзін кілаграм такога шкла-лінзы абыходзіцца ў 21 мільён марак. Гэта значна даражэй золата і плаціны. На заводзе вырабляецца апаратура для абсерваторый, оптыка для вывучэння нябесных цел.

Калектыў завода «Цэйс» падараваў насельніцтву горада Сталінграда планетарый. Пісьменнік Міхаіл Лабачоў, які ўваходзіў у нашу дэлегацыю, падзякаваў рабочым і інжынерам за цудоўны падарунак.

## Дрэздэн

Саксонскай Швейцарыяй, або Венецыяй на Эльбе, называюць немцы гэты вялікі і зялёны горад. Мы спыняемся ў гасцініцы «Вальдпарк», размешчанай у мясцовасці пад назвай «Белыя алеі». Нам прапанавалі наведаць Дрэздэнскую галерэю. Некалькі чалавек з нас, у тым ліку і я, пазнаёміліся з гэтай скарбніцай мастацтва ў Маскве. Аднак, мы з задавальненнем прымаем прапанову.

У канцы экскурсіі набываем на памяць рэпрадукцыі найбольш славутых карцін. Бегла аглядаем залы скульптуры з фарфару. Нам няма калі, спяшаемся на сустрэчу з прадстаўнікамі грамадскасці горада.

Хутка мы ля Эльбы. Рака рассякае горад на дзве часткі. Левы, раўнінны бок займае асноўная частка горада, справа — узгоркавы дачны раён. Кожная рака мае сваю шматгадовую гісторыю. Але аб адной падзеі, якая адбылася на гэтай рацэ, ведае ўвесь свет — гэта сустрэча ў 1945 годзе рускіх і амерыканскіх войск. Жыва паўстаюць перад вачыма карціны нядаўняга мінулага. Моцныя поціскі рук, абдымкі і сардэчныя ўсмешкі, запэўненні ў вечнай дружбе. Гэтыя чалавечыя пачуцці выказвалі амерыканскія простыя людзі, якія і зараз не хочуць вайны. Кіруючыя рэакцыйныя колы ЗША паспяшаліся як мага хутчэй забыцца аб братанні салдат двух вялікіх дзяржаў на Эльбе і ўсё больш і больш ускладняюць пытанні аб'яднання Германіі, у якім так кроўна зацікаўлены кожны немец. У Луізенгоф на сустрэчу з намі прыехалі прадстаўнікі Камітэта абароны міру, пісьменнікі, вучоныя і іншыя.

Адно з выступленняў на гэтай сустрэчы запомнілася асабліва добра.

Карл Гейнц Ульрых пабываў у нашай краіне два разы. Упершыню тады, калі ён, як салдат адной з нямецкіх часцей, у летнюю чэрвеньскую

ноч уварваўся ў Беларусь, каб разбурыць яе. І другі раз пабываў у Мінску з вялікай групай нямецкіх турыстаў у маі 1957 года. І вось цяпер у Дрэздзене пры сустрэчы з намі ён выступіў і ўсхвалявана расказаў аб гэтым. Мінулае не павінна паўтарыцца — да такой думкі зводзіўся сэнс яго выступлення.

Карл Гейнц Ульрых з'яўляецца рэдактарам газеты. Пасля прыезду з СССР ён напісаў два вялікія артыкулы аб сваіх уражаннях і змясціў іх у газеце. Старонкі гэтых газет я прывезла з сабою і з асобнымі вытрымкамі пазнаёмлю чытача.

У артыкуле «4000 кіламетраў па чыгунцы» аўтар піша: «Тады (у 1941 годзе) усё было варожа нам: велізарныя адлегласці, бясконцыя лясы і балоты, рэкі, спякотныя летнія дні і траскучыя марозы, прырода і людзі. Новая сустрэча з гэтай краінай узварухнула ўсё перажытае.

З таго моманту, як я даведаўся, што зноў убачу гэтую краіну, пабываю ў Мінску, Ленінградзе, Маскве, процілеглыя пачуцці змагаліся ў мяне: радасць і падаўленасць, радаснае чаканне і трывога. Вядома, я быў толькі простым салдатам, як многія мільёны іншых нямецкіх салдат. Тым не менш, з чэрвеньскіх дзён 1941 года расло пачуццё віны, ствараючы канфлікт з пакорнасцю.

Пасляваенныя гады з іх палітычным напружаннем, з барацьбой думак яшчэ не маглі выклікаць у многіх немцаў пачуцця давер'я да вялікага партнёра на Усходзе. Імкненне савецкага народа да дружбы з нямецкімі людзьмі многім было незразумела. Пры гэтым, аднак, розум падказваў неабходнасць дружалюбных адносін да Савецкага Саюза.

Усё гэта я перадумаў у імкненні пазнаць сутнасць з'яў і ўпарадкаваць усё перажытае, мне ж прыдзецца пісаць».

І пісьменнік Ульрых напісаў аб тым, што бачыў і зразумеў у час прабывання ў СССР. Яго суайчыннікі прачыталі гэтыя артыкулы, і няхай яны таксама падумаюць, ім ёсць над чым падумаць. Няхай розум падкажа правільны вывад таму, хто яшчэ не зразумеў неабходнасці ўмацавання і шырокага развіцця дружбы паміж нямецкім і савецкім народамі.

Перад ад'ездам з Дрэздзена па запрашэнню пісьменніцы Анны-Марыі Рэйнхард мы пабывалі ў яе дома. Анна-Марыя ўжо бывала ў нашай краіне. І таму са сталінградцам, пісьменнікам Міхаілам Лабачовым, сустрэліся як старыя знаёмыя. Хоць наша сустрэча адбывалася раніцой, на стале ў гасцінай гарэлі стэарынавыя свечы. Аказваецца, гэта нацыянальны звычай. Рэйнхард расказала нам аб сваіх выступленнях сярод насельніцтва Заходняй Германіі. Мы просім яе напісаць пра тое, што яна бачыла і перажыла ў час паездкі па СССР для сваіх суайчыннікаў, выкарыстаць вострую зброю пісьменніка для праўдзівага тлумачэння сапраўднасці. У адказ на гэта Анна-Марыя паказвае нам кнігу нарысаў аб паездцы па СССР і дорыць на памяць свае творы. На адной з падараваных мне кніжак яе рукою зроблены надпіс: «Усім дзецям Мінска, усім дзецям свету — мір і шчасце».

Міру і шчасця ўсім дзецям жадаюць усе сумленныя людзі планеты. За мір і шчасце змагаюцца ўсе, каму дорага будучыня чалавецтва. Няхай гэтая барацьба расце і мацнее, няхай памнажаюцца рады міралюбных сіл ва ўсім свеце.

*У свеце мастацтваў*

# ГАВОРАЦЬ МАСТАКІ

*Як пачаўся творчы год? Над чым будуць працаваць мастакі ў 1958 годзе?*
*З гэтымі пытаннямі рэдакцыя звярнулася да пяці беларускіх мастакоў. Вось што адказалі яны.*

**Сяргей Іванавіч СЕЛІХАНАЎ, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі**

— Засталася на маім творчым рахунку запазычанасць па леташнім годзе: трэба неадкладна закончыць скульптурны партрэт Кастуся Каліноўскага. Думаў, што адразу ж у новым годзе і вазьмуся за гэтую работу, але захапіўся работай над стварэннем статуі М. В. Фрунзе. Давялося адтэрмінаваць работу над партрэтам Кастуся Каліноўскага. Думаю нічога благога тут няма. Самі памяркуйце: статуя М. В. Фрунзе будзе ўзвышацца на Юбілейнай плошчы — у цэнтры Фрунзенскага раёна Мінска. Гэта будзе помнік герою грамадзянскай вайны, аднаму з найбольш відных дзеячоў Камуністычнай партыі Беларусі. А ў сёлетнім годзе якраз спаўняецца сорак год утварэння нашай рэспублікі. Вось чаму мне хочацца, каб помнік гэты быў велічным, прыгожым.

Распачаў таксама работу над помнікам юнаму герою Айчыннай вайны Марату Казею.

Прадоўжу работу над стварэннем галерэі партрэтаў нашых сучаснікаў. Для большага раскрыцця глыбіні вобразаў партрэты будуць стварацца сюжэтна.

Як бачыце, задач і задум — поўная галава. Шкада толькі, што ў годзе толькі трыста шэсцьдзесят пяць дзён. Але нічога, буду працаваць з патроенай энергіяй. Год жа гэты асаблівы — юбілейны. За працу!



**Валяр'яна Канстанцінаўна ЖОЎТАК**

— Чытаючы кнігі, праглядаючы кінафільмы, спектаклі, я стварыла ў сваім уяўленні мноства малюнкаў з жыцця партызан. Думала, што матэрыялу ў мяне шмат і можна пачынаць новую карціну, а можа і цэлую серыю карцін з жыцця партызан. І вось я пазнаёмілася з некаторымі актыўнымі дзеячамі партызанскага руху. Перада мной адкрыліся такія гарызонты, што прыйшлося ўсё перадумваць спачатку. Мною ўладна завалодаў вобраз жанчыны- партызанкі:



жанчына—баец; бясстрашны мсціўца; жанчына — разведчык: жанчына — маці; жанчына — працаўніца, якая дапамагала партызанам. Гэтыя рысы мне хочацца ўвасобіць у вобразе жанчыны-партызанкі — цэнтральным вобразе новай эпічнай карціны, над якой буду працаваць увесь гэты год.

### Міхаіл Андрэевіч БЛІШЧ

— Новы год застаў мяне на рабочым месцы, не зусім прывычным для мастака. Той, хто пабываў у першыя дні новага года ў Тэатры оперы і балету, напэўна бачыў у файэ рыштаванні. Тут спачатку працавалі муляры, рыхтавалі сцены для роспісу. А цяпер ім на змену прышлі шасцёра мастакоў — І. Ахрэмчык, Н. Воранаў, І. Давідовіч, Е. Зайцаў, Е. Ціхановіч і я. Мы будзем ствараць рад карцін тыпу фрэсак. Усе тэмы ўзяты з найбольш вядомых опер. Я ствараю карціну паводле оперы «Дэман».

Астатнюю частку года прысвячу рабоце над карцінай з жыцця вёскі трыццатых гадоў. Жыў я ў тыя гады на Гомельшчыне, добра памятаю барацьбу за калектывізацыю. Хачу ў карціне перадаць дыханне тых часоў, гістарычнае значэнне вялікага пералому ў свядомасці сялян.



### Васіль Уладзіміравіч ПАЛЯЙЧУК

— Мяне даўно прыцягвала гераічная абарона Брэсцкай крэпасці. Знаёмячыся з архіўнымі дакументамі, з біяграфіямі і лёсам воінаў брэсцкага гарнізона, я ўбачыў, што доблесць





подзвігу разам з байцамі і камандзірамі дзялілі і члены іх сем'яў. Гэтая акалічнасць навяла мяне на думку стварыць вялікую многафігурную кампазіцыю. У цэнтры сваёй кампазіцыі я хачу напісаць савецкую сям'ю: бацьку-воіна, яго жонку і дзіця. Хачу адлюстраваць багацце і мнагаграннасць думак, пачуццяў і імкненняў, якія кіравалі людзьмі, што зрабілі бяспрыкладны подзвіг.

Працую над кампазіцыяй кожны дзень.

### Анатоль Валянцінавіч ВОЛКАЎ

— Мяне лічаць графікам, рысавальшчыкам-гумарыстам і ілюстратарам. Гэта і зразумела, таму што я многа малюю для перыядычных і іншых выданняў. Але ілюструючы кнігі, ствараючы малюнкі для часопіса «Вожык», я заўсёды знаходзіў час для жывапісу. У гэтым годзе я хачу адвесці жывапісу значна большае месца. Буду працаваць над нацюрмортам і пейзажам. Буду пісаць кветкі, партрэты. Хачу стварыць калектыўны партрэт старэйшых беларускіх кампазітараў.

Буйнай работай наступнага года будзе ілюстраванне зборніка беларускіх казак пад рэдакцыяй А. Якімовіча і баек К. Крапівы і Ул. Корбана.

З асаблівым задавальненнем прысвячу працу сваім сябрам — знаёмым і незнаёмым савецкім людзям, чыя працоўная доблесць складае чэсць, багацце і сілу нашай Радзімы.

«Ну, а як з усмешкай!» — спытаецеся вы.

Буду не толькі сам смяяцца, але і дабівацца гэтага ад вас, дарагі чытач. З неаслабнай сілай буду працаваць у «Вожыку», супрацоўнічаць у «Вясёлцы», «Бярозцы» і, вядома, у «Маладосці». Пастараюся трымаць аловак вострым.



**Замест фота мастак А. В. Волкаў, з уласцівым яму пачуццём гумару, прыслаў аўташарж. На ім у сярэдзіне — сам мастак, а па баках яго любімыя персанажы з карціны «Сняжкі».**

